# Крыніца

3(63)
2001
Штомесячны літаратурна-культуралагічны часопіс

Крыніца
Штомесячны літаратурна-культуралагічны часопіс

№ 3 (63)
2001

Выдаецца са студзеня 1988 года

**Заснавальнікі:**
калектыў рэдакцыі,
Саюз беларускіх пісьменнікаў

Рэгістрацыйны нумар 630 ад 31 ліпеня 1996 года



Выдаецца на беларускай мове
Рукапісы аўтарам па пошце не вяртаюцца

**Пішыце:**
**220807, г. Мінск, ГСП,**
**вул. Кісялёва,11**

**e-mail:krynitsa@open.by**

**Званіце:**
**2-366-113, 2-366-142**

Падпісана да друку з гатовых дыяпазітываў 12.03.2001. Фармат 60х84 $^{1}/_{16}$.
Папера афсетная № 1. Гарнітура «Peterburg». Афсетны друк.
Ум.друк.арк. 11,16. Тыраж 827 экз. Зак. 659.

Рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства
«Выдавецтва "Беларускі Дом друку"».
220013, г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 79.

*З Табой:*

# З Нілам ГІЛЕВІЧАМ *гутарыць* Леанід ГАЛУБОВІЧ

**Леанід ГАЛУБОВІЧ:** *Ніл Сымонавіч, як пры сённяшнім стане нашага грамадства даецца і дзеецца творчая праца?*

**Ніл ГІЛЕВІЧ:** Не ведаю, ці ёсць якая ўвогуле, у прынцыпе, залежнасць творчай актыўнасці або неактыўнасці мастака ад стану грамадства... Гаварылі наконт гэтага рознае, напрыклад: калі грымяць гарматы – тады музы маўчаць. Сказана нібыта моцна, афарыстычна, але ці шмат у гэтым афарызме праўды? Наколькі яна універсальная, гэтая формула? Калі звернемся да рэальнай гісторыі канкрэтных краін і да біяграфій канкрэтных паэтаў, дык знойдзем безліч прыкладаў, якія сцвярджаюць якраз адваротнае. Каб далёка не хадзіць, прыгадаем творчы лёс Янкі Купалы. Можа быць, самыя магутныя свае вершы і па колькасці – цэлую кнігу (каля сямідзесяці) ён напісаў у 1918–1920 гадах, г.зн. у разгар грамадзянскай бойні з нямецкімі і польскімі акупантамі і супраціўлення абаронцаў незалежнай Беларусі бальшавісцкаму гвалту. Адным словам, у час, калі гарматы грымелі несціхана. Возьмем іншы прыклад, больш даўні – у 1848 годзе, у дні Угорскай нацыянальнай рэвалюцыі, адзін з яе кіраўнікоў і трыбунаў Шандар Пецёфі з ліхаманкавай хуткасцю напісаў самую выдатную і самую вялікую (3 400 радкоў) сваю паэму “Апостал”, а таксама многія балады, вершы, палымяны маналог “Аўстрыя” і інш. Як ведаеце, ён і загінуў на полі бою. Яго многія радкі сталі тады на Угоршчыне

крылатымі. Бог у нас цяпер адзін – свабода! Іншаверцам прыйдзецца памерці! Чаму не маўчалі пад грукат гармат музы гэтых вялікіх паэтаў? Таму што не мелі права маўчаць. Таму што Слова Песняра павінна было змагацца за свабоду і незалежнасць Бацькаўшчыны. За іншую долю народа.

Сёння ў нас гарматы, якія смярдзяць парахавым дымам, дзякаваць Богу, не грымяць і ручаіны крыві не ліюцца. Але несціхана гахаюць гарматы подласці і цынізму, дзікунства і хамства, але няспынна ліюцца патокі хлусні і дурноцця, паклёпаў і абраз. Паэтам, якія бралі ўрокі паэзіі і ў Купалы, і ў Пецёфі, маўчаць у такой грамадскай атмасферы цяжка. Думаю, што і недаравальна было б маўчаць, рабіць выгляд, што нічога не бачыш, не чуеш, не разумееш. Бог жа спытае аднойчы! І цені Вялікіх Настаўнікаў – спытаюць!..

Можа, таму, што доўгі час штодзённыя дзяржаўныя клопаты дэпутата забіралі ўсе сілы і на сустрэчу з Музай іх амаль не заставалася, за апошнія чатыры гады, дарваўшыся, нарэшце, да пісьмовага стала, я напрацаваў столькі, колькі, мабыць, не зрабіў за ўсё папярэдняе дзесяцігоддзе. І не толькі ў жанрах, што вымагаліся пазіцыяй "не магу маўчаць", – у грамадска-палітычнай лірыцы, у публіцыстычных артыкулах, у сатырычных вершах, але і ў лірыцы медытатыўнай (цэлая кніга сямірадкоўяў), і ў вершах эпічнага складу (кніга песень "Сюжэты"), і ў паэмах ("Не хварэй!", "Лодачкі", "Паланез Агінскага"). Так што скардзіцца Усявышняму на амярцвенне духу не магу. На сёння, кажучы Вашымі словамі, праца яшчэ даецца, яшчэ дзеецца.

**Л. Г.:** *Вы адзін з тых, хто даастатку змагаўся за дзяржаўны статус нашай мовы ў Вярхоўным Савеце. Ці ўсе захады і магчымасці былі выкарыстаны на той час нашай нацыянальнай грамадскасцю і элітай, каб беларуская мова не апынулася на задворках суверэннага жыцця беларусаў?*

**Н. Г.:** Тое, што сёння наша мова – як і 20, і 30 гадоў назад – зноў апынулася на задворках жыцця, тлумачыцца адным: крахам кволых пачаткаў дэмакратызацыі грамадска-палітычнага ладу ў суверэннай Беларусі. Для кожнага хоць трохі дасведчанага ў гісторыі беларускай мовы, у заканамернасцях існавання і развіцця нацыянальных моў увогуле, павінна было быць зразумела:

дзяржаўнае двухмоўе ў Беларусі, узаконенае іх нібыта раўнапраўнае становішча ў краіне, на справе можа азначаць толькі адно: асуджэнне беларускай мовы на пагібель, асуджэнне беларускага народа на далейшую асіміляцыю – аж да трагічнага канца. Я пісаў тады і гаварыў дзесяткі разоў: ва ўмовах, якія склаліся ў нас да пачатку 90-х, беларуская мова ніколі не сканкурыруе – на роўных – з рускай. Спачатку ёй трэба даць 30–50 гадоў нармальнага развіцця ў якасці адзінай дзяржаўнай, каб яна запанавала паўсюдна гэтак жа натуральна, як, скажам, славенская ў Славеніі ці балгарская ў Балгарыі, – а вось тады ўжо можна хоць і пяць дзяржаўных моў уводзіць : тады ўжо будзе не страшна, бо ўжо ўвесь народ Беларусі стане беларускім народам, будзе дасканальна валодаць беларускай мовай, будзе лічыць за гонар карыстацца ёю, будзе ў чыста чалавечым плане адчуваць у душы вялікую асалоду ад гэтага. Як, напрыклад, адчуваем яе сёння мы з вамі. Значыць, віна грамадскасці, палітычнай і навуковай эліты ў тым, што яны не падтрымалі курсу на дэмакратызацыю, на суверэннасць і незалежнасць Беларусі і дапусцілі дзяржаўнае двухмоўе ўжо цяпер. У 1994 годзе сілаю неймаверных намаганняў удалося на Вярхоўным Савеце, пры прыняцці Канстытуцыі, правесці артыкул аб тым, што адзінай дзяржаўнай мовай у Беларусі ёсць мова беларуская. Гэта былі вялікая заваёва і вялікае свята для ўсіх, у каго пры слове “Беларусь” цяплела на сэрцы. На жаль, радасць аказалася нетрывалай, цягнулася нядоўга: праз год з гакам яна была зруйнавана. Зрэшты, зруйнаванне было легітымна (бальшынёй галасоў) закладзена тымі ж дэпутатамі, якія прынялі Канстытуцыю 1994 года, бо гэта яны прагаласавалі і за прэзідэнцкую форму кіравання, і за рэферэндум 1995 года. Як я тады крыкам крычаў-надрываўся: не рабіце гэтага, шаноўныя, не рабіце!.. Аднак жа ... Ну вось і маем.

**Л. Г.:** *“Кожны край мае тых, што апяваюць...”, “Ой, чаму я стаў паэтам ў нашай беднай старане?”, “Глаголом жечь сердца людей”, “Поэтом можешь ты не быть, но гражданином быть обязан”... Які з гэтых дэвізаў Вам бліжэй? Ці ў Вас выпрацаваны свой уласны?..*

**Н. Г.:** З гэтых падабраных Вамі чатырох дэвізаў мне найбольш блізкі апошні, някрасаўскі. Хоць нярэдка і ўздыхаў

услед за Багдановічам ягонае: "Ой, чаму..." Пушкінскае "глаголом жечь..." – як для мяне, дык сказана занадта моцна і гучна, хоць у прынцыпе такое прызначэнне паэтычнага слова я прымаю. У мяне ёсць свая формула, у якой і дэвіза, можа, няма, але ёсць мара і ёсць надзея. І, хачу думаць, мера майго ўласнага разумення сябе і свайго пісьменніцкага абавязку:

*Толькі б ведаць, а шчаслівы быў бы,*
*Што мой сціплы плён не прападзе*
*І на роднай матчынай сялібе*
*Хоць камусьці ў сэрца западзе.*

*Хоць адзіным парасткам узыйдзе,*
*Прарасце, праб'ецца да святла...*
*Толькі б ведаць, а не быў бы ў крыўдзе,*
*Што нямнога доля мне дала.*

Васьмірадкоўе яшчэ 1974 года...

І сёння думаю і мару не больш, як пра гэта.

**Л. Г.:** *"Сказ пра Лысую гару"... Усё больш людзей схільныя прызнаць аўтарства некалі крамольнай рэчы за Вамі... Ці не маглі б Вы прылюдна прызнацца альбо адмовіцца "в содеянном"?*

**Н. Г.:** Высвятленне аўтарства "Сказа пра Лысую гару" цягнецца ўжо амаль трыццаць гадоў – ад першага дня яго выбуховага з'яўлення ў спакойным (каб не сказаць застойным) літаратурным жыцці Беларусі пачатку 70-х. Зацікаўлены даследчык ужо мог бы напісаць падрабязную гісторыю гэтага высвятлення, у якой было б нямала старонак, досыць забаўных і пацешных, – так бы мовіць, прыгодных для рубрыкі "займальнае літаратуразнаўства". Прынамсі, мяне асабіста многія "пошукі і знаходкі" на шляху да ісціны нямала павесялілі, ды і працягваюць весяліць. І не хочаш, а зарагочаш, калі раптам прачытаеш у друку, што аўтарам "Сказа" з'яўляецца "мой дзядзька з Берасцейшчыны", у якога назапашана дома каля трохсот паасобнікаў вожыкаўскага выдання паэмы. Як з'едліва заўважыў эканаміст Я.Стасевіч – не дурны дзядзька, змікіціў, што можна і падзарабіць на Ведзьмаку-Лысагорскім... Помню, як аднойчы, яшчэ на першым годзе жыцця

"Сказа", Данута Бічэль-Загнетава ў кулуарах нейкага пісьменніцкага сходу, паблажліва пасмейваючыся, сказала: "Дурні, дурні! Не бачаць, хто напісаў "Лысую гару". Што тут шукаць і думаць! Ну, але як нікога, апроч сябе, не чытаюць, дык і не ведаюць, хто на што здатны". Мяне тады кплівая насмешка Дануты Янаўны ўразіла вось гэтым апошнім: "Нікога, апроч сябе, не чытаюць..." Сапраўды, калі не чытаюць, характару і стылю пісьма сваіх калег не ведаюць, не адчуваюць, дык тады нічога і не застаецца, як толькі гадаць ды наладжваць допыт: "Ну прызнайся: ты ці не ты зварганіў гэту штуковіну?" І калі хто заяўляў у адказ: "Я!" – дык той і прымаўся за аўтара. Калі светлай памяці Анатоль Астрэйка сказаў аднойчы ў Літаратурнай рэдакцыі беларускага радыё: "Гэта я напісаў, хлопцы, толькі не кажыце нікому", – дык сёй-той і дагэтуль – чвэрць стагоддзя! – паўтарае адкрытую яму на хвалі сяброўскага даверу таямніцу. Я тут згадаў імя Астрэйкі, а гэта датычыць і іншых паэтаў, якія або "пад сакрэтам" прызнаваліся "в содеянном" або, хітра ўсміхаючыся, і не прызнаваліся, і не адмаўлялі свайго аўтарства, што азначала: так! Вось і Вы да мяне з кароткім: прызнайцеся або адмоўцеся!.. Дык жа многія прызнаваліся ўжо і прызналіся нават самому Максіму Танку, мяркуючы па яго дзённіках. І што? Чаму Вас не задавальняюць гэтыя прызнанні? Якая патрэба сумнявацца і, прабачце, сяртоліцца? Вось не сумняваюцца ж шаноўны Дз.Бугаёў (чытаў не так даўно ў "ЛіМе"), і шаноўны С.Лаўшук (чытаў у мінулагодняй "Звяздзе"). Ды, здаецца, і "Крыніца" ўжо адкрывала Ведзьмака, нават з фотаздымкам (са спіны, праўда). Дык адкуль жа гэты "чарвячок", што точыць і не дае заспакоіцца? Кажаце, усё больш людзей схільныя прызнаць... Прабачце, якіх людзей? Можа, якіх выпадковых ці дылетантаў у галіне літаратуразнаўства? Няўжо Вас не задавальняюць аўтарытэтныя сцверджанні прафесароў і дактароў філалогіі? Або тыя ж сведчанні Максіма Танка?.. Ах, не задавальняюць усё-такі? Ну, гэта ўжо цікава... Дазвольце, у такім разе, сёе-тое нагадаць – так бы мовіць, да гісторыі пытання.

Напачатку, як "Сказ" пайшоў па людзях, у размовах-спрэчках пра аўтарства паэмы маё імя або не згадвалася зусім, або называлася рэдка. Так цягнулася і далей, і досыць доўга, можа, аж да выхаду ў свет вершаванага рамана "Родныя дзеці". І гэта

было зразумела, паколькі паэта-сатырыка Ніла Гілевіча проста не існавала. Не здзіўляйцеся: навукоўцы Інстытута літаратуры Акадэміі навук лепш ведаюць літаратурную гаспадарку і тое, што пішуць. Дык вось, у акадэмічным зборніку "Сучасная беларуская паэзія" (1970) сатырычнай паэзіі прысвечаны артыкул на 80 старонак, грунтоўна разглядаюцца сатыра і гумар К.Кірэенкі, А.Зарыцкага, С.Дзяргая і іншых, а імя Н.Гілевіча нават не ўпамінаецца. Няма такога! А пасля "Родных дзяцей" (1985) пачалі патроху і да мяне чапляцца – маўляў, ці ты гэта? І чым далей, тым болей. У сярэдзіне 90-х "падазрэнні" на маю міласць пасыпаліся ў друку так густа, што я ўжо быў і сам чуць не паверыў: а халерачка яго ведае, а можа, і сапраўды я?" На шчасце, разрадзіў сітуацыю і выратаваў мяне ад чужой славы мой сябар Рыгор Барадулін. У інтэрв'ю ў "Звяздзе" колькі гадоў назад ён усё паставіў на месца. На пытанне: "Хто, на Вашу думку, аўтар "Сказа пра Лысую гару?" – ён адказаў: "Алесь Звонак. – А вось многія кажуць, што Ніл Гілевіч. – Не, – заявіў Рыгор Іванавіч. – Гэта занадта таленавітая і арыгінальная рэч..."

Ну, то дзякаваць Богу – праяснілася! І ў вельмі катэгарычнай, безапеляцыйнай форме. Правільна: не можа няздара і эпігон стварыць такую магутна-таленавітую і арыгінальную рэч. Рэч, якую крытыкі абазвалі ўсякімі апошнімі словамі: і "бліскучая сатыра", і "маленькі шэдэўр", і "літаратурны цуд", і "глыток праўды", і "глыток свабоды", і "шок", і "свежы вецер", і "азон", і нават "праграма для творцаў". Рэч, з якою і блізка не можа параўнацца ў папулярнасці ніводзін твор беларускай паэзіі другой паловы XX ст.

Пасля такога вердыкту сябра я, можна сказаць, канчаткова супакоіўся – апошнія сумненні, нарэшце, развеяны. І я з палёгкай уздыхнуў: цяпер ужо маё імя скланяць не будуць. Дык жа не! Выходзіць, паспяшаўся я супакоіцца. Раптам ні з таго ні з сяго ўзбунтаваліся "самавукі" – эканаміст Я.Стасевіч, паэт Я.Малец (дзіўныя людзі трапляюцца ў нашым краі!). Ну і дарэмна, мушу я сёння паспачуваць ім. Навукоўцаў і аўтарытэтаў трэба слухаць і насуперак ім не ісці. Усё роўна апошняе слова будзе за імі. Так і здарылася.

Ужо ў гэтым, новым стагоддзі і новым тысячагоддзі ў

справе адхілення маёй кандыдатуры ад аўтарства “Сказа” паставіў апошнюю кропку і падвёў, што называецца, рысу член-карэспандэнт НАН А.Лойка (гл.: “Роднае слова”. 2000. № 1). Ён зрабіў гэта надзіва пераканаўча і адразу на двух узроўнях – і на эстэтычным, і на псіхалагічным. Па-першае, у “Сказе пра Лысую гару”, падкрэсліў ён, “стыль смеху – ёмісты, экспрэсіўны, сціпла-канкрэтны, а не лексічна-выкрунтасны, з расцягнутасцямі, як гэта бачым у “Родных дзецях” Н.Гілевіча. Па-другое, як чалавек, што ведае Н.Гілевіча ўжо амаль паўвека (з 1931 г.), ён спаслаўся на яго характар і заявіў: “Каб Ніл Сымонавіч напісаў славутую паэму, ён бы ў гэтым ужо прызнаўся...” Правільна! Даўно б прызнаўся і не дазволіў бы, каб яе на працягу 30 гадоў прыпісвалі камусьці іншаму. Не той характар!..

То давайце пачакаем: можа, хто канчаткова, праз той жа камп’ютэр, супакоіць мяне і пацвердзіць правату тых, хто ўжо ведае аўтара і не сумняваецца...

**Л. Г.:** *Ці не ёсць нацыянальным прыніжэннем стварэнне ў суверэннай дзяржаве Таварыства беларускай мовы? Ці гэта ад безвыходнасці?*

**Н. Г.:** Ні ў якім разе. Ні пра якое прыніжэнне і гаворкі не можа быць. У многіх еўрапейскіх краінах ёсць падобныя таварыствы (камітэты, камісіі, у тым ліку дзяржаўныя). Калі я пачынаў ініцыіраваць стварэнне ТБМ, я ўжо абапіраўся на вопыт некаторых суседзяў: я ўжо ведаў, што ў Летуве, напрыклад, таварыства мовы існуе яшчэ ці не з 20-х гадоў, у Эстоніі – таксама. А ў Францыі працуе ажно некалькі камітэтаў – з дзяржаўнымі паўнамоцтвамі абараняць французскую мову ад калечання і непатрэбных барбарызмаў, стаяць на варце культуры мовы. Некалькі гадоў таму нават быў санкцыянаваны штраф за ўжыванне ў публічнай гаворцы англійскіх слоў – у тых сітуацыях, калі ёсць свае, французскія адпаведнікі. Так робіцца там, дзе і грамадскасць, і дзяржаўныя ўлады разумеюць, што такое родная мова ў гістарычным лёсе нацыі.

Вядома, Таварыства беларускай мовы паклікана да жыцця не толькі навуковымі і культурна-асветніцкімі мэтамі (як у Эстоніі або ў Летуве), але і грамадска-палітычнымі задачамі нацыянальна-дзяржаўнага адраджэння Беларусі. У нас, апроч усяго іншага,

чым займаюцца адпаведныя аб'яднанні ў Еўропе (культура мовы, удасканаленне правапісу, распрацоўка тэрміналогіі і г.д.), ТБМ усклала на сябе і абавязак куды больш значны: змагацца за пашырэнне роднай мовы ў грамадскім ужытку, ратаваць беларушчыну ад гвалтоўнай асіміляцыі, даваць бой нацыянальнаму нігілізму ў сферы мовы. Калі аднойчы – дай Бог дажыць! – гэтыя задачы адпадуць, у іх не стане патрэбы, бо жыццю нашай мовы нішто не будзе пагражаць, то ТБМ усё адно будзе існаваць дзеля пералічаных вышэй навуковых і культурна-асветніцкіх мэт.

**Л. Г.:** *Ваша стаўленне да маладой літаратурнай змены, у прыватнасці да такіх суполак, як "Бум-Бам-Літ", ТВЛ?..*

**Н. Г.:** З творчасцю маладых беларускіх літаратараў – паэтаў, празаікаў, крытыкаў – знаёмлюся, можна сказаць, эпізадычна, праз даступныя мне часопісы ("Маладосць", зрэдку "Першацвет") і газеты ("Чырвоная змена", "ЛіМ", "Наша слова"). Тое, што мне ўдаецца прачытаць, у большасці сваёй мяне радуе: і несумненнымі адзнакамі таленавітасці, і ўзроўнем прафесіяналізму (я кепска пераношу "самадзейнасць" у літаратуры), і – асабліва – выразнай грамадзянскасцю ідэйнай пазіцыі, патрыятычна-адраджэнцкім духам і настроем. Апошняе я шукаю ў прачытаным у першую чаргу, бо калі будзе мець месца гэта, будзе будучыня не толькі ў нашай літаратуры, але і ў нашай духоўнай культуры наогул, а ў выніку – у нашай нацыі. Да таго ж, на маё ўражанне, што шырокі і бурны прыток маладых патрыятычных сіл у беларускую літаратуру не звужаецца і не занікае, амаль па ўсёй Беларусі паяўляюцца (хоць часам тут жа і знікаюць) газеты і газеткі, на старонках якіх змяшчаюць свае творы пачаткоўцы, у тым ліку і зусім яшчэ "зялёныя" – старшакласнікі і гімназісты. Гэта выдатна, гэта ўсяляе ў душу і сэрца радасныя надзеі.

Што да літаратурных суполак "Бум-Бам-Літ" і "ТВЛ" – на жаль, вельмі слаба знаёмы з паэзіяй і прозай сяброў гэтых аб'яднанняў, і сказаць што-небудзь пэўнае мне цяжка. Кнігі іх да мяне не трапляюць, перыядычныя выданні – таксама. Чытаў хіба што паасобныя вершы і артыкулы некаторых з іх. Шкадую, што больш грунтоўна пазнаёміцца з іх творчасцю не маю магчымасці.

**Л. Г.:** *Як нам захаваць традыцыю, паспяваючы за зменлівым часам найноўшых літаратурных пошукаў?*

**Н. Г.:** Традыцыі трэба, вядома, захоўваць, але – і абнаўляць, і развіваць, і ўзбагачаць іх. Дакладней, не перашкаджаць іх абнаўленню і ўзбагачэнню. На маю думку, працэс узаемадзеяння традыцый і наватарства павінен ісці натуральна: як ідзецца, так хай ідзецца. За традыцыі баяцца не трэба, яны валодаюць здольнасцю да самазахавання. Прыгадайце, якім моцным было захапленне фармальнымі эксперыментамі, але праходзіў час – праходзіла і захапленне, рэвалюцыі не адбывалася, хоць нейкія набыткі аказваліся цікавымі і карыснымі. У народа як у спажыўца мастацкай творчасці ёсць несмяротнае пачуццё меры, і яно абавязкова пачынае прамаўляць, калі сутыкаецца з бязмерным парушэннем традыцый, не з абнаўленнем іх, а з руйнаваннем, з разбурэннем да асноў. Прамаўляць тым, што ён такія непачцівыя адносіны да традыцый не прымае, такога "наватарства" для яго не існуе, ён абмінае яго. Наватар церпіць паразу. І калі здольны пераадолець крайнасці – пераадольвае. А калі не – рызыкуе апынуцца, у вачах нашчадкаў, у кампаніі літаратурных шарлатанаў.

**Л. Г.:** *Ваша стаўленне да славянафільства? Ці мае "славянскі свет" надзею на светлую будучыню?*

**Н. Г.:** Як славянін, паважаю наш магутны славянскі род, да якога належыць паўтара дзесятка этнасаў, высока цаню многія выдатныя якасці кожнага са славянскіх народаў (наколькі змог гэтыя якасці пазнаць), надзвычай – да слёз, да болю, люблю паэзію і музыку славянскага паходжання, глыбока чалавечны, шчыры, праўдзівы голас славянскай душы, бязмежна захапляюся прыгажосцю, выяўленчай сілай і жыццяздольнасцю кожнай са славянскіх моў і веру ў іх гістарычную будучыню... Славянства стварыла вялікую, прызнаную светам, духоўную культуру, вялікае, у гонар Жыцця і Чалавека, мастацтва ва ўсіх яго відах і жанрах, і я недзе ў глыбіні душы радуюся і ганаруся, што належу менавіта да гэтай цывілізацыі. Хоць спяшаюся зрабіць агаворку: з глыбокай павагай і пашанай стаўлюся да культур, створаных іншымі сямействамі этнасаў, іншымі народамі, нават шчыра пакланяюся многаму, што для мяне ў гэтых неславянскіх культурах адкрылася, з чым пашчасціла пазнаёміцца...

Маё жыццё ў літаратуры склалася так, што я, пачаўшы яшчэ з маладосці, са студэнцкіх гадоў звязаў сябе творча з паэзіяй

славянскіх народаў у якасці яе перасатваральніка на беларускую мову: спачатку – з рускай, украінскай, балгарскай, затым – са славенскай, польскай, сербскай, лужыцкай і іншымі (не перасатвараў толькі з моў, якія ў сваіх краінах лічацца дыялектамі: з кашубскай, ляшскай). Так мне выпала стаць прапагандыстам паэтычных скарбаў славян у Беларусі і, само сабой, сябрам многіх-многіх-многіх славянскіх паэтаў. На беларускую мову перасатварыў вершы і паэмы каля 400 аўтараў. Мушу пра гэта сказаць таму, што сённяшнія славянасабораўцы – і ў Расіі, і тут, у нас, – адлучаюць мяне ад сяброў славянскай культуры, абвінавачваюць у непавазе да рускай літаратуры і нават інкрымінуюць мне русафобію. Глупства, вядома, смешна і агідна, але, на жаль, – факт. А чаму так, за якія грахі? За адзін "грэх": за беларускі "нацыяналізм", за актыўна-дзейную пазіцыю ў абароне беларускай мовы, культуры, свабоды, суверэнітэту і незалежнасці Беларусі.

Рэч у тым, што славянафільства як ідэалогія і філасофія – з'ява чыста руская. Гэтая плынь склалася яшчэ ў першай палавіне XIX ст. дзеля сцвярджэння ідэі, што Расія павінна процістаяць індывідуалістычна-амаральнай цывілізацыі Захаду і ісці сваім асобным шляхам, трымаючыся каранёў "саборнасці", "абшчыннасці", "рускай душы", і, вядома ж, праваслаўя, – веры, у адрозненне ад каталіцызму і пратэстантызму, "сумленнай і чыстай". Да беларускай нацыянальнай ідэалогіі славянафільства не прышчапілася і не магло прышчапіцца. Калі ўзніклі і пачалі пашырацца ідэі беларускага нацыянальна-дзяржаўнага адраджэння, тое пачатковае рускае славянафільства стала ўжо гісторыяй, на яго глебе прараслі палітычна агрэсіўны панславізм і сённяшняе "славянасаборства", жывой душой якога ёсць імпершавінізм. Сёння ў асяроддзі рускай інтэлігенцыі зноў выцягваюцца на свет Божы даўнія славянафільскія тэзы пра асобны шлях Расіі ("умом Россию не понять, аршином общим не измерить") і месіянскую ролю праваслаўя. Але ад усяго гэтага робіцца ніякавата на парозе трэцяга тысячагоддзя.

Будзе ці не будзе "славянскі свет" як адметная на планеце цывілізацыя, як адно вялікае цэлае мець будучыню, залежыць, на маю думку, ад таго, якім шляхам пойдзе буйнейшая славянская краіна Расія і найшматлікі славянскі народ – рускі. Калі пойдзе

шляхам глыбокіх дэмакратычных пераўтварэнняў і ў эканоміцы, і ў палітыцы, калі ўсе іншыя славянскія народы адчуюць, і ўбачаць, і пераканаюцца, што Масква катэгарычна парвала з імпершавінізмам, тады славяне пачнуць гуртавацца ў адзіную дружную братэрскую сям'ю на аснове абсалютнага раўнапраўя і ўзаемапавагі і разам, згуртаваныя, будуць моцныя і выстаяць перад рэальнай небяспекай з боку іншых цывілізацый... Але ж маскоўскія ідэолагі і палітыкі думаюць, на вялікі жаль, не пра згуртаванне, а пра паглынанне, пра інкарпарацыю... І гэта самае страшнае. Памажы, Божа, ім працверазець ад гэтага гібельнага ачмурэння!..

**Л. Г.:** *500 членаў СБП, сярод якіх, можа, не больш пяці дзесяткаў творцаў – гэта нармальна для Беларусі? Ці не дэградуе літаратура?*

**Н. Г.:** Дэградуе ці, наадварот, расце і развіваецца наша літаратура, – аб гэтым трэба меркаваць не па колькасці людзей, якія на сёння маюць членскі білет Саюза пісьменнікаў, а па тым, колькі і якіх – таленавітых ці не – новых твораў пішацца і друкуецца, выдаецца, прыходзіць да беларускага чытача.На маю думку, па маіх назіраннях, ніякай дэградацыі нашай літаратуры не адбываецца. Тое, што за апошнія гады не так багата паявілася твораў значных, якія б сталі відочным, важкім укладам у скарбніцу прыгожага пісьменства Беларусі, яшчэ не гаворыць аб дэградацыі і нават аб застоі. Значнымі і важкімі мы звычайна лічылі творы буйных жанраў (раман, аповесць, паэма, п'еса), і менавіта па іх мяркуем аб поспехах і дасягненнях. Дык, па-першае, і ў гэтых жанрах сёе-тое цікавае і мастацка-вартаснае паявілася (дазвольце не пералічваць, прыгадайце назвы самі), а па-другое, паявілася шмат бясспрэчных адзнак руху наперад у жанрах малой формы (апавяданне, верш, эсэ, артыкул і інш.). Прычым як у творчасці вядомых, сталых майстроў, якія няйначай як набылі другое дыханне, так і ў творчасці маладзейшых і зусім маладых аўтараў (зноў жа, дазвольце не пералічваць – зойме вельмі шмат месца). Наконт "другога дыхання" я і хачу Вам сказаць наступнае: яго набыла ўся наша літаратура – набыла на працягу апошніх дзесяці гадоў пасля таго, як была адменена дзяржаўная і партыйная цэнзура і ў наша літаратурнае жыццё прыйшла, нарэшце, свабода творчасці (выяўляй сябе, на што здатны, як хочаш). Абмінем тое,

што гэта свабода спарадзіла ўжо і нямала дурноцця, пошласці і пачварства, – гэта непазбежна, і такой бяды ... Важна, што кожны творца атрымаў магчымасць загаварыць сваім голасам (кожны таленавіты, маю на ўвазе) і назад, на ранейшае, адрэгуляванае цэнзурай, дыханне не вернецца. Гэта галоўнае. А хіба пры свабодным, натуральным, здаровым дыханні арганізм можа дэградаваць? Яшчэ раз падкрэсліваю: вяртання назад не будзе, у літаратуру прыйшлі і ідуць сотні маладых людзей з новым, нармальным, непрыдаўленым самапачуваннем, з новым ідэйна-эстэтычным узбраеннем, людзей, свядомасць якіх вызвалена ад усяго таго дагматычна-пачварнага, што скоўвала творчыя парыванні іх папярэднікаў. Вось яны і забяспечаць паступальны рух беларускай літаратурнай думкі і самой літаратуры наперад.

Цяпер наконт лічбаў 500 і тры дзесяткі. Гэта, канечне, не так, далёка не так: творцаў сапраўды здольных і таленавітых, да таго ж, і сумленных у нас у шмат разоў больш. Вядома, у свой час паднагрэблі ў Саюз і нямала людзей выпадковых, якія не маюць права называцца пісьменнікам, а тым больш беларускім пісьменнікам. І, аднак жа, я скажу Вам зараз нешта такое, што Вас напэўна здзівіць. Калі б я быў кіраўніком СП, я давёў бы агульную лічбу ўжо сёння да 700 чалавек. За кошт здольных і – абавязкова! – сумленных, шчырых душою патрыётаў роднага Слова, адданых ідэі і справе беларускага нацыянальна-дзяржаўнага Адраджэння. Зразумела, за кошт ужо творча выяўленых аўтараў, якія маюць публікацыі, хоць і не маюць кніг. Сёння – да 700, а затым, на працягу колькіх гадоў, і да 1 000. О, якая б гэта была магутная сіла на варце інтарэсаў Беларусі! І як бы гэта актывізавала развіццё літаратуры, узбагачала яе набытак! Скажаце, гэта нейкая фантазія? Ну чаму ж? Гадоў 30 назад, помню, вычытаў, што ў Францыі 20 тысяч прафесіянальных пісьменнікаў (якія працуюць прафесіянальна, пішуць і выдаюць кнігі). Дык адпаведна колькасці насельніцтва – у нас павінна быць 4 тысячы. Ах, Беларусь не Францыя? Во-во! Правільна. І ніколі не стане Францыяй, калі мы, беларусы, не пазбавімся нацыянальнага нігілізму і самаедства і не згуртуемся вакол беларускай ідэі так, як французы згуртаваны вакол ідэі французскай. Дарэчы, яны лічацца ў Еўропе найбольшымі нацыяналістамі.

**Л. Г.:** *Якім Вам прадбачыцца беларускае будучае?*

**Н. Г.:** У бліжэйшым часе нічога добрага не чакаю – палітычная сітуацыя ў краіне такога не абяцае. Але!.. Дапусцім, што здарыцца нават самае горшае: што Беларусь страціць дзяржаўную незалежнасць. Дык у нашай гісторыі такое ўжо было. Праходзілі, аднак, стагоддзі ці дзесяцігоддзі, і мы ўваскрасалі, і ажывалі, і набывалі статус суверэннай дзяржавы. Галоўнае – мець тысячу сумленных беларускіх пісьменнікаў і дзесяць тысяч сумленных, патрыятычна настроеных беларускіх інтэлігентаў. І тады зноў усё адродзіцца, і зноў беларускі народ стане поўным гаспадаром на сваёй беларускай зямлі. Вядома, будзем спадзявацца, што да нацыянальнай трагедыі ў нас не дойдзе, што дзяржаўнай незалежнасці мы не страцім. Але і ў гэтай скрайне цяжкай, амаль роспачнай сітуацыі – як кепска ні павернуцца нашы справы – будзем помніць пра гістарычны лёс тых народаў, якія праз падобнае ў свой час прайшлі. Азірнемся, напрыклад, на Польшчу. Дзвесце з гакам гадоў назад яна, разарваная на кавалкі, страціла незалежнасць, аднак жа не пала духам, і верыла ў сваю лепшую долю, і радзіла-гадавала польскіх патрыётаў. Як мага больш паставіць у шэрагі змагароў за незалежную Польшчу маладых патрыётаў! Праз 120 гадоў пасля трэцяга падзелу Рэчы Паспалітай падняволькая Польшча мела 1 000 пісьменнікаў і сто тысяч (а можа, і больш) чалавек нацыянальна свядомай інтэлігенцыі. І калі гістарычны час прабіў (1918 год!) – польскі народ пайшоў за гэтай свядомай сілай і краіна скінула з сябе ярмо няволі. Сёння мы з зайздрасцю глядзім, як людзі гэтай краіны жывуць. То аднойчы зразумеем – усенародна! – чаму яны так жывуць, і зробім належны выбар. На карысць нашай жаданай будучыні. На карысць свабоднай, суверэннай, незалежнай Беларусі.

**– Дзякуй за гутарку, Ніл Сымонавіч. Здароўя Вам, дабра ды натхнення ў роднай Айчыне...**

*1999*

# РЭКТАРУ УНІВЕРСІТЭТА АД СТУДЭНТА І ПАЭТА ГІЛЕВІЧА НІЛА

Няважная, таварыш рэктар, справа.

Каторы дзень не маю ні кап'я:
Звяліся грошыкі ў мяне да звання.
Раней ніколі не было, каб я
На семінар прыходзіў без снядання.

А зараз... О, мой добры гаспадар!
Каторы дзень бадзяюся не еўшы!
Быццё нанесла мне страшэнны ўдар –
І здохла муза, і прапалі вершы.

Гаворка тут ідзе не пра душу:
Душы салжэш, а вось кішцы – ніколі.
Таварыш рэктар, як айца прашу:
Пазыч траяк, калі не маеш болей.

Я трохі падлы ліварнай куплю
І пляшку... ведаеш, чаго? Кефіру!
Вось бач: ты зморшчыўся. А я люблю!
Люблю яго і ім натхняю ліру.

А доўг я са стыпендыі аддам.
Калі ж яшчэ падзарабіць удасца –
То нават працэнты набаўлю вам,
А калі не, то выбачайце – трасца!

Бо я і так даўгамі ўжо аброс,
І пазычаць даўно мне перасталі.

## Ты

Цікава знаць, хоць гэта вам не ў нос:
Скажыце, вы чым-небудзь абрасталі?

Калі, напрыклад, на шчацэ – кусты,
То для дзяўчат зусім не страшна гэта.
Куды страшней, як кашалёк пусты –
Тады не хочуць ведаць і паэта.

Вось і мяне такі спасцігнуў лёс.
Ты ж сам казаў, што талент мой вялікі.
А шчасця мне ў любві ён не прынёс:
Найлепшай з лепшых я не здаў залікі.

Я праваліўся! Першы мой правал
У сценах роднага ўніверсітэта!..
Вы дзівіцеся: на якіх правах
Я прыстаю да вас без піітэта?

О, выбачайце! Гэта ўсё – хлусня.
Хоць мне стыпендыі і не даволі,
Ды без яды я не сядзеў ні дня,
І пазычаць не стану ў вас ніколі.

А праўда вось – і тут я не хлушу,
Адно пранікніце ў маю задуму:
Я гэты верш на лекцыі пішу –
Каб не памерці ад нуды і суму.

*1951,*
*26 кастрычніка*

* * *

Спявайце, юныя паэты!
Спяліце ў бурах пачуцця –

Неўтаймаваны боль планеты,
Непераможны крык жыцця!

Магчыма, вам якраз і здзейсніць
Дзядоў вялікіх запавет:
Узняцца так на крыллях песні,
Каб чуў і бачыў цэлы свет!

Назло прарокам самазваным,
Што глуха каркаць пачалі,
Спявайце спевам нечуваным
На мове любай вам зямлі!

Спявайце, помнячы нязменна:
Пакуль паэты будуць пець —
Не быць Радзіме безыменнай,
Зямлі бацькоў — не анямець!

*1965*

* * *

Замірае,
Сціхае
Мая залатая дуброва,
Асыпае,
Скідае на дол
Свой задумлівы ўбор.
Не звініць і не льецца
Раздольна-вячыстая мова,
Толькі шоргат сухі пад нагамі,
Як скарга-дакор.

А нядаўна ж яшчэ —
На пачатку нядоўгага лета —

# Ты

Што рабілася тут,
Што за дзіўнае свята было!
Як усё бушавала,
Буяла лістотай і цветам,
Як усё гаманіла,
Спявала,
Гукала,
Гуло!

Колькі радасці чулася
Ў кожным разбуджаным гуку!
Колькі сілы ўкладалася
Ў сокат,
І строкат,
І свіст!
Кожны парастак прагнуў
Узвысіцца дрэвам магутным,
Кожны лісцік хацеў
Разрасціся ў агромністы ліст.

Дзе ж падзелася ўсё,
Што заместа вячыстага слова –
Толькі шоргат сухі пад нагамі,
Як скарга-дакор?..
Замірае,
Сціхае
Мая залатая дуброва,
Асыпае,
Скідае на дол
Свой задумлівы ўбор.

*1966*

***

Тут, дзе вучыўся і араць і сеяць,
Адкуль панёс і песню ў свет сваю,
Я з пасівелай галавой стаю
І слухаю асін журботны шэлест.

І неадчэпна ў ціхай мове лісця
Адно пытанне ловіць прагны слых:
"Скажы, ты шчаслівейшы стаў за тых,
Што тут араць і сеяць засталіся?"

*1973*

## О, БЕЛАРУСЬ!..

***Лірычнае адступленне з рамана ў вершах "Родныя дзеці"***

О, Беларусь!.. – Няхай усклікну
І я – за волатамі ўслед.
Як пілігрым нясе малітву –
Так я нясу іх запавет.

Я скалясіў і змераў пешкі
Твае прасторы ўдоўж і ўшыр –
І ўсе шляхі, дарогі, сцежкі
Пакрыжаваліся ў душы.

Не знаю сам, якога зелля
Ты падліваеш мне ў пітво, –
Што гэтак моцна, гэтак хмельна
Тваё чаруе хараство.

Не знаю слоў, каб растлумачыць,
Разгадку тайны праявіць, –

# Ты

Чаму штодня мне трэба бачыць
Твой непаўторны краявід.

Чаму без роднага паветра
Я доўга дыхаць не магу.
Чаму мне суджана павечна
У неаплатным быць даўгу –

Перад тваёю некрыклівай,
Зусім не кідкаю красой,
Што з воч зрываецца імклівай,
Непераможнаю слязой,

Што анікому не чужая
І нават кончаных бадзяг
Адчуць раптоўна прымушае,
Як радасць тахкае ў грудзях.

"Якая дзіўная краіна! –
Пісала госціца адна. –
І да Бабруйска скрозь – раўніна,
І за Бабруйскам – раўніна!.."

Перапрашаю госцю вельмі –
Удакладніць належыць тэкст:
Хоць раўніна – ды не пустэльня,
Хоць і раўніна – ды не стэп!

А ўсё лясы ды пералескі,
Бары, дубровы ды гаі,
Бяроз і сосен параблескі,
Нязмоўчны шчэбет у галлі.

А ўсё пагоркі, ды лагчыны,
Ды касагоры, ды равы,
Сярод палеткаў – лугавіны,
У ціхіх поймах – паплавы.

А ўсё азёры ды азерцы,
Бруенне рэчак, плыннасць рэк...
Дык што ж за дзіва, што на сэрцы
Адбіўся вобраз твой навек?

Дняпро і Нёман, Сож і Прыпяць,
Дзвіна, Бяроза і Вілля –
Спляліся так, што не разблытаць
Іх у душы маёй, зямля!

Не раз'яднаць і не адсекчы
Ні ручайка – пакуль жывы.
Тваіх артэрый ток адвечны –
Давечны ток маёй крыві.

Спыні на міг – і задыхнуся,
І – як падкошаны ўпаду.
Ды знаю, што прашэпчуць вусны
Раней, чым іх навек звяду.

Тваё імя яшчэ прамоўлю
Апошні раз, о краю мой!
Шчаслівы лёс – плаціць любоўю
Табе і жыць – адною ёй.

З чаго пачаў калісь над Гайнай –
І скончу тым... Спакойны я:
Павек не стане чорнай ганьбай
Любоў прасветлая мая!..

*1986*

***

Свет – шырокі?
Так!
Але ж і вельмі вузкі!
Задыхаюся ад цеснаты,
Калі свет наўкол небеларускі
І калі са мной не поруч Ты.

*1994*

***

Ніякі ратунак, ніякі разлік
Ужо мне не страшны: я збыўся, Айчына.
Я марна не згінуў, бясследна не знік.
Мяне для цябе ўратавала Жанчына.

Ты кажаш, быў варты я лёсу свайго?
Не знаю... Магчыма... Магчыма... Магчыма...
А ўспомню – і жах працінае ўсяго:
Даўно ўжо прапаў бы, калі б не Жанчына.

*21.05.1995*

## ПРАКЛЁН

Вы – дзеці зямлі беларускай?
Ну што вы! Хто ж веры вам дасць?
У вашай душы заскарузлай
Прыкметаў яе не відаць.

Не варта, панове, не варта
Лічыцца вам дзецьмі яе.
Жабрацкая ваша пагарда
На гэта правоў не дае:

Пагарда да роднага слова,
Да мовы, што з веку вякоў

І верай, і праўдай суровай
Жывіла душу прабацькоў;

Пагарда да родных мелодый,
Да песень, што з гэтай зямлі
І гучнасць, і фарбы, і водар
У кожную ноту ўзялі;

Пагарда да памяці продкаў,
Да славы і гонару іх,
Да іхніх мазольных наробкаў,
Да іх курганоў векавых...

Не знаю, як дзе там на свеце,
А ў нас тут праклён быў здаўна:
Калі вы ёй гэткія дзеці –
То хай вас не носіць яна!

*1992*

***

Сябры мае, я ведаю і сам,
Што быў бы сорам – у палоне страху
Гадаць, чаго: якіх уцех ці драм
Чакаць мне трэба на астатку шляху.

Я шчодрасць лёсу ацаніў даўно,
Як мог – аддзякаваў. Цяпер, няхцівы,
Хачу, каб толькі і ўсяго адно
У міг апошні даў мне Літасцівы:

Каб даў пачуць, як пад акном маім,
Забавы ладзячы, дзятва-малеча

Прыгожа і нязмушана зусім
На мове роднае зямлі шчабеча.

Каб перш, чым свет імглою паплыве,
Я мог сказаць: "Ну вось, і мне не страшна:
Як ні душылі, а Яна – жыве!
Жыве, жыве святая Мова наша!"

*14.01.1996*

# ДЗЕ ВЫ?

– Дзе вы? Што робіце вы, Беларусі сыны?
– П'ём, залажыўшы сумленне
ў ламбард Сатаны.

– А ці яшчэ вы не ўсё,
што ільга, прапілі?
– Не! Дапіваем яшчэ.
Вось – ізноў налілі.

– Дзіўна! Па-мойму,
вы ўсё працулячылі ўжо!
– Не! У запасе –
барыш ад прадажы крыжоў.

– Тых, што на храмах?
Што нам сцерагуць небасхіл?
– Тыя пасля. Напачатку –
з дзядоўскіх магіл.

*25.09.1996*

# ОДА БЕЛАРУСКАМУ НАЦЫЯНАЛІЗМУ

О ты, якому дзякуючы мы,
Твае даследчыкі-спецыялісты –
Гісторыкі, філосафы, лінгвісты –
Вучоныя ступені маем, званні,
Узнагароды, прэміі, прызнанне
І хлеб надзённы – для сябе й дзяцей!

Кім мы былі б цяпер, эпохі блазны,
Калі б не ты, звыродны, буржуазны,
Калі б не наша барацьба-змаганне
Супроць цябе, супроць тваіх ідэй?
У барацьбе з табой, з табой, пракляты,
Мы здабылі, займелі ўсё, што маем, –
Пасады, і кватэры, і зарплаты,
Аўтамабілі, гаражы і дачы,
І хлеб надзённы – для сябе й дзяцей!

О, што б мы значылі, калі б не ты!
Хто знаў бы нас, бязглуздых і бяздарных,
Апроч як плюндрыць –
ні на што не здатных?
Таму і надалей, да дзён астатніх,
Цябе даіць – не трацім мы надзей.
Пакуль ты ёсць – мы будзем мець і працу,
І неблагі заробак, і прыплату,
І хлеб надзённы – для сябе й дзяцей!

Якое шчасце, хоць наш бой крывавы,
Што ты – такі жывучы і трывалы!
Бо як уявіш нават на імгненне,
Што больш няма цябе, о рэакцыйны!

О ненавісны! Контррэвалюцыйны!
Антысаве... пардон, антыгвінейскі! –
Жах працінае мошчы зверху ўніз!
Крый Бог, каб нам змагацца стала не з кім!
Таму – пакуль мы маем зубы ў пашчы –
Ты не павінен назусім адпасці:
Жыві і вечна трохі целяпайся,
Ты, працадаўца наш і хлебадаўца,
Ты, беларускі нацыяналізм!

*20.10.1996*

* * *

Мілая мая! Той верш, якога
Ты чакаеш цягам доўгіх дзён:
Ну калі ж, калі ўжо блісне ён? –
Не складу я: страціў ласку ў Бога.

Перш, нібы і ў згодзе з творчым крэда,
Радасць хлынула – каб прагучаць.
Атрымалася ж – не прачытаць:
Як па белай кафлі белай крэйдай.

Потым, волю зацугляўшы цуглямі,
Выйсце смутку даў, якім прасяк...
Зноўку выйшла невыразна так,
Як па чорнай дошцы чорным вугалем.

*30.12. 1996*

* * *

Браты! Ачніцеся! Няўжо вам
Не чутна, хоць бы і скрозь сон,

Як прамаўляе Божым словам
Да вашых сэрцаў вешчы звон?
Як кліча ён знайсці свой Кіцеж,
Паўстаць з прадоннай нематы...
Дык не праспіце ж, не ўпусціце ж
Час, Богам дадзены, браты!

*1997*

## САНЕТ

Паэт – крыху вар'ят. Абавязкова!
Без гэтага паэзіі няма.
І не бярыся за пяро дарма,
Калі не здольны ашалець ад слова –
Ад раптам знойдзенага ў нетрах-сховах
Або ад вызваленага з ярма
Руцінных штампаў,без таўра-кляйма, –
Бы толькі што радзілася нанова.
Калі не чуеш ты яго такім –
Як полымя на ветры – трапяткім.
Бунтоўным, як віно, што дно ўзрывае,
Або гаючым, як вада жывая, –
Тады пакінь паэзію, пакінь.
Бог ад цябе твой дар яшчэ хавае.

*1992*

# ЖЫЦЦЕСЦВЯРДЖЭННЕ

Часам глыбіннае разуменне творчасці таго ці іншага літаратара даецца не адразу. Каб дарэшты дапяць іх мастацкага сэнсу і грамадскай значнасці, неабходны немалы вопыт чалавечага жыцця.

Так у мяне сталася з Якубам Коласам – з яго спрадвечнай заземленай традыцыяй чалавекабыцця, у адрозненне ад эйфарычнай паднебнай вечнасці фармалістычных летуценнікаў... Супрацьпастаўленне дзеля гармоніі мастацкага ўсведамлення і адлюстравання свету...

Напершапачатку нашага паэтычнага знаёмства (вядома, завочнага) Ніл Гілевіч чамусьці нагадваў мне старшыню нашага сельскага Савета, манументальнага па фігуры і дабрадушнага па натуры, нечакана ўважнага да людзей і прыроды ўвогуле...

Не магу сказаць, што я свядома стараніўся яго паэзіі, але ён не быў у ліку тых, за чыімі кніжкамі і публікацыямі я сачыў асабліва раўніва: Танк, Куляшоў, Панчанка, Барадулін, Вярцінскі, Пысін, Стральцоў, Разанаў, Янішчыц...

А да ўсяго, з часу маіх бліжэйшых стасункаў з беларускай літаратурай Ніл Сымонавіч якраз пачынаў адбываць свой доўгі тэрмін кіраўніцтва той самай афіцыйнай літаратурай.

Не зважаючы на саветчыну – ужо трошкі разняволеную, захмеленую і раздабрэлую, хоць яшчэ і падцэнзурную – то быў, як мне сёння падаецца, не горшы час як для літаратуры, так і для саміх яе творцаў...

Ад сярэдзіны ж 80-х усё пачало "хадзіць на вушах". І толькі Гілевіч намагаўся прутка стаяць на сваім, не губляючы з-пад ног "роднай глебы"... Перабудова ўнесла творчы і матэрыяльны вэрхал як

у сам літаратурны працэс, так і ў паводзіны многіх яго стваральнікаў.

А хутка ўжо і самой мастацкай літаратуры стала недастаткова для таго, каб канкрэтна данесці нашу спляжаную беларускую сутнасць да яе "абсавечаных" грамадзянаў. Спатрэбіўся натуральны нацыянальны "лікбез".

Вось тут час і запатрабаваў сваіх "глашатаев" і палымяных трыбунаў. Усё тое, што таемна капілася ў душы і ў сэрцы, доўгі час не знаходзячы сабе выйсця і водгуку, сталася – раптам! – неабходным, як чыстае паветра ў закрытай затхлай камеры...

Захаваны нацыянальны гонар і высокі грамадзянскі пафас Ніла Гілевіча, нарэшце, беспакарана выйшлі вонкі і знайшлі сваю спустошаную бальшавіцкім часам, жыццёва неад'емную прастору...

Той, хто пільна сочыць за творчасцю паэта, ведае цану яго "Родным дзецям" і яго "Незалежнасці", ведае, якая ў яго "Ёсьць зямля...", нягледзячы на тое, які "быў час, быў век, была эпоха"...

Не буду пералічваць узнагароды Ніла Гілевіча, яго чыны і званні, не буду рытарычна называць 35 вершаваных кніжак ды навуковых даследаванняў беларускага фальклору, зборнікі крытыкі, публіцыстыкі ды ўспамінаў...

Больш чым дастаткова для аднаго чалавека, каб апраўдаць сваё бытаванне пад сонцам на дадзенай яму Богам зямлі...

*Не траціце надзей і веры,*
*Пакутнай зямлі сыны!*
*На вежах званіц збуцвелых*
*Мы ўдарым яшчэ ў званы!*
*Яшчэ мы абудзім сілы,*
*Што спяць да пары ў касцях.*
*Яшчэ мы на Шлях Гусіны*
*Уздымем наш Герб і Сцяг!*

Зайздрошчу яго жыццёваму аптымізму.Па-добраму, як беларус – беларусу. І веру...

Бо ПАЭЗІЯ – гэта не толькі вершаскладанне, а найперш – ЖЫЦЦЕСЦВЯРДЖЭННЕ.

**Леанід ГАЛУБОВІЧ**

# Ніл ГІЛЕВІЧ

Дзіўная рэч[1]: калі так званая "чыстая" лірыка Ніла Гілевіча – тыпова язычніцкая і, пры ўсіх сваіх вартасцях, не выходзіць за рамкі беларускай традыцыі, то яго "грамадзянскі", палемічны верш па свайму духу (не па тэматыцы) хутчэй хрысціянскі, што ў межах нашай літаратуры сустрэнеш не так і часта. У адрозненне ад Барадуліна, Гілевіч рэдка, што называецца, "у лоб" выкарыстоўвае хрысціянскую слоўную сімволіку. Калі Барадулін у сваіх "Псалмах", іншых "духоўных творах" апускае біблейскія ісціны да ўласнага ўзроўню разумення (у выніку атрымоўваецца, як у народным асэнсаванні: на Макавея – мак веюць), то Гілевіч, наадварот, "цягнецца", уздымаецца да іх вышыні.

***

Хачу прывесці адзін кароценькі верш Ніла Гілевіча цалкам:

*У век рэнегацтва*
*І гібельнай здрады, калі*
*Зрываюцца душы,*
*Не справіўшыся з ачмурэннем,*
*Шчаслівая доля –*
*Трымацца бацькоўскай зямлі,*
*Як дрэва карэннем.*

Сапраўды, шчасце ведаць Тое, дзеля чаго можна "адарваць крылы" – заўсёдны сімвал паэзіі. Толькі б

[1] Так і хочацца сказаць "спектральны склад творчасці" таго ці іншага літаратара, як гэта гаворыцца, напрыклад, у дачыненні да электрамагнітнага выпраменьвання.

утрымацца той Вышыні, якую і параўноўваць нельга з палётам "крылатых". Увогуле мне здаецца, што адыходзяць часы "каралёў метафары" і лаўцоў прывідаў у поцемках – аматараў "паэтычнага". Надыходзяць часы Верных. І не толькі абстрактнай "радзіме" і часцей на паперы, а ва ўсім: у сваёй справе, у сям'і... Думаю, што калі і будзе захавана беларускасць, то найперш стараннямі іх.

***

*Вось ідзе рукасты раб,*
*Вось гурма гарластых баб,*
*Ненавіджу.*
*.......................*
*Дзеці іхнія мяне*
*Ў негаблёванай труне*
*Закапаюць.*

Гэта радкі з верша Л.Галубовіча "Нянавісць". Але, акрамя турмы, натоўпу ёсць жа і свая сям'я, дзеці. І як зрабіць, каб гэтыя дзеці не сталі дзецьмі турмы? Інакш:

*Дзеці ўласныя мяне...*

А вось у Гілевіча гэтай нянавісці няма. Нават у тым выпадку, дзе яе чакаць, здавалася, было б "натуральна":

*Прачытаў...*
*І пакутна маўчу:*
*Зла – паболела,*
*Праўды – паменела.*

**("Знай!" З прысвячэннем: "Аднаму мовазнаўцу".)**

Ёсць цвёрдасць у сваіх перакананнях[2], а нянавісці – няма. І ці не ў гэтым адказ на пастаўленае мною вышэй пытанне.

---

[2] Не хачу, ды гэта і немагчыма, прыводзіць нейкія канкрэтныя радкі. Гэта цвёрдасць відаць з усёй творчасці Н.Г.

***

Што ёсць "Чорны квадрат" Малевіча? Не што іншае, як падыход да граніцы – той мяжы, дзе жывапіс сутыкаецца з нечым іншым. Для Гілевіча, як мне бачыцца, такім "квадратам" стаў грамадзянскі верш. У адрозненне ад Разанава[3], Гілевіч смела ступіў за мяжу[4] паэзіі – з'явілася добрая публіцыстыка, якую я цаню нават вышэй за яго вершы.

**Усевалад ГАРАЧКА**

---

[3] Гэта суб'ектыўна, толькі мне здаецца, што Разанаў на працягу сваёй творчасці неаднаразова падыходзіў да памянёнай мяжы, але кожны раз вяртаўся назад – у абсягі паэзіі. Нехта мне запярэчыць: Разанаў жа і перакладчык, і ... Так, нічога з гэтага я адмаўляць не стану. Нават скажу, што Разанаў папрацаваў, можа, больш, чым хто з паэтаў: колькі межаў ён зламаў у абсягу паэзіі, а вось мяжы паэзіі не пераступіў, хоць да яе падыходзіў, бачыў, што там, далей... Бачыў, што далей, і вярнуўся, пазбавіўшы гэтым, не скажу сэнсу, – паўнаты ўсю сваю далейшую творчасць.

[4] Пераход за мяжу паэзіі мне не бачыцца як нешта імгненнае (ён можа адбывацца на працягу доўгіх гадоў), і ён ні ў якім разе не павінен успрымацца як развітанне з паэзіяй.

# "І ВЯЛІКАЙ ЛЮБОВІ МАЛЫЯ ГРАХІ..."

Ніл Гілевіч па прыродзе чалавечай і паэтычнай – пераважна рытар, трыбун. Каларытныя знешнасць ды голас, заўважная здольнасць з усёй безлічы праблем спыніцца і данесці да іншых самыя важныя, пякучыя – толькі на карысць такому сцвярджанню! Але, у адрозненне ад некаторых гучных прамоўцаў, слова творцы – не голая дэкламацыя, не падманная бунтарнасць. Не Хрыстос, але і не Юда;

"крыху вар'ят" і, разам з тым, спраўны гаспадар, у вершы якога, як у ладна збудаванай хаце, не разарваць вянца; сумленны рыцар, што не збіраецца перакладваць свае праблемы на плечы іншых, і стомлены змагар з падарваным сэрцам; багаборац, а часцей ціхі мудрэц, які нямее перад невыказным "светлым і вечным"... Усё гэта разам і вымалёўвае творчую сутнасць Ніла Гілевіча, закаханага ў родныя краявіды і слова, беларуса, што здолеў, у рэшце рэшт, з гадамі заўважыць Божую руку ў дарунку радасці адкрыцця і захаплення светам, сваё звысоку багаслаўленне[1].

У такім ракурсе не выпадковымі, не надуманымі, а выпакутаванымі падаюцца назвы кніг пісьменніка апошніх гадоў: "На высокім алтары" (1994), "Любоў прасветлая" (1996), "Наканаванае" (1998). Краса, зыркі прамень якой разам з дзіўнай прыгажосцю прыносіць знішчальны боль ("Мне цёмнай ноччу..."), светлае спатканне з былым, што паціху зарастае шызым палыном ("Палыновая ростань"), чарнобыльскія дзеці – сведкі ядзернай эпохі ("У лета 1986-е"), разуменне таго, што "раднейшага няма нічога ў свеце, як хлеб і музыка, як музыка і хлеб"[2] ("Хлеб і музыка"), абранне жыта, соснаў, валуноў ("Жыта, сосны і валуны") спаконвечнымі сімваламі Беларусі, заўважнае змяншэнне долі праўды на фоне росту зла ("Знай!") – далёка не канчатковае вызначэнне вобразна-тэматычных абсягаў паэзіі Ніла Гілевіча. Але нават і голы пералік іх дае магчымасць выразна адчуць прыкметную прыхільнасць творцы да паняццяў і з'яў кантрастных, супрацьлеглых, да разгляду іх у момантах сутыкнення, у крытычных сітуацыях. І калі каханне, хараство, самаахвярнасць, роднасць душ, патрэба чалавека ў казцы выступаюць неад'емнымі праявамі дасканаласці, вышэйшай разумнасці свету, то дробязнасць, здрадніцтва, скоранасць, бездухоўнасць, нянавісць з'яўляюцца адзнакамі яго заганаў і дысгармоніі, перадаюць далёкую ад бязгрэшнасці людскую сутнасць. У тым ліку і самога паэта, які не

[1] Гілевіч Ніл. На высокім алтары. Новая кніга паэзіі. Мн.: Маст. літ., 1994. С.82.

[2] Гілевіч Ніл. Выбраныя творы: У 2-х т. Т.1. Вершы, паэмы, п'есы. Мн.: Маст.літ., 1991. С.247.

адмаўляецца ад сваіх грахоў і абавязку несці кару за іх. Адзінае, аб чым просіць ён, дык гэта не асуджаць яго за звонкія песні ды гучныя матывы і ноты іх, бо заўжды ён спяваў:

*Не з дыктоўкі нечай, выбачайце.*
*Толькі сам! Як знаў і як умеў.*
*А таму – судзіце і карайце*
*Не за спеў: ён шчыры быў, мой спеў*[3].

Нават у прыродных, побытавых з'явах край, мяжа, лінія пераходу асабліва прыцягваюць Ніла Гілевіча. Як доказ – вершы "На краі дажджу", "Над бяздоннем", "Апошні паверх", "Віхура", "Крумкач" і інш. Але ўсё ж перавага аддаецца творцам даследаванню бязмежжа і абмежаванасці чалавечых душы і пазнання, іх вяршынных узлётаў і нізкіх падзенняў. Пра гэта "Радкі з усяночнай", "Прарок", "Вар'ят", "Просьба", "Памяць", "Імгненне".

Трэба сказаць, што ўніклівы аналіз не заўсёды прыводзіць паэта да новых адкрыццяў у характарах сваіх суайчыннікаў. Часам расчараванне ў іх настолькі моцнае, дасягае такой высокай эмацыянальнай шкалы, што творца не можа і не жадае стрымлівацца ў сваіх катэгарычных ацэнках. У параўнанні са слаўнымі і мудрымі продкамі, ясначолымі і бясстрашнымі воямі, сучаснікі часта нагадваюць аўтару малпаў за рашоткай, ішакоў бязмозглых, тых, хто натхняецца хлуснёй, патулякаў завугольных, тутэйшых ахламонаў. Такой сатырычнай з'едлівасцю афарбаваны творы "Не падбівай. Не падбухторвай...", "Страх, ды не найстрашны...", "Каменні ляцяць на дарогу", "Пасланне патулякам", "Здарэнне" і многія інш.

Па прынцыпе кантрасту, што ўзмацняецца скразной антаніміяй і падкрэсліваецца пры перадачы супрацьлеглых вобразаў сінанімічнымі і градацыйна выбудаванымі радамі субстантыўна ўтвораных дзейнікаў і выказнікаў, цалкам аформлены верш Ніла Гілевіча "Ці ачнёмся?". Такі паэтычны прыём разам з яшчэ адным яскравым доказам выключнага адчування і ведання творцам роднай

[3] Гілевіч Ніл. На высокім алтары... С.71.

мовы, у чым пераконвае і верш "Мэта", дасканалае валоданне "цвёрдымі" лірычнымі жанрамі сведчаць пра яго зайздроснае ўменне скандэнсавана, лаканічна перадаваць небяспечны размах усенароднай бяды, зрокава і фанетычна адчувальны наступ той бязлітаснай да ўсіх і да ўсяго лавіны, што хутка абрынецца, пагрозліва набліжаючыся да нас, па прычыне занядбання і зганьбавання маючых быць непарушнымі нацыянальных і агульначалавечых святыняў. Гэта і ёсць тая мяжа, за якой чакаць можа толькі смерць:

*Пачварнае, дзікае, жорсткае*
*Крычыць, верашчыць і трашчыць,*
*А добрае, людскае, боскае*
*Замоўкла і цяжка маўчыць*[4].

Наогул, далёка не кожны сучасны пісьменнік здолее сказаць пра сябе тое ж, што Ніл Гілевіч у "Запеўцы" да "Родных дзяцей" (1975). Канкрэтна: "Дыханне часу сцерагу..."[5]. Прычым амплітуда болю паэта за свой край – "рай бульбяна-жытны" – разам з праблемамі апошняга прыкметна ўзрастае, павялічваецца адпаведна далечы да вытокаў, да старажытнай матчынай песні беспамятных нашчадкаў, якія з выгады, а не з зялёных курганоў "бяруць у заўтрае разгон"[6], якія неўпрыкмет для саміх сябе страцілі найважнейшае пачуццё адказнасці за вечны кругазварот жыцця. Паводле аўтара, гэта тып ненаежцаў, вертапрахаў, заткалаў, што пераважна жлукцяць без меры, трамбуюць, "выдумляюць-хлусяць", "хаваюць-тояць", кідкія на нячыстыя грошы, падхалімнічаюць. Душы іх заўчасна абыдлелі, страцілі той цвёрды грунт усведамлення, пра які нагадваў у сваім "Тэстаменце" герой пісьменніка Тодар Вячорка і пра які яшчэ марыў 14-гадовы вясковы летуценнік са "Ста вузлоў памяці" (1962–1964), што ўжо тады разумеў:

---

[4] Тамсама. С.97.
[5] Гілевіч Ніл.Наканаванае. Мн.: Юнацтва, 1998. С.288.
[6] Тамсама. С.343.

матчынага слова – "самай агіднай бездухоўнай пошасці"[14]. Мабыць, таму ён асабліва дбайна, з заўсёднай вясковай зборлівасцю, ашчаднасцю адносіцца да моўнага багацця продкаў, умее смакаваць, любавацца ўдала адшуканым ці наваствораным словам-"беззаконнікам". Іх шмат у "Родных дзецях", нават публіцыстыцы, імі зіхаціць, пераліваецца лірыка пісьменніка:

*Папрасімец, неспагадны, здрапежыць, паследкі, пазаддзе, супакойная, зорыць, крынічыць, здраднасць, дастасоўна, сцень, спадманны, расстайны, сацьмець, ашляхнуць, недавяркі, абез'язычання працэс...*

Гэта далёка не поўны пералік прыкладаў, што пераконваюць у непераўзыдзеным моўным майстэрстве і несумненным паэтычным таленце творцы, вершы якога "яшчэ мацней растуць на папялішчы"[15] і якім дадзена пачуць плач сэрца Беларусі. Даводзіцца толькі здагадвацца, што перажывае пры гэтым сам Ніл Гілевіч:

*А горычы – болей і болей.*
*А стрэмка – глыбей і глыбей...*[16].

На вялікі жаль, духоўны вопыт, мужнасць грамадзянскіх учынкаў прыходзяць і сталеюць разам з болем, "бо жыццё ёсць пакуты, што вядуць да мудрасці, а філасофія ёсць мудрасць, народжаная пакутамі"[17]. Якраз праз іх энергія слова прамоўцы Ніла Гілевіча ўзмацнілася (і пры ранейшай наяўнасці яе) кіпучай энергіяй яго філасофскай думкі, якая ад сплаву зямлі і духу, ад мудрасці свайго народа і сусветных здабыткаў.

**Вольга ШЫНКАРЭНКА**

---

[14] Гілевіч Ніл. Любоў прасветлая. Мн.: Навука і тэхніка, 1996. С.33.
[15] Гілевіч Ніл. На высокім алтары... С.52.
[16] Тамсама. С.50.
[17] Ильин И.А. Философия и жизнь //На переломе. Философские дискуссии 20-х годов: Философия и мировоззрение/ Сост. П.В.Алексеев. М.: Политиздат, 1990. С.60.

# ПЯСНЯР ЛЮБОВІ І КАХАННЯ

Ніл Гілевіч, бясспрэчна, адносіцца да аднаго з самых сацыяльна заангажаваных і палітызаваных сучасных беларускіх паэтаў, і таму не дзіўна, што пра яго прызвычаіліся найперш гаварыць як пра творцу грамадзянскага кшталту. Н.Гілевіч-паэт – і ў гэтым сапраўды асновасутнасны момант яго творчасці – шчыры і мужны заступнік усяго роднага, беларускага: ён з маральнай бескампраміснасцю выступае супраць таго, што абражае нацыянальную годнасць, звязана з уціскам роднай мовы, занядбаннем культуры, духоўнасці і вядзе ў гістарычны тупік быцця.

Зрэшты, не сёння і не толькі ўчора паэт зрабіўся прапаведнікам беларускага патрыятызму, нашага нацыянальна-духоўнага ўзвышэння. Кніга “Любоў прасветлая” (1996) красамоўна сведчыць, што ад першага верша “Роднае слова”, напісанага ў 1947 г., і да сённяшніх грамадзянскай лірыкі і публіцыстыкі ён заўсёды меў у сваіх грудзях палымянае беларускае сэрца. У гэтым, мусіць, і хаваецца разгадка Н.Гілевічапаэта, які ўвесь – у спавяданні любові да Беларусі-Радзімы, выказванні пачуццяў вернасці і самаадданасці ёй:

*Я хаджу, закаханы у твае краявіды,*
*І шапчу як прызнанне: о мой край дарагі!*
*Зноў нясу табе ў споведзь і трывогі, і крыўды,*
*І надзеі, і ўцехі, і любоў, і грахі...*

Любоў да Радзімы ў Н.Гілевіча выяўляецца як любоў да маці, якая нарадзіла, узгадавала, і любоў гэтая ўзвышае, прасвятляе, дае ўнутраны мацунак,

робіць жыццё паўнакроўным і асэнсаваным. Гэта, напэўна, калі паглядзець з аднаго боку. Нельга, аднак, не адчуць, што споведзь паэта гучыць яшчэ і вельмі асабіста, нават інтымна, паэт выгаворвае самае запаветнае, таемнае. І нярэдка таму ў творах паэта любоў да роднай зямлі, Радзімы перарастае ў пачуццё вялікага замілавання і кахання, нясе ў сабе нацыянальна-эратычны элемент або, інакш кажучы, інтымна-пачуццёвую афарбоўку. У гэтай сувязі можна прыгадаць выказванне Антона Адамовіча з артыкула "Ля вытокаў нацыянальнага" (1948), які, дарэчы, заснаваны на псіхааналітычных высновах З.Фрэйда пра вызначальнасць эратычнага пачуцця: "Нацыянальны эрас – каханне да роднага – становіць сабою глыбокую эмацыянальную (пачуццёвую) падаснову ўсяго нацыянальнага наагул, усякае нацыянальнае сведамасці, кажнае нацыянальнае ідэі, з яго ўзрастае і на яго ж абапіраецца кажны нацыяналізм. І ў гэтым таямніца тае вялікае сілы, з якою дзеіць кажная нацыянальная ідэя ці нацыяналізм на суродзічаў свае нацыі, бо без лішніх довадаў само сабою ясна, што і ўсякая ідэя наагул будзе моцнай і дзейнай тады, калі выплывае з глыбінных нетраў пачуцця, карэніцца і абапіраецца на адным із глыбейшых і інтымнейшых пачуццяў – на пачуцці кахання, эрасу, што сягае сваймі вытокамі да самае біялагічнае істоты чалавека". Тут,бадай, трэба нагадаць, што нацыяналізм – сёння ён ужо многімі абазнанымі людзьмі так і ўспрымаецца – найперш выяўленне любові да ўсяго роднага, нацыянальнага, гэта, калі гаварыць інакш, актыўны патрыятызм, усведамленне нацыянальных прыярытэтаў у агульна-супольным чалавечым быцці, шанаванне сваіх мовы, культуры, духоўнай спадчыны. Можна нават задацца пытаннем пра тое, што ж усё-такі лепей: "грунт мець пад нагамі, каб не бадзяцца батракамі" (Я.Колас) ці быць перакаці-полем, касмапалітам, сцвярджаць, што "мой адрес не дом и не улица..."? Н.Гілевіч якраз і турбуецца як грамадзянін і паэт, каб мы як народ і нацыя мелі "грунт пад нагамі", з болем і трывогай апелюе да чалавечых душы і свядомасці:

*Брат мой!*
*Братка мой!*
*Братачка родны!*

*Адкажы – сам сабе адкажы:*
*Чым зрабіўся табе непрыгодны*
*Скарб бясцэнны тваёй жа душы?*

*Адчаго так бяздумна, бязмоўна*
*Ты яго выракаешся сам?*
*І чаму табе так усё роўна,*
*Што аборай становіцца храм?*

Любіць Н.Гілевіч сваю Радзіму-Беларусь і народ не зусім той "странной любовью", як знакаміты рускі паэт, а любоўю балючай, пакутнай, самазабыўнай, разам з тым любоўю дзейснай, не хоча мірыцца з тым, што дзеецца з братам-беларусам, нашым народам, выбухае па-купалаўску набатным голасам, звяртаецца да лозунгаў і заклікаў, вострых запытальных інтанацый (пра гэта яскрава сведчаць назвы вершаў: "Адкажы!", "Трывайма, браты!", "І ўсё-такі дойдзем!.." і інш.). Такая адраджэнцка-патрыятычная скіраванасць творчасці Н.Гілевіча сяго-таго насцярожвае, а нехта ў сваіх меркаваннях ідзе значна далей. Разважаючы пра погляды і творчасць А.Лойкі 90-х гг. у грунтоўнай манаграфіі "Насуперак канону" (1997), Г.Сіненка піша, што "ён, як і Ніл Гілевіч, пачынае набліжацца да адкрыта нацыяналістычных пазіцый В.Быкава, Р.Барадуліна, С.Законнікава і іншых беларускіх літаратараў" (с. 409–410). "Нацыяналістычнае" ў Г.Сіненкі – нешта жахлівае, як СНІД, і таму, калі прачытаў гэтую і некаторыя іншыя мясціны з заключнага раздзела ў цэлым цікавай працы, то адчуў у іх – хай даруе аўтар – адгалоскі літаратуразнаўства 30–50-х гг., калі гаворка пра "адкрыта нацыяналістычныя пазіцыі" для пісьменніка магла мець далёкія наступствы. Дзякуй Богу, што сёння на двары зыход XX ст. і мы адчулі, што жывём не ў запаведніку, а ў цэнтры Еўропы. Камусьці вельмі хочацца рабіць, ляпіць з Н.Гілевіча і іншых нашых пісьменнікаў – патрыётаў сваёй Беларусі – вобразы ворагаў, абвінавачваць іх у русафобіі, адшчапенстве і інш. Хай любы з апанентаў, прачытаўшы новыя кнігі Н.Гілевіча або ягоныя публіцыстычныя артыкулы, лепш сумленна адкажа сабе пра тое, ці жадае Н.Гілевіч свайму народу бяды, зла, ці выступае ён супраць рускага народа, вялікай рускай культуры, славянскай еднасці.

Асабіста для мяне відавочна: гэты пісьменнік – наш гонар, беларускае сумленне, чалавек-творца тых шырокіх духоўных даляглядаў, якія выводзяць нас у славянскі і агульначалавечы космас. Але – паўтаруся – ягоны герой найперш карэніцца ў сваім родным свеце, хоча бачыць сваю Беларусь як "храм прасветлы". "Душа мая //І ў небе будзе трызніць Беларуссю", – так прызнаецца паэт у вершы "Мой кароткі адказ". Мусіць, праўда паэта: Радзіма – гэта вечнае пачуццё ў чалавечай душы, і каханне, любоў да яе неўміручыя. І нашы душы пасля адыходу з гэтага грэшнага свету яшчэ доўга будуць вяртацца да "той зямлі, дзе маці нарадзіла,... тых магіл, дзе прашчуры ляжаць", дзе "нашых душ карані". Паэт адчувае глыбінную, касмічную повязь з усім дарагім і родным на бацькоўскай зямлі і таму пратэстуе супраць таго, што цёмныя сілы жадаюць "душу зямлі абрабаваць", засцерагае нас ад бяспамяцтва, вырачэння сваіх каранёў, заклікае "не ступіць у гіблы след", які вядзе не ў рай, а да хаосу, бязмэтнага існавання, духоўнага спусташэння. І ў гэтым сэнсе Н.Гілевіч – вялікі чалавекалюб і жыццялюб, бо так можна, відаць, назваць толькі чалавека, якому не ўсё роўна, якімі мы пакінем свет і жыццё нашчадкам, што тут, на зямлі, возьме "верх-перамогу над... душой".

Н.Гілевіч – пясняр кахання, які выяўляе зайздросныя хараство і глыбіню пачуццяў да жанчыны, і асабіста я як чытач вельмі ўсхвалявана ўспрымаю яго інтымна-любоўныя вершы. Зрэшты, сумую, што ён у апошні час мала піша пейзажаў, бо тыя ранейшыя – лірычныя, адухоўленыя, напоўненыя паэтызацыяй цудоўнай дзівоснасці свету, музыкай слова – сапраўды яркія і незабыўныя ("Цуд тварыўся – я праспаў...", "Свята зямлі", "Снежаньская імпрэсія" і некаторыя інш.). Лірыка кахання Н.Гілевіча – гэта мілагучнасць слова, тонкі водар любоўнага хмелю, узнёсласць і асвечанасць воблікам каханай, якая, як і ў М.Багдановіча, успрымаецца як мадонна, багіня:

*Мілая! Што ты ў мяне адабрала!*
*Ці разумееш ты гэта сама?*
*Штосьці такое, што сэнсу не стала.*
*Што ні задумаю – сэнсу няма!*

Гэта радкі з верша, напісанага не так даўно. У лірыцы Н.Гілевіча знайшлі трапяткое ўвасабленне і пачуццё першага кахання, і з асаблівай эмацыянальнай настраёвасцю перададзены “сум апошняга расстання”, і іншыя душэўныя пачуцці-перажыванні, якія выказваюцца на хвалі пяшчотнага лірызму, з вялікай любасцю і закаханасцю сэрца. Па сутнасці, у вершах паэта гучыць музыка кахання – узвышаная і прачулая, якая акрыляе, ратуе, перайначвае быццё:

*Любая, родная, мілая!*
*Зноў я адчуў, што жыву.*
*Ясніцца далеч імглівая.*
*Свет разганяе журбу.*
*Холад далоняў не выстудзіў.*
*Сівер не выдзьмуў цяпла.*
*Д’ябал у Бога не высудзіў*
*Тое, што ты мне дала.*

Каханне – гэта храм і апірышча душы Н.Гілевіча-паэта. Любоў-каханне да Радзімы ў яго як бы падсвечваецца і правяраецца пачуццём кахання да жанчыны. У вершы “Апошняе спатканне з Веранікай” вобраз каханай цяжка хвораму Максіму Багдановічу ўяўляецца самой старонкай, якая “зайшла да паэта ў пакой”. Каханне адпрэчвае адзіноту, безнадзейнасць, скруху, і таму гэта пачуццё ў лірычным свеце Н.Гілевіча набывае вялікую духоўную першакаштоўнасць.

Н.Гілевіч для мяне – той паэт, які пачынаецца не з барабаннага бою, гучнага грукату, а з пранікнёнага, унутрана выверанага рытму, адкрытага сардэчнага хвалявання, чалавечага болю, музычнага пульсу радка. Вядома, яму ўласцівы і публіцыстычная прыўзнятасць прамаўлення, аратарская пафаснасць, а яшчэ – уменне бліскуча карыстацца сродкамі сатыры і гумару. Н.Гілевіч – шматмерны і шматгранны творца, аднак міжволі адчуваеш, што ягоны паэтычны сусвет найперш лірычна-адухоўлены, жыве і поўніцца ЛЮБОЎЮ, КАХАННЕМ.

**Алесь БЕЛЬСКІ**

Асабіста для мяне відавочна: гэты пісьменнік – наш гонар, беларускае сумленне, чалавек-творца тых шырокіх духоўных даляглядаў, якія выводзяць нас у славянскі і агульначалавечы космас. Але – паўтаруся – ягоны герой найперш карэніцца ў сваім родным свеце, хоча бачыць сваю Беларусь як "храм прасветлы". "Душа мая //І ў небе будзе трызніць Беларуссю", – так прызнаецца паэт у вершы "Мой кароткі адказ". Мусіць, праўда паэта: Радзіма – гэта вечнае пачуццё ў чалавечай душы, і каханне, любоў да яе неўміручыя. І нашы душы пасля адыходу з гэтага грэшнага свету яшчэ доўга будуць вяртацца да "той зямлі, дзе маці нарадзіла,... тых магіл, дзе прашчуры ляжаць", дзе "нашых душ карані". Паэт адчувае глыбінную, касмічную повязь з усім дарагім і родным на бацькоўскай зямлі і таму пратэстуе супраць таго, што цёмныя сілы жадаюць "душу зямлі абрабаваць", засцерагае нас ад бяспамяцтва, вырачэння сваіх каранёў, заклікае "не ступіць у гіблы след", які вядзе не ў рай, а да хаосу, бязмэтнага існавання, духоўнага спусташэння. І ў гэтым сэнсе Н.Гілевіч – вялікі чалавекалюб і жыццялюб, бо так можна, відаць, назваць толькі чалавека, якому не ўсё роўна, якімі мы пакінем свет і жыццё нашчадкам, што тут, на зямлі, возьме "верх-перамогу над... душой".

Н.Гілевіч – пясняр кахання, які выяўляе зайздросныя хараство і глыбіню пачуццяў да жанчыны, і асабіста я як чытач вельмі ўсхвалявана ўспрымаю яго інтымна-любоўныя вершы. Зрэшты, сумую, што ён у апошні час мала піша пейзажаў, бо тыя ранейшыя – лірычныя, адухоўленыя, напоўненыя паэтызацыяй цудоўнай дзівоснасці свету, музыкай слова – сапраўды яркія і незабыўныя ("Цуд тварыўся – я праспаў...", "Свята зямлі", "Снежаньская імпрэсія" і некаторыя інш.). Лірыка кахання Н.Гілевіча – гэта мілагучнасць слова, тонкі водар любоўнага хмелю, узнёсласць і асвечанасць воблікам каханай, якая, як і ў М.Багдановіча, успрымаецца як мадонна, багіня:

*Мілая! Што ты ў мяне адабрала!*
*Ці разумееш ты гэта сама?*
*Штосьці такое, што сэнсу не стала.*
*Што ні задумаю – сэнсу няма!*

Гэта радкі з верша, напісанага не так даўно. У лірыцы Н.Гілевіча знайшлі трапяткое ўвасабленне і пачуццё першага кахання, і з асаблівай эмацыянальнай настраёвасцю перададзены "сум апошняга расстання", і іншыя душэўныя пачуцці-перажыванні, якія выказваюцца на хвалі пяшчотнага лірызму, з вялікай любасцю і закаханасцю сэрца. Па сутнасці, у вершах паэта гучыць музыка кахання – узвышаная і прачулая, якая акрыляе, ратуе, перайначвае быццё:

*Любая, родная, мілая!*
*Зноў я адчуў, што жыву.*
*Ясніцца далеч імглівая.*
*Свет разганяе журбу.*
*Холад далоняў не выстудзіў.*
*Сівер не выдзьмуў цяпла.*
*Д'ябал у Бога не высудзіў*
*Тое, што ты мне дала.*

Каханне – гэта храм і апірышча душы Н.Гілевіча-паэта. Любоў-каханне да Радзімы ў яго як бы падсвечваецца і правяраецца пачуццём кахання да жанчыны. У вершы "Апошняе спатканне з Веранікай" вобраз каханай цяжка хвораму Максіму Багдановічу ўяўляецца самой старонкай, якая "зайшла да паэта ў пакой". Каханне адпрэчвае адзіноту, безнадзейнасць, скруху, і таму гэта пачуццё ў лірычным свеце Н.Гілевіча набывае вялікую духоўную першакаштоўнасць.

Н.Гілевіч для мяне – той паэт, які пачынаецца не з барабаннага бою, гучнага грукату, а з пранікнёнага, унутрана вывернага рытму, адкрытага сардэчнага хвалявання, чалавечага болю, музычнага пульсу радка. Вядома, яму ўласцівы і публіцыстычная прыўзнятасць прамаўлення, аратарская пафаснасць, а яшчэ – уменне бліскуча карыстацца сродкамі сатыры і гумару. Н.Гілевіч – шматмерны і шматгранны творца, аднак міжволі адчуваеш, што ягоны паэтычны сусвет найперш лірычна-адухоўлены, жыве і поўніцца ЛЮБОЎЮ, КАХАННЕМ.

**Алесь БЕЛЬСКІ**

# НЕПАЎТОРНЫ ТАЛЕНТ САТЫРЫКА

Пра Ніла Гілевіча напісана нямала. Ёсць нават манаграфія Г.Д. Сіненкі. (Ніл Гілевіч. Нарыс творчасці. Мн.: Вышэйш. школа, 1981.) Але амаль нічога не напісана пра яго сатырычную творчасць.

Між тым яго сучаснікі, пабрацімы-паэты і пісьменнікі, яшчэ дваццаць і больш гадоў таму давалі выключна высокую ацэнку яго сатырычнай творчасці. Васіль Быкаў у прадмове да кнігі Н.Гілевіча “Святлынь” (Мн., 1984) пісаў: “У паэзіі Ніла Гілевіча ў вельмі выразнай форме знайшлі выяўленне грамадзянскасць, скандэнсаваная сацыяльнасць, аб чым сведчаць яго шматлікія лірычныя і ліра-эпічныя творы, і асабліва ягоныя сатыра і гумар, у якіх паэт мае свой непаўторны голас, свой характэрны смех і сваю іронію. Сіла ягонай пагарды і выкрыцця такая вялікая, а смех такі з’едлівы, што часам здзіўляе ягоная здольнасць пераходу да вельмі шчырай замілаванасці, дабрыні і пранікнёнага лірызму ў вершах і паэмах іншага характару, у лірычных творах, дзе Ніл Гілевіч паказвае зусім іншыя грані свайго таленту. Гэтыя два розныя бакі яго творчасці зніто́ўваюцца адной моцнай, я сказаў бы, высакароднай якасцю, якую можна вызначыць як фальклорную, вельмі народную, што ідзе з самых вытокаў беларускага жыцця, з яго нацыянальнага характару і ягонай гісторыі”.

Аматарам дасціпнага вострага слова, майстрам сатыры і гумару называў Н.Гілевіча Кандрат Крапіва. Вельмі трапную ацэнку выказаў вядомы рускі крытык Аляксей Кандратовіч: “Ніл Гілевіч не проста гумарыст, але яшчэ і сатырык, парой кінжальны...” (Призвание. М.:Совет. писатель, 1987.)

А вось якую ацэнку дае Пятрусь Макаль: “Ва

ўсім, што трапляецца пад сатырычны прыцэл паэта, у кожным яго вобразе, мы адчуваем прысутнасць народнага погляду на жыццё, непасрэднасць бачання фактаў, размоўную шчырасць інтанацый, якая так натуральна і ёміста выяўляе характары самых розных персанажаў. Адной з характэрных асаблівасцей сатыры і гумару Н.Гілевіча з'яўляецца іх блізкасць да фальклору. Гэта адчуваецца і ў дасціпнасці моўных сродкаў, і ў спосабе абмалёўкі вобразаў, і ў кампазіцыйнай арганізацыі жыццёвага матэрыялу... Ураҗанне ўзмацняецца той сапраўды чароўнай моўнай стыхіяй, той слоўнай вынаходлівасцю, у якой паэт, здаецца, невычарпальны". (Полымя. 1974. №11.)

Вось яшчэ адна характарыстыка, якая належыць Анатолю Грачанікаву: "Узнімаючыся над канкрэтнымі жыццёвымі эпізодамі на ўзровень абагульненняў, паэт часам стварае адмоўныя сацыяльныя тыпы і маральна знішчае іх." (ЛіМ. 1971.)

Як вынікае з прыведзеных выказванняў, сіла і моц сатыры Н.Гілевіча – у яе сацыяльнай вастрыні, у трапнасці вобразных характарыстык, а нярэдка і ў кінжальнай бескампраміснасці.

Ды і ў самога Н.Гілевіча можна знайсці вельмі істотную падсветку да асаблівасцей яго сатыры, а менавіта ў яго выказванні аб характары народнага беларускага смеху. Н.Гілевіч піша: "Асаблівасць эмацыянальна-псіхалагічнага складу беларускай народнай сатырычнай творчасці – непрыхільнасць да прытчавасці, да чыста лагічнай павучальнасці, да сухога маралізатарства, ёй трэба – каб усё са смехам, з досціпамі, з кпінамі, каб было жыва, займальна. Сатырычная з'едлівасць, вастрыня іроніі і тут жа дабрадушны гумар, бяскрыўдны жарт – вось дух нашых фальклорных традыцый". (Н.Г. У гэта веру. С. 25.) Менавіта гэтыя якасці ляжаць і ў аснове сатырычнага бачання і сатырычнага смеху Н.Гілевіча.

Гэтыя якасці выразна выяўлены і знайшлі ўвасабленне ў знакамітай паэме "Сказ пра Лысую гару", аб аўтарстве якой усё яшчэ вядуцца спрэчкі.

На маё перакананне, і я аб гэтым неаднаразова пісаў, такі нацыянальны шэдэўр другой паловы XX стагоддзя мог напісаць не хто іншы, як Н.Гілевіч. Я не адзіны ў такім перакананні. Ужо два гады працую над гэтай тэмай – удзельнічаю ў пошуках аўтара

"Сказа" – і за гэты час сустракаўся з многімі людзьмі, якія хацелі б ведаць імя аўтара паэмы. Большасць з іх прытрымліваюцца той жа думкі, што і я, але публічна выказвацца жадаюць не ўсе. Больш таго, Людміла Рублеўская ў час падрыхтоўкі "Гарбаткі" правяла цікавы эксперымент. Кожнаму, хто заходзіў у кабінет (я іх не ведаю, але, відаць, гэта былі аўтары і супрацоўнікі рэдакцыі, пісьменнікі, літаратуразнаўцы) яна задавала пытанне: "Хто напісаў "Сказ пра Лысую гару"? Незалежна ад таго, да каго скіроўвалася пытанне, ён адразу глядзеў па баках, потым на мяне, потым казаў: "А што – вы не ведаеце?" Але прозвішча ніхто не назваў. Так паводзілі сябе і супрацоўнікі Інстытута мовазнаўства, куды я звяртаўся. Ад іх пачуў: "Вы ведаеце, і мы ведаем. Называць не будзем". Гэтым усё сказана.

Але вернемся да паэмы. Між іншым, хацеў бы звярнуць увагу чытача на вельмі істотную акалічнасць – на вызначэнне жанру паэмы, якую аўтар назваў "Сказам". Сказ як жанр вядомы ўсходнеславянскаму фальклору (азначае аповед, сказанне, па-польску – гавэнда). У літаратурным ужытку ён паявіўся ў нас на Беларусі менавіта са з'яўленнем "Сказа пра Лысую гару". Хіба можна лічыць выпадковасцю, што гэта азначэнне жанру "знайшоў", а дакладней, узяў з фальклору паэт, які ў той жа час з'яўляецца прафесійным фалькларыстам? Такім паэтам-фалькларыстам у нас з'яўляецца Ніл Гілевіч, другога мы не ведаем.

Я перакананы: не толькі "Ачмурэнне" і "Гэй, наперад! Гэй, назад!" (Мн.: БВТ "Хата", 1999), але і такія паэмы, як "Сказ пра ватнік" (ЛіМ за 20.09.96), "Сказ аб незвычайнай эпідэміі ў старажытнай Тутэміі" (ЛіМ за 27.12.96), "Сказ пра Лігу чыстакроўных" ("Народная воля" за 2.02.2000), напісаў аўтар "Сказа пра Лысую гару". Гэта ўжо пэўная традыцыя ў вызначэнні самога жанру такой сатырычна-гратэскавай паэмы пад назвай "Сказ". Дык падумаем: ці мог Н.Гілевіч, будучы такою буйной постаццю ў літаратуры, дазволіць сабе так прысвоіць гэту назву жанра "Сказ", каб увесь час ёю карыстацца? Не можа паэт з такім імем, з такім прызнаннем, так высока ацэнены літаратурнымі аўтарытэтамі, паквапіцца на адкрыты некім іншым жанр. Ні ў якім разе, на маё перакананне, ён не мог на гэта пайсці. Хто паверыць, што Н.Гілевіч так будзе карыстацца чужым

“адкрыццём”? А паколькі адкрыццё “жанру” належыць яму (“Сказ пра Лысую гару”, з чаго і пачалася традыцыя), дык ён у далейшай сваёй творчасці з поўным правам карыстаецца гэтым вельмі ўдалым, ім самім знойдзеным азначэннем жанру. Не можа Н.Гілевіч на чужым Пегасе на Парнас ехаць, як нейкі дробны эпігон. Ён быў і застаецца зусім самастойнай, арыгінальнай і творчай асобай.

Каб адвесці якія-небудзь сумненні ад імя сапраўднага аўтара “Сказа”, *трэба зыходзіць з паэтычнай фактуры ўсяго напісанага Нілам Гілевічам.* Калі б хто з даследчыкаў вельмі ўважліва прачытаў усе сатырычныя паэмы, вершы, вершаваныя фельетоны Н.Гілевіча, кінуў праніклівым вокам на асаблівасці яго паэтыкі, сатырычна-гратэскавай мовы, яго верша (рытм, інтанацыя), то адкрыў бы для сябе несумненную ісціну: усе гэтыя творы і “Сказ пра Лысую гару” напісаў адзін і той жа чалавек. А калі б яшчэ, у дадатак, гэтак жа ўважліва прачытаў Гілевічавы вершаваныя гратэскі пачатковай пары яго творчасці (парадыйна-гераічная паэма “Пабоішча” і паэма “Фрагменты”), дык і апошнія рэшткі сумненняў развеяліся б. Дарэчы, вельмі шкада, што гэтыя сатырычныя рэчы 1950 года шырокаму колу чытачоў невядомыя. У Нацыянальнай бібліятэцы ёсць машынапісны экземпляр, з якім я меў радасць пазнаёміцца, а колькі іх на руках – ведае хіба сам аўтар.

Ужо ў першых сваіх сатырычных творах паэт насмешліва-іранічна і вельмі дасціпна адлюстроўвае жыццё і быт студэнтаў, не супраць нават пакпіць над сваімі аднакашнікамі-сябрамі. У паэме “Пабоішча” ў сатырычна-гратэскавай форме апісана бойка паміж студэнтамі педвучылішча і маладымі рабочымі інструментальнага завода:

*Суровы наш дваццаты век,*
*Але павінен быў здзівіцца,*
*Як сталі рэзацца, давіцца*
*У зале дзвесце чалавек!*

Тут паэт, як і ў “Сказе”, называе канкрэтныя прозвішчы і імёны ўдзельнікаў:

*І кроў лілася, як рака!*
*Ды наш народ быў не такоўскі –*

*Адно Супрон ды Рудакоўскі*
*Стаялі супраць сарака!*
*...Іван Гаўрылавіч Гамеза*
*Сюды таксама паспяшаў*
*І кулаком цвярдзей жалеза*
*На мордзе цеста замяшаў.*
*Заслаўскі Мурамец – Аркадзя*
*Ля ног вялізарных складаў,*
*А меншых (дзіва, гэткі дзядзя!)*
*На дзесяць метраў адкідаў.*

Дарэчы, прыведзены тут афарызм “суровы наш дваццаты век...” у “Сказе” ператварыўся ў “быў час, быў век, была эпоха...” Прасочваецца і другое супадзенне...

У “Пабоішчы”:

*Арнольд, у вечным негліжэ,*
*Не выбіраў сабе мішэні.*
*Хадзіў па першым этажэ,*
*Запхнуўшы рукі у кішэні.*
*Пасля на лесвіцы стаяў,*
*Рукою гладзячы пярыла,*
*Пакуль не з’ездзіў хтось у рыла,*
*Ды так, што ледзьве акрыяў.*

У “Сказе”:

*Суседка з хаты ёй насустрач –*
*Яшчэ спрасонку ў негліжэ:*
*– Чаго ты прэшся гэтак шустра?*
*Які кадук цябе глыжэ?*
*– Хачу зваліцца неспадзеўку:*
*Адзін начуе мой стары.*
*Дык мо прыцёг якую дзеўку,*
*Каб іх цягалі дактары!*

Не магу не звярнуць увагі чытачоў яшчэ на адну акалічнасць – прымяненне паэтам прыёму градацыі, калі так імпэтна, з нарастаннем тэмпу развіваюцца падзеі.

У "Пабоішчы":

*Каменне сыплецца, як град,*
*За шыбай шыба раздаецца,*
*І рамы крышацца, здаецца,*
*Як бы па вокнах б'юць з гармат.*
*А тут да гібелі дзяўчат:*
*Наташа, Маша, Паша, Даша, –*
*А разам жудасная каша,*
*А разам гром, і дым, і чад!*

У "Сказе":

*Другі маштаб – другая марка:*
*Калі яму стаўлялі дом –*
*Тры дні вішчэла цыркулярка,*
*Чатыры дні звінела чарка,*
*І цэлых пяць сквірчэла скварка,*
*І кожны дзень вялася сварка, –*
*Былі Гамора і Садом.*

Дальбог, трэба зусім не мець вуха, каб не адчуць, што ўсё гэта напісана адной рукой. Наогул я прыходжу да высновы, што раннія паэмы "Пабоішча" і "Фрагменты" былі, у пэўным сэнсе, своеасаблівай і вельмі ўдалай першай рэпетыцыяй паэта перад напісаннем "Сказа". Праўда, з дыстанцыяй у дваццаць гадоў. Такой жа рэпетыцыяй былі і ўсе наступныя сатырычныя творы, напісаныя паэтам да з'яўлення знакамітай паэмы.

Дазволю сабе зрабіць яшчэ адну спасылку на паэзію Н.Гілевіча зусім найноўшага часу, на гумарыстычны верш пра пакуты паэта – пацыента ў зубнога ўрача (Алеся. 1999. №7):

*Гадзіны дзве, бадай, трымала*
*Яна ў тым крэсле бедака –*

*Мярцвіла нерв, карэнні рвала,*
*Пілiла, скрэбла, свідравала,*
*У дуплах пломбы трамбавала –*
*І не самлела, не прыстала,*
*Не здрыганулася рука!*

Пазнаеце, шаноўны чытач, і почырк, і манеру, і характар? Ці, можа, дапускаеце, што народны паэт Беларусі дазволіў сабе паўтарыць, пераняць (так дакладна) прыём градацыі "нейкага аўтара" "Сказа"? Я, прабачце, такога не дапускаю. І калі верш 1999 года накладваецца, як адзін на адзін, на верш 1971 года – дык толькі таму, што аўтар аднаго і другога таксама адзін, Ніл Гілевіч.

Адным з доказаў супраць аўтарства Н.Гілевіча некаторыя даследчыкі прыводзяць тое, што ён не жыў на Лысай гары і таму, маўляў, не мог ведаць усяго таго, што там адбывалася. Дык вось: на адным з выступленняў перад чытачамі ён расказваў, што не прысутнічаў на тым вечары ў педвучылішчы, калі было тое пабоішча. А як дакладна і пераканаўча апісана: чытачу і ў галаву не прыйдзе, што аўтар не быў сведкам падзеі!

Вядома, якую шырокую дыскусію ў пошуках аўтара "Сказа" правяла ў свой час "Крыніца". Ахвяравала гэтаму цэлы нумар часопіса, нават надрукавала фота "аўтара" паэмы, праўда, са спіны. А каго там пазнаеш – спіна ж не твар. На жаль, тая дыскусія не дала станоўчых вынікаў, і галоўным чынам таму, што шукалі таго, хто мог напісаць "Сказ". На нашу думку, трэба было ўважліва паглядзець, хто такую рэч напісаць не здольны. Спрэчкі працягваліся, узнікалі розныя імёны, і нават "дзядзька-берасцеец", які скупіў паўтысячы экземпляраў "Сказа", каб даказаць сваё аўтарства.

Сапраўдны аўтар паэмы не стаў увязвацца ў дыскусію. Маўляў, вы шукайце, спрачайцеся, а я буду пісаць свае "Сказы" і друкаваць іх гэтак жа ананімна і безганарарна, як і "Сказ пра Лысую гару". Ён як бы спадзяваўся, што даследчыкі звернуць на гэта ўвагу. Але нічога падобнага не адбылося. Вось тады і паявіліся "Ачмурэнне" (аўтар Баркулаб Дамавік-Крывіцкі) і "Гэй, наперад! Гэй, назад!" (аўтар Базыль Раскапэнда-Бабэцкі). На вокладцы

кнігі прыведзены шырока вядомы афарызм з паэмы: "Быў час, быў век, была эпоха..." Тут жа змешчаны сяброўскія шаржы ў профіль і ў анфас, як дзве кроплі вады падобныя на Н.Гілевіча. І зноў, як анямелыя, маўчаць даследчыкі. Многія з іх наогул не хацелі б раскрываць імя аўтара "Сказа", пакінуць гэта нашчадкам – хай яны разбіраюцца. Уласна кажучы, бачу ў гэтым нейкую "змову маўчання" супраць аўтара, які жыве і плённа працуе сярод нас. Упэўнены: каб аўтарам такой знакамітай паэмы быў нехта іншы, яго імя ўжо даўно было б прызнана і "кананізавана".

Наогул прычына прычын таго, чаму да гэтага часу не названы аўтар "Сказа", тоіцца, як мне здаецца, у тым, што многія сучаснікі Н.Гілевіча надта не хочуць аддаць належнага яму як выдатнаму, непараўнальнаму паэту-сатырыку беларускай літаратуры другой палавіны XX ст. Бо не могуць жа яны не бачыць магутнай сілы яго сатырычнага таленту, яго вясёлага, іранічнага, "кінжальнага" смеху, яго глыбока народных па духу сарказму і гратэску! А калі бачаць – нашто ж усур'ёз варушыць імёны, якія ў галіне сатыры Богу душой не вінаваты (М.Аўрамчык, А.Звонак, Р.Няхай і нават нейкі "берасцейскі дзядзька")?

Нядаўна (Чырвоная змена. 19.12.2000) я набраўся смеласці і звярнуўся да Ніла Сымонавіча з запрашэннем да пакаяння за ўсе "грахі", каб пашкадаваць нас усіх, хто шукае аўтара "Сказа", каб мы болей не мучыліся ў пошуках. Раней (Звязда. 19.03.1996) "падняць рукі ўгору" прасіў яго і Янусь Малец, які, дарэчы, на мой погляд, найбольш дасканала прааналізаваў асаблівасці паэзіі Н.Гілевіча і нават адкрыў закладзеную аўтарам у "Сказе" шыфроўку "Ніл" (ЛіМ. 9.07.1999). Але, як відаць, гэтага было недастаткова, каб аўтар загаварыў. Мусіць, патрэбны больш грунтоўныя доказы аўтарства "Сказа", якіх ён чакае. Не хачу быць арыгінальным, але лічу, што галоўны "ключ" да разгадкі схаваны аўтарам у калектыўным подпісе пад "Сказам аб незвычайнай эпідэміі ў старажытнай Тутэміі". Імёны аўтараў гэтай рэчы размешчаны ў наступным парадку:

*Францішак Вядзьмак-Лысагорскі*
*Баркулаб Дамавік-Крывіцкі*
*Базыль Раскапэнда-Бабэцкі*

*Вавіла Ваймяцца*
*Зімавей Зюзя*
*Амільліян Заткала-Заднярпроўскі.*

Хто такі Баркулаб Дамавік-Крывіцкі і Базыль Раскапэнда-Бабэцкі, нам ужо вядома. Аказваецца, ён жа і Францішак Вядзьмак-Лысагорскі! Дык вось і ўсё... У справе пошукаў аўтара паэмы "Сказ пра Лысую гару", на маю думку, час паставіць кропку. Да вышэйпералічанага спіса трэба дадаць яшчэ адно імя: Ніл Гілевіч.

**Яўген СТАСЕВІЧ**

# "А ПРАЎДА ЎСЁ-ТАКІ ЖЫВЕ!"

У артыкуле "Паэтычны голас сумлення" (Полымя. 1996.№9), які лёг у аснову ўступнага нарыса да "Збору твораў" Ніла Гілевіча (т. 1. Мн., 1996), я палічыў, што сваё літаратурнае вучнёўства паэт закончыў навучэнцам педвучылішча, калі друкаваўся ў дзіцячым часопісе "Бярозка" за 1946–1949 гг. Толькі ў 1997 годзе Ніл Гілевіч апублікаваў гумарыстычныя вершы студэнцкіх гадоў у брашуры "Маладое, бестурботнае, ад рэдактараў свабоднае". У апошнія гады сталінскай дыктатуры такое студэнцкае вальнадумства было не для друку. Нізку вершаў завяршае жартоўны верш першакурсніка філалагічнага факультэта пад загалоўкам "Рэктару універсітэта ад студэнта і паэта Ніла Гілевіча заява":

*Гаворка тут ідзе не пра душу:*
*Душы салжэш, а вось кішцы – ніколі.*
*Таварыш рэктар, як айца прашу:*
*Пазыч трояк, калі не маеш болей.*

А канчаецца заява трапнай характарыстыкай тагачаснай дагматычнай лекцыі:

*А праўда вось – і тут я не хлушу,*
*Адно пранікніце ў маю задуму:*
*Я гэты вершы на лекцыі пішу –*
*Каб не памерці ад нуды і суму.*

Ад таго галаднаватага, але і ўзнёсла-рамантычнага часу прайшло паўстагоддзя творчага жыцця ў роднай літаратуры. І не толькі ў яе шматлікіх жанрах. Ніл Гілевіч дваццаць шэсць гадоў быў выкладчыкам і прафесарам літаратуры на родным філфаку, апублікаваў грунтоўныя даследаванні па літаратуразнаўстве і фалькларыстыцы. Яго кнігі “Паэтыка беларускай народнай лірыкі” (1975), “Паэтыка беларускіх загадак” (1976) і сёння застаюцца сярод лепшых навучальных дапаможнікаў для філолагаў і фалькларыстаў. А яшчэ наш паэт, публіцыст, драматург і асветнік дзесяць гадоў быў першым сакратаром Саюза беларускіх пісьменнікаў, старшынёй Фонду славянскай пісьменнасці і славянскіх культур, дэпутатам Вярхоўнага Савета БССР (1985–1990) і Рэспублікі Беларусь (1991–1995), старшынёй Пастаяннай камісіі Вярхоўнага Савета Беларусі па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны, старшынёй Таварыства беларускай мовы.

Расійскі хрысціянскі філосаф Мікалай Бярдзяеў шмат пісаў пра небяспеку страты чалавекам экзістэнцыяльнай тоеснасці і духоўнай цэльнасці, калі яго надоўга адчужаюць грамадства і дзяржава, прывучаюць не перажываць паўнату быцця, а толькі выконваць функцыі і рэагаваць на падзеі. Некаторыя слынныя пісьменнікі і без філасофіі Бярдзяева адчувалі гэтую небяспеку, ухіляліся ад завербаванасці грамадска-палітычнай службай. Ніл Гілевіч не ўхіляўся. І ўсё ж не толькі не адчужыўся ад сваёй галоўнай місіі – служэння роднай Беларусі мастацкім словам, але яшчэ больш наблізіўся да яе, дайшоў да той вышыні самасвядомасці, дзе знікае мяжа паміж асабістым і нацыянальным быццём. Як пісаў Янка Купала ў сваім санеце “Бацькаўшчына”:

*І калі здзекваецца нада мною хтосьці –*

*Над Бацькаўшчынай здзекваецца ён маей,*
*Калі ж над ёй – мяне тым крыўдзіць найцяжэй.*

А дапамаглі паэту ў гэтай экзістэнцыяльнай праблеме сялянская цэльнасць натуры, пісьменніцкі універсалізм, урэшце, хвалі другога (пасля беларусізацыі краіны ў 1920-я гады) савецкага і постсавецкага беларускага нацыянальнага адраджэння 1956–1995 гг.

Прафесіянальная грамадска-палітычная служба (але не служэнне) Ніла Гілевіча аказалася незапатрабаванай толькі тады, калі праціўнікам нацыянальнага адраджэння і дзяржаўнай незалежнасці Беларусі ўдалося часова адсунуць беларускую нацыянальную эліту ад вырашэння фундаментальных праблем дзяржаўнага і моўна-культурнага быцця краіны. Нават тых, хто быў гатовы ісці на кампраміс з цяперашняй "заходнерускай" партыяй улады. Беларускія пісьменнікі, ад Францішка Скарыны і Янкі Купалы, былі духоўнымі лідэрамі нацыі. У агульначалавечым маштабе гэтая традыцыя працягваецца ад біблейскіх прарокаў – таксама паэтаў свайго часу. Сёння не ўсе захавалі вернасць свайму пасланніцтву. Некаторыя надоўга замаўчалі.Гэта таксама духоўная пазіцыя, форма непрымання пануючай няпраўды. Іншыя перакваліфікаваліся ў камерсантаў, знайшлі для сябе новае прызванне. Некаторыя адважыліся на эміграцыю: хто па ідэйных меркаваннях, а хто шукаючы шчасця.

Нілу Гілевічу дапамаглі моцная повязь з нацыяй (у яе трох вымярэннях – мінуўшчыне, сучаснасці і будучыні) і пісьменніцкая шматгранасць. Застаўшыся адзін на адзін з Богам (у такой сітуацыі я звычайна кажу: неблагая кампанія!) і сваім пісьменніцкім сталом, паэт не стаў наракаць на адзіноту. Якая там адзінота ў вартавых сваёй Бацькаўшчыны! За апошнія пяць гадоў не перасохлі крыніцы яго сардэчнай лірыкі, песеннай меладычнасці, гукавой і колеравай сімволікі, знітаванасці асабістых перажыванняў з лёсам народа ў эпічных жанрах. І ў публіцыстыцы – баявітай дасціпнасці ў шырокім дыяпазоне камічнага выяўлення сучасных рэалій. Сатыра, сарказм і гратэск апошніх твораў Гілевіча – я ўпэўнены ў гэтым – стануць хрэстаматыйнымі ўзорамі. З ягонымі майстэрствам і дасціпнасцю ў сферы камічнага могуць параўнацца хіба што аўтар

"Сказа пра Лысую гару" Ф.Вядзьмак-Лысагорскі і ягоны калега М.Яцьвяг-Тубылец – аўтар "Сказа пра Лігу чыстакроўных".

У лірычных жанрах і паэтычных медытацыях Ніла Гілевіча даўно склалася дыялагічная кантраснасць радаснага прымання быцця і амаль касмічнага смутку. Вось толькі адзін прыклад з яго паэтычнай кнігі "Повязь" (1987). Да радаснага экстазу яднання з роднай зямлёю ў песні "Вы шуміце, бярозы" (1963) трагічнай антытэзай гучыць дапісаная чарнобыльскай вясною песня "Палыновая ростань" (1973–1986):

*Знаю, мне не вяртацца*
*Гэтым шляхам ніколі –*
*На апошнюю ростань,*
*На спатканне з былым.*
*Белай стужкай дарога*
*Раскацілася ў полі,*
*А па ўзбоччы дарогі –*
*Толькі шызы палын...*

У кніжцы вершаў "На высокім алтары" (1994) райскія і пякельныя матывы, як антыфонны хор, вядуць свае дыялогі. Загаловак кнігі і ўступны верш сімвалізуюць нябесную вышыню. А саркастычныя "Крумкач" і "Нехта ў чорным" сведчаць пра наступ пякельных варотаў. Лірыка і палемічная публіцыстыка кнігі "Талісман" (1994) прасякнуты прадчуваннем бяды, што наступала (ужо каторы раз!) на Беларусь. Адсюль – паэтычны зварот да традыцыйнага ў народнай культуры абярога (назва кнігі і верша "Талісман") і адначасова ўзмацненне хрысціянскіх матываў веры і надзеі, настройка ліры на малітоўны лад. Імі завяршаецца ўступны верш-уверцюра:

*Талісман, ты мяне беражы,*
*Беражы і яшчэ паслужы:*
*На развілку дарог у глушы,*
*Дзе бялее рушнік на крыжы, –*
*Перайм ад кашчавай ганца,*
*Каб я песню дапеў да канца.*

Апошнія гады на мяжы новага стагоддзя сталіся для паэта спелаю восенню. Заціхлі ранейшыя лірычныя шквалы шчаслівай маладосці. Затое прыбавілася мудрасці – чалавечай і пісьменніцкай. У вершаваных падборках усё часцей з'яўляюцца пакаяльныя вершы. Паэт шчыра спавядаецца сваім даўнім і добрым чытачам, як на мой погляд, у зусім даравальных грахах. Паэму "Лодачкі" (Полымя. 1998. №9) я рэкамендаваў бы для школьных хрэстаматый і універсітэцкіх анталогій. Гэты твор – пра святое пачуццё любові паміж братам і сястрой. А яшчэ аб тым, як патрэбна юнаку захаваць у сваёй душы дух рыцарства. Ёсць у паэта Гілевіча гатовая да друку драматычная паэма "Паланез Агінскага". Пра нашу трагедыю ў апошняй сусветнай вайне. Пра нашу беларускую праўду. Як некалі сказаў сябра Ніла Гілевіча, беларускі паэт Андрэй Герман:

*Нішто паклёпу не стрымае. Ды праўда ўсё-такі жыве.*
*Паклёп душу мне раз'ядае. Ды праўда ўсё-такі жыве.*
*Абрабаваны, апляваны, я знедужэў і паміраю.*
*Але й паклёпнік мой канае. А праўда ўсё-такі жыве!*

**(Гілевіч Ніл. Талісман. Мн., 1994.)**

Сёння ён працуе шмат. Яго рэгулярныя публікацыі лірычных і публіцыстычных твораў у дэмакратычным друку – гэта дзённік паэта ў вершах. Не набор эмпірычных фактаў, а роздум, сацыяльны аналіз і абарона беларускіх нацыянальных каштоўнасцей.

Мяркую, што за восенню і пасля зімы прыйдзе да паэта, прафесара і вечнага студэнта яшчэ вясна. Яшчэ будуць новыя адкрыцці. І нават сюрпрызы.

**Уладзімір КОНАН**



**16.10.98**

Праглядаў толькі што спіс сваіх вершаў гэтага года. Цяжкае ўражанне. Як сон. Не жахлівы, а нейкі пазбаўлены сэнсу. Вершы, што не маюць душы. Пазграбаныя кучы лісця, якое пачало ўжо чарнець.

**22.10.98**

У творчасці "апрананне" – сыход у літаратуршчыну, таксама як і "распрананне" – акцэнтаванне ўвагі на брыдкім, агідным, – вядуць у роўнай ступені да крывадушнасці, разбураюць нешта цэласнае.

**22.10.98**

Апавяданне "будуецца" па сваіх законах, раман – па сваіх. Як па сваіх законах "будуюцца" верш ці паэма. Усё мае на мэце ўздзеянне на чытача. І характар такога ўздзеяння розных жанраў розны. Гэта як зброя: меч, лук, булава, дзіда. Сярэдняе паміж булавой і мячом або лукам і дзідай ставарае нязручнасці. Не хачу абсалютызаваць, але нешта падобнае можна сказаць і адносна літаратурных жанраў.

***

Патаранскі. Апошнім часам – доўгае паліто і берэт. Заўсёды свабодныя швэдры грубай вязкі. Гратэскава-тэатральныя жэсты.

"Паэту можна ўсё", – і часопіс "Першацвет" ляціць праз фортку з сёмага паверха. Але ніколі – разбітых вітрын, выкінутых з моста ў рэчку грошай, ніколі – рэзаных вен, нават размоў пра самагубства. У ім – паганская сіла жыцця, крыху аздобленая сімволікай мастацтва, заўсёдны аптымізм, калі сум – то болей напускны, чым сапраўдны.

Ён марыць быць адначасна знакамітым мастаком, паэтам, акцёрам, рэжысёрам... І жарты знаёмых з гэтай нагоды яго ніколі не бянтэжаць. "А што: Караткевіч, Чурлёніс..."

Ён схільны шчыра захапляцца: Севяранін, той жа Караткевіч, Кузмін... І тады нараджаюцца стосы болей ці меней удалых стылізацый.

Часам Патаранскі не супраць таго, каб пафіласофстваваць, але ў ягоных развагах няшмат уласнага. Наватператравіць чужыя думкі ён лічыць за лішняе.

Несумненна, Патаранскаму дадзена адчуванне прыгожага (каб пераканацца ў гэтым, у мяне было дастаткова часу). Але ці не самая галоўная "бяда" Патаранскага, што паміж прыгожым і эфектным ён абірае апошняе.

**22.10.98**

Некалі Масарэнка (колішні галоўны рэдактар "Першацвета") пабаяўся надрукаваць мой верш "Прабачце, я пра Беларусь не бачу сноў...", не надрукаваў, ім жа замоўленую, рэзка адмоўную рэцэнзію на кнігу Станіслава Валодзькі. Але яго можна зразумець. Так цяжарная ніколі не стане спрабаваць увайсці ў перапоўнены аўтобус, асцеражэцца ступіць на абледзянелую сцежку. Ён – галоўны рэдактар часопіса.

**24.10.98**

**С.П.**

Яму можна і не пісаць вершаў. Ёсць нешта знарочыстае ў яго вопратцы, голасе, хадзе. Вобраз валадарыць над ім. І пакуль гэта так – нешта адметнае, выбітнае стварыць ён наўрад ці зможа.

**18.02.98**

Ужо ў дзяцінстве я ведаў, што людзі старэюць і паміраюць. Гэта і шмат што яшчэ прымушала мяне напружана думаць, хваляваца. Многія рэчы для дарослых, як мне ўяўлялася, звязаныя лагічна, для мяне такой сувязі не мелі. Але не плён дзіцячых разваг ратаваў мяне, а тая спрадвечная любоў, якую я адчуваў у першую чаргу праз бацькоў і прыроду. І свет быў адзіны ў гэтай любові.

Гэта праўда, што бяссмерце і любоў, выхапленыя намі з

цемры, – часткі адной і той жа існасці. Як праўда і тое, што прыгажосць і любоў тоесныя ў сваёй глыбіні.

**26.10.98**

Нібы нейкае падабенства віньетак па чарзе накладаецца на наша быццё, вылучаючы, актуалізуючы тыя ці іншыя псіхічныя і фізічныя асаблівасці, часам абсурднага парадку. Так, напрыклад, узяўшы за крытэрый адбору вялікі памер правай нагі, у нашай выбарцы апынуцца сапраўды высокія, чый рост сягае за два метры, але сюды трапіць і той, хто мае ўсяго 80 сантыметраў росту, на правай назе носіць чаравік 50-га памеру.

Ці не ў такіх жа суадносінах знаходзяцца Вялікае і Геніяльнае?

**17.10.98**

Эсэ нашых шаноўных беларускіх філосафаў: найскладанейшыя спляценні эмоцый і думак, слова аблашчана словам. Гэта калі перад імі схіліць галаву. Калі ж не схіляць – паўстаюць адно зблытаныя, збітыя ў камяк рознакаляровыя ніткі.

***

Разумею таго старажытнагрэчаскага філосафа, які, пабачыўшы сабаку, што піў з лужыны ваду, выкінуў свой медны кубак – адзіны прадмет, без якога, здавалася, не мог абысціся. Калі не жыць паводле сваёй філасофіі – яна не болей, чым літаратурны жанр.

**Канец студзеня**

“Бум-Бам-Літ”... Скандальныя выступленні, акцыі, перформансы, размаляваныя твары, экзатычная вопратка. Заўсёдная крытыка з боку афіцыйнай прэсы і, адначасна, “зялёная вуліца” творам яго сяброў. Але, як гэта дзіўна ні прагучыць, літаратурна-культурнага руху “ББЛ” ніколі не існавала. Было пяць ці шэсць літаратараў, з’яднаных аўрай рубрыкі “ЗНО” (газета “Культура”), сілавым цэнтрам якой,

несумненна, з'яўляўся спадар Акудовіч. Было жаданне афіцыйнай прэсы, таго ж "ЛіМа" "закруціць" нейкі дыялог ці хаця б яго падабенства, нешта актуалізаваць, але ўсякая хваля, не паспеўшы нарадзіцца, гасла. Супрацьстаянне "Бум-Бам-Літа" традыцыйнай літаратуры (у адрозненне ад Таварыства Вольных Літаратараў) ніколі не выходзіла на ўзровень асоб. І галоўнае – быў Зміцер Вішнёў. Гэта ён наладжваў літаратурна-тэатральныя чытанні ў парку імя Горкага, Доме літаратара, бібліятэках, школах, ВНУ, арганізаваў шэраг паездак па гарадах. У вялікай ступені дзякуючы яму чытач беларускай перыёдыкі быў азнаёмлены з дзейнасцю руху. Больш за тое: калі мы "малявалі" на сцэне словам, голасам, рухам, то ён "маляваў" намі – па сутнасці, выконваў ролю нашага "лялькавода". І цяпер не ведаю, навошта, напрыклад, падчас аднаго з выступленняў мы хадзілі па сцэне з мётламі, выгукваючы вішнёўскае: "Клёкатамус! Клёкатамус!" Але тады я не надаваў гэтаму ўвагі: быў задаволены магчымасцю павыдурвацца, чытаючы сваю брутальную Ленініяну і не менш "чорныя" "пралетарскія песні".

...На прэзентацыі сваёй кнігі Вішнёў урачыста спаліў "ББЛ-аўскі" (а па сутнасці, і свой уласны) сцяг і заявіў аб сваім выхадзе з руху. Так загінула тое, чаго, па сутнасці, ніколі і не існавала.

**6.01.99**

Магчыма, я неадэкватна ўспрымаю зусім не смешныя рэчы. Але вось па радыё гавораць пра сход ветэранаў-блакаднікаў. Гучыць напаўдзіцячы вершык пра хлеб. На мерапрыемства запрошаны ці то дырэктар хлебазавода, ці то нейкі іншы адказны работнік гэтай сферы...

**8.02.99**

Пішы, як Ён, Яна, Яно. А потым вазьмі і "Забі прэзідэнта". Не, гэта не так страшна, як вам падаецца. Прынамсі, не страшней за лаянку мужыкоў, што некалі ў застойныя часы па дварах "забівалі казла". Пры гэтым

ніякай чалавечай ахвяры ад вас не патрабуецца. Наадварот, у якасці такой прыйдзецца пабыць нейкі час вам. Затое потым усе скажуць, што Ён, Яна, Яно пішуць не іначай, як "пад вас". Бо Ён, самае большае, п'яны валяецца па кустах ці лаецца з жонкай. Яна, як бы мовіў расеец, "не остается в долгу". А пра Яно і ўвогуле гаварыць не варта, бо г...но.

**13.02.99**

Некалі і мы з Віктарам Слінко адкрылі для сябе, што, акрамя традыцыйнага эстэтычнага поля, жорстка звязанага з этыкай, існуе шмат іншых, альтэрнатыўных. Але, у адрозненне ад Віці, пасля першых жа вопытаў я свядома вярнуўся назад. "...Там, на вяршынях, холадна, і ты вярнуўся", – гаворыць мне Наталля Кучмель. "...На халодных вяршынях жывуць толькі Багі", – не помню, адкуль ведаю гэтыя словы. Але вяршыні гэтыя – чалавечыя, і Багі, што жывуць на іх, – чалавечыя таксама.

**5.03.99**

Чытаю паэзію і дзённікі Танка. І апошнія для мяне ўяўляюцца куды больш цікавымі. Там сапраўды бачыш чалавека: жывога, непрыдуманага. Яму трывожна, часам страшна. Страшна і мне. Вось чалавеку 80 гадоў, а ён піша прыкладна такое: цэлы дзень біўся над перакладам – і не пайшло, нават для мяне гэта моцны арэшак, трэба заўтра паспрабаваць нанова. А вершы? Не скажу, што гэта нецікава, што там не адчуваецца аўтара. Але апошнім часам мяне ўсё менш і менш цікавяць спевы пастаўленым голасам.

**28.04.99**

**Н.Б.**

На той вярбе, дзе некалі мы сядзелі з табой, абсеклі ніжняе голле. Мурашам ненадоўга патрэбны крылы.

**9.05.99**

У маіх снах заўсёды ноч: горад, ліхтары... Няма межаў і сцен. Вокны, дзверы, абрысы дамоў – не болей чым

дэкарацыя... Людзі. Яны стаяць колцамі, нібы ля вогнішчаў: паляць, аб нечым гавораць. Да любога з гэтых колцаў я магу падысці і быць прынятым (прынамсі, мяне ніхто не гоніць). Ці сустракаў я падобную атмасферу ў рэальным жыцці? – Так, сустракаў: у рэдакцыі "Крыніцы", а цяпер і "ЛіМа". "Полымя", "Маладосць", "Першацвет" (стары) – зусім іншыя.

**9.05.99**

Я вырас з папсы. Папсова жыў, кахаў, сумаваў, спадзяваўся. Быў нібыта муха, што топіцца ў мёдзе. Менавіта дзякуючы паэзіі я пакінуў папсу.

**9.05.99**

Не ведаю, якое гэта мае дачыненне да паэзіі, але амаль усе мы любім, калі з намі нешта робіцца, адбываецца, але самі не любім што-небудзь рабіць. Як казала адна мая знаёмая: "Яны не хацелі вучыцца іграць на гітары, яны хацелі адразу ўмець". Мы любім цуды, жывём цудам: прамовіў замову – выпіў бутэльку – стварыў нейкую сітуацыю, а далей усё адбываецца само. Актыўную ролю мы выконваем толькі ў нейкія імгненні, у астатні час – аддаёмся плыні.

**9.05.99**

Вершы Лоркі – цені, што перажылі свайго стваральніка.

**6.01.99**

М.Касцюкевіча нельга назваць стваральнікам уласнай сферы-сусвету ў паэзіі. Ён – дзе лепш, дзе горш – "таньчыць" пад чужым, створаным іншымі "небам". Што гэта за неба? Найперш – сентыментальная эстрада, так званае "песеннае каханне". Вось ты любіш-кахаеш, абагаўляеш прадмет свайго захаплення, а потым глядзіш – тваё каханне мінула, сышло. Гэта як чырвонец у кішэні: палез, каб дастаць, а яго там няма. Ці выцягнуў нехта, ці сам выпаў.

У тым свеце, куды нас вядзе аўтар "Настальгіі" і "Германіі", абсурдна чакаць цеплыні і пастаянства. Але і чорная прорва нябыту бяспечна далёкая. Небяспека для аўтара – якраз у цеплыні і пастаянстве, гэтыя каштоўнасці яго не натхняюць. І апошняе наводзіць на думку, што аўтар трапіў сюды не выпадкова або па няведанні, а прыйшоў падыхаць яго п'янкімі выпарэннямі цалкам свядома.

**Лістапад 99**

"Музыка перш за ўсё"... Прыйсці ў цемру, запаліць свечку... Не, не дзеля таго, каб вярнуць святло, – толькі дзеля ценяў-прывідаў, што ўзнікнуць пры гэтым, дзеля творчасці.

Аднойчы ў адказ на гэтыя словы я пачуў: "Я пішу толькі таму, што маю нешта іншае, Большае".

Нехта пойдзе ў лес па грыбы і, назбіраўшы кош апенек, кіне яго, калі пабачыць у прасвеце між дрэў гэта самае Большае. Нехта, сустрэўшыся з ім, вернецца назад у лес, каб і другі кош запоўніць грыбамі. Яшчэ лепшымі.

**9.05.99**

Пісаў вершы: ад паўнаты, ад славалюбства, ад таго, што (як нехта сказаў пра Шамякіна) "рука да асадкі прырасла", ад самоты, жадаючы вычварыцца, гуляючы са знаёмымі ў розныя гульні (верш на тэму, верш па колу), жадаючы самасцвердзіцца і сцвердзіцца ў вачах іншых, дзеля прыколу, каб забіць час, чакаючы знаёмых, жадаючы трапна каго-небудзь прынізіць... ад жадання вярнуць страчаную паўнату.

**9.05.99**

Нядаўна мне сказалі, што мае вершы зрабіліся драбнейшымі за мяне самога. Разумею гэта і пакуль што не магу пісаць.

**9.05.99**

Усё, што ні акаляе нас тут, у Гэтым свеце, мае свае карані ў свеце іншым – назавем яго ўмоўна светам Сноў.

Чым далей у яго ўваходзіш, тым больш размытымі робяцца межы паміж аб'ектамі і паняццямі, яны зліваюцца, "перацякаюць" адно ў адно. Гэта адтуль можна прыносіць вершы. Як туды трапіць? У кожнага будзе свой адказ. Але той, хто ходзіць па сцежках свету Сноў, паступова перастае бачыць дарогі свету Гэтага.

**10.07.99**

Паэзія... Ты ступіў у ейныя воды. Ты не чакаў, а хуткая плынь ужо нясе цябе невядома куды. Крычыш, "ловіш рукамі паветра"... І нечакана гэтая ж плынь выносіць цябе на бераг. Што было там – было праўдай. Але кінуцца зноў: зноў крычаць, "лавіць рукамі паветра"...

**12.07.99**

Славамір Адамовіч. Усіх павучае, паводзіць сябе нібы той, хто нешта мае. Шмат "б'е крыламі", куражыцца... Іра была дакладнай: сіндром невысокага мужчыны.

**2.08.99**

Сям'я. Хвароба блізкага чалавека патрабуе надзвычайнай канцэнтрацыі волі, эмацыйна-разумовых і фізічных высілкаў. Сур'ёзна пра творчасць мае сэнс гаварыць толькі тады, калі тут чалавек гатовы да падобнага самавыяўлення.

**8.08.99**

"Трасянка" лашчыць слых "савецкага" чалавека, ён праз пагарду да яе носьбітаў сцвярджаецца сам. Літаратурная ж беларуская мова для яго – вялікая абраза, і якімі б прыгожымі словамі ні абстаўлялася нелюбоў да яе, у корані ўсяго – комплекс непаўнавартасці.

**1.02.99**

Пазаўчора-ўчора зрабіў для сябе адкрыццё: я не трагічны паэт і нават не драматычны, радавацца я ўмеў заўсёды лепей, чым перажываць. Заўсёды мне было прасцей дзякаваць, чым прасіць. Навошта ж я тады прывіваў у сябе гэтыя

драматызм і трагізм? Думаў, што без іх няма сур'ёзнай літаратуры? Але псеўдадраматызм і псеўдатрагізм – гэта ўжо не літаратура. Тым больш, не паэзія.

**99 год**

Жанчына зарабляе на продажы вырадкаў цырку. Падчас цяжарнасці яна носіць спецыяльны карсет, што сціскае жывот і гэтым перашкаджае нармальнаму развіццю дзіцяці. Так у навеле Мапасана.

...Нехта шукае ў прасторы паэтычнага. Да часу такія пошукі суладныя з яго ростам як асобы. Але вось сцежка падышла да мяжы гэтай прасторы. Далей – нешта іншае. І хтосьці ступіць туды, хтосьці – вернецца.

**7.07.99**

Паэткі, мастачкі, артысткі... Лепей быць высахлай былінкай, што даўно рассыпала сваё насенне, чым зморшчанай, напудранай плесняй кветкай.

**3.01.2000**

У духоўнай практыцы ёсць такое паняцце, як "впасть в прелесть". Гэта не што іншае, як падмена духоўнага жыцця марамі аб ім, яго ўяўленнем (нехта нечакана адчуе сябе "святым", пабачыць "отверзающиеся" нябёсы і анёлаў, якія прыляцелі, каб узяць яго туды). Пры гэтым звычайна гавораць "о прельщении" толькі адносна тых, хто ўжо дасягнуў нейкіх вышынь. Мне не прыходзілася сустракаць гэтага вызначэння ў прымяненні да пачаткоўцаў, хаця розных мар і ўяўленняў у іх відавочна не менш.

Вядома, жыццё літаратараў вельмі далёкае ад жыцця манастыроў, але як дакладна гэтыя словы "впал в прелесть" падыходзяць да Анатоля Сыса.

***

Вершы Сыса. Здавалася б, большай сілы, большага эмацыянальнага напалу ўжо быць не можа. Але калі

перамяніць ракурс, відаць: нехта з тых, хто працаваў у рэчышчы Сыса, дасягнуў крыху меншага, нехта – крыху большага, нехта за большы час, нехта – за меншы. Але, зразумела, ніхто з іх не сягнуў вышэй адзнакі, абумоўленай абмежаванасцю самога кірунку (ці стылю), не адмовіўшыся ад яго. Не адмовіўся і Сыс. Ці не таму ён больш і не змог пісаць?

**29.01.2000**

У адрозненне ад любові, каханне мае парадоксы і супярэчнасці. Яно можа "падмануцца", "разгубіцца", "заблытацца". Заўсёды можна знайсці ракурс, адносна якога яно будзе выглядаць смешна, а часам і брыдка. Любоў жа нічым іншым, акрамя самой сябе, быць не можа.

**9.02.2000**

Цяпер столькі гавораць, што літаратура памірае ці ўжо нават памерла. А чаго можна чакаць ад таго, што добраахвотна стала збоку ад Дарогі Жыцця?

Гавораць пра асваенне дасягнутага на Захадзе, пра "разняволенасць". Як часта гэта "свабода" паўтарае сітуацыю, калі стаіш на століку геадэзічнага маяка. Ёсць усе чатыры бакі – выбірай! І ёсць лесвіца назад – да зямлі.

***

Эстэтыка – падмена цеплыні ў межах халоднага свету. Любоў, цеплыня, святло робяць свет простым і цэласным, эстэтыка ж толькі ўскладняе яго. Яна – дзіця халоднага свету.

***

...Паэт накіраваны на тое, каб пакінуць паэзію як плынь цалкам: яго творы – плён ратавання ад самой жа паэзіі. Жаданне ж утрымацца ў яе рэчышчы (нават эксперыментуючы са стылямі і кірункамі) прывяло б яго да застою... Зразумела, гэта – не адзіна магчымы шлях.

**11.03.2000**

Раніцай, атрымаўшы разліковы лісток, я пабачыў у ім памылку на сваю карысць, але нікому аб тым не сказаў. Вечарам гэтага ж дня ўпоцемках я наткнуўся на металічны прэнт. Нехта скажа: Божая кара. Але ці ж не я сам прыняў руку, працягнутую мне са Свету Выпадковасці?

**9.03.2000**

Пераважна я не "ствараў" вершаў – я іх адшукваў, як шукаюць каштоўныя каменні ў нетрах зямлі. І цяпер, праз час, бачыцца, што тая пералапачаная парода – накіды, эскізы, жыццё той пары – куды ў большай ступені мае, чым самі вершы.

**13.04.2000**

Два паэты. І адзін, і другі не пазбаўлены пачуцця прыгожага. Больш за тое: кожны з іх штосілы імкнецца гэта прыгожае спасцігнуць. Чаму, прайшоўшы нейкі шлях разам, адзін з іх накіруецца да духоўнага, іншы – у свет эстэтычнага? Пры гэтым і адзін, і другі будуць шчыра сцвярджаць, што не здрадзілі свайму першапачатковаму крэда.

***

Ці маюць самастойны сэнс пошукі ў межах паэзіі, ці паэзія можа быць толькі сродкам, мостам да нечага іншага?

**22.05.2000**

Як гэта ні дзіўна, але па сваёй сутнасці верш інтэлектуальны і верш іранічны (здавалася б, такія розныя) з'яўляюцца роднаснымі. І адзін, і другі, як правіла, маюць нізкую "энергетыку". І адзін, і другі з'яўляюцца вынікамі гульні.

**27.03.2000**

Цяпер ужо ведаю, што для верша патрэбны пэўны стан

душы, “музыка”. Раней адчутае можна толькі запісаць, але верша, не вярнуўшы яго, не напішаш.

**13.04.2000**

Узарвалі асфальт, а пад ім – дзве высахлыя травіны. Адна зусім дробненькая: толькі нарадзілася яна, “крутанулася” ўлева-ўправа і, не знайшоўшы дарогі да сонца, змарнела. Другая доўга папятляла-паблукала, нават у адным месцы асфальт здолела прыўзняць. Але і яе напаткаў лёс першай.

Так і два паэты – вялікі і дробны.

**15.06.2000**

Чым мацней гучыць музыка, тым менш яе адценняў мы здольныя адрозніць. А з нейкага ўзроўню гучнасці любая мелодыя будзе ўспрымацца не іначай, як болем у вушах. Гучнага (што б там ні было: ці гэта музыка, ці нешта іншае) нельга не заўважыць.

Мільгацяць на вуліцах перад вачамі постаці жанчын. Нягледзячы на ўсю разнастайнасць прычосак, вопраткі, макіяжу, усе яны падаюцца вельмі падобнымі (і чым больш кожная над сабой папрацуе – тым у большай ступені): на ўсіх іх ляжыць пячатка нашага дня.

***

Літаб’яднанне пры старым “Першацвеце”. Як мне шкада таго беларускамоўнага асяродка, што там існаваў. Час ад часу мы, “старыя”, па даўняй звычцы прыходзім на літаб’яднанне, што існуе пры “Першацвеце” цяперашнім. Там пануе руская мова. Нават беларускія аўтары паміж сабой – па-руску. Мы ж трымаемся свайго. Не ведаю як іншыя, а я ўсё гэта ўспрымаю не без шкадавання, але стараюся – з пакорай. Зразумела, чытаецца шмат вершаў, добрых і дрэнных. І я для сябе адзначаю: гэты лепшы, гэты горшы. Але ўсе яны хутка забываюцца. Яны як лісце – прыходзяць і сыходзяць. Я ж падсвядома шукаю тых (не

вершаў – людзей), хто нешта трымае, нечаму верны: вялікаму ці маленькаму.

Помню, як мы смяяліся з Ніла Гілевіча, з яго, здавалася б, рытарычнага "беражыце мову". Здавалася, ён, Гілевіч, як тое гора з Багушэвічавага верша: куды яго ні схавай, куды ні выкінь, – а яно будзе з табой, будзе зноў і зноў гучаць: "Беражыце мову". Нам, беларускамоўным з маленства, гэтыя словы здаваліся, мякка кажучы, смешнаватымі.

Не, я не маю права вінаваціць тых літаратараў, хто пераходзіць на вуліцы на рускую, – сам на ёй размаўляю на працы. Цяжэй стала гаварыць, звяртацца па-беларуску на вуліцах, у крамах, установах. Не стану аналізаваць, чаму цяжэй, але цяжэй, і гэта "цяжэй" вісіць нада мной, над усімі. А ён, Гілевіч, неадступна трымаецца свайго (я ведаю, што трымаецца), і гэта дапамагае.

**22.07.2000**

Прыходжу аднойчы ў магазін "Праваслаўная кніга". Там гучаць песнапенні іераманаха Рамана. Чамусьці тое, што ён робіць, у многіх асацыіруецца з духоўнасцю.

...Уявіце: прыйшлі вы на літургію, усе людзі цалкам аддадзеныя малітве, а вы назіраеце за тым, як суладна калышуцца перад абразамі агеньчыкі свечак, удыхаеце пах ладану... Усё гэта ўводзіць у пэўны стан, ствярае пэўны настрой, які можна перадаць вершам ці ў песні. Але гэта – не малітва. Я разумею, калі нехта (той жа паэт), пайшоўшы "на пах ладану", на агеньчык царкоўнай свечкі, прыходзіць у царкву. У кожнага свой шлях.

...І вось я чую "задушевные" песнапенні на царкоўную тэматыку ў выкананні іераманаха, гэта значыць святара. Упэўнены, многімі яны ўспрымуцца як пропаведзь, прамоўленая з амбона: "Вось яна, духоўнасць!"

Проста адрозніць недухоўнае (без прэтэнзіі на духоўнасць) або антыдухоўнае ад духоўнага. А духоўнае ад квазідухоўнага – не заўсёды. А апошняе для многіх – пастка, духоўны сон.

Але, з другога боку: калі некаму будзе дадзена Богам

большае, яго можа спыніць толькі ўласнае нежаданне ісці за ім (гэтым самым большым).

***

Калі перада мной паўстала задача напісаць пра творчасць Людмілы Рублеўскай, першай думкай, якая мяне наведала, была наступная: пайсці на Кальварыйскія могілкі з кім-небудзь са сваіх сяброў па літаратуры і там наладзіць уголас чытанне вершаў Людмілы. Не дзеля прыколу або эпатажу – дзеля спасціжэння. Здавалася: там жыве тое, што прысутнічае ў вершах Рублеўскай. Але, па этычных меркаваннях, ад гэтай задумы прыйшлося адмовіцца.

***

На чым "трымаецца" верш Рублеўскай? Увогуле, на чым "трымаецца" верш? Звычайна ён існуе дзякуючы прысутнасці ў ім нейкай энергетыкі: нястрымнай, часам разбуральнай, як у Сыса, або, як у Буніна, – светлай, той, што асвятляе, саграе, дае жыццё, але не спальвае. У Людмілы ж верш, як мне здаецца, мае ледзь не нулявую энергетыку. Ён "трымаецца" на стылістыцы.

**Адносна творчасці Людмілы Рублеўскай**

1. Ёсць "Сакраты" і "Платоны". А ёсць тыя, хто пра іх піша – параўноўвае іх школы, знаходзіць месца ў нейкай іерархіі і да т.п. Я нават гавару не столькі пра маштаб асоб, колькі пра іх ролю (функцыю). Ёсць жа і "сакрацікі" з "платончыкамі". Гэта як у матэматыцы: існуюць аб'екты, і існуюць адносіны (сувязі) паміж імі. "Сакрат" можа быць і непісьменным, і ў нечым абмежаваным. А вось ягонае дапаўненне – той, хто адносіцца да другой катэгорыі па маёй класіфікацыі, – павінен мець выключныя эрудыцыю і інтэлект. У якасці беларускага "сакрата" (ці "сакрацікa") ад паэзіі я назваў бы самабытнага Міколу Купрэева. А вось Людмілу Рублеўскую я, без сумнення, аднёс бы да іншага лагера.

2. Не "ідзе" Людміла ў сваіх творах да мэты карацейшым

 





шляхам, спрабуе, акрамя гэтай самай мэты, і ад хады да яе нешта ўзяць. А гэта тыпова жаночая якасць.

3. На заканчэнне хачу адзначыць (без усялякага аналізу), што ў Людмілы апошнім часам узнікла цікавасць да хрысціянства. Варта ўспомніць і яе паэму (не помню назвы), што друкавалася, калі не памыляюся, у часопісе "Праваслаўе", і яе вершы з нейкай "ЛіМаўскай" падборкі, і інтэрв'ю з айцом-настаяцелем Свята-Пятра-Паўлаўскага сабора Георгіем Латушкам.

**22.09.2000**

...Тады мне здалося, што страціў Яе назаўсёды. Але (о, дзіва!) якімі яркімі колерамі заззяў для мяне свет: разнастайныя сустрэчы, літаратурныя паездкі, выступленні, новыя знаёмствы... Нават прырода – якім прыгожым у той год было асенняе лісце!

Ці не адбылося нечага падобнага (зразумела, у куды большых маштабах) і з усім чалавецтвам: у нас столькі рэлігій, філасофскіх вучэнняў, культур... А мастацтвы! Ці не таму гэта, што мы страцілі (і нават забыліся пра такую страту) самае істотнае для сябе – Бога?..

***

Я стаў падобны да чалавека, які доўга збіраў грошы на нейкую пакупку, а іх – "з'ела" інфляцыя.

...Не аддаваў рукапіс у выдавецтва, як толькі набраўся аб'ём больш-менш вартага. Чакаў, думаў: "Яшчэ год папішу, а там адбяру лепшае".

І вось цяпер ляжыць рукапіс у "Мастацкай літаратуры". Але гэта ўжо факт літаратурнай інерцыі, даніна даўняй мары. А сам я-цяперашні добра і не ведаю: ці патрэбная мне кніга? І чаго вартыя гэтыя вершы ў параўнанні з тым, што цікавіць мяне цяпер?

***

У халодным свеце здані робяцца нечым цалкам матэрыяльным: тым, да чаго можна дакрануцца, памацаць рукамі, як зімою матэрыяльнымі робяцца снег і лёд.



 

***

Прыгожапіс, навізна ракурса, надзённасць... Усё гэта хутка вычэрпваецца, выветрываецца з часам. І значнасць табой напісанага залежыць толькі ад велічыні асобы.

***

Помню, піць каву на "Камуністычнай" было для мяне ледзь не рытуалам. Гэта месца паказаў нам калісьці Кастусь Елісееў. У яго заўсёды быў добры нюх на каву: якасная яна там і, разам з тым, танная. Побач (ля крамы) – рэдакцыя "Культуры", колішняя штаб-кватэра Бум-Бам-Літаўцаў. Мне цікава было прыйсці да іх: пасядзець, пагаварыць. Але я не думаў пра іх літаратурныя справы – я думаў пра Яе. Пра Яе я думаў і калі піў каву. Цікава глядзець, як першы снег растае ў кубачку з гарачым напоем. І прыемным, салодкім мне быў гэты сум. І думаў я ў гэтыя часіны пра Яе, пра Яе і забываючы. І недзе на вастрыі гэтага пачуцця нараджаліся вершы.

***

Ты кахаеш, цябе – не... Сумна... Але ці так сумна на самай справе? Ты падаграеш свой сум размовамі са знаёмымі, папсой, гаркавата-салодкім вермутам. І твой сум... як гэты вермут. Гаркаваты. І, разам з тым, салодкі – жаданы. І ўсё разам узятае – крыніцы творчасці, падмурак значнай часткі тваёй паэзіі.

***

Эфемерны, уяўны свет... Твае ўчынкі дыктуюцца яго "рэаліямі", а да свету існага, матэрыяльнага здаецца, што ты ледзь дакранаешся. Гэты эфемерны свет населены міражамі тваіх блізкіх, каханай. Здаецца, ты ідзеш да іх... Але міражы ёсць міражы.

Калі восенню 1995 – зімой 1996 я трапіў у гэтую прастору выпадкова, можна сказаць, па волі лёсу, то восенню 1997 – вясной 1998 я пайшоў туды свядома (колькі прыгожых вершаў тоіцца там!). Тады была ўжо ў мяне сям'я. І цяпер

я ўсведамляю, што гэта Нехта, пакуль я ганяўся за вершамі-прывідамі, бярог мяне і мой дом.

***

Цяпер з большай асцярожнасцю пачаў ставіцца да прамаўлення тых ці іншых рэчаў. Часам дрэнна бывае ўжо ад аднаго таго, што падумаў нешта, горш – прамовіў, тым больш напісаў (надрукаваў). Сцвердзіш нешта, чаго не перажыў, не адчуў (хай нават здаецца, што тваё сцвярджэнне правільнае), і потым вельмі часта бывае так, што жыццё прымушае цябе гэта *нешта* перажыць самому.

***

Вобразы сноў. Часам яны бываюць вельмі прыгожыя... Але вось ты прачнуўся. У першыя імгненні яны не губляюць сваёй прыцягальнасці. Але мінае некалькі хвілін (часам для гэтага патрэбны гадзіны) – і вобразы, якія толькі што так радавалі цябе, пачынаюць мучыць, становяцца нязноснымі. А потым, ужо праз вялікі час, вяртаючы іх у памяці, гаворыш сабе: “Ну бачыў... Ну сніў...”

Тое ж самае – з іншымі вершамі. Спачатку радасць стварэння. Потым, бывае, нават даходзіць да незразумелага страху, пачуцця небяспекі для сябе. І ўрэшце – чытаеш іх, нібы трымаеш у руцэ костку дагістарычнай жывёлы: тут няма і найменшых праяў жыцця, але няма і прыкмет тлену.



# Святлана ЯВАР

***

У полымі светлым каєцельнае свечкі
Згарае-знікае труны маёй вечка.
І прэч адыходзіць хвароба ліхая,
Здань смерці ўжо зблізку крылом не махае.

Расце і дужэе мой дух заняпалы,
Анёлы ў нябесныя граюць цымбалы:
Яны перамогу святкуюць над д'яблам.
Ізноў распускаецца квеценню яблынь

Вясна. Так, я іншаю ўстала з каленяў
І больш не вярнуся туды, дзе, як цені,
Вандруюць нянавісць і зайздрасць з адчаем.
Дарогі назад я ўжо не ўсведамляю...

У полымі зыркім світанне сустрэла,
Зазяблыя плечы мне сонца сагрэла.
Касцельная свечка расцеклася ціха...
Я веру, што ў хату не вернецца ліха.

Мікола КУПРЭЕЎ

# РЭЧКАЮ ПЛЫВЁМ, ПЛЫВЁМ...

*(Аповесць)*

Яна пад алешнікам і ракітнікам цячэ скрай пасёлка. Праз дзень-ноч і яшчэ дзень-ноч рэчка нашая ўпадае ў вялікую раку, у Прыпяць.

Старыя людзі не кажуць "пасёлак", а "мястэчка". Мне гэта падабаецца. От быццам я тут, на нашай ускраіне, стаю ці сяджу, ці іду – і ніхто ў свеце мяне не бачыць і не чуе, таму што я ў мяс-тэчку. Прыязджаю сюды на лета са школы-інтэрната і кожнае раніцы, калі і раса яшчэ не ападзе, іду гародам дзядзькі Сцяпана. Іду глыбокімі баразнамі між градаў. І густа, ажно галава кружыцца, пахне кропам, кменам, гурочнікам. За штаны чапляецца скручанымі вусікамі гарохавінне. На стрыжаную галаву мне падаюць кроплі расы – з жоўтых пялёсткаў сланечніку. Спынюся ў баразне, сарву колькі стручкоў гароху і кіну іх у рот – пажаваць. Стручкі яшчэ зялёныя, сакаўныя, гарошынкі мяккія. І ні разу не зірну на двор дзядзькі Сцяпана, бо не баюся яго, ведаю, што ён не цікуе за мной спадылба – з-пад сівых сваіх броваў. А за гэтым гародам сінім і белым кветам цвіце бульба дзядзькі Восіпа. Перад тым, як перайсці бульбу, азіраюся на двор, на вокны дзядзькі Восіпа: ці не блішчаць на мяне яго акуляры?.. А потым стаю на беразе рэчкі, у высокай траве. У вадзе ціха гойдаюцца доўгія ружовыя сцяблiны ракіты, лісце алешніку па-над рэчкай ледзь варушыцца – гэтак ціха тут уранні. А сонца прыпякае ўжо. І як і не было той расы. Сядаю

на траву, мае босыя ногі вісяць з берага, стаўлю іх падэшвамі на шырокае лісце. Вада не цячэ, стаіць, бо тут маленькая затока, у ёй расце густы чарот, а ля самага берага, з мулі, – аер, як вузкія зялёныя шаблі. Звіняць, блішчаць на сонцы сінія празрыстыя стракозы. Лісце ляжыць на вадзе, на ім сядзяць зялёныя жабы. Калі я варухнуся на беразе, жабы скачуць з лісця ў ваду, хутка выныраюць, глядзяць на мяне з вады спакойна, але крыху быццам здзіўлена: ну чаго ты варухнуўся там?.. Вырываю са дна аерыну, адломваю вузлаваты з белымі жылкамі карэньчык, пазногцем расхінаю ў ёй адзін – той, які вузкі, бы заточаны – бок і дастаю са сцябла светла-жоўтую мякаць, і ем яе. Смачна, бо пахне аер рачным дном, муляй, ракушкай, рыбай, раскай. І мне тут добра-добра.

А ў затоцы, ля берага, ля маіх ног, пад веццем алешыны пагойдваецца, калі падзьме ветрык, лодка. На нашай рэчцы самая доўгая, шырокая і самая чорная ад смалы – лодка дзядзькі Сцяпана. На карме, на носе і пасярэдзіне лодкі ўчора дзядзька паклаў чатыры лавачкі, яны белыя, бо са свежых сасновых дошак. Лодка за карму і дубовы слупок на беразе зачэпленая ланцугом. На ланцугу вісіць вялізны замок. Сёння ўжо, мусіць, хутка сюды, на бераг, прыйдуць абодва мае дзядзькі, Сцяпан і Восіп, мы ступім у лодку, сядзем на лаўкі і паплывём рэчкай – па цячэнню, у бок вялікай ракі.

А пакуль што чую: на сваіх падворках, пад павецямі, дзядзькі кляпаюць косы. Кляпанне звонкае, бо – жалезам па жалезе, і яго, напэўна, чуе ўсё мястэчка. А яшчэ ўдарылі ў свае званы царква і касцёл – на гары ў цэнтры мястэчка, між старых высокіх клёнаў і ліп. Але зазванілі яны не разам: спачатку – касцёл, потым – царква. І як толькі ўдарыў царкоўны звон, дзядзька Сцяпан перастаў кляпаць пад сваёй павеццю. І я ведаю, што ён перахрысціўся. А малаток дзядзькі Восіпа не пераставаў стукаць па касе ні пад касцельны, ні пад царкоўны звон. Толькі крышку быў аціхнуў стук жалеза пад Восіпавай павеццю на пачатку касцельнага звону – ну, крышку, на якія паўхвіліны, можа. На покуце ў хаце дзядзькі Сцяпана стаяла ікона, яна была ахінутая белым ручніком, і ля яе, на дошчачцы, у шклянцы стаяла свечка з жоўтага воску. У царкоўныя святы, вечарам, дзядзька Сцяпан

запальваў свечку. Ён стаяў перад іконай, шаптаў нешта намаляванаму Богу, а ў цёплай хаце пахла воскам. У хаце ж дзядзькі Восіпа ніякай іконы не было і воскам не пахла. Аднойчы, калі я прыехаў на зімовыя канікулы да дзядзькоў, на каляды, дзядзька Сцяпан лёгка паклаў на галаву мне сваю шурпатую, але цёплую далонь, сказаў: "Васілёк, хлопчык мой, ведай: ты хрышчоны. Гэта я цябе, малога, узяў ды і завёў да бацюшкі. Маці і бацька твае не ведалі пра тое. А яны ж былі хрышчоныя. Толькі бацьку твайго, а гэта ж мой брат, хрысцілі ў царкве, а маці, Восіпаву сястру, – у касцёле. Так што ты, Васіль, праваслаўны хрысціянін. Памагай табе Божа". З усяго сказанага тады дзядзькам Сцяпанам мне найбольш спадабалася, што я – ужо Васіль. Тады ж мне здалося, што я ажно падрос пад шурпатай дзядзькавай далонню. І тады ж, перад тым як сказаць, што я праваслаўны хрысціянін, дзядзька Сцяпан яшчэ сказаў, што хаця мае бацька і маці былі хрышчоныя, яны ж былі калісьці яшчэ і піянерамі, і камсамольцамі. "А потым сталі..." Дзядзька не скончыў казаць, кім яны потым сталі. Але я і так ужо ведаю... І таму цяпер во думаю сабе: а я мог бы быць і добрым піянерам, і добрым камсамольцам. Але цяпер так нікога не называюць ні ў мястэчку, ні ў горадзе, ні ў школе-інтэрнаце. Адно чуў, што такія некалі былі. Неяк дзядзька Сцяпан доўга капаўся ў сваім вялізным, размаляваным кветкамі, драўляным куфры і, нарэшце, дастаў з самага дна нейкія паперы, а паперы тыя былі загорнутыя ў пажоўклую газету, і на газеце той я ўбачыў зверху два словы: "Піянер Беларусі". Дзядзька трымаў у руках газету, маўчаў, як бы нешта ўспамінаў, потым ціха сказаў: "Во, Васіль, газета... даўно ўжо тое было, пасля вайны... маці маю, тваю бабу, падпісалі на дзяржаўную пазыку, а мяне ў школе – на гэтую газету. Грошай у хаце ніякіх не было, дык маці прадала на базары ў мястэчку парасятка, аддала тую пазыку і кінула мне ў кішэнь нейкія капейкі на газету. А на хлеб у хаце не засталося ні капейкі. Ну, дык во тая газета... Піянеры, камсамольцы... гэта таксама як веруючыя, як хрысціяне, але ўсе нейкія як скрыўленыя галавой... О-го-о, я, бывала, у піянерскім страі як грымну сваім барабанам, дык усе вароны за мястэчка ўцякаюць... Ого-о, як я барабаніў!"

Кляпаць пад павецямі скончылі. На дзядзькавых падворках

сціхла. Толькі млява там квохчуць куры. Але во, рыпнулі дзверы. На тым баку нашага завулка, у маім двары, пад сцяной маёй хаты забразгатаў калодзежны ланцуг, нехта зачарпнуў вядром вады. Некалі, як я быў яшчэ зусім малы, над калодзежам стаяў "журавель". Калі хто браў ваду, я ціха падкрадваўся ззаду, з-за куста бэзу, чапляўся аберуч за драўляны хвост "жураўля", хвост падымаў мяне ўгору, але я хуценька расчапляў рукі, падаў уніз на траву і поўз за куст. Калі ваду браў дзядзька Сцяпан, тады за кустом я чуў: "Ой, і дам я табе, Васілёк, папружкай па срацы!" Калі ж браў ваду дзядзька Восіп, то ён ішоў да мяне за куст, я ляжаў на зямлі тварам у траву, дзядзька стаяў нада мной, потым ціха, каб ніхто не бачыў, казаў мне зверху ў спіну: "Нягоднік", – і адыходзіў. Таму, калі ён кліча мяне ў сваю хату есці, рэдка іду да яго за стол, чакаю, пакуль вернецца адкуль-небудзь дзядзька Сцяпан. А хаты іхнія – па суседству, праз плот. Мая хата, я ўжо казаў, насупраць, праз завулак. Хаты свае дзядзькі абклалі белай цэглай. Сцены ж маёй хаты – счарнелае сасновае бярвенне, і ніжні вянец падгніў; хата прасела, згорбілася, як мая суседка Матруна, адно што не абапіраецца, як баба, на кіёк. Затое проста ля майго акна стаіць бяроза, тоўстая і высокая. Яна ўжо даўно не расце, я так думаю. Няма ўжо ёй куды і як расці. Тоўстыя галіны яе – і жывыя зялёныя, і сухія – распасціраюцца над усёй хатай і над усім падворкам. Вершаліны ў маёй бярозы няма, бо там, далёка ўгары, на яе звужаны ствол даўно, калі мяне, як казаў дзядзька Сцяпан, яшчэ і на свеце не было, гаспадар гэтай хаты Лейба і яго сын Шлёмка ўздзелі шырокае, з воза, кола, і буслы зладзілі на ім сабе гняздо. Але я ні разу не бачыў і не чуў буслоў на гэтым гняздзе. Ды і па ўсім мястэчку бусліныя гнёзды пустыя. Дзядзька Сцяпан сказаў мне: "Быў такі цар Мікіта. Тоўсты, кароткі і лысы. Дык ён узяў ды і асушыў усе балоты. І вакол мястэчка нашага – усе-ўсе. І тады прапалі жабы, а за жабамі зніклі і буслы... Ого-о, якая глыбокая была нашая рэчка да той асушкі. Добра, што хоць не спрамілі берагоў яе і не выкарчавалі алешніку і ракітніку над ёй. Во баба Матруна, хоць і глядзіць адно пад ногі сабе, але кажа, Васілёк, што калі не балоты, дык балотцы вернуцца, і жабы вернуцца і ўсякія казюркі, і птушкі наляцяць у нашыя лясы, кусты і сады, і буслы будуць, кажа,

клекатаць у гнёздах над хатамі, бо, як кажа Матруна, вернецца вада". Дзядзька Сцяпан усміхнуўся мне і сабе ў рыжыя вусы, паклаў руку мне на галаву, другую руку падняў над сабой і выставіў угору вялікі палец і не ўсміхаўся ўжо, а сцішаным голасам і неяк сурова-сурова, можа і пагрозліва, сказаў: "Дасць Бог – вернецца вада! Бо ўсе мы, Васілёк, выйшлі, усё жывое выйшла з вады!" Калі ён гэтак казаў, мы з ім стаялі на яго падворку, ля горкі наколатых дроваў. Скончыў гаварыць, апусціў рукі долу, потым сеў на калоду і раптам зарагатаў, захлёбваўся ад рогату і казаў: "А ў таго цара Мікіты... га-га-га... ля кірпатага носа... га-га-га... такая вялізная тлустая бародаўка, рыхтык бы ў мяне, га-га-га!.." Сапраўды, у дзядзькі Сцяпана ля носа, а нос яго – бульбінай, ляпілася ладная рудая бародаўка, а з яе расла доўгая сівая валасіна.

"Цар Мікіта вельмі любіў кукурузу – на кукурузе спаў і лісцем кукурузы накрываўся, а калі ў Амерыцы, у фермера Гарста, наеўся паранай кукурузы, дык у Нью-Ёрку як стукнуў пантофляй па трыбуне – ажно ўсе капіталісты пабеглі тапіцца ў акіянах, а ў Савецкім Саюзе стаў "камунізьм". А потым цара Мікіту прагнаў яго слуга і сам стаў царом Леанідам. Гэты цар меў бровы, як чорныя конскія грывы, ён сказаў: "Хопіць есці кукурузу! Будзем піць віно!" І па ўсім Савецкім Саюзе разлілося гэтае г..но! Во, Васілёк, які вершык я склаў у сваёй дурной галаве, і гэты вершык я пераказаў мужыкам на адным вяселлі, дык мяне за гэта тры ночы трымалі на голай халоднай падлозе ў кадэбэ, а днём усё дапытвалі: хто сачыніў? І я прызнаўся: я сачыніў, і тады адчынілі дзверы на вуліцу і як да-алі мне выспятка ботам падкаваным, што як я ў мястэчку апынуўся, не памятаю".

Дзядзька Сцяпан гэтак рагатаў, што і я зарагатаў, ды так, што ажно ўпаў ля калоды, на якой тросся ў рогаце дзядзька, і мне здалося, што і калода рагоча, і адным вокам я бачыў, што з блізкай, цераз плот, хаты праз шыбіну глядзіць на нас знерухомелы, як здзіўлены, дзядзька Восіп. А куры разбегліся далёка ад нашай калоды, а жоўта-чырвоны, як вогненны, певень Пецька пагнаў маладзенькую курачку за вугал хлява, а сабака, рыжы Дзік, ірваўся з ланцуга і брахаў пра нас усяму мястэчку, а за гародамі і бульбяным полем, ля рэчкі, я і гэта бачыў, стаялі, настрыўшы вушы на Сцяпанаў падворак, белы казёл і чорная каза. А дзядзька Сцяпан

упаў з калоды, і мы з ім рагаталі на зямлі, а я закінуў на дзядзьку ногі, і мы ўжо з ім забыліся, з чаго рагочам, а дзядзька Восіп ужо, мусіць, забыўся, чаго ён глядзіць на нас са свайго акна, а вогненны Пецька, мусіць, ужо забыўся за гэтым рогатам, чаго ён гнаўся за курачкай, а Дзік схаваўся ў сваёй будцы, нават пысу не паказвае, а казёл з казой сарваліся з прывязі і збеглі ў алешнік, і толькі густы куст так троcся, ажно лісце з яго ляцела. Во як усё тады звар'яцела ад нашага з дзядзькам Сцяпанам рогату.

І раптам дзядзька перастаў рагатаць – гэтак жа, як і пачаў. Сядзеў на зямлі, апусціўшы галаву долу, маўчаў, потым ціха сказаў: "Во тады, пры цару Леаніду, захварэлі нутром мой брат і Восіпава сястра... твае, Васіль, тата і мама... захварэлі, калі яшчэ не былі тваімі... але ж неяк сышліся... па-суседску... мы з Восіпам ім домік у жыдкоў купілі... Ох-ха-хо! – Дзядзька Сцяпан устаў з зямлі і яшчэ сказаў: "Ты павінен ведаць, Васіль... бо расцеш".

Усё гэта я ўспамінаю раніцай на беразе рэчкі. Сонца ўжо дужа скварыць. Закасваю порткі і таплю ногі ў вадзе па калені. Жабы лянiва злазяць з лісця лотаці ў ваду і сядзяць у ёй па шыю, заплюшчыўшы свае лупатыя вочы. Стракозы прычапіліся да чароту і аеру, не варухнуцца. Нейкая рыбіна стаіць на дне пад ракітай, пускае наверх бурбалкі, кругі па вадзе разыходзяцца. Птушкі ў алешніку сціхлі. І тут я чую:

– Васі-іль! Ідзі снедаць!

Гэта кліча мяне з двара дзядзька Сцяпан. Я пакуль не спяшаюся – чакаю, калі сыдзе з дзядзькавага двара Дуня Кучараўка. Гэта яе мянушка – Кучараўка. Гэтая цётка з сінім носам кожнае раніцы абчэплівае свае чорныя валасы трубкамі-спружынкамі, каб яны кучаравіліся, чапляе на сінія вушы вялізныя ржавыя завушніцы і цэлы дзень прападае ў мястэчку, а вечарам ведае ўсё і кожнаму стрэчнаму шэпча на вуха: дзе хто ўчора быў, хто зваліўся з воза, хто з маладых хлопцаў сікаў ля царквы ці касцёла, а хто – ля дома культуры, хто аб'еўся грыбамі, хто і як цалаваўся пад мастом, каго пацук соннага ўхапіў за нос, і шмат чаго яшчэ... Тры гады назад, калі мне было дзесяць гадоў, Кучараўка перапыніла мяне ў завулку (жыла яна ў хаце за дзядзькам Восіпам, мужыком-інвалідам, ён не ўставаў з ложка, насупраць Матруны), зламіла мяне касцянымі пальцамі за плечы,

прыцягнула да сваёй жоўтай падранай спадніцы, паклала шырокі бяззубы рот на маю шчаку, шмарганула, драпнула іржавай завушніцай па носе, – ну чыста Баба Яга, – і шэпча на вуха мне, ды так псыкае-бзыкае, што ў мяне заказытала ў вуху і я быў ірвануўся ад яе, але яна ўчапілася мне ў плечы, ловіць маё вуха слінявымі губамі, шэпча-казыча: "Радзіўся ты ў апрэлі, перад маем, вутрам, а ноччу той атам чорны ўзарваўся"... Я крычу ёй, галавой кручу: "Ведаю!" Ды зноў яе слінявыя губы ў мяне ля вуха: "А вот этаго ты не знаеш: не знаеш, што мамка твая радзіла цябе п'яная... выпаўзла вечарам з хаты на ганак, крычала... Пачуў Сцяпан, пабег, патэлефанаваў з канторы, прыйшла "скорая"... а татка твой ляжыць п'яны пад сталом..." Зноў крычу ёй і плачу: "Пусці!" Яна не выпускае мяне і ўжо не шэпча, а толькі шырока адкрывае рот. А з рота яе так невыносна-гадка смярдзіць! Я адварочваю, колькі можна, твар ад яе рота. Яна разумее маю гідлівасць і шэпча: "Эта ж я панюхала свякольнай самагонкі ў Іванчыкаў... вот паршывая самагонка... усім скажу". Тут мне зрабілася млосна, я нічога не бачыў з-за слёз, ікнуў раз, другі, нешта ўнутры ў мяне падымалася, ужо тое нешта ў горле, няма як дыхаць і тое нешта вось-вось выхляне з рота. Кучараўка зразумела і адштурхнула мяне ад сябе. Я ўпаў у пясок, і тут мяне званітавала... Калі мне стала лёгка, я падняў галаву ад зямлі: Баба-Яга, у падранай спадніцы, у брудных белых басаножках, адыходзіла ўсё далей ад мяне. Ля маёй рукі ляжаў ладны, з мой кулак, камень, я быў памкнуўся ўзяць яго, каб устаць і кінуць яго ў спіну Кучараўцы, але перадумаў – паціху ўстаў з зямлі, атрапаў з портак пясок, выцер рукавом вочы, пайшоў у свой двор...

Цяпер Кучараўка стаіць у двары дзядзькі Сцяпана, нешта расказвае яму, размахвае рукамі, дзядзька яе не слухае, сыпле курам зерне з рэшата, нешта гаворыць Дзіку. Нарэшце Кучараўка сышла з двара. Ускокваю на бераг, на ногі, жабы расплюшчылі вочы, сігаюць у траву, чарот і аер варухнуліся, стракозы з іх упалі ў ваду. Бягу, праз бульбу і між градаў, на дзядзькаў двор.

Паснедалі яечняй з салам, запілі казіным малаком. Дзядзька Восіп, з касой і поўным чорным пакетам, ужо чакаў нас ля сваіх веснічак. Не помню, каб ён калі пераступіў парог хаты дзядзькі Сцяпана ці хоць зайшоў на яго двор. Ды і дзядзька Сцяпан не

хадзіў да суседа. Так, перакідваліся парай слоў праз плот, рэдка сыходзіліся ля майго калодзежа, а то Восіп глядзіць праз шыбіну свайго акна, пакуль Сцяпан зачэрпне сабе вады, тады і ён ідзе з вядром, кіўне пры стрэчы галавой на Сцяпанава: "Здароў, сусед!" Аднойчы дзядзька Сцяпан не вытрымаў – пры мне, у сваім двары, ціха вылаяўся, плюнуў, сказаў: "Пара б ужо і ачалавечыцца!" Але сёння мусова, ну проста мусова дзядзькі мае павінны сысціся. Можа, цэлы дзень, а можа, і два дні яны будуць побач. Іначай не можа быць, таму што лодка Сцяпанава, а дазіметр Восіпаў.

Мы выйшлі з хаты. Дзядзька Сцяпан замыкае дзверы. Я трымаю ў руцэ цяжкую палатняную торбу з харчамі, у торбе – сала, яйкі, маладыя, з грады, гуркі, тры боханы хлеба, бутэлька віна. Потым дзядзька адвязаў сабаку, той радасна скокнуў пярэднімі лапамі дзядзьку на грудзі, лізнуў яго ў шчаку. Дзядзька паказаў сабаку рукою за хлеў і яшчэ пальцам паказаў: маўляў, далей і зноў сюды, – і малады рыжы Дзік кінуўся, праз гарод і бульбу, да чорнае казы ля рэчкі. Недалечка скуб траву і Восіпаў белы казёл. Дзік на слупку пацягнуў за канец вяроўчыны, вузел развязаўся, і сабака ўжо сцежкай вакол хаты Кучараўкі прыгнаў казу на дзядзькаў двор. Каза незадаволена мэкала, але слухалася, баялася, што Дзік возьме на зубы яе хвост, не ўкусіць, праўда, але добра сцісне ў зубах. Я стаўлю торбы сабе між ног, трымаю вяроўчыну з казой. Дзядзька Восіп скоса паглядвае сюды: ці скора мы?.. Дзядзька Сцяпан насыпаў курам зерня, паклаў у тазік з вадой скарынкі хлеба, падліў вады з вядра. "А дзе ж Пецька?" – пытаецца дзядзька ў Дзіка, ціха кукарэкае і паказвае рукой. Дзік зноў бяжыць, але ўжо ў завулак, і прыганяе ў двор Пецьку – той так бяжыць паперадзе сабакі, што ажно падлётвае. Пецька апошні раз падскоквае і падае між курэй, пачынае дзяўбці зерне. Дзядзька Восіп усё скоса паглядвае. Што яму? Ён даўно ўправіўся па гаспадарцы: завёў казла ў траву. Больш нічога жывога ў яго няма. Была каза, але зімою, чорнай завейнай ноччу, укралі яе з хлява – хлеў быў на замку, дык разабралі чарапную страху і праз дзірку за вяроўчыну выцягнулі казу. Можа, яна і мэкала, дык жа за сценамі ўсю ноч гула завея. Але, каб нават і ўчуў што дзядзька Восіп, то ці выйшаў бы ратаваць казу? А казла не ўзялі – можа, той адбіваўся рагамі, усё-такі казёл.

І во што яшчэ, ледзь не забыўся сказаць: нейкае дзіўнае сяброўства завялося ў Восіпавага казла са Сцяпанавым пеўнем. (І пра гэта, праз Дуню Кучараўку, ведае ўсё мястэчка.) Певень Пецька скача на спіну казла, сядзіць на ім, як вогненны кавалерыст – казак са шпорамі, на ўсю глотку кукарэкае, а казёл галопам носіцца з ім па крузе вакол слупка, пакуль вяроўчына да канца не наматаецца, тады казёл, як шчаслівы служка, робіць адваротныя кругі, радасна мэкае, і барада яго яшчэ болей задзіраецца ўперад.

Нарэшце дзядзька Сцяпан нясе з-пад павеці дзве складзеныя касы (і мне ж – з карацейшым касільнам), брусок, мянташку, сякеру, два вяслы і шост. Потым бярэ ў мяне торбу, вешае яе на абодва вяслы і, разам з косамі, кладзе сабе на правае плячо. Я бяру ў адну руку вяроўчыну з казой, у другую – шост, і мы выходзім у завулак. Дзік, б'ючы хвастом, бяжыць паперадзе нас. Дзядзька Восіп бярэ з зямлі сякеру, моўчкі ідзе побач, высокі і тонкі, як жардзіна, а на галаве ў яго – мяккі картуз з надпісам над казырком: *"adidas"* . Шырокі ў плячах, дзядзька Сцяпан ледзь дастае суседу да пляча. Ну, а я ледзь дастаю да пляча дзядзькі Сцяпана. Але я ўсё-ткі вышэй за казу, і яна мяне слухаецца – не ўпіраецца, не дзярэцца на вяроўчыне. Ля свайго плота нас чакае баба Матруна, абапіраецца на кіёк-качарэжку. Дзядзькі аддаюць ёй свае ключы: дзядзька Сцяпан – ад хаты, каб магла карміць курэй, дзядзька Восіп – ад хлява, каб выводзіла казла на траву, забірала яго і замыкала нанач у хляве.

Дзядзька Сцяпан кажа ёй:

– І даўно стаіш, жджэш нас, цётка?

Баба Матруна, маленькая, сухенькая, у старым, але чысценькім пярэстым андараку, хавае счарнелай вузкай далонькай вочы ад сонца, а вочы ў яе наўздзіў блакітныя-блакітныя, хоць шчокі, і лоб, і шыя счарнелыя і ўсе ў глыбокіх зморшчынах, – адказвае:

– А даўно ўжо стаю. То і добра, што стаю. Скора, мае дзеткі, лягу навечна. Дай жа, Госпадзе, яшчэ пастаяць.

– Хай жа Бог табе, цётка, дае здароўя яшчэ доўга-доўга стаяць! – кажа дзядзька Сцяпан.

І мы ўсе ідзём яшчэ крыху завулкам, зварочваем на сцежку, прыходзім на бераг рэчкі. Першы ступіў на бераг Дзік, гаўкнуў, і

жабы расплюшчылі над вадой вочы, скокнулі далей ад берага, у чарот. Восіпаў казёл напяў вяроўчыну ад слупка, памкнуўся быў, мусіць, да казы, але ж вяроўчына не пусціла. А з гарода, праз бульбоўнік, прыбег, як прылящеў, Пецька, скокнуў казлу на спіну, стаў на ёй і кукарэкнуў. Дзядзька Восіп паморшчыўся, скрывіў доўгі нос, чмыхнуў і адвярнуў галаву ўбок. Ён, мусіць, быў незадаволены, абураны гэткай прыніжанасцю, паслугацтвам свайго казла і нахабнасцю Сцяпанавага пеўня. Каза памкнулася насустрач казлу, але я здужаў стрымаць яе на сваёй вяроўчыне, і яна пагрозліва выставіла рожкі ў мой бок. Дзядзька Сцяпан ціха засмяяўся сабе ў вусы.

Нарэшце мы заняліся сур'ёзнай справай. Паскідалі ў лодку чаравікі, дзядзька Восіп закасаў порткі, увайшоў па калена ў ваду і ўкладвае на дне лодкі косы, торбы, сякеру, кладзе на лаўкі шост і вёслы, а дзядзька Сцяпан усунуў ключ у замок на ланцугу, ля слупка, доўга тужыцца павярнуць ключ, і – нічога, не паддаецца замок. Дзядзька пнецца, пнецца, ажно язык з рота высунуў, лаецца:

– А каб цябе, а каб цябе! Гэта ж так заржавеў! Бы той капталізьм, як казаў Мікіта. Пфу! Каб цябе, а каб цябе! Восіп! Бяры ты!

Дзядзька Восіп моршчыцца, але бярэцца за ключ доўгімі пальцамі – і замок раптам адкрываецца. Дзядзька Восіп выпрастаўся ва ўвесь свой доўгі рост і далёка зверху глянуў на ўсіх нас – на Сцяпана, на мяне, на казу, на сабаку, на жаб, нават на свайго недалыгу-казла з пеўнем на спіне – і крышку сабе пасміхнуўся. І тут я таксама ўсё зразумеў... Я зразумеў, што дзядзька Сцяпан даўно ўжо адамкнуў замок і, мусіць, – канечне ж! – захацеў, каб прыемна, добра, лёгка пачувалася Восіпу, яго даўняму, з маладосці, суседу і сваяку, тут, перад лодкай, а можа – і надалей, у лодцы.

Дзядзька Сцяпан кідае канец ланцуга з замком у лодку і кажа:

– А навошта мы сталі замыкаць дзверы, і веласіпеды, і лодкі?

Мне здаецца, што я ўсё разумею, усё бачу. Толькі не ўсё магу вытлумачыць. Так мне здаецца – і мне становіцца сорамна, што я ўсё разумею. Я такі, мусіць, урадзіўся насуперак таму, што мае тата і мама алкаголікі, баба Матруна кажа: гаркаголікі. І дата

майго нараджэння – самая дурная на свеце часіна: 26 красавіка 1986 года. То, можа, я гэткі вырадак, што наперакор усяму ўсё, здаецца, разумею.

Так пранеслася ў маёй галаве, калі я стаяў над рэчкай і трымаў на вяроўчыне казу. Пецька скокнуў са спіны казла – пачуў вохканне курэй у двары і пабег туды праз гарод, дзеўбануўшы на бягу стручок гароху. Казёл стаіць і глядзіць на казу, і ў вачах яго, здаецца, бліснула сляза. Дзік упёрся пярэднімі лапамі ў лавачку на карме лодкі. Дзядзька Сцяпан сядае побач з Дзікам, бярэ ў рукі шост. Дзядзька Восіп на лаўцы, пасярод лодкі, запраўляе вёслы ва ўключыны. Я валаку казу з берага ў перадок лодкі, яна ўпіраецца нагамі, мэкае, наставіла на мяне рожкі, але мне ўдаецца падхапіць казу пад пахі і ўпіхнуць яе ў лодку. Завязваю вяроўчыну на выступе-носе лодкі, штурхаю яе ад берага, прысаджваюся.

– Ну і хадзем! – кажа дзядзька Сцяпан з кармы і разварочвае лодку носам на рэчку. – З Богам!

Мы выйшлі на сярэдзіну рэчкі. Яна тут нешырокая – можа, на тры нашыя лодкі, калі яе паставіць тройчы ўпоперак цячэння. Ды і то палавіна шырыні зарасла чаротам. Чарот расце высока, і я бачу сябе і казу, быццам на якой рацэ ў афрыканскіх джунглях, – чытаў жа пра іх у кнігах, бачыў у кіно. Адно што я тут у портках, а не абвешаны пальмавым лісцем, ды каза тутэйшая, местачковая.

Дзядзька Сцяпан павольна адпіхваецца шастом ада дна, дзядзька Восіп шлёпае вёсламі па вадзе. У яго, у дзядзькі Восіпа, наўздзіў цяпер, калі плывём, нейкія добрыя, нават вясёлыя вочы. Мусіць, тая, на беразе, перамога над замком узбадзёрыла, падвесяліла яго. А хутка ж ён і зусім будзе ў цэнтры ўвагі: з кішэні ў яго вытыркаецца белы вяршок дазіметра...

Ад вады патыхае свежасцю. Так ціха, што чуваць, як лодка рассякае ваду. Мне падумалася, што на ўсім свеце спакой парушаюць адно толькі ўсплёскі нашае лодкі – калі дзядзька Сцяпан пранізвае ваду шастом, а дзядзька Восіп апускае і дастае з ракі вёслы, і калі з вёслаў падаюць кроплі вады. І яшчэ, калі прыслухацца, чуецца шапаценне чароту. І раптам – пранізлівае на ўвесь свет

"кукарэку-у!" – недзе ззаду, на беразе. Мы ўсе, і сабака з казой, дзівімся: Пецька ляціць на белым казле берагам, за намі.

– А каб цябе, а каб цябе! Цьфу, каб на вас! Каб вас пранцы ўзялі!

Дзядзька Сцяпан правіць лодку да берага, і яна бортам прыціскаецца да невысокай чорнай стромы. Пецька ўзмахнуў чырвонымі крыламі і са спіны казла скокнуў у лодку, а за ім – і казёл. Дзік буркнуў. А каза з казлом абнюхаліся, радасна мэкнулі. Дзядзька Восіп паморшчыўся. Дзядзька Сцяпан смяецца. А я шчаслівы – як цікава жыць тут, як цікава плысці нашай рэчкай!

Цікава: каб цяпер на малой хуткасці і нізка ляцеў над рэчкай самалёт ці верталёт – што ўнізе пад сабой убачылі б лётчыкі? Па нешырокай сіняй вадзе, між зялёных кустоў і чароту, плыве доўгая лодка, а ў ёй сядзяць на лаўках трое чалавек, і між імі стаяць: белы казёл, чорная каза, рыжы сабака, ды на спіне казла сядзіць, як вершнік, чырвона-жоўты певень. І я сабе думаю: цікава гэтак во ціха плысці па ціхай рэчцы, між ціхіх берагоў, пад ціхім небам. Толькі чуваць, як сцякае вада з вёслаў, як шапоча чарот. І яшчэ думаю: добра гэтак во плысці, добра гэтак во жыць, плыў бы гэтак далёка... І ведаю: добра цяпер тут, у лодцы, і ўсім ім – дзядзькам маім, казлу, казе, сабаку, пеўню. Так добра, што ажно дзядзька Восіп не-не ды і ўсміхнецца сабе пад доўгі нос, а дзядзька Сцяпан з нейкай ціхай радасцю ў вачах паглядвае на свайго не дужа ветлівага суседа, а сабака пацвельвае хвастом, а казёл з казой зблізкаюцца між сабой рагамі, а певень раптам устае на казловай спіне, узмахвае крыллем, выцягвае шыю ўгору і пранізліва кукарэкае ў неба. Але гэты лад і ўсіхнюю радасць парушае Дзік: скача да казла, гаўкае на пеўня, і Пецька паслухмяна злятае з казла на дно лодкі. Дзядзька Сцяпан смяецца, дзядзька Восіп моршчыцца, а я сваруся пальцам на сабаку, кіўком галавы клічу яго да сябе, і ён кладзецца ля маіх ног.

Па абодва берагі рэчкі паціху адыходзяць назад паплавы, а спераду да лодкі паволі набліжаецца лес – таксама па абодва берагі. Там, уперадзе, на ўзлессі і на палянках, мы пачнём сваю працу, таму цяпер, пакуль да лесу яшчэ колькі часу нашага ходу, я коратка патлумачу, куды і чаго мы плывём, і дапоўню пра нас – траіх чалавек.

# У нас



Дзядзькі мае вырашылі накасіць сена казлу і казе. Дзядзька Сцяпан памкнуўся быў дзяліцца малаком сваёй казы з дзядзькам Восіпам, але той задраў угору свой доўгі нос, паморшчыўся і малака не ўзяў. А вось пашукаць здаровае травы на зіму разам з суседам пагадзіўся. Я кажу: здаровае травы. Тут, ля двароў, стала яе зусім мала. На паплавах не накосіш. Можна знайсці траву на ўзлесках, на шырокіх лясных палянах, між кустоўя. Але шукаць яе трэба з дазіметрам: шмат дзе яна брудная, хворая ад чарнобыльскай радыяцыі. Я пакуль што ўсяго не цямлю, але чуў, як дзядзька Сцяпан даводзіў дзядзьку Восіпу: трынаццаць мікрарэнтген у гадзіну – можна касіць, вышэй – трава для коз ужо шкодная. Дазіметр дзядзька Восіп дастаў у аднаго настаўніка. Гэты настаўнік прыехаў з сям'ёй у нашае мястэчка з Магілёўскай вобласці. Дзядзька Восіп працаваў разам з ім у школе. Сёлета ён пайшоў на пенсію. Як і дзядзька Сцяпан, што працаваў бухгалтарам у лясніцтве.

Жонкі дзядзькоў, а гэта мае цёткі, паўміралі, і баба Матруна на вуліцы шэпча ўслед дзядзькам: “А бабылёчкі ж вы мае...” – і вочы яе слязяцца.

Я люблю, шкадую дзядзькоў – бо яны мае дзядзькі і гэткія ж адзінокія, як і я. І, мусіць, яны мяне любяць і шкадуюць, бо я гэткі ж адзінокі, як і яны. У дзядзькі Сцяпана быў малодшы брат – мой тата, а ў дзядзькі Восіпа была малодшая сястра – мая мама.

Летась, калі я скончыў шэсць класаў і прыехаў з інтэрната да дзядзькоў, Дуня Кучараўка пераняла мяне на вуліцы, схапіла за плечы, дыхнула смярдзюча, сказала: “А твае татка з мамкай былі ўжо немаладыя і яшчэ ж зрабілі цябе. Дай я цябе, бедненькі, пацалую...” Я штурхануў яе ад сябе кулакамі, яна раскінула рукі, быццам учапілася за паветра, пахіснулася назад і ледзь не ўпала пасярод вуліцы ў пясок. Мне імгненна стала шкада яе, і я памкнуўся быў да яе, каб як падтрымаць, але яна і сама ўжо стрымалася, шырока расставіла ногі, высмаркалася і далонню выцірала сіні нос. Я стаяў перад ёй і яшчэ болей шкадаваў яе – бо такога страшнага сіняга носа я не бачыў ні ў воднай жанчыны. І я тады прашаптаў: “Бедная цётачка Дуня...” І пабег у сваю хату, упаў на падлогу ля лаўкі, абшчапіў галаву рукамі і ціха заплакаў, бо такі жаль агарнуў мяне, так мне стала шкада тату і маму, што я пытаўся

ў іх: ну навошта, навошта нават гэтая Дуня так кажа пра вас?.. Ну навошта я нарадзіўся ў вас?.. Каб я ў вас не нарадзіўся, то вы цяпер не гаравалі б недзе... а дзе – невядома... можа, вы цяпер недзе бядуеце па мне... можа, плачаце... разам ці паасобку... плачаце – так шкадуеце мяне?.. не плачце недзе... я жывы і здаровы, і ўжо мае рукі дужэюць і я нікому не дамся пакрыўдзіць мяне... я і вас абараню... толькі б ведаць, дзе вы... разам вы ці паасобку?.. Ну нічога, што вы пілі гарэлку, што вы былі п'яніцамі, што вы біліся між сабой, што вы білі мяне, што я ўцякаў з хаты, хаваўся ад вас... ну, вы былі дурныя, бо вы пілі гарэлку... ну, гэта было даўно ўжо... калі мне было шэсць гадоў... ну, мяне ўзялі ад вас у інтэрнат... я ж не сам – мяне ўзялі... ну, не плачце недзе там... дзе вы, тата і мама?..

Потым я ўстаў з падлогі, выйшаў з хаты на двор. Дуня вісела на плоце, зачапілася падбародкам за жардзіну, глядзела ўніз, галава яе трэслася. Плача? Я падышоў да яе, ціхенька ўзяў у пальцы Дунін падбародак, адарваў яго ад плота. Дуня глянула на мяне мутнымі мокрымі вачыма, ціха сказала: "Даруй мне, Васілёк... я алкагалічка, таму я ўрэдная... калі ўзарваўся Чарнобыль, я была там... з жаніхом сваім... ён быў на ліквідацыі... памёр... казалі: каб не захварэць, трэба піць... от я і прывыкла... нутро маё гарыць, так нечага хоча і хоча, нутро маё..." Раптам Дуня выпрасталася, у вачах яе нешта бліснула, і ўся яна ўздрыгнула і са злосцю сказала: "Га-а! Дык я захварэла з-за Чарнобыля. А твая матка – з-за чаго? З-за чаго? А я ведаю!.. Во толькі не ведаю, з-за чаго твае дзяды сашчапілі свае пальцы на глотках адзін аднаму! На Кутнішчы! Пальцы на глотках!" І Дуня растапырыла пальцы абедзвюх рук і стала іх паволі і прутка сціскаць у паветры перад маім тварам, і я жахнуўся, адскочыў ад плота. Дзядзькоў дома не было. Дзік узвіўся ўгору ля сваёй будкі, ланцуг грымнуў у двары, трымаў сабаку на высокіх яго падскоках, і ён захлынаўся брэхам... І тут падышла да нас, падышла цяжка на сваім кійку баба Матруна, узялася рукой за плот, глянула на Дуню, ціха сказала: "Дунечка, дзевачка мая харошанькая, ідзі, ідзі патрошку дамоў, ідзі, любачка мая..." І Дуня апусціла рукі на спадніцу, абярнулася, пайшла вулкай, босая, раскудлачаная. "А ты, дзіцятка маё, хадзі да мяне, крупніку пасёрбай..." Я пайшоў

за бабай Матрунай, хоць есці мне не хацелася. На Матруніным двары я сказаў: "Баба, а Кутнішча – што гэта?" Бразнула клямкай у дзвярах, сказала: "А, дзіцятка, так сабе... месца такое... у лесе ля рэчкі... так сабе... Ну хадзі ж, хадзі..." Вечарам я спытаў у дзядзькі Сцяпана: "Кутнішча... што гэта?" Дзядзька дастаў з калодзежа вады, выліў яе ў карыта, бразнуў вядром, сказаў: "Хутар у лесе, ля рэчкі... Больш ніколі не пытайся пра Кутнішча!.." Больш пра Кутнішча я ні ў кога не пытаўся. Але і не забываў – помніў словы Дуні Кучараўкі...

Плывём і плывём. Стала ўжо так горача, млосна, што нашыя пасажыры прыселі, прылеглі на днішчы лодкі і дрэмлюць, толькі Пецька няўтомна стаіць на вільчыку лодкі, ну быццам той марскі капітан. Набліжаемся да лесу. А калі лес ахінуў нарэшце нашую лодку з абодвух бакоў сваёй свежасцю і ціхім пошумам, стала лягчэй дыхаць. Лес падступаў да самых берагоў рэчкі, ад соснаў і елак патыхала смалой, пахла баравікамі і суніцамі. Мне гэтыя пахі знаёмыя, бо ўжо быў у грыбах і ягадах з дзядзькам Сцяпанам.

І во ўжо ў лодцы сярод свежай лясной прахалоды, калі Пецька галасна не раз пранізліва кукарэкнуў, казёл, каза і сабака бадзёра сталі на ногі. Казёл абышоў казу, стаў на заднія ногі, а пярэднія паставіў ёй на спіну. Каза не варухнулася. Дзядзька Восіп спадылба паглядзеў на мяне, паморшчыўся і адвярнуў галаву ўбок, на лес. Я зрабіў выгляд, што нічога не бачу – толькі адмахваюся рукой ад назолы-авадня. Дзядзька Сцяпан крэкнуў сабе ў рыжыя вусы і, па-ранейшаму нетаропка і цвёрда, утыркаў жардзіну ў рачное дно. Пецька на сваім вільчыку глядзеў уперад. А вось Дзік, чарцяка, парушыў таемны спакой – так гаўкнуў, што казёл зляцеў з казы. Я ледзь трымаўся, каб не рассмяяцца – саромеўся дзядзькоў.

Нарэшце мы супакоіліся, сядзім і стаім на сваіх месцах, плывём і ўсе вельмі сур'ёзна глядзім уперад па рэчцы. І вось па левым борце лодкі адкрыўся бераг, чысты ад чароту і кустоўя. Дзядзька Сцяпан утыркнуў свой шост у дно, напружыўся рукамі, і лодка дзеўбанулася носам у нізкі чорны беражок. Дзядзька Восіп ступіў на бераг, прыўзняў нос лодкі, натужыўся, крыху падцягнуў лодку на сябе і апусціў яе на траву, а дзядзька Сцяпан сказаў:

– Васіль, вядзі казу на бераг.

Я ўзяўся за вяроўчыну і пацягнуў казу за сабой. Яна ўперлася капытамі ў дно лодкі і знізу, вывернуўшы галаву, зірнула на казла. Той нешта мэкнуў ёй, Дзік гаўкнуў – каза перастала ўпірацца, падняла рожкі ўгару і лёгка скокнула з лодкі на бераг. Дзядзька Сцяпан пальцам паказаў Дзіку на яго месца ў носе лодкі, і той паслухмяна вільнуў хвастом, сеў на кароткай пярэдняй лавачцы – не пускаць казла і пеўня на бераг.

Ідзём убок ад берага – прыбярэжнай густой і нізкай травой, потым цесным падлескам з ажыннікам, між высокіх соснаў і елак, пад нагамі трашчаць сухія галінкі і шышкі, па чаравіках бягуць буйныя мурашы. Выходзім на шырокую палянку з густой высокай травой, над якой сінеюць і ружавеюць кветкі. Дзядзька Восіп дастае з кішэні белую бляшаную, прадаўгаватую скрыначку. Я выцягваю шыю з-за яго спіны і бачу ў скрыначцы шкалу – пластмасавую, з рыскамі, лічбамі, стрэлкай, дошчачку пад шклом. Дзядзька Восіп апускае гэтую цацку ў траву. Колькі хвілін мы моўчкі стаім над дазіметрам, чорная стрэлка ў ім пабегла, задрыжала, спынілася. Дзядзька Восіп бярэ сваю цацку з травы, глядзіць на яе, паказвае дзядзьку Сцяпану.

– Та-ак, – кажа дзядзька Сцяпан, здымае з галавы картуз, б'е кулаком сабе ў патыліцу, – семнаццаць. Семнаццаць мікрарэнтген. Мнагавата...

Каза пнецца з вяроўчыны ў траву, хапае зубамі пучок травы, жуе. Бачу – жуе траву яна ў ахвотку, згаладалася. Ды раптам перастала жаваць, падумала нешта сабе, чмыхнула і выплюнула зжаванае. Дзядзька Восіп кажа, павольна выдзяляючы кожнае слова:

– Семнаццаць мікрарэнтген у гадзіну па ўзроўню гама-фону.

Дзядзька Сцяпан кажа:

– Я ж ведаю, каза мая пачуе... Ну што ж, Васіль, вядзі нашу дзеўку назад у лодку... Бач ты, каровам трава гэтая прыдатная была б, а козам – не. Пайшлі.

Ідзём з паляны да рэчкі, і я сабе думаю: "Ого! Дзядзька Восіп – настаўнік беларускай мовы, а гаворыць, быццам які фізік. Ого! Вось табе і дзядзька з доўгім носам"...

Падышлі да берага, казёл у лодцы трасянуў бародкай, каза

на беразе прамаўчала, певень лопнуў крыллем – мусіць, хацеў кукарэкнуць, але перадумаў, сабака пазяхнуў – маўляў, каго тут вартаваць, абы што...

Дзядзька Сцяпан скіроўвае лодку на сярэдзіну рэчкі, плывём, плывём далей – шукаць гожай для казла і казы травы. І белыя аблокі над намі плывуць высока. З-пад лесу ўніз сыходзіць ветрык, і паабапал лодкі паціху шапочуць чараты, пакалыхваецца над рэчкай алешнік. З дрэў падаюць, спяваючы, птушкі. Яны падаюць на нас, але над самымі галовамі нашымі крута вынырваюць угору і ў бакі. Шэры заяц з берага піў ваду, пачуў лодку, скокнуў у лес. Я паспеў убачыць: у зайца адно вуха даўжэй за другое. А мы плывём. Ужо тройчы я выводзіў на вяроўчыне казу з лодкі, і ўсюды было семнаццаць...

Пакуль стаіць дзень, але па тым, як больш пасвяжэла ў паветры, як птушкі сталі ажно захлёбвацца ў сваім спяванні, а жабы – у сваім кваканні, як адчайна зазвінелі вакол нас стракозы, было відаць, што ён, дзень, на зыходзе. І раптам усё разам вакол нас пачало аціхаць – птушкі, жабы, стракозы, затое лес зашумеў глыбей, шырэй і, здаецца, вышэй. Дзядзька Сцяпан кажа:

– Што, даражэнькія, і есці не хочаце?

Гэта ён сказаў усім у лодцы – і людзям, у тым ліку і сабе, і жывёле. Праплылі яшчэ крыху, і дзядзька Сцяпан як выпхнуў з сябе:

– Ну, во і Кутнішча!

Гляджу па-за левы бераг. А там лес шырока расступіўся, адкрылася прасторная палянка, і пасярод, на зялёным узвышшы, між тоўстых дубоў нізенькая, крыху скасабочаная, з цёмнымі і маленькімі акенцамі, са шчарбатым чырвоным комінам – хатка.

І яшчэ раз сказаў дзядзька Сцяпан, сказаў – быццам паклікаў каго:

– Кутнішча!

Ён скіроўвае шастом лодку да берага, які і берагам не назавеш: проста жоўтая зямля палога ішла ў ваду – і таму лодка з ходу шуганула з рэчкі на зямлю і цвёрда стала на ёй.

Прывязваю вяроўчыну з казой да ствала бярэзіны, казёл стаіць ля казы, певень сеў на казла, сабака пабег да хаткі. Дзядзька Сцяпан выносіць з лодкі торбы з харчам на бераг, а дзядзька

Восіп апусціў сваю цацку ў траву. Трава тут нізкая, худая – не для сенакосу, але ж праверыць яе і тут трэба.

– Адзінаццаць! – нечакана і як бы злосна выгукнуў дзядзька Восіп. Не помню, каб дзядзька Восіп калі так крычаў, а тут во, крыкнуў.

– Добра, – кажа дзядзька Сцяпан. – Сена тут з каліва. Але козы сёння наядуцца. Хай будзе хоць гэтак. Добра. Адзінаццаць мікрарэнтгенаў. Хай.

Сабака наш забрахаў пад акенцам хаткі – бы каго пачуў у ёй. Дзядзька Сцяпан крычыць сабаку:

– Дзік! Ці-іха! Брэшаш па-пустому! Дзверы даўно забітыя! Сці-іхні!

Дзік сціхнуў. Але во – дзіва! – дзверы з сенцаў раптам шырока расчыніліся. Сабака задам і моўчкі падаўся ад ганка. А мы, людзі, аслупянелі. Стаім, як укапаныя, на беразе, глядзім у чорны праём сенцаў. Але ніхто адтуль на ганак не выходзіць.

А мяне здзівіла вось што: і на падыходзе лодкі да Кутнішча, і тут, на беразе, дзядзька Восіп быў пануры, сумны, высіліў з сябе толькі адно слова: "адзінаццаць", і болей – ні гу-гу. Дзядзька ж Сцяпан бадзёрыўся, гаварыў узбуджана, клікаў то мяне, то Дзіка, рухаўся неяк нервова і ні разу не ўсміхнуўся ў рыжыя свае вусы, і яго гаварлівасць, бадзёрасць, узбуджанасць, адчувалася, былі натужныя, найграныя – от, каб толькі збіць тыя сум, панікласць, якія ішлі ад суседа, Восіпа. Можа, гэтак трымаўся з-за мяне? Напэўна. І яшчэ я адчуваў: тут, на Кутнішчы, вось-вось павінна нешта здарыцца, нешта такое, што моцна ўразіць мяне, і сэрца маё трывожна затахкала.

Так, дзверы сенцаў былі расчыненыя. У сенцах было цёмна, і ніхто не выйшаў на ганак. Дзік там, пад дубам, бліз хаткі сядзіць на задніх лапах, глядзіць на сенцы, нюхае паветра, маўчыць.

І вось яно – здарылася: дзядзька Восіп доўга нервова запіхвае дазіметр у кішэню штаноў і, апусціўшы галаў, паціху ідзе да старой, у парэпанай чорна-белай кары, бярозы. Ніжняе суччa яе звісае долу, пераламанае, сухое. Бяроза стаіць зусім блізка, ўскрай паляны. Вакол яе шырокага камля – рэдкая высокая трава. Гэта, мусіць, трава-разак. Яе лёзы блішчаць у промнях заходзячага сонца, і бляск той ужо чырвоны. Дзядзька Восіп падышоў да

бярозы, стаў, зняў шапку, апусціў долу галаву, перахрысціўся. Пастаяў так, з апушчанай галавой, надзеў шапку, павярнуўся і паціху ідзе – на бераг рэчкі, крыху ўбок ад лодкі, сядае на траву, глядзіць у ваду, глядзіць і нічога не бачыць.

Няўцямна гляджу я на дзядзьку Сцяпана, гляджу ў яго вочы. Ён стаіць аціхлы, абвялы, не бачыць майго позірку, глядзіць міма мяне кудысьці далёка-далёка, праз цёмны лясны гушчар, і я ўпэўнены: ён не бачыць ні лесу, ні мяне, ні дзядзькі Восіпа – але ўсё-ткі нешта бачыць. Вочы яго зацягнуліся як бы нейкім туманам, і ён быццам нешта слухае, але тое, што ён чуе, аддаляецца ад яго. І ён таксама таропка ідзе да бярозы, здымае картуз, схіляе голаў, хрысціцца, гэтак жа таропка ідзе да дубоў, што каля хаткі. І насустрач яму з цёмных сенцаў ступае праз парог бабуля, ссохлая, згорбленая.

Дзядзька Восіп спадылба азіраецца на хатку, паволі ўстае з зямлі і ідзе туды, да дубоў. Ён не ідзе ў двор, спыняецца пад дубам, сядае на лодку – мусіць, чакае, пакуль ля ганка дзядзька Сцяпан і старая кончаць нейкую іхнюю гаворку. Во, нарэшце дзядзька Сцяпан ідзе з двара сюды – да рэчкі. Ён ідзе міма дзядзькі Восіпа, нічога таму не сказаўшы, увесь абмяклы – быццам пранёс міма суседа нейкую сваю віну перад ім, ці сорам які, ці што яшчэ... А я стаю на беразе. Каза з казлом скубуць траву ў сябе пад нагамі. Певень грабе кіпцюрамі ў траве, кідаецца зямлёй ва ўсе бакі, нешта знаходзіць, дзяўбе ў зямлі. А сонца, ужо вялікае і чырвонае, завісла за правым берагам рэчкі – здаецца, зусім блізка, уверсе між соснаў і елак. Мне пахаладала ў босыя ногі – бо ўжо ападае з травы, калі пераступаю з нагі на нагу, раса.

Дзядзька Сцяпан прыйшоў на бераг, падцягвае лодку вышэй. Прыйшоў сюды і дзядзька Восіп, стаіць, таксама маўчыць. Мне ўсё гэта нарэшце абрыдла, і я хачу крыкнуць ім абодвум: ну і чаго вы, як тыя малыя дзеці!.. Можа, і крыкнуў бы ўжо, але во дзядзька Сцяпан, хоць і не падымаючы галавы, ціха кажа:

– Бяры, Восіп, косы, сякеру.

Дзядзька Восіп, гэтак жа ціха, кажа:

– Бяру, Сцяпан.

І я думаю: во і добра, а то як тыя дзеці...

– Ну, хадзем, – кажа дзядзька Сцяпан. – Вядзі, Васіль, казу.

Мікола КУПРЭЎ

# У нас

Развязваю вяроўчыну на бярозцы, цягну за сабою казу, яна парываецца яшчэ скубануць травы, але я тузаю вяроўчыну, і мы ўсе ідзём – уперадзе дзядзька Сцяпан з торбамі ў руках, за ім я з казой, за ёй казёл з пеўнем на спіне і ззаду дзядзька Восіп з косамі. І ўспыхнула перад намі, у змроку між дубамі, святло, няяркае, слабое, – то засвяціліся два акенцы. А я іду і ўсё думаю, пытаюся невядома ў каго: чаму перахрысціліся, чаму здымалі картузы дзядзькі мае пад гэтай старой бярозай?..

Дзік кідаецца нам насустрач з расчыненых цёмных сенцаў, радасна гаўкае. Дзядзька Сцяпан у двары перад ганкам бярэ ў мяне вяроўчыну і завязвае яе на слупку, які тырчыць з зямлі ля вугла хаты, каза і казёл скубуць траву. Дзядзька Восіп ставіць косы да сцяны. Певень на казловай спіне раптам устае, схіляе грэбень набок, прыслухоўваецца і скача на зямлю, пад самы ганак і ўлятае ў сенцы. Ён лопае крыллем, і там вохкае курыца, але хутка сціхае, а Пецька цераз парог і ганак ляціць у двор, ляціць – бы там, у сенцах, нарабіў якой шкоды. Дзядзька Сцяпан развязвае торбу, дастае з яе мяшочак і сыпле ля ганка крупы, з другой торбы выцягвае каструльку, становіцца ля казы на калені, доіць яе, дае мне: “Пі малако”, – сам не ўстае з зямлі, я п’ю, даю каструльку дзядзьку Восіпу, той крутнуў галавой – не хоча, дзядзька Сцяпан п’е сам і яшчэ доіць, ставіць малако пад сцяну – сабаку і пеўню, потым паказвае Дзіку пальцам на коз, той сядае на заднія лапы пад блізкім дубам, і мы ідзём у хату. Між ног маіх кідаецца ў двор белая курачка. Дзядзька Сцяпан адчыняе дзверы ў хату, і мы пераступаем цераз другі парог, ён высокі, абшмарганы, пасярэдзіне – як чым жалезным выбіты. У хаце на камінку палае агеньчык, ад яго пахне смалой – гарыць лучына. Бабулька, у белай хустачцы, згорбленая, стаіць ля камінка, рукой трымаючыся за прыпечак, глядзіць з-пад сівых густых броваў на мяне. Вочы яе глыбока іскрацца ад агню. Глядзіць чамусьці на аднаго мяне. Дзядзька Восіп кажа:

– Добры вечар, цётка Наста!

Старая толькі ківае галавой яму і ўсё глядзіць на мяне. Дзядзькі паставілі ўжо і торбы на лаўку ля сцяны, а яна ўсё глядзіць на мяне з-пад густых сівых броваў, і глыбока ў вачніцах яе іскрыцца ад агню. Стаю ля парога, ногі мае і кроку ступіць не

могуць, як прыкутыя да падлогі, яна ўсё глядзіць на мяне, і я чую, як валасы ў мяне на галаве варушацца, нейкая сіла падымае маю руку і б'е ёю па валасах – па галаве, і тады старая ціха, як шэптам, кажа:

– Не бі, дзіцятка, галоўку сваю. Ва ўсім вінаватыя рукі.

Закашлялася – ажно вочы заплюшчыла. Хачу сказаць бабцы, што ўдарыў я сябе не па галаве, а па валасах, хачу і не магу сказаць, маўчу і ўжо быццам бачу, што і ў маіх вачах нешта іскрыцца і не толькі ў вачах, а, здаецца, недзе ўнутры мяне. Нарэшце бабулька адварочваецца ад мяне, здымае руку з прыпечка, абедзвюма рукамі папраўляе хустку на галаве. Цяпер мае ногі адрываюцца ад падлогі і ступаюць да дзядзькі Сцяпана. Ён сядзіць на ўслоне ля стала, сядаю побач з ім. Дзядзька Восіп стаіць ля акна, глядзіць праз шыбіну ў цёмны двор, і я ведаю: там ужо нічога не відаць, там цёмна.

А ў хаце – цішыня, і яна нейкая напружаная. Адчуваю, трывожна чакаю, як цішыня гэтая раптам лопне, у хаце нешта выбухне. Але ж не – выбух не адбыўся. Бабулька ціха і проста кажа:

– Швэндаецеся вы, швэндалы... Бульбы зварыць?..

Дзядзька Восіп сядае на ўслон ля мяне. Я – між дзядзькамі. Бабулька сядзіць перад намі на драўляным ложку. На камінку гарыць, патрэсквае лучына, і ўсе маўчаць. Паленца ў агні страляе іскрамі на падлогу, іскры ўмомант тухнуць, але паленца не перастае страляць – яно яловае. І ўсе мы глядзім на агонь, на іскры. Нарэшце дзядзька Сцяпан кажа:

– Добрая пагода стаіць.

Баба Наста на ложку ківае галавой:

– Добрая.

– Толькі і касіць.

– Ага, Сцяпан, толькі і касіць... Бульбы зварыць?

– Не, не трэба, цётка Наста.

– Табе не трэба... То, можа, во хлопец хоча ды і... як яго?.. нешта ўсё маўчыць.

– Восіп, – кажа дзядька Сцяпан.

– Восіп?... А Канстанцін... – баба Наста зноў закашлялася, а калі аціхла, доўга выцірае вочы рукавом кофты, потым кажа, – а пан Канстанты хваліўся, што сынок у яго – Юзаф.

Мікола КУПРЭЕЎ

# У нас

Дзядзька Восіп моршчыцца, глядзіць у кут, у чалеснік, кажа:

– Анастасія Іванаўна, я – Восіп.

Тут ужо моршчыцца і так даволі зморшчаная бабуля – яна бурчыць сабе пад сухі, завостраны нос:

– Іванаўна... Наста я. А то кажа! Іванаўна... Ну, настаўнік...

– Ведаеце, што я настаўнік? Быў...

– Я пра вас абодвух усё ведаю. Жыву ў горадзе ў сына на вуліцы... ну, на гэтай... як яе? – Баба Наста заплюшчвае вочы, успамінае. – На Бальшавіцкай?

– Няма такой вуліцы ў горадзе, – кажа дзядзька Сцяпан. – Камуністычная – ёсць.

– Во-во... Дык наш сусед – з вашага мястэчка... Усё ведаю пра вас... То чыю казу ўкралі з хлява? Тваю, Іосіф?

– Маю! – рашуча кажа дзядзька Восіп і бразгае дзвярыма – выходзіць у сенцы.

Баба Наста зноў бурчыць сабе пад нос:

– І чаго ён стукае? Чаго? Што казу ўспомніла?..

Дзядзька Сцяпан маўчыць, паставіў локаць на стол, падпёр рукою шчаку, пасміхаецца сабе ў рыжыя вусы. Ён ведае, чаму бразнуў дзвярыма дзядзька Восіп. Ведаю і я. Баба Наста гэтак пацэліла, гэтак пацэліла, як экстрасенс які... Пакуль яна маўчыць на ложку, а дзядзька Сцяпан моўчкі пасміхаецца ў рыжыя вусы, я ўспамінаю... Вечарам, калі я толькі прыехаў з горада ў мястэчка і зайшоў у двор дзядзькі Сцяпана, чую: нехта бразнуў веснічкамі ў двары дзядзькі Восіпа, стаў ля асветленага акна, па раскудлачаных валасах пазнаю Дуню Кучараўку, яна стукае пальцамі ў акно і на ўвесь завулак хрыплым голасам спявае: “Я любіла Сталіна Іосіфа і Юзафа Пілсудскага і абодвух бросіла, бо дзярмо паскудскае”. Блізка нехта ціха смяецца і кажа: “Ах ты, чарцяка, і прыдумала ж...” Азіраюся і ў цемнаце, ля калодзежа, угледваю дзядзьку Сцяпана. Святло ў хаце дзядзькі Восіпа тухне, Дуня бяжыць ад акна, спатыкаецца, ледзь не падае, выбягае праз веснічкі ў завулак. Дзядзька Сцяпан кажа мне: “Хадзем у хату, Васілёк...” У хаце за сталом вячэраем з дзядзькам, і я пытаюся ў яго: “А хто такія Сталін і Пілсудскі?” Дзядзька Сцяпан дажоўвае аладку, выцірае далонню вусы, кажа: “Падужэеш, Васілёк,

падвучышся – будзеш ведаць... А пакуль еш, еш... ну, былі такія палкаводцы, ваявалі між сабой, царамі сталі, адзін у Савецкім Саюзе, другі ў Жэчы...” Але я зноў пытаюся: “А дзе гэта Савецкі Саюз і Жэч?” Дзядзька Сцяпан склаў кулакі на стале, дзівіцца на мяне і неяк пасуравела кажа: “Падрасцеш, падвучышся, будзеш ведаць... Еш, еш!..” Ён устаў з-за стала, перахрысціўся на покут – там на палічцы стаіць пад белым ручніком ікона...

Паленца на камінку дагарае, у хаце змяркаецца, баба Наста кажа дзядзьку:

– Падкладзі яшчэ... Вунь пад печчу дровы.

Вуголле на камінку слаба палае, дзядзька Сцяпан кладзе на вуголле паленца, зноў яловае, яно імгненна ўспыхвае агнём, трашчыць, і іскры зноў ляцяць на падлогу. А баба Наста паціху тэпае да дзвярэй, адчыняе іх, гукае ў цемру:

– Го-о, Восіп! Дзе-е ты? Хадзі ўжо ў хату! Паямо. Хадзі ўжо!

Баба Наста пастаяла ў дзвярах: у сенцах і ў двары ціха – і адышла ад дзвярэй, не зачыніла іх, у хату з двара дыхнула свежасцю. Дзядзька Сцяпан дастае з торбы і кладзе на стол хлеб, сала, маладзенькія гуркі, яшчэ нешта, кажа гаспадыні:

– Прыбірайце вячэру, цётка Наста.

– То і я ж пастаўлю на стол... Як вёз мяне сюды ўнук, дык панапіхалі ўсяго ў машыну... Ідзі, Сцяпан, знайдзі Восіпа.

А мне стала так шкада дзядзьку Восіпа. Наста ўсё з яго здзекуецца. Во сядзіць ён цяпер, мусіць, на лаўцы, пад дубам, апусціў галаву, заплюшчыў вочы – бо калі заплюшчыш вочы, то шмат што і далёка бачыш, я гэта ведаю па сабе... Дык во, сядзіць цяпер на лаўцы ў двары, пад дубам, дзядзька Восіп, родны брат маёй мамы, сын невядомага мне нейкага пана Канстанціна, нядаўні настаўнік, даўно ўдавец – і пра што ён там думае, што ўспамінае? А я ведаю: ні пра што не думае, нічога не ўспамінае, проста сядзіць, апусціўшы галаву, і адчувае сябе адзінока. Гэта я ведаю – бо нярэдка ўжо і сам адчуваў сябе адзінока, асабліва ў інтэрнаце і асабліва пасля ўрокаў, калі хлопцы збіраюцца ў калідоры, ці на вуліцы, ці ў туалеце, ці кураць і гавораць брыдкімі словамі, а я ненавіджу брыдкія словы, уцякаю ад іх, затуляю далонямі вушы – бо наслухаўся брыдкіх слоў, як быў зусім малы, ад мамы і таты,

і з брыдкімі словамі яны білі мяне, калі праганялі з хаты, каб я не бачыў іх п'янымі, не чуў іх п'яных спеваў, каб не бачыў, як яны б'юцца – можа, яны гэтак шкадавалі мяне, аберагалі ад дурноцця ўсякага, ад брыдоцця? Мне так цяпер здаецца, таму мне так цяпер і шкада таты і мамы... Дзе яны і што з імі? Можа, гаруюць, сумуюць па мне? Можа, усё думаюць недзе, што я хворы які – бо нарадзіўся ноччу дваццаць шостага красавіка... А я ж здаровы расту, у мяне на руках вышэй локцяў ужо і мускулы пацвярдзелі, і ўжо я ў інтэрнаце гэтай вясной так даў рукой у сківіцу дзевяцікласніку Шурыку, што той паляцеў спіной на сцяну і пайшоў з калідора, ударыў за тое, што ён пры мне брыдкім словам абазваў маю аднакласніцу Алесю, калі яна ішла міма Шурыка і мяне, а я збоку і спадылба глядзеў ёй услед, бо з гэтай вясны хочацца глядзець мне ўслед Алесі, лавіць тое імгненне, калі яна кідае цераз плячо сваю залацістую касу...

Дык во, сядзіць дзядзька Восіп у цемры на лаўцы пад дубам, а дуб той тоўсты, высокі – што, калі раптам бліснe маланка, ударыць гром і дуб зламаецца над дзядзькам?.. І так ужо, мусіць, шмат чаго над ім зламалася. Ёсць у мяне ў мястэчку сябрук-равеснік, маці яго – настаўніца тут у школе, а дзеці настаўнікаў ведаюць шмат з таго, што робіцца ў школе, – дык гэты мой сябрук расказаў мне: майго дзядзьку, настаўніка Восіпа Канстанцінавіча, паклікала начальства ў горад, а калі раніцай на другі дзень прыйшоў на ўрокі, то быў сумны, з апушчанай галавой, і ў той жа дзень распусціў школьнае таварыства беларускай мовы, ён ім кіраваў, у гэтае таварыства ўваходзілі некалькі настаўнікаў і вучняў-старшакласнікаў, і яшчэ ў той дзень ён сказаў вучням у класах, каб звалі яго ўжо Іосіфам Канстанцінавічам, і яшчэ з таго дня стаў ён гаварыць па-беларуску толькі на ўроках, а ў школьных калідорах, у настаўніцкай і на вуліцы – па-руску, праўда – на роднай мове гаварыў ён яшчэ з суседам Сцяпанам і суседкай бабай Матрунай, ды Кучараўцы: ідзі адсюль, не замінай, – сталі ўсюды гаварыць па-руску і настаўнікі з былога таварыства, але – во цікава! Тыя вучні-старшакласнікі як гаварылі, так і гавораць толькі па-беларуску, а адзін з іх, адзінаццацікласнік Андрэй, устаў з-за стала на ўроку і проста ў вочы сказаў: "Восіп Канстанцінавіч! Вы – здраднік!" Дзядзька Восіп паставіў выдатніку Андрэю

чацвёрку па беларускай мове на выпускных экзаменах. Во тут я ўжо не шкадую дзядзьку, нават абвінавачваю: навошта помсціць свайму вучню? Андрэй з-за той чацвёркі не атрымаў залатога медаля. Я во, як вырасту, стану дужы, то нікому не буду помсціць – бо я буду дужы. Ну, ударыў я таго хлопца ў інтэрнаце – дык ён жа старэйшы і дужэйшы за мяне і гэткія брыдкія словы сказаў пры Алесі...

Сорамна, дзядзька Восіп!.. А цяпер мне зноў шкада цябе: сядзіш недзе там адзінока на лаўцы пад дубам, у цемры, апусціўшы галаву...

Дзядзькі ўваходзяць у хату.

– То, можа, зварыць бульбы? – у які раз кажа баба Наста.

А я сабе думаю: "Бабулька, колькі разоў пытаешся пра бульбу? Узяла б ды і зварыла даўно. І я дапамог бы наабіраць бульбы... І ўжо во елі б..."

Дзядзька Сцяпан ставіць бутэльку віна. Сядаем за стол. Бабулька кладзе на камінку ў аслабелы агонь яшчэ палення.

– Ну, цётка Наста, за стол... Давайце патрошкі за сустрэчу.

Яна бярэ з услончыка ля печы гаршчок, ставіць яго на стол.

Дзядзька Сцяпан дзівіцца ў гаршчок:

– Яйкі... Адна курыца, без пеўня... і во – яйкі.

– Ага, Сцяпанка, ага – адна курыца... Пазаўчора былі тры курыцы і певень. Падвечар стукаюць у акно... Гляджу: стаяць трое... Зарослыя, барадатыя. Што, кажу, трэба?.. І страх мяне ўзяў. Адзін кажа за акном: адкрый, бабулька, мы не ўрэдныя, не бойся... Ну, што рабіць? Не адчыню ім дзверы – улезуць праз акно. Адчыняю. Заходзяць у сенцы. Кажа старэйшы з іх, чорны, кудлаты, у падраных портках, босы, чаравікі стаптаныя, звязаныя вяровачкай, кажа цераз плячо: "Бабулька, падзяліся з намі, чым багата... сала, хлеб, грошы, гарэлка..." Ну, зноў – што рабіць? Не падзялюся – самі ўсё возьмуць... А той кажа: вунь у сенях у кутку куры капошацца... А тыя куры былі ўжо сонныя, то іх лёгка пахапалі, галовы паскручвалі, і пеўню. Адну курыцу пакінулі... Што рабіць? Паказваю, дзялюся – хлеб, сала. Грошай, кажу, няма – бо навошта яны ў лесе? І гарэлкі, кажу, не п'ю... То давай, кажуць, усё сала. Бяры, кажу. Бо ўсё роўна ж забяруць.

Сала, мыла забралі, соль, запалкі... Адзін карабок запалак, дзякуй ім, пакінулі. Ага, яшчэ ручнік, доўгі, вышываны, забралі. Пазапіхвалі ўсё ў свае торбы, а торбы тыя глыбокія... і пайшлі з хаты. З двара той кажа: "Мы, бабулька, бамжы, ідзём на кватэры ў чарнобыльскую зону. Спасіба". І пайшлі ў лес, бокам да рэчкі...

Баба Наста сціхла. Усе маўчаць.

Я ўспамінаю геаграфічную карту Беларусі – яна вісіць на сцяне ў школе-інтэрнаце. Быццам стаю ля яе, разглядваю, чытаю – і ведаю, што наша рэчка ўпадае ў вялікую раку Прыпяць, а гэтая рака цячэ туды, на Чарнобыль... Пытаюся за сталом ва ўсіх разам:

– А хто такія бамжы?

Кажа дзядзька Сцяпан:

– Адзінокія людзі... няма ім дзе жыць.

– Чаму?

– Ай, Васіль! Падрасцеш – будзеш ведаць чаму, – і дадае нервова, раздражнёна. – Чаму-чаму... А чорт іх ведае, чаму... – супакоіўся, налівае ў чаркі віна і мне кропельку на дно. — Цётка Наста, за добрую сустрэчу з вамі... хай – за добрую! І будзьце здаровыя!

Чокаемся чаркамі, і я глытаю сваю кроплю. А што? Мае равеснікі ўжо напіваюцца, і дзяўчаткі таксама... і п'юць, і кураць, і брыдкія словы гавораць... Ну, не ўсе... Алеся – чыстая, светлая дзяўчына. І цяпер я тут, у лесе, пад дубамі, ля рэчкі, якая ўпадае ў вялікую раку, кажу сабе: "Алеся, будзь усё жыццё чыстай і светлай..."

– Не, мне ўжо не налівай, – кажа баба Наста, калі дзядзька Сцяпан стаў зноў наліваць чаркі. – Я і так ужо з вамі саграшыла... Дык во, толькі тыя пайшлі ў лес – чую галасы ў двары. Гляджу ў акно – дзеці. Хлопчыкі, дзяўчаткі... А з імі – мужчына, стараваты ўжо. Ну, думаю, дзеці з настаўнікам. Селі пад дубам на траву, слухаюць, ён сядзіць перад імі на лаўцы. Сівы, лысы... Абапёрся рукамі на кульбачку...

Як толькі баба Наста сказала гэта, дзядзька Восіп, бачу, увесь неяк насцярожыўся, адсунуў убок чарку, паклаў на стол хлеб, а яна кажа далей:

– Мяне не ўбачылі за акном. І, мусіць, падумалі, што дзверы забітыя... А я ў хаце чую: гаворыць ён дзецям пра мой хутар і

нешта пра бярозу... Вой-вой, што я кажу? Нічога я не чула... Гэта мне здалося, што чула... Нічога я не чула... Баба Наста змаўкае, устае з-за стала, ідзе да ложка, села там, паставіла локаць на спінку, падперла рукой шчаку, глядзіць у цёмнае вакно. Гляджу і я туды і бачу за акном толькі жоўта-чырвоны агеньчык ад камінка і высока над агеньчыкам, у верхнім кутку акна, – сінюю зорку ў чорным небе. І я чамусьці ведаю: баба Наста не бачыць ні агеньчыка таго, ні зоркі і во – заплюшчыла вочы, і цяпер, ведаю, яна бачыць нешта далёкае, сваё, тое, што мне ніколі не ўбачыць.

Дзядзька Восіп сядзіць за сталом, апусціўшы голаў, сашчапіў на стале пальцы рук. Дзядзька Сцяпан перастаў есці, але яшчэ выпіў чарку віна, не закусвае, глядзіць у стол. От тут я перастаў ужо ўсіх іх у хаце разумець. І тады дзядзька Сцяпан узняў вочы ад стала на бабу Насту і кажа:

– А як дзеці звалі настаўніка?

Яна расплюшчыла вочы – быццам прачнулася:

– Здаецца, Анатоль... Анатоль... Па бацьку – не запомніла.

– Хведаравіч?

– Во-во, Хведаравіч.

Як баба Наста сказала “Хведаравіч”, дзядзька Восіп, бачу, уздрыгнуў плячыма, насцярожыўся. А дзядзька Сцяпан кажа:

– То я яго ведаю. На пенсіі ўжо, мусіць. Але, значыць, яшчэ працуе ў школе. У самай глыбінцы раёна. Гадоў пяць таму быў я далёка ў лесе, замяраў кубаметры. І наткнуўся на палатку... Ну, пазнаёміўся... Кухараў, настаўнік, летуе ў лесе... У яго і бутэлька гарэлкі ў палатцы была. Выпілі. Расказваў: год таму назад у гэтым лесе чалавек хацеў забіць падбітага жураўля, і вось таго чалавека самога забілі хлопцы з горада – з-за бідона самагонкі, і яшчэ казаў, што пойдзе на магілу таго чалавека, каторы поўз па лесе з ружжом, каб дабіць ім жа самім падбітага жураўля...

Дзядзька Сцяпан памаўчаў, потым ціха кажа:

– Во як бывае на свеце... Цётка Наста, ну і далей што было?

Яна зняла руку са спінкі ложка, склала далоні на каленях, пальцы рук яе, бачу, уздрыгваюць, кажа:

– Што было далей... Сціхлі ў двары. Чую, нехта з дзяцей, з дзяўчынак, гаворыць: а вунь пад страхою кветкі, трава сушацца...

# У нас

А гэта ж я зеллейка сабе назбірала, у пучкі павязала, развесіла пад страхой... Тады бразнула клямка ў дзвярах, і ўваходзіць настаўнік у хату. Пытаецца, як я тут адна жыву. Расказваю яму, што жыла тут некалі з бацькамі, а ў вайну ўжо адна была, старыя мае паўміралі; пасля вайны, кажу яму, выйшла замуж за Данілу, сталі жыць у горадзе, ды во, кажу, сын падправіў гэтую старую хаціну, а ўнука кожнае лета прашу прывезці сюды на які тыдзень, зелля назбіраць... зелле памагае мне жыць... І сказала яму пра тых бамжоў, дык настаўнік выйшаў з хаты ў двор да дзяцей, нешта сказаў ім. А тыя ж дзеткі і бягуць у хату... Бабулька, бабулька – да мяне, завуць у двор. Выходжу ў двор, дзеткі абкружылі мяне... Бабулька, бабулька, раскажыце, як вы тут жылі ў вайну... А настаўнік гэтак ціхенька кажа ім: не трывожце бабулю... Дзеткі паслухаліся яго, аціхлі. А потым занеслі ў хату дзве буханкі хлеба, з кілаграм цукру... Во, кажуць, пакуль за вамі прыедуць. Не трэба, кажу, дзетачкі, не трэба... А яны – не, бабулька, вы нас пакрыўдзіце... І гэтак прыгожанька па-нашаму гавораць, як і сам настаўнік... Я падзякавала ім, а яны хутка і пайшлі... настаўнік уперадзе, дзеці гуртом за ім... Пайшлі ў лес... бокам да рэчкі, праз лес... як і тыя... як іх?.. бамжы... Харошыя дзеткі, харошы настаўнік. Дай ім Бог усім здароўечка.

Калі баба Наста гаварыла, я не-не ды і пазіраў на дзядзьку Восіпа. Мне чамусьці карцела гэта рабіць – пазіраць на яго. Ён сядзіць за сталом вельмі сумны і ўсё глядзіць нерухома ў адну нейкую кропку на стале. А перастала баба Наста гаварыць і зноў заплюшчыла вочы, ён раптам рашуча ўстаў з-за стала і пайшоў з хаты ў сенцы, а з сенцаў, чутно было, – на двор. І мне стала цяпер шкада яго так, як ніколі да гэтага. Чаму ён выйшаў з хаты? Што мучыць яго? А дзядзька Сцяпан?.. Ён стаў у гэтай хаце нейкі як згібелы, але ўсё ж загаворвае з бабай Настай, раскатурхвае яе, і я адчуваю, што ён яе яшчэ патрывожыць сваім нейкім страшным пытаннем. І чаму яны, абодва дзядзькі, перахрысціліся ля старой бярозы? І чаму – паасобку, а не разам, не побач?.. Я адчуваў, быў упэўнены: адбудзецца нешта, калі не цяпер, вечарам, дык раніцай.

Але адбылося ноччу...

Баба Наста ўстае з ложка, падыходзіць да камінка, драцяным

пруцікам варушыць чырвонае вуголле, падграбае яго ў куточак. Вуголле даўно ўжо не палае, але ад яго яшчэ відна ў хаце, хоць па кутках – цёмна.

– Ну, людцы, будзем класціся. Ідзі, Сцяпанка, заві Восіпа.

Ды дзядзька Восіп сам прыйшоў у хату, кажа ад дзвярэй:

– На двары цёпла... Пераначую на двары.

– Яшчэ што, – кажа баба Наста. – Пад раніцу акалееш, Восіп. Во, я палезу на печ. Хлопец з кім – на ложку, а хто – на падлозе.

Яна сцягвае з чарэні доўгі жоўты кажух.

– Бяры, Восіп, кладзі кажух на падлогу. На печы яшчэ адзін такі... Гэта ж бацька мой некалі пры Польшчы ажно ў Моталь хадзіў па кажухі... Бяры, Восіп. А то ... на двары.

Дзядзька бярэ кажух, кладзе яго на падлогу ля ўслона. Кажух стары, але цэлы, ніводнай дзіркі.

А мяне здзівіла вось што: баба Наста неяк адчула, быццам угадала, што мне – лепей з дзядзькам Сцяпанам...

Дзядзька Сцяпан памог ёй ускараскацца на ўслончык і на печ. Я залез на ложак, да сцяны, дзядзька кладзецца побач, з краю – от мы ўсе і ўклаліся нанач. Вуголле на камінку амаль патухла, толькі ледзь іскрыцца. Гэтак жа ледзь іскрыцца і тая сіняя зорка за акном, далёка ў цёмным небе. Дык вось вуголле зусім патухла, у хаце чорна-чорна, і я заплюшчваю вочы, чую, як ціха стогне на печы баба Наста, і чую, як варочаецца з боку на бок на падлозе дзядзька Восіп. Мулка яму там. Дзядзька Сцяпан, здаецца, ужо спіць – дыхае роўна, глыбока. Кажу сабе: ну, спі ўжо, раненька ж падымацца, ужо ж, мусіць, за поўнач. Нават нацягваю коўдру на галаву – каб заснуць, але і праз коўдру чую, як кукарэкнуў, пакуль яшчэ нерашуча, на двары Пецька, за ім вохкнула курыца, мэкнула каза, гаўкнуў Дзік, толькі казёл маўчыць, і я падумаў пад коўдрай: мудрыя яны, гэтыя казлы, а наш – дык наймудрэйшы, ажно пеўня церпіць на спіне... А чаму ўсё-такі дзядзька Восіп уздрыгнуў плячыма, насцярожыўся, калі дзядзька Сцяпан успомніў прозвішча настаўніка? Кухараў? А той настаўнік нешта казаў вучням пра тую бярозу?.. І чаму, чаму дзядзькі перахрысціліся пад той старой бярозай, перахрысціліся паасобку?.. Нічога не ведаю і не разумею. Хоць і нарадзіўся я ноччу дваццаць

шостага красавіка восемдзесят шостага года, а – нічога не разумею. Ну і ты, ну і ты, кажу я сабе, ды тут жа няма чаго і разумець, усё ясна, во давай разбярэмся. Дзядзька Восіп уздрыгнуў плячыма, насцярожыўся, бо пачуў імя таго настаўніка. А той настаўнік, Кухараў, напэўна, пры сустрэчы сказаў дзядзьку Восіпу, сказаў, можа, так: вы, Іосіф Канстанцінавіч, дзецям сваім, вучням, здрадзілі... А ці мае настаўнік Кухараў права так казаць? Напэўна, мае. Дзеці яго любяць – гэта відаць са слоў бабы Насты. А майго дзядзьку вучні не любілі – за яго вечную паныласць, за яго нейкую бурклівасць падкалодную на ўроку, за тое, як ён моршчыўся. А калі вучні не любяць настаўніка, то і ўрокі яго, прадмет яго не любяць. Вой-вой, як мне шкада вас, дзядзька Восіп! Так шкада, што я гатоў вам далонню галаву пагладзіць, суцешыць вас. Спіце, дзядзька Восіп...

А хаджэнне дзядзькоў да бярозы? Думай, кажу сабе, думай... Гэта ж пэўна: во тут, у Кутнішчы, – казала ж Дуня, – пад той бярозай ускрай паляны, два маладыя мужчыны – бацькі маіх дзядзькоў, а гэта ж абодва мае дзяды, сашчапілі свае пальцы на глотках адзін у аднаго. А дзядзька Сцяпан аднойчы сказаў мне толькі во што: "Дзяды твае загінулі ў лесе. Загінулі ў сорак чацвёртым, на пачатку лета. Было ім па дваццаць сем гадоў. Тады мне і Восіпу было па пяць. Усё! Еш, і – спаць!" А цяпер сам дзядзька Сцяпан – спіць? Не, не спіць! Бо надта роўна дыхае. А я ж па начоўцы маёй у яго хаце ведаю: калі ён спіць, то крыху пасопвае. І ніхто тут гэтай ноччу не спіць. Дзядзька Восіп варочаецца з боку на бок у цемрыве на падлозе – там яму, хоць і на кажусе, мулка. Баба Наста паціху стогне на печы. А я во – думаю, і чую іх, і бачу, праз цёмнае акно, далёкую-далёкую сінюю зорку. І яшчэ – бачу Алесю ў інтэрнацкім калідоры, яна ідзе, стала там ля акна, глядзіць на ружовыя гронкі бэзу за акном, і каса ў яе на плечыку такая светлая, тугая, і вочы сінія-сінія, як гэтая зорка ў высокім небе...

Ніхто тут не спіць – бо гэтай ноччу тут нешта павінна здарыцца. І во яно – пачалося...

Печ ціха сказала:

– Сцяпан.

Ложак ля мяне спытаў у адказ:

– Што?

– Хлопец спіць?

Дзядзька Сцяпан слухае маё дыханне, шэпча:

– Васілёк.

Глыбока і роўна дыхаю, маўчу.

– Спіць.

І печ крыху гучней кажа:

– Восіп, спіш?

Дзіўна: баба Наста на печы перастала стагнаць. Пачынае гаварыць спакойна, толькі перарывае сваю ціхую гаворку кароткім маўчаннем, мусіць, каб аддыхацца – яна ж старэнькая, ёй цяжка гаварыць. Мне б трэба добра захінуць сваю галаву коўдрай, каб не чуць іх, бо гэта ж непрыгожа – падслухоўваць, ды яшчэ калі ўсе яны думаюць, што я сплю. Але я не варушуся, я проста не буду ўслухоўвацца, а калі адчую, што мне трэба будзе заткнуць вушы, што ж, заткну вушы пальцамі або схаваю галаву пад коўдрай. Я так быў задумаўся пра сябе, што і не чуў, як пачала гаварыць баба Наста далей.

– Скора памру ўжо... Дык цяпер во скажу вам... што бачыла, што чула тады... вы ж іхнія сыны, вам жа трэба хоць што ведаць... Першым у той дзень прыйшоў на хутар твой, Сцяпан, бацька. Можа, і не прыйшоў, а прыпоўз... Якраз паспелі вішні... ля самых вокнаў... Голле шкрабецца ў шыбіны... Чую ў хаце: не, не голле, нехта як пальцамі шкрабае па шыбіне... Гляджу: растапыраныя пальцы аслабела шкрабуць... Падыходжу да акна: стаіць на каленях твой, Сцяпан, бацька... Павал. Я ж пры паляках хадзіла ў мястэчка гуляць... то і Паўла бачыла, і Кастуся... твайго, Восіп, бачыла. Ай, скажу ўжо... праводзілі яны мяне дадому на хутар... то адзін, то другі... і былі пабіліся з-за мяне... Потым, дзякуй Богу, пажаніліся...

Тут дзядзька Сцяпан уздыхнуў, глыбока ўздыхнуў і ціха, каб не разбудзіць мяне, кажа:

– А каго вы, цётка Наста, з іх больш любілі?

Тут я хачу схаваць свае вушы пад коўдрай, ды баюся паварушыцца, ціха ляжу.

– Ай, Сцяпан, і прыйшло табе гэткае ў галаву... Восіп вунь маўчыць... Ай, скажу ўжо... Кастуся – больш... Дужа культурны

быў... Ён жа вучыўся ў польскай школе... Не хапаў мяне рукамі, як Павал... Ай, што пра тое ўспамінаць... Ну, дык во – акно адчыняю... Павал, кажу, ты? Шэпча: я, Наста... І не ўстае з каленяў, трымаецца адной рукой за сцяну... Другая рука ў яго вісіць... Без шапкі... Валасы ўскудлачаныя... І на ім кіцель нямецкі... Ну, партызаны ж часта ў нямецкае былі адзетыя... І той кіцель на плячы ў крыві...

Дзядзька Сцяпан падняў галаву з падушкі, сеў на ложку. А баба Наста працягвае:

– Перагінаюся праз падаконнік... бяру яго пад рукі, хачу падняць... а ён як застогне... Ды і не магла я падняць яго... Здаровы быў, хоць і кароткі... во як ты, Сцяпан...

Тут дзядзька ля мяне зноў глыбока ўздыхнуў і ўсё сядзіць, упёрся, чую, рукамі ў ложак.

– Паўлічак, кажу, што з табой?.. Паранены, кажа. А во, забылася сказаць: з самага рання грымела ад горада, чуліся выбухі... Але ж то *красныя* наступалі... Хто ж цябе, пытаюся, у лесе параніў? Паліцаі, кажа... Ішоў у разведку ў горад... А ля дарогі ў лесе стаялі паліцаі... І я, кажа, стаў, стаю, бачу калёсы з канём, ля калёсаў, кажа, стаіць Кастусь, твой бацька, Восіп... Кастусь, кажа Павал, ні ў партызанах не быў, ні ў паліцыі... Стаю, кажа, і думаю: чаго з імі Кастусь? А на калёсах жонка Кастусёва і сын маленькі... – баба Наста кашляе, потым пытаецца, – Ці помніш ты, Восіп, тое?

Дзядзька Восіп на падлозе ў цемры доўга маўчыць, потым ціха кажа:

– Помню.

Тады баба Наста з печы пытаецца:

– І Паўла бачыў? Помніш?

– Бачыў. Помню.

– А далей?

– Адзін паліцай стрэліў. Павал узяўся рукой за плячо. Упаў. У лесе раздаліся нейкія галасы. Паліцаі пабеглі ад дарогі ў лес, ад галасоў, у другі бок. Да калёс падышлі людзі ў пілотках. На пілотках – чырвоныя зоркі. Пагаварылі з маім бацькам і пайшлі. Бацька завярнуў каня. Мы паехалі назад у мястэчка... – Дзядзька Восіп на падлозе замоўк, потым глыбока ўздыхнуў і дадаў, –

Больш нічога не ведаю... Помню толькі бацьку ў труне і як закопвалі магілу...

І я чую: падымаецца дзядзька Восіп з падлогі, ідзе да дзвярэй. А баба Наста кажа з печы:

– Вярніся, Восіп... Скора ж я памру... Трэба ж, каб вы ведалі... хоць і горка тое ведаць...

Дзядзька Восіп, чую, сеў на падлогу, не кладзецца, сядзіць на кажусе. Баба Наста закашлялася, застагнала, гаворыць далей – ужо не ад імя Паўла, а пра яго.

Апрытомнеў Павел на зямлі, расплюшчыў вочы – ужо цёмна было, у лесе ціха, і ніякіх грымотаў ад горада, падпоўз на баку, на здаровай руцэ, да дрэва, учапіўся рукой за ствол, стаў на ногі... І ўсю ноч ішоў і поўз на мой хутар. Зацягнула яго па драбінах на гарышча, прамыла яму рану варам... А мазі ніякай няма... Дык я, мае дзеткі, усю ўжо праўду скажу, *абмачыла* ручнік, перавязала плячо... Рана не надта каб страшная была... Куля косці не зачапіла... А ад горада ўсё грыміць... Думаю: немцы будуць уцякаць дарогай, а тут блізка, чаго добрага папруцца на хутар... неяк сцягнула Паўла ўніз, завяла ў гушчэзны ельнік, за палянкай, за бярозай... Хто палезе ў той ельнік?.. Пад вечар бачу з хаты – нехта стаіць у двары... Гляджу – Кастусь... Стукаю ў шыбіну, махаю рукой – хадзі ў хату... Ідзе, зачапіў галавой аб касяк у дзвярах... Гэткі ўжо высокі быў... Во як ты, Восіп... – Дзядзька Восіп маўчыць на падлозе, з яго боку дыху не чуваць. – Ударыўся галавой і не мацюкнуўся нават... Гэткі ж культурны быў... Ну, заходзіць Кастусь у хату... А я вазьмі ды і скажы: Канстанцін, чаго ты сюды?.. Тут ён першы раз, колькі яго ведала, буркнуў: які я табе Канстанцін? Канстанты я... Ну хай сабе, кажу, Канстанты... усё роўна гэта ты... дык чаго ты сюды?.. У Польшчу, кажа, з'еду... Рускія ідуць, кажа, у Сібір пагоняць або расстраляюць... Ну я ж ведала, што ён з арміі ўцёк дамоў, як адступалі *красныя*... І Павал уцёк... Але ж Павал потым у партызаны пайшоў... Я і кажу Кастусю... Канстантаму... а чаго ж ты ў партызаны не пайшоў? А ён і кажа: чаго ж я за бальшавікамі пайду, калі яны брата майго, як прыйшлі Саветы, у Сібір пагналі і недзе там згнаілі, за што? За тое, кажа, што пры Польшчы жыў не бедна, можа і багата... бо млын вадзяны быў... во на гэтай жа




рэчцы... Пытаюся ў Кастуся: а жонка з дзіцем?.. Гэта – з табой, Восіп... А, кажа, забяру потым у Польшчу... Дык жа, кажу, Польшча будзе пад Саветамі... Во як блізка ўжо грыміць – чуеш?.. А палякі, кажа, не пусцяць, не захочуць... І пусцяць, кажу яму, і захочуць. Дзе яны дзенуцца?.. А ты ж, кажу, свой, беларус... які ты паляк? Каталік ты, а не паляк... А ён кажа: калі каталік, то і паляк. Ай, кажу, будзь ты хоць і чортам, але ж ты тут нарадзіўся, вырас, сын твой тут... Во тады ён маўчыць, сеў на лаўку, во там, дзе Восіп цяпер, галаву звесіў, слёзы, бачу, у вачах, ціха-ціха кажа: што ж рабіць, Наста?.. Не ведаю, кажу... Ідзі да Паўла, пагавары з ім, вы ж суседзі... і сябравалі... хоць і біліся з-за мяне... А дзе ён, пытаецца. Завяду, кажу. Ну, і завяла яго ў ельнік... Каб жа ведаць было, дзеткі, каб жа было ведаць, чым скончыцца тая іхняя стрэча... ніколі б не павяла Кастуся ў той ельнік...

Баба Наста на печы закашляла, а як перастала кашляць, то надоўга змоўкла. І тут я падумаў: так і не прыйшлося мне з галавой закрывацца коўдрай – заслухаўся я, забыўся пра сябе, а цяпер, як стала ціха ў хаце, то і трывожна мне зрабілася ад пачутага з печы, нават страшна. Што ж далей было там – у ельніку, пад бярозай?.. Гляджу ў цёмнае акно: той сіняй зоркі маёй ужо няма ў небе, знікла... Дзядзька Сцяпан устае з ложка, ідзе да дзвярэй, стаіць там, ідзе назад, так і ходзіць: туды-сюды, туды-сюды.. І дзядзька Восіп падняўся з падлогі, стаіць нерухома ля акна... Раптам – закукарэкаў певень у двары, натужна, хрыпла, як спрасоння, і за ім пайшло: вохкнула курыца, мэкнула каза, рассмяяўся казёл, забрахаў сабака. І зноў усюды ўсё сціхла. Толькі стогне на печы баба Наста, толькі тупча па хаце дзядзька Сцяпан, стаіць ля цёмнага акна дзядзька Восіп і, ведаю, нічога за акном не бачыць. Я слухаю цішыню – і нічога не чую...

І яшчэ праспяваў у двары певень – цяпер бадзёра, голасна, ажно рэха прайшло, праз сцяну ў хату, з глыбіні лесу: э-э-ку-у, э-э-ку-у... за вокнамі пасвятлела, і я ўжо бачу праз акно цёмны ствол дуба.

Нарэшце баба Наста зноў гаворыць з печы:

– Падвяла я Кастуся да Паўла. Той ляжыць пад елачкай на коўдры... Ляжыць Павал, глядзіць на Кастуся, на суседа свайго,

вачамі лыпае... Во, кажу, прывяла да цябе... пагавары з ім, а то ў Польшчу ўцякае, жонку і сына пакінуў. А тут недзе ўжо блізка як грымне, як грымне, мусіць снарад які... Павал галаву падняў з зямлі, абапёрся на здаровую руку, хоча сесці... Кастусь узяў яго пад спіну, дапамог... Сядзіць Павал, глядзіць у ельнік, слухае грымоту, ужо далёкую... Кастусь стаіць перад ім... І тады Павал кажа, ціха кажа: ідзі, Наста, дамоў... Ну, я і пайшла... А ўсё грыміць і грыміць – то блізка зусім, то далёка... Стала дома я хаваць тое-сёе, што можа патрапіць чужому воку... Ці немцы, ці *красныя* – нехта ж пройдзе праз хутар... Выйшла на двор, сяджу на лаўцы, слухаю – у ельніку ціха... А тут ізноў як грымне і зусім блізка, на дарозе. Над лесам там як чорная хмара паднялася. І гудуць, гудуць маторы, ляскае жалеззе... Прайшло, зноў ціха... І во, чую – галасы ў ельніку сталі гучныя... Перабіваюць адзін аднаго... Думаю, сварацца хлопцы, хоць бы не пабіліся... Бачу – выходзяць з лесу на паляну, першым ідзе Кастусь, за ім сунецца Павал, рука ў яго вісіць. Сталі пад бярозай, маўчаць... Потым – зноў гучна Павал мацюкаецца і во – адводзіць здаровую руку ўбок і так трымае яе, крычыць Кастусю ў твар: Юда ты! Юда! – і б'е кулаком Кастуся ў грудзі, той падае, а як падаў – ухапіўся рукамі за Паўлаву руку... за тую, што ўдарыла яго... пацягнуў за сабою... І во – абодва на зямлі... Бачу, сашчапіліся рукамі... Павал быў прастагнаў раз і больш – не. Бягу да бярозы... А яны ўжо ўчапіліся пальцамі ў глоткі адзін аднаму...

Баба Наста на печы змоўкла, доўга кашляе. У хаце ўжо зусім светла. Я пазіраю на адно паўвока. Дзядзька Сцяпан перастаў хадзіць па хаце, сеў за стол, наліў у чарку віна, выпіў адным дыхам, апусціў галаву над сталом. Дзядзька Восіп усё стаіць ля акна, глядзіць на двор і, ведаю, нічога там не бачыць. І мне раптам стала страшна ў гэтай хаце. Ведаю: во-во пачую тут самае жудаснае... Хачу скінуць з сябе коўдру, скочыць з ложка, выбегчы на двор – і не магу, быццам прыкуты я да ложка.

І баба Наста зноў гаворыць з печы:

– Учапіліся пальцамі ў глоткі адзін аднаму... Адрываю пальцы, а пальцы тыя скручаныя, як склешчаныя, не магу разагнуць... Плачу, крычу: хлопцы! Што вы робіце!.. А яны ўжо і раты разявілі, хапаюць паветра... Рву, рву іхнія пальцы – і не

магу... А ў іх ужо і вочы пад лоб, хрыпяць... З ратоў цячэ... І во – заціхлі...

Дзядзька Восіп ля акна крутнуўся на месцы, злоснымі вачыма глядзіць на печ, ступае да дзвярэй, бразгае клямкай, кідаецца ў сенцы, адтуль – на двор. Дзядзька Сцяпан п'е віно, як здурнелы глядзіць у стол. Я з галавой ахінаюся коўдрай, але і праз коўдру чую:

– Во ўжо і вочы сталі...

Раптам дзядзька Сцяпан б'е кулаком па стале, звініць на стале посуд, нешта падае на падлогу, разбіваецца з трэскам, брэша сабака ў двары пад акном, дзядзька крычыць:

– Цётка Наста! Хопіць!

Баба Наста на печы спакойна кажа:

– А ўжо ж і ўсё... Скора, Сцяпанка, памру... дык я хацела, каб вы...

– Не! Вы будзеце жыць да ста гадоў! А пакуль – хопіць! Цётка Наста!.. – дзядзька Сцяпан абмяк і ўжо спакойна кажа, – Прашу, цётка Наста...

У хаце сціхла. Адкідваю ўбок коўдру, саскокваю з ложка, бягу праз расчыненыя дзверы на двор – услед мне ніхто нічога не кажа... Бачу: за дубамі, понізу над берагам, над рэчкай – белы туман, і ў тумане, па пояс, стаіць чалавек – спіной да хутара, рукі апушчаны ў туман, – дзядзька Восіп...

Дзядзька Сцяпан выходзіць на ганак, нешта гаворыць мне, я не разабраў – што, ідзе сцежкай да рэчкі. Дзік быў пабег перад ім, дзядзька клікнуў яго, кіўнуў пальцам – назад, сабака толькі віскнуў, крутнуў хвастом, пабег назад, пад хату, накінуўся з брэхам на Пецьку, той узляцеў казлу на спіну.

Дзядзька Сцяпан ідзе да рэчкі. Дзядзька Восіп там, над белым туманам, азіраецца і выходзіць з туману – насустрач. Яны сыходзяцца на сцежцы, адзін перад адным, нешта гавораць, потым ідуць да бярозы, стаяць пад сухім нізкім веццем... І мне мроіцца: во-во яны сашчэпяцца рукамі, упадуць на зямлю і будуць сціскаць скручанымі пальцамі глоткі адзін аднаму, і будуць дрыжэць, і вочы іхнія закоцяцца пад лоб... Я адчайна махаю рукой – сам на сябе – як адганяю гэты страшны прывід... А яны апусцілі галовы долу, хрысцяцца... Ну і добра, ой як добра...

Потым яны ідуць да хаты бабы Насты. А яна ўжо стаіць на ганку – як чакае іх. Дзядзька Сцяпан здымае з крука пад страхой зялёнае пластмасавае вядзерца і доіць казу. Казёл стаіць побач, дыхае казе ў бок. Мусіць, сытыя – наеліся за ноч травы, надрамаліся... Дзіўна: чаму толькі цяпер я ўбачыў, што рожкі ў казы і казла загнутыя назад, а барodкі – уперад? От так – расту і во, раблю адкрыцці ў самым простым. Але чаму, чаму ўсё-такі рожкі – назад, а бародкі – уперад? І чаму казёл гэты белы, а каза чорная і малако ў яе белае?.. Вунь пад усёй страхой бабінай хаты вісяць пучкі розных траў і кветак. І – чаму гэтыя травы і кветкі здольныя лячыць чалавека?.. І чаму ў нашую рэчку па зямлі з берагоў сцякаюць і кроў, і хімікаты, і нейкія радыенукліды? Хто гэта ўсё і навошта робіць? Чорт ведае – хто і навошта... А, як кажа дзядзька Сцяпан, падрасцеш...

Снедаем на двары, на лаўцы. Я выпіў кубачак малака, дзядзькі малака не пілі – аддалі ўсё бабе Насце. Дзядзька Сцяпан кажа:

– Цётка Наста! Можа, пеўня пакінуць?.. А дзе гэта ён? Дзік!

Сабака падыходзіць, віляе хвастом, і дзядзька паказвае яму пальцам за хату. Дзік кідаецца за вугал і там, за хатай, брэша, выганяе адтуль Пецьку і курыцу.

– Не, – кажа баба Наста, – навошта яго пакідаць? Заўтра ж вечарам унук па мяне прыедзе, то і курыцу забяром...

Дзядзька Восіп сядзіць на лаўцы, глядзіць у траву. Тут, на двары, за ўсё ранне ён яшчэ ні слова не сказаў. І во – па яго маўклівасці, па дзядзькі Сцяпана пытанні пра пеўня, па супакоеным голасе бабы Насты, нават па тым, як Дзік выгнаў Пецьку з курыцай з-за вугла, і па гэтай цішыні пад дубамі і цішыні ў іх густым галлі – па ўсім мне тут раптам здалося, што ніякай трывожнай ночы ў хаце не было і ніхто нічога не гаварыў, ніхто нічога не чуў. Але я ведаю: была бяссонная ноч у хаце і быў я ў гэтай начы...

Ідзём сцежкаю да рэчкі. Дзік ужо там, на беразе. Ззаду, ад хаткі, чуецца:

– То Бог вам у помач!

– Дзякуем, цётка Наста! – адказвае дзядзька Сцяпан.

 





Я з казой іду наперад, за намі – казёл, за ім – дзядзька Восіп, і ззаду – дзядзька Сцяпан. Раптам дзядзька Сцяпан кажа:

– Стойце! – Мы ўсе сталі. – А Пецька дзе? Дзік!

Сабака ўмомант падбягае да дзядзькі Сцяпана. Той паказвае яму пальцам – назад, да хаткі. Дзік кідаецца да хаткі, выганяе адтуль пеўня, і Пецька ляціць, лопае крыламі, скача на спіну казла. І мы ўсе ідзём далей – на бераг...

...Лодка добра адпачыла за гэтую ноч і цяпер ідзе па рэчцы лёгка, нават імкліва. Заплюшчваю вочы і бачу: селі мы ўсе-ўсе ў адну лодку – дзяды мае, Павал і Кастусь, дзядзькі, баба Наста, баба Матруна, Алеся і Дуня Кучараўка, і той хлопец, якога я ўдарыў у калідоры інтэрната, і той невядомы мне настаўнік, якога дзядзька Сцяпан успомніў, і – сабака, певень, казёл, каза, і птушкі, што зляцелі ў лодку з дрэў, з кустоў, над рэчкай, і жабы, што скокнулі ў лодку з берага... І дзядзька Сцяпан моцна адштурхоўваецца шастом ада дна, дзядзька Восіп спрытна вяслуе, я стаю – не сяджу ўжо, а стаю – на перадзе лодкі і ўглядаюся далёка па рэчцы, а рэчка раствараецца ў небе за гарызонтам, і мне здаецца: лодка нашая плыве ўгору, і мы ў ёй плывём, плывём...

Расплюшчваю вочы – і дзіўлюся з самога сябе: не, у лодцы толькі мы, тыя самыя, і я не стаю, а сяджу...

Лес перад лодкай ад абодвух берагоў паволі расступаецца, адыходзіць дугой усё далей ад рэчкі і толькі далекавата зноў змыкаецца з берагамі. Над вадой ужо прапала кустоўе, берагі голыя, ні чарацінкі, ні аерынкі, не бялеюць гарлачыкі над шырокім лісцем, ды і лісце тое як патанула, нават раскі не відаць, і жабы не скачуць пад берагамі – нічога няма, пуста. Але самае дзіўнае для мяне, што рэчка раптам стала простая, як канава, і моцна звузілася – аж дзядзька Восіп чапляецца вёсламі за берагі, а берагі сталі пясчаныя, шэрыя, зусім голыя. Затое за берагамі, пад самы лес, удалечыні роўная прастора зелянее высокай густой травой.

– Сеянка, – кажа дзядзька Сцяпан, – калгасная... Тут было балота. Асушылі. Рэчку выпрасталі, канавай стала... Вада гніллю пахне. Але, даў Бог, трава бачыце якая, схавацца можна... А ну, Восіп, праверым яе!

Дзядзька Сцяпан прыпёр лодку шастом да берага. Дзядзька



 

Восіп ступае цераз борт на бераг, ідзе ў траву, нахіляецца там і кажа нам адтуль:

– Васемнаццаць мікрарэнтген.

– Што-о?! – крыкнуў дзядзька Сцяпан. – Што-о?! – Каб на іх, а каб на іх! Не можа быць! Правер яшчэ раз! Можа, твая тэхніка?!

Дзядзька Восіп спакойна нахіляецца зноў над высокай густой травой, потым выпростваецца, хавае дазіметр у кішэню, з хвіліну глядзіць кудысьці ўбок і ціха, ледзь чутна кажа:

– Дзевятнаццаць.

Дзядзька Сцяпан ужо маўчыць. Дзядзька Восіп ступае з берага ў лодку, сядае на сваю лаўку, бярэцца за вёслы, рыпяць уключыны, дзядзька Сцяпан рашуча, як са злосці, утыркае свой шост у бераг, потым у дно, плывём. У лодцы ціха, але – нядоўга. Мэкнула каза, за ёй – казёл.

– Есці хочуць, – ціха кажа дзядзька Сцяпан. – Калі б трава была здаровая, тут мы, вядома, не касілі б. Нельга. Грамадская трава. Але хоць бы каза з казлом наеліся.

Ён змаўкае, потым падымае галаву ўгору, глядзіць у неба, быццам бачыць там некага, і тым, каго ён там, у небе, бачыць, кажа:

– А каб на вас, а каб на вас!.. Малако адсюль пойдзе ў горад. Гараджане народ гэткі, што ўсё вып'юць... Во і ты, Васілёк, будзеш там у сваім інтэрнаце малачко з гэтых беражкоў піць, дзякаваць будзеш у сталоўцы. Эх, Васілёк, Васілёк, падрасцеш, падвучышся...

Дзядзька глядзіць на мяне, глядзіць, мне здаецца, доўга, і пра шост ён свой забыўся, і той вяла цягнецца ў вадзе за лодкай, мне ажно цяжка стала, цяжка недзе ўнутры мяне, але я не магу адвярнуцца ад яго вачэй, і ў іх я бачу слязу, слязу ў старых і добрых вачах, і ўжо чую, што недзе і ўва мне збіраецца, набліжаецца сляза, і тады я рашуча, гэтак жа рашуча, як дзядзька адштурхнуўся шастом ад берага, адварочваю галаву ўбок, за канаву, і далонню скідаю са шчакі тую слязу... І во чую за спіной бадзёры – ажно быў на нейкае імгненне не паверыў – голас дзядзькі Восіпа:

– Ну што вы, мужыкі! Плывем!

І дзядзька Сцяпан сказаў гэтак жа бадзёра:

– Плывем!

І я паварочваю галаву на іх галасы і кажу дзядзькам:

– Плывем!

Дзядзька Сцяпан бярэ ў рукі торбу, у ёй харч для нашых чацвераногіх матросаў і пеўня, дае казе, казлу і Пецьку хлеба, Дзіку – кавалачак мяса.

Паліць сонца, усім у лодцы млосна, скідаем з сябе кашулі, казёл і каза становяцца на пярэднія калені, звешваюць бародкі праз борт і п'юць ваду, і Дзік хоча глытнуць вады, але не дацягваецца да яе языком праз борт, тады дзядзька Сцяпан бярэ яго за каршэнь і апускае ў рэчку, сабака б'е лапамі па вадзе, фыркае, плыве пад самым бартом, ціха скуголіць і гаўкае – маўляў, што ж ты робіш, стары чорт, і дзядзька падымае яго назад у лодку. Дзік атрасаецца, абдае ўсіх пырскамі вады, і ўсім робіцца свяжэй. Пецька ўскоквае на самы вільчык лодкі, лопае крыллем, выцягвае шыю ўперад і ўгору і –кукарэкае, ды так, ажно рэха пайшло.

І што я тут бачу: дзядзька Восіп спадылба, як нясмела, быццам нечага ці некага саромеючыся, узяў ды ўсміхнуўся. Ніколі да гэтага я не ведаў, што ён можа так усміхацца! Тут, у лодцы, усмешка гэтая яго была такая прыязная, лагодная, што і я ўсміхнуўся – яму. Дзядзька Сцяпан убачыў маю ўсмешку, і спачатку здзіўлена глядзеў на мяне, потым, мусіць, усё зразумеў і – таксама ўсміхнуўся шырока і даўжэй, чым усміхаліся мы з дзядзькам Восіпам, усміхнуўся ў спіну свайго даўняга суседа, а жылі ж яны, ведаю, холадна між сабой, не сварыліся, але і не сябравалі, хаця дзядзька Сцяпан і намыкаўся зачапіць суседа добрым словам, чым калі дапамагчы па гаспадарцы, але той толькі моршчыўся, адварочваў галаву ўбок, зацята маўчаў.

І раптам я здагадаўся: нешта вельмі важнае сказала душы дзядзькі Восіпа ноч у Кутнішчы, у хатцы бабы Насты, потым – тая старая бяроза, пад якой яны ўдвух хрысціліся – кожны пасвойму... Ну, і яшчэ ж яны плывуць па рэчцы ў адной лодцы, а ў гэтай лодцы...

Гляджу ў неба: там плывуць белыя чыстыя аблокі, даганяюць адно аднаго, дакранаюцца мяккімі краямі, разлучаюцца, аддаляюцца

і зноў зближаюцца, цесна злучаюцца, становяцца адным шырокім воблакам, і скрозь гэтае воблака ідуць на зямлю, на рэчку, на нашую лодку цёплыя сонечныя промні. І мне так добра ў нашай лодцы, на нашай рэчцы – так-так, канава зноў стала рэчкай, і зноў да берагоў яе падышоў густы лес, высокімі соснамі, елкамі, старымі і маладымі бярозамі, крушыннікам, ажыннікам, кусцікамі багуну і ядлоўцу, а над вадой ціха шумяць лісцем алешнік, ракітнік, стаяць у вадзе чарот і белыя гарлачыкі.

– Прыстаем да берага! – кажа дзядзька Сцяпан і скіроўвае лодку ў зараснік чароту, да берага, між алешынамі.

Дзядзька Восіп ступае на зямлю, за ім – я з казой. Усе астатнія застаюцца ў лодцы. За прыбярэжным кустоўем, перад падлеснікам, – густая трава. Дзядзька нахіляецца над ёй, праз якую пару хвілін выпростваецца і кажа назад, на рэчку:

– Адзінаццаць!

Дзядзька Сцяпан адгукаецца з лодкі:

– То і добра! Але паглядзі, Восіп, ці расце што на палянцы.

Дзядзька Восіп, мусіць, ведае, дзе тая палянка, бо крочыць ад берага крыху правей. Каза ў ахвоту скубе траву, але я нацягваю вяроўчыну, вяду яе следам за дзядзькам, а каза ўсё парываецца скубянуць травы. Мы ж таму і ўзялі яе з сабой у лодку, што яна, можа, лепей за той дазіметр адчувае нутром, дзе трава здаровая, дзе – не. Калі што, дык пажуе, пажуе ды і выплюне. Адно што не скажа нам, колькі там, у траве, гэтых мікрарэнтген. Да таго ж, не ўсякую і здаровую траву козы любяць. Во я магу выцягнуць з чорнай мулі пры беразе аерыну, расхінуць ад кораня яе сцяблiну і са смакам з'есці белую сакаўную нутранасць. Але я не вазьму ў рот ніякага лісця з дрэва ці з куста, а каза мая ўжо напінае вяроўчыну, каб дастаць галінку крушыны. А пра лазовае лісце і не кажу. Ад альховага ж пысу адварочвае...

Ідзём праз гушчар. Ідзём нізінкай – тут мяккі жаўтаваты мох, купкі ядлоўцу, пахкага багуну, высокі дурнічнік з буйнымі зялёнымі ягадамі. Недзе на памежжы лета і восені прыйсці б сюды і пасмакаваць блакітных кісла-салодкіх ягад – гэтых дурніц. Хлопцы з інтэрната завуць іх яшчэ хто – лахачамі, хто – галубікай... Каза мая, як галодная, рве зубамі дурнічнік. Нацягваю вяроўчыну і амаль валаку яе ўслед, подбегам, за дзядзькам. Зноў

гушчар, і во – ступаем на палянку. І staім як утрапёныя, здзіўленыя: проста перад намі – людзі. Хлопцы і дзяўчынкі. Яны стаяць ля зялёнай палаткі і слухаюць, што ім кажа старараваты сівавалосы мужчына. Адной рукой ён абапіраецца на кіёк, другой паказвае кудысьці ў бок вялікай ракі. На ім белая кашуля і сінія порткі – трыко з белай палосачкай. Хлопцы і дзяўчаткі перад ім – у стракатым, рознакаляровым, лёгкім, па-спартыўнаму, па-паходнаму – адзенні. Чамусьці ўсе яны панурылі свае галовы, і ім, здаецца, не хочацца глядзець туды, куды паказвае рукой гэты чалавек, але слухаюць яго ўважліва. І раптам яны ўбачылі нас. Дзяўчаткі нават войкнулі ад нечаканасці. Чалавек глядзіць на дзядзьку Восіпа, потым прыветна ўсміхаецца і кажа:

– Здаровы былі, людцы добрыя! – і ступае колькі крокаў па траве ў наш бок, стаў, узіраецца ў майго дзядзьку і так здзіўлена, ціха кажа, – Іосіф Канстанцінавіч?..

Гляджу на дзядзьку. Каза тузае мяне за руку – усё памыкаецца ўбок, у траву, а трава тут, і на ўсёй гэтай прасторнай палянцы, густая, ядроная. Дзядзька глядзіць на чалавека спадылба і неяк насцярожліва, ціха адказвае:

– Так, Анатоль Хведаравіч... Добры дзень.

Чалавек абапіраецца на кіёк, пакульгвае, падыходзіць да нас, працягвае дзядзьку руку. Дзядзька совае дазіметр у кішэню, працягвае руку. Яны моўчкі стаяць – рука ў руцэ. Хлопцы і дзяўчаткі ля палаткі маўчаць, глядзяць сюды. І тут іхні Анатоль Хведаравіч кажа майму дзядзьку:

– Я ўжо два гады як на пенсіі. Але ж нудна аднаму ў хаце, дык узяў урокі ў восьмым класе... – Ён, бачу, моцна сціскае дзядзькаву далонь. – Даруйце, Іосіф Канстанцінавіч, што я тады ў горадзе абазваў вас манкуртам... З-за той гісторыі з таварыствам... – Яны разнялі рукі. – Мы ўсе ўжо становімся манкуртамі. Што зробіш, такі паганы час. Быў нядаўна ў Мінску, загаварыў у тралейбусе па-беларуску, дык збоку зашыпеў адзін: бэнээфавец. Я, кажу, не бэнэфавец, а беларус. А той зноў шыпіць... Дзякуй Богу, што ў гэтым лесе з дзецьмі можна і нагаварыцца, і нарадавацца адно аднаму... Во хацеў завесці свой клас у Чудзін, у Пярэвалкі, Рожан, паказаць ім сцежкі Сержпутоўскага, дзе збіраў ён казкі... А можа, і новае што запісаць... Як вы думаеце, Іосіф Канстанцінавіч, новыя казкі павінны быць?

Азваўся, нарэшце, і дзядзька Восіп:

– Павінны быць, Анатоль Хведаравіч.

– А як няма, то – будуць. Абавязкова будуць. І новыя песні людзі прыдумаюць. Адно што, можа, у новых песнях не ўспомняць пра Дунай-раку... Але і Прыпяць не памянуць.

– Народныя песні, – кажа дзядзька, – заўсёды самотныя.

– Бо – народныя.

Анатоль Хведаравіч уздыхнуў, азірнуўся назад:

– Ну, што вы там, дзеці, галовы павесілі? – Гэта ён сказаў нечакана бадзёра і засмяяўся.

І там, ля палаткі, дзеці ажывіліся, засмяяліся, дзяўчаткі, штурхаючыся, палезлі ў палатку, а хлопцы сталі барукацца, падаць у траву. Толькі адзін з іх, высокі, белавалосы, стаіць на месцы і глядзіць, глядзіць на мяне, на казу, потым ідзе сюды. І толькі тады, калі хлопец ішоў сюды, я апомніўся – гляджу: у руцэ маёй няма вяроўчыны, і каза ўбаку спакойна скубе траву. Дзядзька Восіп у гумовых ботах і Анатоль Хведаравіч у тапцях пайшлі праз лес да рэчкі. Хлопец падыходзіць да мяне і кажа:

– Здароў!

– Здароў! – кажу.

– Я – Віця.

– А я – Вася.

– Не бойся – не ўцячэ твая каза.

– А я і не баюся.

– А ўцячэ – зловім.

– Зловім, – кажу.

Мы з Віцем сядаем у траву. Вакол нас – роскід рамонкаў, на тонкіх і доўгіх сцяблінках, і нейкая трава прыемна і церпка пахне. Азіраюся, шукаю вачыма тую траву – бачу: пры самай зямлі кусцікі з ружавата-ліловымі кветкамі.

– Чабор, – кажа Віця. – Анатоль Хведаравіч паказвае нам лекавыя зёлкі. Панюхай.

Ён нахіляецца галавой долу, тое ж раблю і я. Упершыню бачу і нюхаю чабор. А песню пра чабор люблю. Яе спявае наш інтэрнатаўскі хор, і самы высокі, самы чысты голас у хоры – Алесін.

– А ўчора мы панюхалі ваўка...

– Ну-у! Жартуеш?

– Не-е! Ідзём падвечар па лесе. Бачым, сабака высокі шэры перад намі стаіць.Галаву падняў угору. Мы сталі. Настаўнік раптам сеў на зямлю. Паказаў нам рукой – таксама сесці. Мы селі. Сабака глядзіць на нас, мы – на яго. Сабака думаў-думаў, узяў ды і сам сеў перад намі. На заднія лапы. А потым пярэднія паклаў на зямлю. Бачым, заплюшчыў вочы, тады гыркнуў, уздыхнуў гэтак глыбока, устаў з зямлі, павярнуўся і пайшоў убок, у гушчар. Зад у яго быў зусім аблезлы. Настаўнік падняўся з зямлі, і мы ўсе падняліся. Ідзём – у другі бок. І настаўнік нам: воўк... А сёння раніцай нейкія двуногія ваўкі напалі на нашыя палаткі...

– Ну-у?

– Павёў настаўнік нас у лес – паказаць, дзе партызанскія бліндажы былі, і дуб там... Такі дуб... Мы, пяцёра хлопцаў, узяліся за рукі, дык ледзь абнялі той дуб... А вярнуліся ў палаткі, бачым – нехта нашыя рукзакі якія апустошыў, а якія і зусім забраў. Усе прадукты... Адну буханку хлеба пакінулі. Ды падраныя чаравікі... завязаныя вяровачкай... ля ўваходу ў палатку. А настаўнікавы чаравікі ўкралі... – Віця памаўчаў, уздыхнуў неяк па-даросламу. – Во як...

Я сказаў Віцю, хто іх абакраў.

– Мы, хлопцы, – кажа Віця, – кінуліся ў лес, без дазволу настаўніка. Хацелі дагнаць, знайсці злодзеяў. Нам крыўдна стала з-за чаравікаў. Шукалі, шукалі – нікога не знайшлі.

– Яны ідуць лесам блізка ад рэчкі, – кажу я, – не берагам, але блізка. Ідуць на Прыпяць. Можам дагнаць ля ракі.

– Давай!

Мы з Віцем і не заўважылі, калі да нас падышла дзяўчынка. Спачатку я ўбачыў у траве яе босыя загарэлыя ножкі, а падняў вочы – светлую квяцістую спаднічку, потым – чырвоную майку і чорную, па майцы, цераз плячо, касу, а пасля – тонкі, загарэлы тварык з чорнымі вачыма. Яна ўсміхнулася мне. І я чую, што вово і я ўсміхнуся ёй, але рашуча апускаю свае вочы долу – бо імгненна ўявіў сабе: недзе ў сваёй вёсцы стаіць ля плота Алеся з залацістай касой цераз плячо... Бачу, як гэтыя босыя загарэлыя ножкі адыходзяць.

Віця кажа:

– Наша чачэнка. Маці прывезла яе з Каўказа да сваіх бацькоў і сама некуды з'ехала, можа, зноў на Каўказ. Але ж там вайна... Чорт іх ведае, гэтых бабоў!

Я засмяяўся. Мне стала смешна не таму, што Віця сказаў "бабоў", а – што сказаў ён усё гэта вельмі сур'ёзна, ну як нейкі мужык.

– Не смейся, Вася. Ведаю я іх.

Мне стала яшчэ смяшней, і я ўжо рагачу на ўсю палянку, ажно дзяўчаткі павысоўвалі галовы з палаткі. Скрозь смех пытаюся:

– Колькі табе гадоў?

– А пятнаццаць. З дваццаць шостага красавіка пятнаццаты.

Умомант перастаю смяяцца – бо здзівіўся, нават нечага спалохаўся.

– З дваццаць шостага красавіка?

– Так.

Я падумаў: роўна на год старэйшы, але нічога не сказаў Віцю. Падымаю галаву з травы, гляджу, шукаю вачыма – чачэнкі нідзе няма, як растала, нават на аблокі глянуў – і там яе няма...

Ад рэчкі да палатак ідуць мае дзядзькі з косамі і торбамі і настаўнік, ён злёгку абапіраецца на кіёк – відаць, што па высокай траве яму ісці цяжкавата. Дзядзькі ўбаку ад палаткі ўтыркаюць косы – вострымі канцамі касільнаў – у зямлю, нясуць да палаткі торбы з ядой. Настаўнік ідзе ўслед за імі, апусціў галаву – выгляд у яго такі, што мне здаецца, быццам ён у нечым вінаваты перад маімі дзядзькамі і перад дзецьмі. Дзядзькі ставяць торбы ў траве, сядаюць ля іх, дастаюць яду. Дзядзька Сцяпан кажа:

– Ну, дзеці, хадзіце сюды, разам паабедаем. – Махае рукой нам з Віцем. – А вы там чаго схаваліся, як тыя змоўшчыкі? Хадзіце сюды!

Хлопцы і дзяўчаткі засаромеліся, не ідуць, толькі пераступаюць з нагі на нагу. І настаўнік іхні маўчыць. Але во і ён кажа:

– Падыходзьце, дзеці!

Першымі падыходзяць да маіх дзядзькоў і сядаюць вакол дзяўчаткі, за імі хлопцы. Потым ідзём туды і мы з Віцем. І во сядзім мы ўсе і ядзім.

Анатоль Хведаравіч глянуў на мяне і Віцю і кажа – быццам зразумеў нашу з Віцем змову:

– Хлопцы нашыя былі кінуліся па лесе, надумаліся дагнаць тых людзей.

Ён памаўчаў, абвёў усіх доўгім позіркам, потым кажа. – Не трэба... Тым людзям, мусіць, даўно ўжо няма дзе жыць і працаваць... Хай сабе ідуць туды, куды ідуць... Толькі адно дрэнна яны робяць – што не просяць, каб з імі падзяліліся, а бяруць... Ах, ну Бог з імі! Хай сабе ідуць.

Настаўнік абапіраецца на драўляны свой кіёк, устае з зямлі, кажа маім дзядзькам:

– Дзякуй вам, Сцяпан Паўлавіч і Іосіф Канстанцінавіч. А мы, дзеці, праз гадзіны дзве-тры будзем дома. Во нас добрыя людзі перавязуць лодкай на той бераг, а там блізка дарога, па ёй ходзіць аўтобус да горада. Ну, а там ужо і дадому.

Хлопцы і дзяўчаткі ўстаюць з зямлі, дзякуюць дзядзькам. Чачэнка спадылба глядзіць на мяне. Віця лёгенька штурхае мяне пад бок, шэпча:

– Вось табе і дагналі.

– Хай сабе ідуць, – шапчу я.

І тут раптам дзяўчаткі і хлопцы чамусьці дружна смяюцца. Азіраюся: а гэта ляціць наш казёл палянкай, між густой высокай травы, бяжыць следам за казой, і на спіне ў яго сядзіць сабе, як вершнік які, і сціскае кіпцюрамі, як шпорамі, бакі казлу жоўта-вогненны наш певень Пецька, і бяжыць за імі, падскоквае Дзік. Разам з дзецьмі смяецца і настаўнік іхні. Смяецца і дзядзька Сцяпан. Адно дзядзька Восіп нейкі сумны сядзіць на зямлі, глядзіць у траву. І тут я адчуў, што на палянцы ёсць яшчэ адзін чалавек з сумнымі вачыма, і я азірнуўся: гэта былі вочы дзяўчынкі-чачэнкі...

Перавозіў настаўніка і яго вучняў на той бераг спачатку дзядзька Восіп, але пасля другога заходу ён кіўнуў галавой дзядзьку Сцяпану, і той зрабіў трэці, апошні, рэйс. Я стаю на беразе і махаю ім, няўдалым вандроўнікам, рукой. Яны махаюць мне на развітанне, і даўжэй за ўсіх – Віця, чачэнка і іх настаўнік.

Анатоль Хведаравіч, ужо з таго берага, кажа нам сюды, на наш бераг:

– Вы ў гэтай сваёй лодцы – як у Ноевым каўчэгу! Плывіце!

Але пакуль што мы далей не плывём. На палянцы дзядзька Сцяпан дае мне маю лёгкую касу і кажа:

– На, Васіль, касі!

А сам стаіць і чакае, што я буду рабіць. Чакае і дзядзька Восіп, потым узмахвае касой і – жыг, жыг – пайшоў, пайшоў, за ім – шырокі пракос. Я стаю, трымаю левую руку ў версе касільна, правую – да дрыготкі ва ўсім сваім целе – на ручцы касільна. Размахваюся рукамі і адразу ўтыркаю дзюбу касы пад карэнне травы, у зямлю. Выцягваю касу, а дзядзька Сцяпан усміхаецца і кажа:

– Трымай касу лёгка, не напружвайся, пятку касы прыціскай злёгку, а дзюбку не апускай, каб не цалавалася з зямлёй.

І я пытаюся ў яго:

– Як так, каб не цалавалася?

– Падрасцеш, падвучышся, дык будзеш ведаць, што гэта такое – цалавацца.

– Ай, дзядзька, вы ўжо нешта не тое кажаце.

– Касі!

І я пайшоў і пайшоў – пятка касы ўпрыцірку з зямлёй, дзюбка касы – крыху паверху, і перада мной трава, высокая, ядроная. Азіраюся назад: за мной – пракос, хоць і нашмат вузейшы за пакосы дзядзькоў. Выціраю рукавом кашулі пот...

Потым дзядзька Сцяпан вучыць мяне мянташыць касу. Кажа:

– А кляпаць навучу дома ў двары.

...Трава на палянцы добрая, здаровая, але ж яе, накошанай, мала будзе. І мы плывём далей па рэчцы. Дні стаяць спякотныя, як будзем вяртацца, то перавернем тут траву, а праз колькі дзён прыплывём сюды і збяром сена ў капіцы, а недзе ў верасні лодкай ці канём – дзядзькі завязуць сена дамоў...

І во мы зноў плывём у лодцы нашай рэчкай, мы – трое людзей з хат, тры хатнія жывёліны і адна хатняя птушка, – плывём у бок вялікай ракі, якая ўпадае ў яшчэ большую раку, а тая рака ўпадае недзе далёка-далёка ў мора. Але ж нашая лодка вялікімі тымі рэкамі плысці не будзе – нам не будзе чаго рабіць на тых рэчках і на іх берагах. Мы плывём у сваёй невялікай лодцы нашай вузкай, нядоўгай рэчкай. На берагах яе і так ужо

столькі намі ўбачана, сустрэта, перадумана, адпакутавана. А колькі яшчэ ўсяго гэтага перад намі...

"Плывіце!" – хто гэта сказаў нам з таго берага?..

Плывём...

За палянкай, дзе мы касілі, нашая лодка ідзе міма другой невялічкай палянкі. Пасярод яе, на ўзгорку, з травы вытыркаецца чырвонае цаглінне разбітага падмурка. А ля самае вады – чырвоныя цагляныя слупы. Мы плывём міма. Дзядзька Восіп нізка апускае галаву, хрысціцца. Дзядзька Сцяпан глядзіць на той, другі бераг – быццам не бачыць. Здагадваюся: мы праплываем міма рэшткаў млына, гаспадар якога некалі знік у Сібіры...

Плывём...

Але калі я ўжо, нарэшце, падрасту, падвучуся і нешта зразумею? Хоць я і нарадзіўся дваццаць шостага красавіка ТАГО года, ды пакуль што нечага вялікага, значнага аніяк не зразумею...

Плывём...

*Жнівень – кастрычнік 1999 г.*
*Вярховічы – Быцень*

# Я маю твор...

*У адпаведнасці з рэзалюцыяй 30-й Генеральнай канферэнцыі ЮНЭСКА пра абвяшчэнне 21 сакавіка Сусветным днём паэзіі Сакратарыят ЮНЭСКА распрацаваў шэраг прапаноў па правядзенні мерапрыемстваў у адзначэнне гэтай даты. У іх ліку Міжнародны конкурс вершаваных твораў навучэнцаў пачатковай і сярэдняй школы, па выніках якога імёны пераможцаў будуць абвешчаны 21 сакавіка наступнага года ў Парыжы ў рамках святкавання Сусветнага дня паэзіі – 2001. У сваю чаргу, пераможцы па Беларусі будуць запрошаны Саюзам беларускіх пісьменнікаў да ўдзелу ў святочнай вечарыне, што будзе зладжаная ў 2001 годзе на Сусветны дзень паэзіі. Пераможцай стала Іра Голубева, сямікласніца Вілейскай СШ № 3. Яе верш мы вырашылі выдрукаваць у нашай сталай рубрыцы "Я маю твор..."*

## Іра Голубева

***

Пазелянелы патрон...
Вось ён –
на маёй далоні.
Колькі ж год ён праляжаў у зямлі!
Колькі бачыў ён!
Колькі памятае!
Але патрон не ўмее гаварыць –
ён маўчыць...
А каб мог, то, можа, расказаў бы
Пра атакі, пра кроў, пра смерць,
пра неверагодныя жахі вайны...
Пра мужнасць, пра моцнае сяброўства,
пра самаахвярнасць і моц народа!
А можа, ён, патрон,
не ўмее гаварыць толькі таму,
каб людзі забыліся слова "вайна"?
А можа, ён, патрон,
не ўмее гаварыць толькі таму,
што ўбачанае нельга ўмясціць у словы?
Дык чаму ж пазелянелы патрон
не ўмее,
не можа...
не хоча гаварыць?

# КАНФІГУРАЦЫЯ ГЛЕБЫ

Калі Апенінская паўвыспа, паводле агульнапрынятага меркавання, нагадвае даволі элегантны бот, дык яе суседка на захадзе, Пірэнейская, паводле меркавання Страбона, падобная да расцягнутай бычынай скуры. Я, на жаль, не адмысловец па скурах, мне асабіста абрысы Пірэнеяў на мапе нагадваюць груба зробленую галаву нейкае пачвары, што выгнула шыю тварам да Атлантыкі, а падбароддзем амаль уперлася ў гарачае цела Афрыкі. Шыю, зусім кароткую, перахопліваюць, нібыта жабо, снегавыя вяршыні Пірэнейскіх гор, гэтае жабо як бы адлучае Іспанію ад астатняе Еўропы, пераўтвараючы Іспанію ў асобны субкантынент. Адразу ж за жабо Пірэнеяў узнімаецца каўнер Іберыйскіх гор. На паўночным захадзе Пірэнеі ўпіраюцца ў ланцуг Кантабрыі, што цягнецца па ўсёй галійскай і біскайскай поўначы. На гарачым і сонечным поўдні, ад партугальскага ўзбярэжжа да Мурсіі, пралёг хрыбет Сьера-Марэна і як бы адсек поўдзень ад астатняе краіны, велізарную частку якой займае г.зв. Цэнтральная Кардыльера – невысокае плато, пляскаты аднастайны стэп, Месэта (*mesa* – стол). Такім чынам, маем амаль 600 км$^2$ камянёў, дзе-нідзе парослых лесам і маквісам (вечназялёным кустоўем, з якім мы звычайна атаясамліваем раскошу паўднёвых краін). Усё гэта каменнае багацце перасякаюць рэкі, пяць з іх – транснацыянальныя. Іхнія чужыя экзатычныя найменні гучаць для нас, як музыка: Таха, Дуэра, Эбра, Гвадалквівір, Гвадыяна. У нас: Дняпро, Дзвіна, Нёман, Прыпяць, Бярэзіна. Рэк нямала ў Іспаніі, але іхняя сетка не такая густая, як у нас. Што ж, поўдзень заўсёды багацейшы на сонца і пясок, поўнач – на ваду і лес. Дарэчы, паўднёвую частку Месэты займае

Ла-Манча, па якой славуты рыцар Дон Кіхот ("Пан Здыхляк") насіў свой сумны вобраз. Амаль з усіх бакоў, акрамя 500 км Пірэнейскіх гор, падзеленых з Францыяй, паўвыспу абмываюць Атлантычны акіян і ягонае дзіця – Міжземнае мора. У адрозненне ад Балканаў, тут вельмі мала зручных заліваў і няма таго мноства выспаў, што так густа раскіданыя па Эгейскім моры (калі глядзець на падрабязную мапу Элады, дык здаецца, што да іх трэба нават і не плыць, а проста пераскокваць з аднае на другую,як на нашых балотах – з купіны на купіну). Тут людзям адразу даводзілася мець справу з адкрытымі вадзянымі абшарамі. Акіян асабліва суровы на поўначы і на захадзе. Скажам, не самыя найлепшыя ўмовы гартавалі характар гэтага народа (але ж па ўсёй Зямлі не так ужо і шмат аранжарэйных мясцін). Камяні рабілі людзей цвёрдымі, пясок – сухімі, акіян – суровымі і адкрытымі, прасторы стэпу – меланхалічнымі, а сонца гарачыла ім кроў і надавала бляску.

Дарэчы, на цэнтральную частку і прыпадае Кастылія – адна з назваў Іспаніі, краіна цвержаў (*castello* – цвержа, адсюль наш касцёл).

## КРОЎ. АДРЭНАЛІН

Пяцьдзесят мільёнаў сэрцаў грукаюць на Пірэнеях. Пяцьдзесят мільёнаў сэрцаў гоняць кроў па венах. Сорак мільёнаў з іх належаць Іспаніі. Мы, адпаведна нашаму літаратурнаму ўяўленню, бачым паміж імі прагных канкістадораў, змрочных інквізітараў, палкіх Дон Кіхотаў, фатальных Кармэн, легкадумных Дон Жуанаў, фанатычных Лаёлаў, ганарлівых грандаў, вясёлых цыганоў, адчайных разбойнікаў, выхаваных кабальера, няўстрашлівых матадораў. Увесь гэты звяз характараў вырасціла, бясспрэчна, глеба, але нельга абысці і таго вялікага ўдзелу, што ў гэтым працэсе брала кроў, а правільней будзе сказаць – змешванне крыві, што якраз і надае тую колькасць адрэналіну, якая робіць тэмперамент іспанскім. Але любая гаворка пра кроў кранаецца ейных этнічных складнікаў, і тут ужо прыйдзецца адкласці падручнік геаграфіі і перайсці да падручніка гісторыі.

Калі верыць некаторым гісторыкам, дык іберыйскія народы з'явіліся на гэтай зямлі недзе 150 стагоддзяў таму. Яны і сталіся тым галоўным этнічным субстратам, у які апошнія 30 стагоддзяў

уліваліся іншыя складнікі, паступова змяняючы расавы і моўны абрысы краіны. Першымі з прыхадняў, здаецца, былі семіцкія плямёны фінікійцаў. Яны з'явіліся тут у XII ст. да н.э. і хутка сталі кантраляваць марское ўзбярэжжа. Гістарычна за фінікійцамі пачалі з'яўляцца эліны: спачатку як хаўруснікі фінікійцаў, а потым як канкурэнты. Затым быў *"Celtica furor"*. У X ст. індаеўрапейскія плямёны кельтаў падняліся з берагоў Дуная і пакрылі значную частку Еўропы, і ў VI ст. яны прыйшлі ў Іспанію. Там пасля кельцкае інвазіі скаліся тры групы плямёнаў: іберскія, кельта-іберскія, кельцкія. Тады ж, у VI ст., фінікійцам – карфагенянам, відаць, не без дапамогі кельтаў удалося перамагчы старадаўнюю дзяржаву іберaў – Тартэс, і на ўсю паўвыспу распаўсюдзілася гегемонія Карфагена. Але ў выніку трох г.зв. Пунічных войнаў кантроль над Іберыяй перайшоў да Рымскае дзяржавы. І ад канца III ст. да н.э. і да 419 года н.э. Іспанія знаходзілася ў арбіце *Pax Romana.*

Рымская заваёва кардынальным чынам адбілася на ўсіх баках жыцця краіны. Мусіць, адным з найважнейшых паказчыкаў з'яўляецца амаль суцэльная лацінізацыя: сваю мову захавалі толькі іберы-баскі на паўночным усходзе. У канцы IV ст. н.э. барбарскія плямёны канчаткова ўзламалі абарончую сістэму Рымскае імперыі, і тут пачалося. Не абмінула гэтая бяда і Іспанію: вандалы, вестготы, аланы, свэбы, візантыйцы. Вандалы і аланы зачапіліся за поўдзень і далі яму сваё імя: Андалусія. Свэбы аселі на паўночным захадзе, у Галісіі. Потым вандалаў і аланаў з поўдня выціснулі візантыйцы. Асноўная ж частка краіны дасталася вестготам. Ім удалося заваяваць Каралеўства свэбаў і нават адбіць у Візантыі поўдзень, але і гэтая дзяржава, дзе так і не атрымалася згладзіць супрацьлегласці паміж прыхаднямі і мясцовым насельніцтвам, у 711 – 718 гадах сталася ахвяраю араба-бярберскіх плямёнаў, што выступалі пад зялёным сцягам новае рэлігіі – ісламу. І толькі на паўночным захадзе, дзе прызвычаіліся да супраціву ўсім захопнікам, арабы атрымалі адпор. Адсюль і пачалася славутая вызваленчая Рэканкіста (літ. – адваяванне) 718 – 1492 гг. Менавіта з 718 г. вайна стала канстантаю і імператывам штодзённага жыцця. І ў гэтай вайне выпякалася і фармавалася іспанская нацыя. З аднаго боку – хрысціянская поўнач, лацінізаваныя іспанцы і баскі, з другога – мусульманскі поўдзень, куды час ад часу перасяляліся плямёны бярбераў і туарэгаў. У гэтай вайне найжывейшы ўдзел

то на адным, то на другім баку бралі габрэйскія абшчыны. Габрэі з'явіліся тут яшчэ ў часы Імперыі і жылі ў асноўным у гарадах. Па меры таго, як фронт адсоўваўся на поўдзень, частка насельніцтва эмігрыравала, а частка прымала хрост і пад імем марыскаў улівалася ў іспанскую нацыю. Вайна накладвала адбітак не толькі на этнас, але і на соцыум. Бадай, гэта адзіная краіна ў Еўропе, дзе можна было назіраць кранальную еднасць паміж уладаю, царквою і народам. Тут усе карысталіся значнымі прывілеямі, а ўсведамленне сябе як вольнае асобы надавала большую адказнасць учынкам. Іспанія не зазнала ні сялянскага прыгону, ні манархічнай тыраніі, акрамя, можа, тыраніі сардэчнай. Фанатычная адданасць духавенству, можа быць, і сталася адной з прычын пазнейшага заняпаду, і ў той жа час духавенства нямала здзейсніла ў кансервацыі шмат якіх рысаў нацыянальнага характару і найбольш актыўна супрацьдзейнічала ўладнай тыраніі.

Яшчэ адным складнікам іспанскае нацыі сталіся цыганы. Яны з'явіліся ў Іспаніі ўжо пасля Рэканкісты. Дарэчы, вобраз іспанскіх цыганоў настолькі маляўнічы, што для маладасведчаных сярод маіх знаёмых ён быў сімвалам іспанца. З такім жа поспехам і нашых цыганоў можна лічыць тыповымі прадстаўнікамі Палесся альбо Паазер'я.

Такім чынам, мы агледзелі збольшага этнічную гісторыю Іспаніі і ўбачылі, колькі народаў брала ўдзел у стварэнні нацыі, але гэта толькі часткова вытлумачвае такую з'яву, як Артэга-і-Гасэт. І тут, мне здаецца, зноў не абысціся без дапамогі Кіо. І няхай мне даруе або не даруе шаноўны рэдактар за тое, што я злоўжываю дадзенаю мне магчымасцю выказацца.

## ГАРЭННЕ

Пачатак Рэканкісты. Невялікія хрысціянскія каралеўствы стагоддзямі пядзя за пяддзю адваёўваюць краіну. Рашучы пералом наступіў у 1230 годзе, калі двум самым стойкім з іх – Леону і Кастыліі –сумесна з сіламі хаўруснікаў, Арагона, Навары і Партугаліі, удалося ў 1262 г. пад Талосаю нанесці рашучую паразу ісламскім войскам і вызваліць адразу большую частку краіны; у руках мусульманаў засталося толькі адносна невялікае каралеўства Гранадскі эмірат. З 1262 года скончыўся актыўны перыяд Рэканкісты, і з гэтага часу вайна набыла лакальны характар, а

цяжар яе лёг у асноўным на Кастылію. Праз дзвесце гадоў у вайне наступіў новы пералом. У 1479 годзе ў выніку дынастычнага шлюбу паміж каталіцкімі каралямі Ізабелай Кастыльскаю і Фернанда Арагонскім Кастылія і Арагон сталі адзінаю дзяржаваю, якая адразу ж увайшла ў лік буйнейшых у Еўропе. Прыкладна тады ж Іспанія атрымала першыя заморскія землі – Канарскія выспы. Але вялікія сілы вымагалі вялікіх дзеяў, і пасля кароткае вайны ў 1492 годзе сцяг з чырвоным Крыжам святога Яга залунаў над усімі гарадамі гранадскае Андалусіі. Гэтая падзея паставіла апошнюю кропку ў амаль васьмістагадовай Рэканкісце (718–1492) і зрабілася кропкаю адліку Канкісты (літ. – заваёвы). І ўвогуле 1492 год стаўся паваротным у іспанскай гісторыі. Была скончана Рэканкіста. Хрыстафор Калумб даплыў да Індыі – Амерыкі, і адбылося выгнанне габрэяў (некаторыя аўтары сцвярджаюць, што Іспанію пакінулі да 800 тысячаў габрэяў). Першая дзея прыбрала апошняга ворага на паўвыспе, і гэта развязала рукі ў Еўропе, другая прынесла новыя абшары і новыя магчымасці, а трэцяя яшчэ больш сцэментавала нацыю і прынесла казне маёмасць няшчасных выгнанцаў. Праўда, недзе з паўсотні тысяч габрэяў прынялі хрост і пад імем маранаў засталіся ў Іспаніі.

Усе тры падзеі зрабілі Іспанію найбуйнейшаю дзяржаваю Еўропы. Але гэта не магло задаволіць маладую нацыю, ваяўнічы дух якой, загартаваны за восем стагоддзяў бясконцай вайны, ірваўся вонкі і штурхаў да новае велічы. І ўжо ў 1494 годзе каталіцкія каралі ўвязаліся ў вайну з Францыяй за гегемонію ў Італіі. Пасля смерці караля Фернанда ў 1516 г. вайну працягваў ягоны ўнук Карлас Першы, а пасля яго – Філіп Першы, Габсбургі. Філіп І скончыў яе ў 1559 г. поўнаю паразаю Францыі. Большая частка Італіі ўвайшла ў склад іспанскае дзяржавы, а над астатняю часткай Іспанія ўстанавіла поўны кантроль. Разгром Францыі і гегемонія над Італіяй зрабілі Іспанію гаспадыняй Еўропы. А ў 1516 годзе адбылася змена дынастыі – на трон заступіў Карл Першы, унук караля Фернанда, гаспадар Нідэрландаў і Франціі-Кантэ. Праз два гады ён пад імем Карла V быў абраны на трон Свяшчэннае Рымскае Імперыі. Гэта адразу паставіла яго ў чацвёрку самых магутных манархаў свету: Асманскі султан у Турцыі, Вялікі Магол у Індыі, Сын Неба ў Кітаі. Менавіта за часамі Карласа І былі ў Амерыцы заваяваныя дзяржавы ацтэкаў, інкаў і чыбча-

муіскаў (гэтыя акцыі проста казачна ўзбагацілі імперыю). Але ваяўнічы дух і рэлігійны фанатызм падштурхнулі ўрад і нацыю да новых подзвігаў: у 1535 годзе быў заваяваны Туніс, хаця спроба ў 1541 годзе заваяваць Алжыр скончылася няўдачай. Апантаны ідэяй каталіцкае імперыі, манарх умяшаўся ў рэлігійныя войны нямецкіх каталіцкіх і пратэстанцкіх князёў у 1546 годзе на баку першых. Аднак вайну ён прайграў і ў 1552 годзе заключыў мір. Усё гэта падарвала сілы караля, і ў 1556 годзе ён выракся трона на карысць свайго сына, Філіпа Другога Габсбурга, а праз два гады памёр. Філіп завяршыў войны з Францыяй у 1559 годзе, задушыў паўстанне марыскаў у 1568 – 1570 гг.

Неўзабаве Філіп II ваяваў з туркамі, і ў 1571 годзе іспанска-венецыянскі флот, пад кіраўніцтвам знакамітага Дона Хуана, перамог турэцкі ў бітве пры Лепанта. У 1580 годзе Філіп заваяваў Партугалію, але пры ім, у 1567 г., пачалося паўстанне ў Нідэрландах. Нідэрланды давалі казне падаткаў болей, чым усё амерыканскае золата. У 1581 годзе Філіп II памёр і яму наследаваў Філіп III, які працягваў палітыку сваіх папярэднікаў. Вырашыўшы пакараць Англію за падтрымку нідэрландскіх паўстанцаў, ён паслаў г.зв. Непераможную Армаду да ейных берагоў, але бура і англійскія караблі знішчылі палову Армады, і гэта канчаткова падарвала марскую магутнасць Іспаніі. А галандскія паўстанцы наносілі паразу за паразаю іспанскім войскам, і ў 1609 годзе Філіп III заключыў з імі перамір'е. У тым жа годзе марыскі падвергліся выгнанню, гэта нанесла непапраўны ўрон эканоміцы Іспаніі, асабліва яе паўднёвым рэгіёнам. У 1619 годзе вайна ў Нідэрландах узнавілася, але ўжо як агульнаеўрапейская, г.зв. Трыццацігадовая вайна. У выніку гэтай вайны Іспанія страціла не толькі Галандыю і Партугалію, але і гегемонію ў Еўропе. Гэта адбылося ўжо пры Філіпе IV, а пры Карласе II Іспанія пачала ператварацца ў другарадную еўрапейскую дзяржаву. У 1700 годзе іспанскія Габсбургі вымерлі, на трон заступілі Бурбоны. У выніку г.зв. Вайны за іспанскую спадчыну Іспанія страціла ўсе свае еўрапейскія ўладанні, акрамя самой Іспаніі. З краінаю проста перасталі лічыцца. Дайшло да таго, што ў 1807 годзе яна была акупіраваная войскамі Напалеона. Гэта была ганьба, бо з дня заснавання яшчэ ні разу да гэтага боты варожых войскаў не грукацелі па вуліцах Мадрыда (1479–1807). Праўда, у Еўропе ніхто і не чакаў значнага супраціву,

быццам ганьбаванне іспанцаў было нечым звычайным, але здарылася нечаканае: ганьбы не сцярпеў народ, палыхнула герылья – партызанка. Народ Іспаніі быццам прачнуўся і ўсвядоміў сваю годнасць. Але годнасць адчулі і народы па другі бок Атлантычнага акіяна, у Іспанскай або Лацінскай Амерыцы. Вызваленчыя войны пачаліся ў 1810 годзе і скончыліся ў 1822 г. стварэннем дзесятка незалежных дзяржаў. Самая вялікая каланіяльная імперыя тых часоў перастала існаваць, у руках Іспаніі засталіся толькі некаторыя тэрыторыі ў Афрыцы і Акіяніі, Філіпіны ў Азіі, Куба і Порта-Рыка ў Амерыцы. Іспаніі было вельмі цяжка пагадзіцца са стратаю калоніяў, і яна ўвязалася ў патройную (Англія, Іспанія, Францыя) агрэсію супраць Мексікі – і пацярпела паразу. З такім жа поспехам для яе скончылася Ціхаакіянская вайна супраць Балівіі, Перу, Чылі, Эквадора. Самую ж Іспанію пачало трэсці ад рэвалюцый. За XIX стагоддзе іх адбылося ажно шэсць. Праўда, дзякуй Богу, ні адна з іх не мела агульнанацыянальнага характару, затое дзве грамадзянскія, г.зв. Карліцкія войны, страсянулі грамадства ад верху да нізу. Усё гэта адбывалася на фоне эканамічнага, культурнага і сацыяльнага застою.

Іспанія безнадзейна плялася ў хвасце тагачаснай Еўропы. Заняпад быў настолькі глыбокі, што Іспанія ўжо не мела моцы ўтрымаць нават рэшткі сваіх калоній. З паўстаннем на Кубе (1868–1878) яшчэ неяк справіліся, а вось другое паўстанне напрыканцы стагоддзя – на Кубе, Філіпінах, у Порта-Рыка – сталася для Іспаніі сапраўднай нацыянальнай ганьбай і катастрофаю. Паўстанцы наносілі ўрадавым войскам паразу за паразай, а ў 1898 годзе да вайны далучыліся ЗША, якія змусілі капітуляваць іспанскія войскі. Іспанія падпісала ганебную мірную дамову, а яе ўладанні патрапілі ў рукі ЗША. Рэха гарматаў гэтай вайны ацверазіла іспанскае грамадства і нарадзіла патрыятычны рух, скіраваны не столькі на адраджэнне іспанскай гегемоніі, колькі на развой усёй нацыі (а не толькі буржуазіі, прафесуры ды ліберальнае арыстакратыі). Гэты рух атрымаў назву "генерацыі 99 года". Артэга-і-Гасэт быў сярод малодшых прадстаўнікоў руху. Да гэтай генерацыі належалі такія славутасці, як М. дэ Унамуна, Р.Валье-Інклан, А.Мачада, П.Бароха. Адною з крыніц, адкуль гэты рух браў сваю моц, была эпоха іспанскай велічы і бляску. Яна была зусім кароткаю – усяго якіх дзвесце гадоў (ад Фернанда з Ізабелай да Карласа II), але што

гэта была за эпоха! Шчодра лілася кроў, пісаліся вялікія кнігі і карціны, людзі надрываліся, ставячы вялікія мэты, і ніхто тады не хацеў думаць, што адбывалася грандыёзная растрата сіл, людзей і сродкаў – сваіх і чужых. Адзін пералік славутых іспанскіх імёнаў заняў бы не адну старонку гэтага тэксту: ваяры, тэолагі, паэты, мастакі, заваёўнікі акіянаў і новых земляў.

Эпоха была бліскучай, імёны – гучнымі, справы – вялікімі, мэты – высокімі. Згадаем хаця б Карласа І (ён жа Карл V), які імкнуўся да стварэння агульнаеўрапейскай каталіцкай імперыі, што прывяло да катастрофы 1588 года – пагібелі Непераможнае Армады. Можна пералічыць шмат прычынаў пазнейшага заняпаду нацыі: бясконцыя войны, лютаванне інквізіцыі, выгнанне марыскаў, адток значных людскіх рэзерваў да калоній, дармовае амерыканскае золата. Усе яны важкія і значныя, але, мусіць, найгалоўнейшым будзе тое, што іспанцы захацелі і сталі вялікімі і трымаліся амаль 200 гадоў, пакуль грандыёзнае напружанне канчаткова іх не знясіліла, а працяглае гарэнне не выпаліла дашчэнту. І потым ужо заняпад быў поўны. Амаль 150 гадоў у Еўропе не гучыць новых іспанскіх імёнаў, хіба акрамя Ф.Гойі. Хоць і ў той час пісаліся кнігі і маляваліся карціны, але гэта былі толькі аскепкі былое славы, якія не абуджалі думак, не хвалявалі сэрцаў. І толькі напрыканцы XIX ст. – ізноў новы росквіт як водгук таго, што было ў вялікую эпоху вялікіх людзей вялікае краіны...

І тут я ўжо не змог утрымацца ад аналогіяў у гісторыі. Крызіс іспанскае дзяржавы прыпадае на канец XVI ст., якраз прыкладна на тыя часы, калі крызісам было ахоплена Вялікае княства Літоўскае. Страта еўрапейскай значнасці прыйшлася на эпоху г.зв. Трыццацігадовае вайны. На Беларусі гэтая вайна была названая “крывавым патопам”. Пасля яе заняпад Рэчы Паспалітай быў ужо няўхільны, і напрыканцы XVIII ст. яна страціла незалежнасць – вобразна кажучы, была расклявана трыма арламі-суседзямі: Расіяй, Аўстрыяй, Прусіяй. Іспанія з буйных суседзяў мела толькі Францыю: праглынуць даволі вялікую краіну ў адзіночку было для Францыі не па сілах...

Можна было б гаварыць яшчэ, але я, здаецца, ужо вычарпаў, калі не перавысіў, ліміт паперы і цярпенне чытачоў, і няхай хто іншы раскажа яшчэ пра якія варункі, звязаныя з тэматам пана Хасэ Артэгі-і-Гасэта.

**Сяргей ВЕРАЦІЛА**

# Пра Яго

Хасэ Артэга-і-Гасэт нарадзіўся ў 1883 годзе ў сям'і патомных інтэлігентаў. Ён скончыў езуіцкі каледж і ў пятнаццаць гадоў паступіў у Мадрыдскі універсітэт, які пакінуў у 1904 г., атрымаўшы там ступень доктара. Пазней (1905—1907) Артэга вучыўся ў Германіі (Берлін, Лейпцыг, Марбург).

Па вяртанні з Нямеччыны Артэга актыўна далучыўся да грамадска-культурнай дзейнасці іспанскіх інтэлектуалаў знакамітага "пакалення 98-і". Ён удзельнічаў у стварэнні штотыднёвікаў *"Faro"* і *"Espaba"*, заснаваў штогадовік *"El Espectador"*, у якім і сам шмат друкаваўся. У 1923 годзе Артэга стварыў часопіс *"Revista de Occidente"*, сама назва якога — "Заходні часопіс" — казала пра арыентацыю выдання. Часопіс стаўся адным з цэнтраў інтэлектуальнага жыцця Іспаніі. Гэтаксама называлася і выдавецтва, дзе друкаваліся кнігі Артэгі ды іншых філосафаў, а таксама пераклады найбольш вядомых еўрапейскіх мысляроў XX стагоддзя (О.Шпенглера, Э.Гусерля, М.Шэлера, М.Хайдэгера і інш.).

Тым часам Артэга шмат друкаваўся ў газетах. У гэтым сэнсе ён тыповы прадстаўнік іспанамоўнай філасофіі, для якой "значнасць мысляра вызначаецца тым, наколькі яго ідэі выйшлі за межы акадэмічнай аўдыторыі" (Хасэ Гаас).

Публічныя выступы Артэгі заўсёды выклікалі вялікую цікавасць як падчас *тэртуліяў* (сумоўе сяброў ці знаўцаў нейкай праблемы), так і ў шырокай аўдыторыі.

Артэга досыць хутка зрабіўся вядомым філосафам, што дазволіла яму ў дваццаць сем гадоў узначаліць кафедру метафізікі Мадрыдскага універсітэта (1910 г.). Вакол Артэгі згуртаваліся знаныя ў іспанамоўным свеце філосафы, прафесары Г.Марэнце, Х.Гаас, Х.Субры ды інш.

У першай сур'ёзнай працы Артэгі "Размовы пра Дон Кіхота" было сфармулявана яго асноўнае філасофскае ды, бадай, і жыццёвае крэда: "Я ёсць Я і мае абставіны".

А "абставіны" першай чвэрці XX стагоддзя ў Іспаніі былі надзвычай складанымі. "Цяжка ўявіць сабе чалавечы кангламерат, які ў меншай ступені быў бы грамадствам", — пісаў Артэга, маючы на ўвазе, што дзяржава (парламент, урад, школы, універсітэты) не тоесніліся з народам, у выніку чаго існавалі "дзве Іспаніі, якія жылі разам, але былі зусім чужымі паміж сабой".

Артэга сфармуляваў ідэю дзейнага патрыятызму, звернутага не да вялікага прамінулага, а да будучага, у якой гучалі "крытыка краіны бацькоў і стварэнне айчыны дзяцей". У гэтай сувязі Артэга распачаў палеміку з прадстаўнікамі "пакалення 98-і", і ў прыватнасці з Унамуна, які сцвярджаў, быццам Іспанія мусіць культываваць тыя каштоўнасці, што ў мінулым прынеслі ёй веліч і гонар, а менавіта: мудрасць, містыцызм, рэлігійнасць, дабрыню...

Артэга рашуча не пагаджаўся з Унамуна, у 1910 годзе ён пісаў: "Еўропа, стомленая ў Францыі, вычварная ў Германіі, саслабелая ў Англіі, атрымае новую маладосць пад магутнымі промнямі сонца нашай зямлі. Іспанія — гэта магчымасць Еўропы. Толькі ўбачаная вачыма Еўропы, магчымая Іспанія".

У 20—30-я гады ў Іспаніі разгарнулася барацьба за вызваленне ад манархіі. У лютым 1931 года ў прэсе з'явіўся Маніфест, падпісаны Артэгам, Мараньёнам і Перэсам дэ Айялай, у якім яны заклікалі іспанскую інтэлігенцыю стварыць "Саюз на службе Рэспублікі". Калі кароль Альфонс XIII пакінуў Іспанію, Артэга быў абраны дэпутатам картэса. Але пакрысе Артэга расчараваўся ў рэальнай палітыцы, што было падкрэслена яго знакамітымі словамі: "Гэта не тое".

18 ліпеня 1936 года ў Іспаніі распачалася грамадзянская вайна. Артэга не падтрымліваў ніводзін з супрацьлеглых бакоў, таму пакінуў Бацькаўшчыну і адплыў у Францыю.

На тую пару Артэга ўжо быў вядомым еўрапейскім філосафам, але сур'ёзных прапаноў працы ў Парыжы ён не атрымаў. Таму пасля нядоўгага перабывання ў Галандыі, дзе ён тры месяцы чытаў лекцыі, Артэга з сям'ёй пераехаў у Партугалію (тады ў яго ўжо было трое дзяцей).

У 1939 годзе Артэга выправіўся ў Лацінскую Амерыку, дзе друкаваў артыкулы і выступаў з лекцыямі. Але ён быў занадта еўрапейцам, каб надоўга заставацца з лацінаамерыканцамі, таму ў 1942 годзе Артэга пераехаў назад у Партугалію, а ў 1945 годзе вярнуўся на Радзіму.

Рэжым Франка спрабаваў прыўлашчыць знакамітага

 





філосафа, але Артэга адмовіўся ад кафедры і не надрукаваў ніводнага артыкула ў дзяржаўнай прэсе.

У апошнія гады свайго жыцця Артэга шмат вандраваў: ЗША, Англія, Германія, — але заўсёды вяртаўся ў Іспанію.

Памёр Хасэ Артэга-і-Гасэт у кастрычніку 1955 г. Інструкцыя Міністэрства інфармацыі франкісцкага рэжыму дазволіла газетам змясціць фотаздымак пасмяротнай маскі філосафа, але забараніла друкаваць яго партрэт.

Інтэлектуальная творчасць Артэгі істотна паўплывала на развой іспанскай філасофскай думкі. Ён актыўна ўдзельнічаў у стварэнні паняткавага апарату, здольнага адлюстраваць ідэалагемную праблематыку XX стагоддзя, шукаў (і знаходзіў) у роднай мове словы, адэкватныя крытэрыям сучаснага мыслення, актуалізаваў у іспанамоўным дыскурсе найноўшыя здабыткі еўрапейскай філасофіі. Найбольшую вядомасць набылі наступныя працы Артэгі: “Дэгуманізацыя мастацтва” (1925), “Чалавек і людзі” (1927), “Што такое філасофія”, “Паўстанне масаў” (1929). Апошняя з пералічаных вышэй працаў сталася самай папулярнай, бо па-публіцыстычнаму ярка сфармулявала праблему паўстання масавай свядомасці як агрэсіўна дамінуючага фактара сучаснай цывілізацыі. Натуральна, Артэга рашуча не прымаў такога тыпу цывілізацыі, паколькі прадстаўнік “масавай свядомасці” — гэта чалавек, не здатны інтэрпрэтаваць Універсум як цэлае і з гэтага пазбаўлены ўласнага “праекта жыцця”. А наяўнасць апошняга была надзвычай істотнай для Артэгі, які яшчэ ў маладосці адмовіўся ад філасофскага ідэалізму і перадусім трымаўся ідэі “жыццёвага розуму”, які здзяйсняе сябе як рэальны праект рэальнага быцця.

**Падрыхтаваў Валянцін АКУДОВІЧ**

# *ДЗЕЦЯМ ІСПАНІІ*

**Б**удучыня Іспаніі поўнасцю залежыць ад вас, іспанскіх дзяцей. І ад вас, дзеці Іспаніі, цалкам залежыць, ці навучыцеся вы адной рэчы. Ведаеце, якой? Таго, чаму вы мусіце навучыцца ды няўхільна развіваць у сабе, дзеці Іспаніі, у вялікай ступені не ставала нашым бацькам і нашым дзядам. Ведаеце, што



 

гэта? О, гэтая рэч можа падацца вельмі простай. Гэта здольнасць разбірацца ў людзях.

Вам вядома, што праз практыку і трэніроўку чалавеку ўдаецца неймаверна ўдасканаліць сваю здольнасць да разрозніваньня. Мастак набывае здольнасць заўважаць розніцу ў колерах, якія для іншых падаюцца аднолькавымі. Музыка адрозніваае найменшае несупадзенне ў гучанні. Для віннага дэгустатара, якім быў, напрыклад, бацька Санча-Пансы, не існуе аднолькавых він. Слова *sabio* ("вучоны") спачатку абазначала чалавека, які адрозніваае смакі.

А жыццё грамадства і, пагатоў, цэлага народа залежыць ад здольнасці людзей добра разбірацца ў людзях і ніколі не блытаць дурня з разумным, дабрадзея – са злыднем.

Глядзіце: у той час, калі я пішу гэта, у Іспаніі, на жаль, зусім мала разумных людзей з чыстым сумленнем. Толькі незаплямленыя, духоўна глыбокія ды высакародныя людзі могуць прынесці дабро Радзіме. Але ніхто не хоча прыслухацца да іхняга голасу. Чаму?

Таму што іспанцы, нашы суграмадзяне, не здольныя разбірацца ў людзях і, магчыма ад чыстага сэрца, вераць у разумнасць найвялікшых невукаў, у дабрадзейнасць найвялікшых крывадушнікаў. Вы ўжо ведаеце, што ёсць хворыя на зрок людзі, якім блакітныя прадметы бачацца шэрымі. Нешта падобнае здарылася сёння з іспанцамі: у пытанні выбару людзей з намі адбываецца штосьці нядобрае. Разумнымі лічацца пыхлівыя балбатуны, што завуцца "палітыкамі". Добрым паэтам, добрым раманістам, добрым прафесарам лічыцца той, хто скажа больш банальнасцей, хто лепш падлісліваць публіцы, паўтараючы глупствы, аб якіх яна ведала і за дваццаць гадоў да таго.

І пры гэтым імёны найлепшых, тых, хто сапраўды нечага варты, амаль невядомыя, на іх ніхто не звяртае ўвагі, а часам з імі вядзецца татальнае змаганне.

Бачыце, як важна, каб вы, пасталеўшы, маглі тонка разбірацца ў тым, што ёсць сапраўднае, а што – фальшывае?

З гэтай нагоды я параіў бы вам, між іншым, прытрымлівацца некаторых правілаў, або крытэрыяў...

Ніколі не звяртайце ўвагі на меркаванне людзей. Людзі – гэта натоўп, што вас акружае дома, у школе, ва універсітэце, у сяброўскім коле, у парламенце, у суполцы, у газетах. Паглядзіце пільна – і вы заўважыце, што людзі ніколі не ведаюць, чаму яны кажуць тое, што кажуць, яны не могуць падмацаваць свайго меркавання і робяць высновы адчуваючы, а не разважаючы.

Другое правіла вынікае з першага. Не дазваляйце сабе пераймаць чужы пункт гледжання. Уцякайце ад пераймання́ў. Сэрца, якое разважае, адчувае і кахае пераймаючы, – нікчэмнае сэрца, у яго няма сваёй моцы.

Калі пра кагосьці кажуць, што ён ёсць сапраўдным маральным ды інтэлектуальным сімвалам, то гэта значыць, што ў сваіх пачуццях і разважаннях ён узняўся па-над вульгарнымі пачуццямі і думкамі. Таму гэтага чалавека цяжэй зразумець, бо тое, што ён кажа ці робіць, пярэчыць прынятым нормам. Цяпер мы ведаем, што самае каштоўнае напачатку здаецца нам дзіўным, складаным, незвычайным і нават раздражняльным.

Калі ў барацьбе за ідэі або пачуцці вы ўбачыце, што з аднаго боку змагаецца шмат людзей, а з другога – зусім мала, шукайце праўды ў гэтых апошніх. Заўсёды высакародна дапамагайце тым, каго меней, у іх барацьбе супраць тых, каго болей.

# *КАСМАПАЛІТЫЗМ*

Краявід пасляваеннай гісторыі характарызуецца, сярод іншага, усё больш заўважальным сутыкненнем дзвюх з'яў, чыё вызначэнне робіцца лягчэйшым менавіта пры іх супрацьстаянні. Адной з іх з'яўляецца ***інтэрнацыяналізм***, прадстаўлены *Супольнасцю Нацый*, другой – ***касмапалітызм*** пэўных інтэлектуальных меншасцей.

*Супольнасць Нацый* мела велізарны патэнцыял для таго, каб ператварыцца ў сапраўды ўплывовы

фактар еўрапейскага жыцця. Яна была надзелена неабсяжнымі эканамічнымі рэсурсамі; яе стварэнне было шырока разрэкламаванае; у кожнай краіне за ёю стаялі арганізаваныя палітычныя групоўкі, што падтрымлівалі ідэю яе ўтварэння. Аднак *Супольнасць Нацый* не здолела заняць якога-кольвек значнага месца ў гістарычнай рэчаіснасці. Гэты штучны фантом чакае лёс вечнае здані. Яна не ёсць тою сілаю, якая адметным чынам можа паўплываць на хаду сусветнага прагрэсу. Прынамсі – нас цяпер цікавіць толькі адноснае вымярэнне гэтае з'явы – існуе аграмадны разрыў паміж падуладнымі ёй сродкамі і рэальным станам рэчаў. Інтэрнацыяналізм, які яна мелася ўсталяваць, не пасунуўся ні на крок уперад. Сёння дзяржавы нашмат больш нацыяналістычныя і меней інтэрнацыяналістычныя, чымся ў 1919 г.

З другога боку, пачынаючы з 1920 года без будзь-якой прапановы ці прагалошання праграмы, без усялякіх урачыстасцей ці хаця б спробы прапагандавання ідэі, абсалютна без нейкага апарату ці механізму стварэння, мы раптам сутыкаемся з тым фактам, што найлепшыя прадстаўнікі інтэлектуальнае эліты Еўропы і Амерыкі немаведама як злучыліся ў атмасферы цеснага супрацоўніцтва. Цяжка сказаць, што з'яўляецца больш дзіўным – хуткасць ці спантаннасць таго, што адбылося.

У кожнай краіне жывуць колькі дзесяткаў людзей, якія адчуваюць сябе больш блізкімі па духу да жыхароў іншых дзяржаў, чым да рэшты сваіх суайчыннікаў. Цалкам інстынктыўна яны ўвесь час, нібы прыслухоўваючыся, уяўляюць тое, што робяць ці кажуць тыя далёкія сэрцы. Нават болей: праз дзіўную тэлепатыю, якая вынікае з гармоніі, што існуе паміж іх душамі, яны прадчуваюць думкі род随насных розумаў.

З Іспаніі мы маглі выразна назіраць за разгортваннем гэтай з'явы. Каб нейкі нямецкі пісьменнік прыслухоўваўся да сваіх калег з Англіі ці Францыі або наадварот, то гэта магло б быць патлумачана звычайнай цікаўнасцю ці, прынамсі, натуральным прэстыжам пераможцы ў вачах пераможанага або няскорлівай ахвяры – у вачах пераможцы. Але тое, што людзі з найдапытлівейшым мозгам, якія жывуць у гэтых вялікіх краінах, цікавяцца намі, насельнікамі палітычна закінутай краіны Іспаніі, нашай працай і нашымі маральнымі якасцямі, ёсць неаспрэчным

сімптомам пачатку паступовага трыумфу высакароднасці. Падобны факт быў неўяўляльны для другой паловы XIX ст. Мысліцель з пэўнай краіны прымаў у разлік меркаванне толькі сваіх калег з краін, якія мелі б больш ці менш роўную колькасць салдат ды банкаў. Гэта абазначала, што зацікаўленне нечым чужым не было спантанным, не з'яўлялася першапачатковай неабходнасцю для чалавека літаратуры ці навукі. Тады ён імкнуўся да нацыянальнай самаізаляцыі, і інтэлектуальнае жыццё працякала ў напрамку ўласнае нацыі, г. зн. творца быў павернуты тварам да масаў, а не да сваіх замежных роўняў, клапаціўся пра тых, хто стаяў ніжэй за яго, а не пра сабе падобных. Не ставала таго натуральнага і, разам з тым, адметнага памкнення да роўнага ці вышэйшага стану духу, пра які я і павяду гаворку.

Сапраўды, *на працягу апошніх пяцідзесяці гадоў мінулага стагоддзя еўрапейскае інтэлектуальнае жыццё было такім разрозненым, як ніколі ад самага свайго ўзнікнення*. І гэта разрозненасць не была вынікам выпадковага атамізму ці адасаблення. Яна, безумоўна, мела пэўную форму: то была *нацыяналізацыя інтэлектуальнага тыпу чалавека*. Адасобленасці поўнасцю ўнікнулі толькі тыя, хто займаўся ці захапляўся вельмі спецыфічнымі навукамі, якія не дазвалялі зачыніцца ў сваёй краіне. Скажам, апалагеты новай вышэйшай матэматыкі – жменя людзей, раскіданая па планеце, – былі злучаныя ў адмысловую супольнасць, нагэтулькі вузкую ды нешматлікую, што яна набыла ледзь не сямейныя рысы, у ёй былі пяшчота і хатняя ўтульнасць. У эксперыментальных навуках вучоныя, мусячы браць пад улік тутэйшыя ды тамтэйшыя адкрыцці, знаёміліся з сусветнымі здабыткамі, але толькі ў выпадку найпільнай патрэбы. Яны чыталі навуковыя зацемкі і паведамленні з лабараторый, але не паглыбляліся ў ход разважанняў аўтараў ды не цікавіліся імі як асобамі. У астатніх навуках і амаль ува ўсім мастацтве не існавала ніякіх стасункаў і амаль не заводзілася знаёмстваў.

У 1907 годзе – магу сцвярджаць гэта хіба што з маленечкай памылкай у часе, у Нямеччыне не было ніводнага філосафа, прынамсі сярод найвыбітнейшых, які б чытаў Бергсана. Мне так і не давялося змусіць вялікага Германа Коэна прачытаць яго творы, хоць яны і належалі да аднаго народа.

Розніца паміж прыведзенымі фактамі і сённяшняй сітуацыяй нагэтулькі вялікая, што здаецца неверагодным, як магло ўсё змяніцца за такі кароткі перыяд часу.

На сёння многія нямецкія ды англійскія навукоўцы падтрымліваюць больш цесныя стасункі з калегамі з Іспаніі ды Амерыкі, чым з народнымі масамі сваёй краіны. І гэта не абыякія людзі. Калі запытаць шарагоўцаў, хто ёсць найсвятлейшымі галовамі іхніх краін, яны назавуць менавіта гэтых асоб, прызнаючы іх сваімі выбітнасцямі. Аднак калі адказ будзе шчыры, людзі дададуць, што не адчуваюць іхняе блізкасці да сябе.

Гэтая з'ява ў паскораным рытме пашыраецца паўсюдна. *Інтэлектуальны касмапалітызм* замацоўваецца ў кантраст абвалу ідэі *палітычнага інтэрнацыяналізму*. Я не буду закранаць тэму апошняга, мяне больш цікавіць тое, каб глыбей разгледзець феномен першага.

Напачатку варта было б адзначыць: касмапалітамі з'яўляюцца не ўсе інтэлектуалы, а толькі найлепшыя з дадзенае генерацыі, тыя, хто зараз стаіць у авангардзе творчага жыцця. Карацей, гэта самая выбраная меншасць. Некаторых людзей звыш меры раздражняюць размовы пра выбарнасць – мажліва таму, што іх непадкупнае нутро крычыць ім, што яны не будуць уключаныя ў лік выбраных на пазітыўнай аснове. Адсюль ім на руку каламучанне вады, у якой не будзе выразна відаць, каго ж вызначаюць тэрмінам "выбраная меншасць".

Выбраныя меншасці нікім не *абіраюцца*. З той простай прычыны, што прыналежнасць да іх не з'яўляецца нейкай прэміяй ці сінекурай, якою надзяляецца асоба, а наадварот, гэта ўскладанне на сябе большага цяжару адказнасці. Выбраны выбірае сябе сам, вымагаючы ад сваёй асобы болей за іншых. То бок гаворка ідзе аб прывілеі на боль і высілкі. Выбраным ёсць той, хто, знаходзячыся на досыць высокім узроўні дасканаласці і патрабавальнасці, імкнецца да яшчэ вышэйшых патрабаванняў і дасканаласцей. Гэта чалавек, для якога жыццё – бясконцая *трэніроўка*; як я ўжо адзначаў у сваіх нядаўніх выступах, гэтае слова з'яўляецца дакладным адпаведнікам тэрміна грэцкага паходжання *"аскетызм"*. (*Аскетызм, аскесіс* –лад жыцця, якога прытрымліваўся аскет, жыцця, напоўненага няспыннымі

практыкаваннямі і пазбаўленага многіх радасцей дзеля падтрымання *формы*. Гэтае чыста спартыўнае слова было пазней перанятае мніхамі ды пустэльнікамі і пачало азначаць дыету рэлігійнага чалавека, які вырашыў утрымліваць сябе ў стане набліжанасці да Бога, г. зн. у *форме*, дзеля таго каб здабыць ласку Госпада.)

Любую рэч можна зрабіць толькі трыма наступнымі спосабамі: горш, гэтак жа або лепей за тое, як зазвычай робіцца. І тры гэтыя спосабы аўтаматычным чынам вызначаюць выбранасць сярод людзей. Сама наша прырода няўхільна прымушае нас выбіраць паміж тым або іншым. Ёсць людзі, якія не ўважаюць сваё існаванне за жыццё, калі яно не характарызуецца максімальным выкарыстаннем яго магчымасцей. Такія людзі прагнуць толькі небяспекі ды складанасцей. Існаванне не мае для іх сэнсу, калі яно не з'яўляецца ўздымам ад менш да больш дасканалага. І таму яны не прымаюць падпарадкавання. Уладарны тэмперамент пaглядае на ўсё зверху: яму падабаецца глядзець на ніжэйшых, на тых, хто знаходзіцца долу. А вось выбраны тэмперамент не атрымлівае асалоды ад дамінавання. Валоданне чымсьці азначае, у рэшце рэшт, стасункі з ніжэйшымі, а яму, наадварот, трэба пастаянна ўсмоктваць найвышэйшае. Прынамсі, ён жадае знаходзіцца сярод роўных. Урэшце, не роўны нам, што не знаходзіцца пад нашым панаваннем, можа ў любы момант перасягнуць нас, тым самым выклікаючы нас на спаборніцтва.

З гэтай прычыны касмапаліты ад культуры пачуваюцца адасобленымі ад духоўнага суіснавання з масамі сваёй нацыі, бо падсвядома прагнуць кантактаў з роўнымі або лепшымі за сябе ва ўсім астатнім свеце. Ім патрэбны гэты ціск зверху, гэтае пакліканне да вышэйшага. Са свайго боку, маса, схільная да інерцыі, адчуваючы памкненне сваіх духоўных лідэраў да ўцёкаў, іх нястрымную цягу да дасканаласці, пачынае непакоіцца, нервавацца і лічыць за лепшае забыцца на таго, хто не клапоціцца пра яе, хаця б нават дзеля панавання над ёю.

Сталася так, што сёння мы стаім перад фактам дзіўнага падзелу грамадства: масы пачынаюць жыць самі па сабе, эліты таксама, і паміж імі няма ані ўзаемаабмену, ані ўзаемаўплыву. У мінулым стагоддзі сітуацыя была супрацьлеглай: эліта працавала дзеля мас (напрыклад, літаратура пераважна прызначалася народу,

таму кнігі мелі велізарныя наклады), масы ж горача любілі сваю эліту. Але гэта – нацыяналістычная еднасць інтэлігенцыі і мас, уласцівая для мінулага стагоддзя, – не была нармальнай хадою гістарычнага развою, хутчэй гэта была з'ява ненармальная і пераходная. Эліце, каб быць самой сабою і выконваць сваю місію, якая, у прынцыпе, заўсёды ідзе на карысць масам, трэба не хаўрусавацца з масамі, а адсланяцца ад іх.

На працягу амаль усіх вякоў зведанай гісторыі структура грамадства заўсёды складвалася з дзвюх сумежных фармацый, у адной з якіх жыла эліта (па сваіх нормах, завядзёнках ды на ўласны густ), а ў другой – асноўная маса, чыё існаванне таксама было абумоўлена пэўнымі законамі. Камунікаванне паміж імі звычайна не было наўпроставым і, што асабліва адметна, не палягала на тым, каб *адны жылі дзеля другіх ці побач з імі*.

Зліццё гэтых фармацый пачынае адбывацца толькі ў тыя эпохі, падчас якіх нормавызначальныя прынцыпы не ствараюцца, а проста распаўсюджваюцца і ўкараняюцца. Гэтак апошняе стагоддзе вызначылася дамінаваннем палітыкі – распаўсюднікам нормаў культуры – ды тэхнікі, якая ўводзіць у жыццё навуковыя законы.

Новая салідарнасць аскетаў – касмапалітызм найлепшых – як бы выпадкова супала з часам, калі прынцыпы традыцыйнай культуры страцілі сваю эфектыўнасць і таму тэрмінова трэба было стварыць новыя. Але гэтае супадзенне з'яўляецца надзвычай своечасовым, каб быць зусім выпадковым.

Разгледзім уплыў сучаснай кан'юнктуры на дзейнасць інтэлектуалаў. Ранейшыя нормавызначальныя прынцыпы хоць якога тыпу – у навуцы, мастацтве, палітыцы – на сённяшні дзень ужо нядзейсныя. Што гэта значыць? Калі прынцып не пазбаўлены гістарычнай дзейснасці, ён існуе як аб'ектыўны закон, як надіндывідуальнае апірышча, дзе кожны знаходзіць сваё трывалае месца. Тады, шчыра альбо з прытворства, усе людзі прымаюць існуючы парадак і намагаюцца прыстасавацца да яго. Гэта робіць магчымым беспраблемнае суіснаванне і зносіны розных фармацыяў. Але калі нейкая норма марнее – знікае той надіндывідуальны лад, тая трываласць, на якую можна было абаперціся кожнаму. Скрозь узнікаюць праблемы. Плебеі, пачуваючыся вызваленымі ад нормы, якая заўсёды была для іх нясцерпным цяжарам, разнявольваюць сваё прыроднае і бясплённае дзікунства. З гэтага эліце не застаецца

нічога, як гуртавацца вакол самой сябе і пачынаць жыць паводле таго парадку, што ў яе застаўся і які самаадвольна вынікае з яе ўласнай індывідуальнасці. Не могучы дапасавацца да адсутнай знешняй нормы, эліта імкнецца прыслухоўвацца да патрабаванняў, якія ёй дыктуе собскае нутро. Падлеглая адно гэтым патрабаванням, яна і працуе на цяжкай ніве вынаходніцтва новых прынцыпаў, маўкліва ствараючы аснову будучага сусветнага парадку.

Ва ўмовах нестабільнай кан'юнктуры была б бессэнсоўнай усялякая спроба прапаганды і навязвання іншым яшчэ не сфармуляваных законаў. З гэтае прычыны выбраная меншасць перапыняе стасункі з масамі і адмаўляецца ад павучанняў, празелітызму, марнага змагання. Уся энергія ідзе на далікатны працэс творчасці. Адкінуўшы ілюзорную магчымасць дасягнуць таго, каб змусіць прагныя масы весці суворы аскетычны лад жыцця, якога прытрымліваюцца выбраныя, апошнія павярнуліся тварам да роўных сабе, да тых, хто, гэтак жа дабрахоць, жыве па правілах асабістай унутранай дысцыпліны. Гэтыя стасункі з людзьмі, надзеленымі такім самым альбо большым дынамічным патэнцыялам, дае ім мажлівасць параўнання сваіх дасягненняў і падтрымання нутраной творчай напругі. Вакол жа, для прыкладу, – лямант і віскат парыжскай літаратурнай моладзі або невуцтва журналістаў, якія замяняюць арыгінальнасць ды дакладнасць мыслення на літаратурнае брыканне, знявагі і цкаванне натоўпу на вытанчаную творчасць. Але нават калі сітуацыя разгортваецца не гэтак брутальна, то ўсё роўна застаюцца легкадумнасць, фрывольнасць, піруэты перасмешніка на подзе неверагоднай неадукаванасці. Абраныя ж жывуць сваім лучным жыццём, павярнуўшыся да ўсяго гэтага спінаю, нават не нервуючыся, – і ўсё ад усведамлення таго, што шаленства ёсць натуральнай рэакцыяй мас на знішчэнне нормаў. Яны спакойна чакаюць, абстрагаваўшыся ў засалоджанні ўласнай працай, ведаючы, што "*la foule, quand elle aura, en tous les sens de la fureur, exaspere sa mediocrite, sans jamais revenir a autre chose qu'a du neant central, burlera vers la poete, un appel**" (Малармэ).

Гэткая, на першы погляд пыхлівая, пазіцыя эліты ёсць не чым іншым, як пошукам адпаведнага сабе месца ў свеце. Гонар быў у мінулым, калі эліта намагалася кіраваць масамі ды прагнула таго, каб зрабіць чалавецтва шчаслівым.

Гэтакім чынам, мы падышлі да самага галоўнага, да самай вызначальнай рысы найноўшага касмапалітызму інтэлектуалаў. А менавіта – да радыкальнай змены іхняй місіі, якая ўважалася за імі на працягу апошніх двух стагоддзяў. Эліта не павінна прагнуць улады, уплыву ці ратавання людства. Не ў гэтай ролі яна будзе найбольш карыснай для чалавецтва. Лёсавызначальная роля яе ў руху не наперад, да авангарда грамадства, дзе знаходзяцца палітыкі, вайскоўцы, святары, а наадварот – у патаемнасць, прыцемкі, у засень сацыяльнай іерархіі. Інтэлектуалы – самая далікатная з'ява Сусвету – залішне нешматлікія ў сваёй колькасці, каб варочаць гіганцкае кола гісторыі. Таму няма і патрэбы імкнуцца да гэтага. Інтэлектуалам адваяваць уласную годнасць можна толькі пры ўмове ўсведамлення сваёй абранасці і сваёй ахвярнасці, сваёй жыццядайнасці і сваёй нішчымнасці. Тады мы і здабудзем новы плён.

---

*** Натоўп, калі ён ва ўсіх праявах лютасці перабольшыць сваю пасрэднасць, заўсёды вяртаецца да татальнага "нішто".**

# *ПРА ТРАМВАЙ І ЭСТЭТЫКУ*

**П**расіць іспанца, каб ён, увайшоўшы ў трамвай, не кідаў свайго спрактыкаванага позірку на жанчын, што там едуць, значыць патрабаваць немагчымага. Справа вядзецца пра адну з самых укарэненых і характэрных звычак нашага народа. Іншаземцам і некаторым з суайчыннікаў падаецца абсалютна заганным гэты настойлівы і ледзь не тактыльны спосаб сузірання жанчыны іспанцамі. Я адзін з такіх: мяне літаральна вароціць ад гэтага. Аднак я мяркую, што калі адкінуць настойлівасць, нахабства і юрлівасць гэтай звычкі, яна магла б лічыцца адной з самых арыгінальных, прыгожых і ўзвышаных рысаў нашае нацыі. З гэтай праявай іспанскай пасрэднасці

адбываецца тое ж, што і з іншымі: у сваёй знешняй абалонцы – чыстыя, грубыя, не змененыя і не адшліфаваныя адначасова, яны выглядаюць па-варварску. Але калі іх пазбавіць плямаў, адмежаваўшы вытанчанае ад непачцівага, узмацніўшы іх шляхетнасць, яны б утварылі сабою найарыгінальную сістэму паводзін, якая магла б супернічаць з тымі стылямі руху ў прасторы, якія завуцца *gentleman* або *homme de bonne compagnie.* Дзеячы мастацтва, паэты, свецкія людзі менавіта і займаюцца тым, што выкарыстоўваюць напрацаваны матэрыял шматвяковых звычак, ачышчаючы яго ў творчых лабараторыях. Гэтак зрабіў Веласкес, і няхай панства будзе пэўнае: зачараванне ягонымі творамі з боку іншых народаў не ў малой ступені вызначаецца ўдалай стылізацыяй, што зрафінавала ягоную іспанскую жэстыкуляцыю. Герман Коэн казаў мне, што заўсёды выкарыстоўваў сваё знаходжанне ў Парыжы дзеля таго, каб пайсці ў сінагогу і пасузіраць там жэсты габрэяў, выхадцаў з Іспаніі.

Але зараз я не збіраюся адкрываць прыхаванага шляхетнага сэнсу непрыхаваных позіркаў, якія кідае іспанец на жанчыну. Хаця гэта цікавая праблема, прынамсі для *“El Espectador-а”* [1], што колькі гадоў знаходзіўся пад уплывам Платона, настаўніка навукі назірання. Аднак цяпер мой намер зусім іншы. Сёння я сеў у трамвай і з тае прычыны, што нішто іспанскае не з’яўляецца чужым для мяне, пачаў глядзець наўкола вышэйзгаданым позіркам. Я намагаўся пазбавіць яго нахабства, недалікатнасці і юрлівасці. І вельмі здзівіўся, калі заўважыў, што мне хапіла трох секундаў, каб восем ці дзевяць дамаў у тым транспартным сродку былі ацэненыя з эстэтычнага пункту гледжання і каб кожная з іх атрымала сваё вызначэнне. Вось гэта – прыгожая, тая – нязграбная, трохі далейшая – бясспрэчна страшненькая і г.д. Мова не мае дастатковае колькасці паняткаў, каб выявіць адценні, што выбухова вымалёўваюцца пры эстэтычнай ацэнцы імклівага палёту позірку.

З таго, што мой шлях быў даволі доўгі, а ніводная з дамаў, нібы па папярэдняй змове, не пакідала мне надзеяў на сентыментальную будучыню, я быў вымушаны паглыбіцца ў разважанні, не маючы іншай прылады для іх, акрамя майго позірку ды яго аўтаматычных высноваў.

У чым палягае, – пытаўся я, – гэтая псіхалагічная з’ява,

якую мы маглі б вызначыць як *вылічэнне жаночае прыгажосці*? Я не прэтэндую на выяўленне таго механізма, які ляжыць у аснове гэтага акта эстэтычнага ацэньвання і рэгулюе яго. Я здаволюся згадкай пра тое, што мы дакладна ўсведамляем, калі маем жанчыну перад сваімі вачыма.

Антычная псіхалогія прыпускае, што ў чалавека існуе прадвызначаны ідэал прыгажосці, у нашым выпадку – ідэал жаночага твару, і ён міжволі суадносіцца з рэальным тварам, на які скіраваныя вочы. Эстэтычнае меркаванне палягае тут у простым успрыманні супадзення ці адрознасці паміж адным і другім. Гэтая тэорыя, што вынікае з платонаўскай метафізікі, закарэнілася ў эстэтыцы і перанесла ў яе сваю адпачатковую памылку. Ідэал, з'яўляючыся Платонавым стварэннем, ператвараецца ў адзінку вымярэння, адвечную і далёкую ад рэчаіснасці, якая гэтай адзінкай і вымяраецца.

Гэтая тэорыя сягае каранямі ў надзвычайнае захапленне элінаў ідэяй *адзінства*. Таму грэцкага Бога варта было б шукаць не на Алімпе – месцы, падобным на *chateau,* дзе супольнасць выбітных асобаў жыве развясёлым жыццём, а ў гэтым роздуме аб адзіным. Адно – адзінае можа існаваць. Белыя рэчы ёсць белымі, а жанчыны – сапраўднымі красунямі, але не самі па сабе, з-за сваёй адметнасці, а зважаючы на меншую ці большую сваю прыналежнасць да адзінае белі ці да адзінага эталона жаночай прыгажосці. Плацін, чый унітарызм аж раздражняе, прапануе цэлы шэраг выразаў, што паказваюць нам неймаверную прагу да адзінства, якая трымціць у кожнай рэчы. **Набрана па-грэцку** – спяшаюцца, цягнуцца, прагнуць адзінства. Існасць рэчаў, як пазначаецца, ёсць толькі **набрана па-грэцку**, следам адзінства. Рэчы ставяцца адна да адной ледзь не з афрадытычнай рэўнасцю. Наш Фрай Луіс, што платонстваваў і плацінстваваў у сваёй келлі, знаходзіць больш трапнае вызначэнне: “У адзінстве – боскасць рэчаў”.

Але ўсё гэта, паўтаруся, – канструяванне. Не існуе адзінае і агульнае мадэлі, якую прыпадабняюць рэальныя рэчы[2]. Калі я параўноўваў твары гэтых дамаў з прадвызначанай схемай жаночае прыгажосці, – гэта мела б быць недахопам галантнасці і, да таго ж, няpraўдай. Мужчына, не ведаючы, якой ёсць абсалютная прыгажосць жанчыны, усё сваё жыццё – ад маладосці да драхнечы –

займаецца ейнымі пошукамі. О, калі б мы зведалі яе на самым пачатку!

Калі б мы зведалі яе ад пачатку, жыццё згубіла б адну са сваіх асноўных спружын ды ладны кавалак драматызму. Кожная з жанчын, якую мы бачым упершыню, надзяляе нас светлай надзеяй на тое, што, магчыма, яна і ёсць найпрыгажэйшаю ў свеце. І сярод гэтай гульні надзеяў ды расчараванняў, што прымушаюць калаціцца нашы сэрцы, па дбайна ўзаранай ніве спрытна імкнецца наперад наша жыццё. У частцы, прысвечанай салаўю, Буфон распавядае пра адну з гэтых птушачак, якая дажыла да чатырнаццаці гадоў дзякуючы таму, што ніколі не мела нагоды закахацца. "Ясна відаць, – дадае аўтар, – што каханне скарачае нашы дні; з іншага ж боку, яно нас напаўняе". Працягнем наш аналіз. Зыходзячы з таго, што я не знаходжу ў сабе гэтага архетыпа, адзінай мадэлі жаночае прыгажосці, я дазволю сабе дапусціць – як гэта аднойчы адбылося і з эстэтамі – існаванне прынамсі нейкай сукупнасці розных *тыпаў* дасканалай знешнасці: дасканалая чарнушка ці ідэальная бялянка, дабрадзейная ці настальгічная і г.д.

Тут мы зазначым, што падобнае дапушчэнне толькі ўскладняе сітуацыю, з якой мы сутыкнуліся раней. Па-першае, я нешта не знаходжу ў сабе гэтае галерэі бясхібных твараў і нават не магу ўявіць, дзе магу яе пабачыць. Па-другое, унутры кожнага з *тыпаў* межы магчымых відаў прыгажосці цалкам размытыя. Гэтак мы мусілі б памножыць колькасць ідэальных *тыпаў* нагэтулькі, што яны адразу згубілі б свой родавы характар і іх выніковая незлічонасць, адпаведная незлічонасці твараў, змарнавала б саму тэорыю, мэтай якой таксама з'яўляецца *ператварэнне адзінага і агульнага ў норму ды прататып* дзеля ацэнкі неардынарнага і адрознага.

Аднак нам карціць усё ж нешта ўхваліць у гэтай дактрыне, якая развейвае адзіную мадэль у мностве тыповых мадэляў і відаў. Дык што ж сталася штуршком для гэткага развейвання? Усведамленне таго, без сумневу, што пры вылічэнні ступені жаночае прыгажосці мы насамрэч не асноўваемся на адзінай ідэальнай схеме, з якой параўноўваем канкрэтнае аблічча, пазбаўляючы апошняе права голасу ў працэсе эстэтычнай ацэнкі. Наадварот, мы найперш зыходзім з бачнага твару, які сам, паводле

гэтай тэорыі, выбірае сярод нашых мадэляў тую, якая яму даспадобы. Гэткім чынам, кожны індывід удзельнічае ў вызначэнні дасканаласці жанчыны, калі бачыць яе перад сабой.

На маю думку, гэта якраз тое, што адбываецца ў маёй свядомасці, і гэта не нейкае гіпатэтычнае канструяванне. Так, мой талент сузірання гэтай жанчыны зусім не падобны на паводзіны суддзі, які адразу ўжыў бы ў справе нарматыўны кодэкс ці адпаведны закон. Я не ведаю законаў – я шукаю іх у тварах. У маім позірку адбіваецца недасведчанасць. Аблічча перад маімі вачыма мусіць дапамагчы мне спазнаць, зведаць, што ж такое прыгажосць? За кожнай жаночай індывідуальнасцю хаваецца невядомая, найноўшая краса; мае вочы скіроўвае на жанчын хваляванне надзеі на адкрыццё, на нечаканае праяўленне ісціны.

Найбольш дакладным азначэннем для стану нашага духу падчас таго, як мы ўпершыню глядзім на жанчыну, была б наступная фраза, больш падобная на пікантна-фрывольны зварот: "Кожная жанчына ёсць прыгажуняй да таго часу, пакуль не будзе даведзена адваротнае". І тут можна нават дадаць: прыгажуняй нябачнай красы.

На жаль, у большасці выпадкаў спадзяванні не спраўджваюцца. На гэты конт магу прыгадаць анекдот, што хадзіў сярод журналісцкай бузы Мадрыда. Гаворка ішла пра аднаго тэатральнага крытыка, памерлага нямала гадоў таму, які меў звычку – размяркоўваць свае крытычныя хваленні ды ганьбаванні, зыходзячы з фінансавых магчымасцей аб'екта крытыкі. Аднойчы прыехаў тэнар, які на наступны дзень меўся дэбютаваць у Каралеўскім тэатры. Незаможны крытык хуценька заявіўся да яго з візітам. Ён распавёў пра тузін сваіх дзяцей і малыя прыбыткі: у выніку яны сышліся на тысячы песет. Аднак дэбютны дзень пачаўся, а крытык так і не атрымаў абгаворанае сумы. Пачаўся выступ, а грошы ўсё не з'яўляліся; мінула першая дзея, другая, скончылася імпрэза, узнагарода не прыйшла, нават калі крытык сеў у рэдакцыі пісаць рэцэнзію. Наступным ранкам газета змясціла агляд оперы; у ёй пра тэнара не было аніводнага слова, акрамя апошняга радка, дзе можна было прачытаць: "Ледзь не забыліся паведаміць вам, што там дэбютаваў тэнар X., які падае вялікія надзеі; паглядзім, ці яны спраўдзяцца".

Гэтак часам надзея на прыгажосць не спраўджваецца. Мне

 



было даволі толькі глянуць на сеньёру ў супрацьлеглай частцы салона, каб зрабіць выснову аб ейнай непрывабнасці. Раскладзем на асобныя элементы гэты акт вынясення непрыхільнага прысуду. Дзеля гэтага паўторым яго больш запаволена, каб абазначыць паслядоўныя стадыі дзейнасці нашай свядомасці. Вынікае наступнае: спачатку вочы ўспрымаюць увесь твар цалкам, непадзельна, выкрэсліваючы пэўны арыенцір; пасля абіраецца адна з рысаў, прыкладам лоб, і па ім слізгае позірк. Абрысы ілба досыць прыемныя, і маё нутро ўспрымае іх з задавальненнем, без прыкрасці або расчаравання.

Фраза, якая найбольш адпавядае майму душэўнаму стану на гэты момант, была б такою: справа ідзе няблага! Але раптам позірк ступае сваёй эфірнай нагой на нос – і ўспрыманне робіцца больш складаным, яно пачынае вагацца, яму нешта замінае. Нешта падобнае мы перажываем на ростанях, дзе разыходзяцца дзве дарогі. Не ведаю чаму, але здаецца, што абрысы ілба мусяць быць працягнутымі ў лініі носа, не падобнага на той, што я бачу. Лоб навязвае майму позірку іншую траекторыю. Так, няма сумневу: я бачу ўяўную вытанчаную лінію, што накладаецца на рэальны нос, які, скажам шчыра, мог бы належаць рымлянцы. І тады, па прычыне гэтай раздвоенасці, наша свядомасць перажывае *pietinement sur place;* яна вагаецца, хістаецца і ў гэтай затрымцы вымярае адлегласць паміж тым, што павінна было б быць, і тым, што ёсць.

Аднак тут мы не збіраемся зноў, рыса за рысай, вяртацца да таго, што стасоўна да ўсяго твару цалкам мы ўжо абверглі. Не існуе ідэальнага ўзору носа, рота, шчакі. Калі прааналізаваць рэальныя факты, мы заўважым, што ўсялякае непрыгожае аблічча (не пачварнае)[3] можа падацца нам прывабным у іншым спалучэнні тых самых рысаў. Рэч у тым, што мы, заўважыўшы загану, выпраўляем яе. Мы праводзім бесцялесныя лініі, якія тут дадаюць трохі да формы, а вось тут, наадварот, прыбіраюць ды адразаюць нешта з таго, што ўжо існуе. Я кажу “бесцялесныя”, і гэта не з’яўляецца нейкай метафарай. Наш мозг праводзіць іх заўсёды, калі не знаходзіць ліній цялесных. Вядома, што мы не можам уначы разглядаць зоркі нейтральна – мы выдзяляем іх, адну за другой, з мігатлівага рою. Выдзяляючы іх, мы адначасова ўсталёўваем цялесную сувязь паміж асобнымі зоркамі; дзеля гэтага мы нібы працягваем паміж імі ніты зорнага павуціння. Гэткім



 

чынам распаленыя кропкі злучаюцца, утвараючы пэўную бесцялесную форму. Гэта і ёсць псіхалагічнае тлумачэнне існавання сузор'яў: спрадвеку, калі ясная ноч прымушала трымцець сваю сінюю цемрадзь, вочы чалавека-паганца ўздымаліся ўгору і бачылі, як страляе Стралец, як раздражняецца Касіяпея, як чакае Дзева і як Арыён бароніцца ад Быка сваім дыяментавым шчытом.

З тварам мы маем тое самае, што і з касмічнымі кропкамі, якія збіраюцца ў групы: мы ўяўляем сабе ідэальны профіль, больш ці менш падобны на рэальны твар. У адным зруху нашай свядомасці супадаюць успрыманне цялеснай істоты і спадзяванне на яе ідэальную дасканаласць.

Вось мы і прыйшлі да пераканання, што ідэал не можа быць аднолькавым для ўсіх, нават не можа быць тыповым. Кожнае аблічча – як пры містычнай люмінесцэнцыі – нараджае ўласны, адзіны, эксклюзіўны ідэал. Калі Рафаэль кажа, што малюе не тое, што бачыць, а "пэўную ідэю, што забрыдае ў мае мазгі", губляе сэнс платонаўская "ідэя", якая адкідае магчымасць існавання невычэрпнай і шматформнай разнароднасці рэчаіснасці. Гэткім чынам атрымліваецца, што са з'яўленнем любой рэчы ўзнікае і ейны неперадавальны ідэальны вобраз.

Тым самым мы адчыняем перад Эстэтыкай дзверы з акадэмічнае вязніцы і запрашаем яе падзівіцца багаццем свету:

*Loudata sii, Diversita*
*delle creature, sirena*
*del mondo*[4].

Вось як я, едучы ў абшарпаным трамвайчыку ў напрамку Фуэнкараля, выказваю сваю непавагу да бліскучага сада акадэмаў.

Любоў кіруе мною, яна прымушае мяне прамаўляць... Любоў да шматаблічнага свету, які часам найлепшыя, насуперак ягонай волі, вымагаліся спрасціць. Бо гэтак жа, як грэкі ператварылі кожную асобную істоту ў *адзінае* (а прыгажосць звялі да нормы і агульнай мадэлі), Кант назаве добрым і маральна дасканалым агульны і абстрактны імператыў.

Не, і яшчэ раз не: доўг не можа быць агульным для ўсіх. У кожнага з нас ён свой. Кант прапануе мне кіравацца наступным крытэрыем пры вызначэнні паводзін: жадай заўсёды таго, чаго

можа жадаць кожны іншы чалавек. Але гэта спусташае ідэальны вобраз, ператварае яго ў маску з размытымі рысамі. Напоўніцу я магу любіць толькі тое, што ўзнікае ўва мне як выключна маё індывідуальнае захапленне.

Прааналізаванае вылічэнне ступені жаночае прыгажосці можа стацца ключом ад іншых царстваў ацэньвання. Як у сферы прыгажосці, так і ў этыцы.

Вышэй мы пабачылі, што твар чалаека з'яўляецца адначасова праектам і больш-менш поўнай рэалізацыяй самога сябе. Гэтак і ў маральнай сферы кожны чалавек, які праходзіць перада мною, бы ўпісаны ў маральны сілуэт самога сябе: ён падкрэслівае тыя рысы, якімі б мусіў валодаць дасканалы індывідуальны характар. Некаторыя дзякуючы сваім учынкам дасягаюць самой мяжы маральнае беззаганнасці, аднак зазвычай, з-за дэфектаў або з лішку, мы не супадаем з тым, што магло б быць нашай уласнай цэласнасцю. Колькі разоў мы заўважалі, як часам хочам, каб хтосьці з нашых бліжніх зрабіў тое ці сёе, бо бачым з дзівоснай выразнасцю, што гэтак ён дапоўніў бы сябе як асобу!

Вымярайма ж людзей толькі па іх собскім узоры: па тым, што ёсць праектам, ды па тым, што ёсць яго рэалізацыяй. "Станься тым, кім ты ёсць". Загадны лад ужыты тут найтрапнейшым чынам... Але часам з намі адбываецца тое, што надзіва містычна даводзіць Малармэ пры характарыстыцы Гамлета, кажучы пра яго: "патаемны Бог, які не можа рэалізавацца".

Гэта ідэя ёсць надзіва плённай, адкрываючы ў самой рэчаіснасці, у яе здольнасці да неабмежаванага абнаўлення, у самых нечаканых рэчах асновы для з'яўлення шляхетных ідэалаў, нормаў, вартасцяў.

Гэтым можна практычна карыстацца ў літаратурнай ці мастацкай крытыцы: дапасуйце аналіз, праведзены адносна ацэньвання жаночай прыгажосці, да чытання. Чытаючы кнігу, мы стукаем па змесце чытанага тэксту інтымным малаточкам задавальнення ці неспатоленасці: "Вось гэта добра, як мае быць", – або: "А вось гэта кепска, варта было б пайсці іншым шляхам". І па руху твора мы аўтаматычна пакідаем на ім крытычнае шво – схему таго, на што прэтэндаваў аўтар. Так, кніга найперш ёсць намерам, а пасля ўжо – яго рэалізацыяй. Паводле гэтага намеру яна і ацэньваецца. Сам твор аднначасова паказвае нам сваю ўзорнасць

і свае хібы. І найвялікшым абсурдам было б ператвараць аднаго аўтара ў метр для іншага...

Жанчына, што стаіць перада мною...

– Чатыры дарогі! – крычыць кандуктар. Гэты крык – сімвал разгубленасці – заўсёды выклікаў ува мне нейкае непрыемнае пачуццё.

Але маршрут скончаны. За дзесяць сантыма асабліва не наездзішся.

---

[1] Часопіс, у якім рэгулярна друкаваўся Х. Артэга-і-Гасэт *(заўв. перакл.)*.

[2] **Набрана па-грэцку**."Энеіда" Т. 6. С. 2, 11."Усе рэчы прыпадабняюцца аднаму і таму ж, але адны набліжаюцца больш, іншыя ж – менш" *(заўв. аўт.)*.

[3] Пачварнасць – гэта біялагічная загана, з гэтае прычыны яна не разглядаецца ў сферы эстэтычнага ацэньвання. Антонімам слова "пачварны" з'яўляецца не "прыгожы", а "нармальны" *(заўв. аўт.)*.

[4] "Блаславёна будзь, //Разнастайнасць стварэнняў,// німфа свету" *(італ. – заўв. перакл.)*.

**Пераклаў з іспанскай Анатоль ПРАСАЛОВІЧ**

# З эсэ "Ад Мадрыда да Астурыі, або Два краявіды"

## *ГЕАМЕТРЫЯ МЕСЭТЫ*

На наступны дзень, калі цягнік пакінуў Леон, світала, і сонца – іншым разам Сонца? – палымнела ў вокнах і галерэях. Горад, апраменены бляскам, нагадваў каштоўнае ўпрыгожванне.

Удалечыні засталася Папалагінда, сціплае правінцыйнае курортнае мястэчка над ракою, ад якой заўсёды ўзнімаюцца туманы і выпарэнні.

Цягнік балансаваў у плоднай даліне сярод таполяў. Леон – гэта горад таполяў, дрэва, вернага месэце, дрэва дзернскага і кастыльскага. Паўсюдна

сустракаюцца вытанчаныя ствалы, што суправаджаюць пустэльны адрэзак дарогі ці групуюцца ля крынічнага круга, які наведваюць галубы. Высокія, стройныя, з вібрыруючай лістотай, ну зусім як згорнутыя сцягі. Яны – як ганчакі дрэваў. Таполя – хорт?

Адпаведна аповеду: Паскаль так заўчасна развіўся, што яшчэ да таго, як навучыўся чытаць, нанова вынайшаў у сваіх гульнях пачаткі геаметрыі. Той, хто не ведае звычайных назоваў элементаў космасу, называе іх не як мы – кругам ці колам, а простай лініяй ці паласою. Так, добра: побач з геаметрыяй сентыментальнаю існуе геаметрыя месэты, дзеля ўжытку леонцамі і кастыльцамі. Вертыкаль у ёй – таполя. Гарызанталь – хорт.

– А нахіл?

У кавалку вяршыні гары, выхапленай з далягляду, у адвечнай постаці аратага, схіленага над зямлёю.

– А дзе крывая?

З мінаю абражанай годнасці:

– Пане міласлівы, у Кастыліі не бывае крывых!

# ВЯСКОВАСЦЬ

Гэтая здольнасць затрымліваць чалавека ў вёсцы, што мае зямля Астурыі, глыбока ўплывае на душу народа, які жыве на ёй. Эканамічны росквіт узнімае такія вытанчаныя гарады, як Аўеда, Хіхон, што працягваюць бліскучыя традыцыі выкшталцонае культуры. Але, не зважаючы на гэта, я знаходжу ва ўсіх астурыйцах больш ці менш схаваную вясковую глыбіню. Пад гарадскою вопраткай грукаюць сэрцы земляробаў.

Мне было б вельмі цікава даведацца, ці нахмурыць бровы нейкі чалавек з Астурыі, калі прачытае гэта? Бо апошняе было б доказам ненармальнаму непадабенству спосабаў мыслення, што Бог даў дзецям Зямлі. Напэўна, існуюць астурыйцы, якія хацелі б убачыць сваю Бацькаўшчыну цэнтрам цэнтраў, кантабрыйскім Парыжам, а на маіх іспанскіх надзеях быццам прышпілена этыкетка астурыйскае вясковасці.

Нялёгка растлумачыць з дапамогаю некалькіх словаў тое, што я хачу сказаць. Трэба ахапіць вельмі многае, і я не знайшоў

больш удалай формы, як выказаць свае думкі ў звычайных гутарках. Не ведаю, калі змагу зрабіць гэта поўнасцю? Але вернемся да тэмы. Я не бачу іншага шляху да росквіту Іспаніі, як той, што пралягае праз поле. Сучасны горад – гэта эканамічная і ідэалагічная форма, прыдуманая капіталізмам. Расы, якія здагадаліся ў свой час стварыць такі лад жыцця, запанавалі. Ніхто не сумняваецца ў тым, што і наша становішча было б лепшае, каб мы мелі падобныя здольнасці. Але лепшае – вораг добрага. Мы не змаглі арганізаваць структуры Іспаніі з пункту гледжання сістэмы сучаснага горада. Гвалтоўна, праз інтымныя манеры нашага мыслення і нашае эканомікі, мы прыдумалі некалькі фікцыяў старых гарадоў, якія быццам выспы мадэрнізму, акружаныя з усіх бакоў пустэльняю. Духу гэтых гарадоў, што былі выключэннем, мы аддалі матэрыяльную і маральную ўладу над Іспаніяй. З аднаго боку – некалькі вуліц з трамваямі і некалькі тысячаў гараджан, якія сноўдаюцца туды-сюды. З другога боку – дзесяткі і дзесяткі кіламетраў далінаў і мільёны іспанцаў, якія аруць сваю ніву, рыхтуюць сваю глебу і гоняць жывёлу ў хлеў. Для гэтых людзей мала прыстасаваныя ўсе інструменты сацыялізацыі: зводы законаў, парламент, друк, школа... Для вялікае іспанскае прасторы, для вёскі, для сялянаў, для іхніх нерваў і думак – нічога. Такая дыспрапорцыя – фатальная.

Але гэта не значыць, што я буду цяпер яшчэ раз спяваць мелапею беднаму бездапаможнаму аратаю. Не трэба шкадаваць аратая, наадварот. Патрэбная эксплуатацыя селяніна ў сэнсе выкарыстання ягонае грамадзянскае, нацыянальнае і чалавечае годнасці. Народ – гэта сума жаданняў, інтарэсаў, страсцей і разваг. Чым большы натоўп жывых сумленняў, што шукаюць формаў салідарнасці або формаў барацьбы ўнутры грамадскае структуры, тым большымі будуць патэнцыі грамадства. Ну добра, чатыры пятыя іспанцаў не бяруць удзелу ў нацыянальным сінтэзе. Але мяне амаль не кранае, што многія галасы не даходзяць да парламента, затое мяне надзвычай хвалюе, што сялянскія пачуцці, сялянскія думкі да рэшты знікаюць, яшчэ не зрабіўшыся нацыянальнымі думкамі і пачуццямі. Мне, хто выкладае ва універсітэце, патрэбныя набыткі сялянскага мыслення нашмат больш, чымсьці сялянам – мае інтэлектуальныя высілкі; з-за

адсутнасці духоўнасці ў чатырох пятых Іспаніі наша жыццё – толькі інертная фікцыя, і вялікая частка маіх ідэяў асуджаная быць адно чыстаю мастацкаю выдумкаю.

Наша праблема называецца "Абуджэнне жыцця ў Іспаніі". Аддамо перавагу рэальнаму XVII стагоддзю перад фіктыўным XX ст. Я не бачу іншых лекаў для аздараўлення Іспаніі, як выправіць Мадрыд са сталіцы ў правінцыю, а правінцыю – у вёскі.

Гэтая тэма, я думаю, невычэрпная. У яе адлюстраванні трэба было б паказаць тую небяспеку, што нясе з сабою вясковасць, але цяпер больш важна выказаць меркаванне, што ўжо даўно сфармаванае ўва мне, дзеля таго каб апраўдаць чысты энтузіязм, які падштурхнуў мяне шукаць у Астурыі расу годных людзей, здольных браць удзел у сучасным жыцці, не губляючы пры гэтым духоўнае салідарнасці з родным полем. "Ён вярнуўся такім жа пастухом, якім і паехаў", – пачуў я ў адной закусачнай горада Правіі пра магутнага шыракаплечага горца, моцнага і грубага, з рашучым выразам твару; мяркуючы па знешнасці, ён няйначай як вярнуўся з Амерыкі.

Гэтыя людзі, што вяртаюцца такімі ж пастухамі, як і паехалі, што ў глыбіні душы не змяніліся ні на каліўца, гэтыя людзі зараз жывуць і працуюць у Астурыі – без рыторыкі, без гучных топікаў, без жэстыкуляцыі, без самалюбавання. Яны здольныя ажыццявіць у вясковым асяроддзі Іспаніі пэўны мінімум мадэрнізацыі, патрэбны дзеля таго, каб трымацца на стрыжні часу.

Даліна, вільготная, сырая, з густымі каштанамі на схілах, з рудымі каровамі, якія мыкаюць у гонях, з пунямі, што трымаюцца на чатырох сваях; і пасярод даліны – дамок, пафарбаваны ў блакітны колер і колер бычынае крыві... А побач з усім гэтым – не ў горадзе, побач з прагматычным урадам – лецішча, цудоўнае месца для "эмігранта", які збягае сюды і праз дзень вяртаецца зусім іншы, нібыта ў казцы.

**Пераклаў з іспанскай Сяргей ВЕРАЦІЛА**



# Алесь Макрацоў

***

Брыду на адталай раллі…
Развагамі апанаваны,
часова душой змацаваны,
рухомы кавалак зямлі…

Алесь МАКРАЦОЎ

## ДРЭВА СУСВЕТУ

Сасна?..
Эўкаліпт?..
Секвоя?..
Сусвет пабудовай сваёй мне нагадвае дрэва.
Велізарнае дрэва. Неабсяжнае дрэва.
Нагадвае тое дрэва, асяродак якога вечнасць...
Дрэва сусвету расце ў бязмежжы.
Расце, як і звыклыя дрэвы.
Камбій сусвету — час — аддзяляе няспынна
ўнутр драўніну. Драўніну мінулага.
Патаўшчае Расліну...
Будучыня пракамбій.
У вонкавы бок камбій часу аддзяляе
няспынна быццё.
Луб жыцця...
Кара ў дрэва сусвету гэткая ж, як і ў сасны.
Кара сусвету — матэрыя.

## ВОГНІШЧА ВЕДАЎ

Куды рухаецца чалавецтва?
На святло...
Да крыніцы святла...
Як жамяру ў начной цемры прыцягвае да сябе
святло вогнішча, так народы ў касмічнай цемры
прыцягвае да сябе святло ведаў.
Вогнішча ведаў...
Ад расшчаплення каменя да расшчаплення атамнага
ядра прывяла чалавецтва дарога пазнання.
Прага пазнання...
Між крамянёвым востраканечнікам і ядзерным
вастрыём змясціўся навукова-тэхнічны шлях.
Шлях-пастка...
Як мошка, згарэла ў страшэнным агні Хірасіма.
Бы камар, скурчыўся ад радыяцыйнага вару
Чарнобыль...
Аслепленае і зачараванае — ляціць чалавецтва

ў абдымкі ядзернага пекла.
У абдымкі апакаліптычнага вогнішча.
Вогнішча ведаў...

## ЗНЯВОЛЕНЫ

Душа —
зняволены дух.

Зачынены
Ў гэтым свеце —
баіцца
выйсці на волю.

Баіцца выйсця.

## ШЛЯХ АДКРЫЦЦЯЎ

Сусвет ад пачатку замкнуты.
Замкнуты паўсюдна.
Замкнуты ад чалавецтва.
І прызначэнне ў навукі з тэхнікай тое ж,
што ў звязкі адмычак з фомкай...
Калі здзейснена навукова-тэхнічнае адкрыццё
чарговай таямніцы прыроды, я ўпэўнены —
то адкрылі чарговы замок.
Адкрылі чарговы замок на шляху спакусы,
пазнання, прысваення, выкарыстання,
разбэшчвання,
злоўжывання, самападману...
Адкрылі гэтак жа, як злодзеі ноччу замок
неахоўваемага склада.
З узломам зроблена тое ці без узлому —
акалічнасць, важкая толькі для следчых.
Толькі для анёлаў.

Шлях чалавецтва — шлях адкрыццяў.

***

Чалавечы розум і Розум Творцы...
Міжволі ўзнікае параўнанне кроплі вады

з акіянам.
Нібы тая кропля аб'ёмам, чалавечы розум
абмежаваны магчымасцямі.
Абмежаваны ведамі...

## ПАРАСТАК ДУХУ

Гэты свет для мяне тая ж глеба...
Патрапіў у яе падобна насенню, істота мая
набухла памерам. Укарэнілася душой.
Дала парастак.
Парастак духу...
Паміж мной і паверхняй гэтага свету —
слой сугліністага быцця.
Камякі і камлыгі выпрабаванняў. Цемра...
Рассоўваю згубную цемру.
Уздымаюся духам над целам.
Кіруюся ўверх, да святла.
Прарастаю да іншага свету.
Альбо прарасту, альбо згіну...

## СХІЛ ЗЯМНОГА БЫЦЦЯ

Манах...
З непрыманнем і жалем глядзіць ён на свецкую
мітусню. На бездапаможнасць душ, падмятых
уласным целам.
Глядзіць зверху.
Вачамі духу...
Свецкі чалавек глядзіць на манаства з пункту
задавальнення цялесных патрэб. Як на расцягнутае
ў часе самазабойства.
Глядзіць знізу.
Вачамі плоці...
Пад нагамі ў абодвух — схіл зямнога быцця,
па якім уздымаюцца ў неба і апускаюцца ў
апраметную бездань...

# ЁН НАЗЫВАЎ СЯБЕ ЛІТВАС

Генрык Сянкевіч — постаць для польскай, беларускай і літоўскай культур знакавая. Белетрыст, прызнаны майстар хронікі і літаратурнага эсэ, ён з'яўляецца стваральнікам польскай рэалістычнай навелы і гістарычнага рамана.

Генрык Сянкевіч нарадзіўся 5 траўня 1846 года ў маёнтку Воля Акшэйска на Падляшшы, што непадалёк ад Лукава (сённяшняе Седлецкае ваяводства). Яго продкі з бацькоўскага боку паходзілі з Вялікага княства Літоўскага, служылі ў войску і толькі ў XVIII ст. перайшлі з мусульманства ў хрысціянства — у каталіцтва, набылі шляхецтва. Дзед Генрыка ў часы напалеонаўскіх войнаў быў афіцэрам, потым служыў ляснічым. Бацька будучага пісьменніка — небагаты арандатар, маці паходзіла з Цецішоўскіх, якія знаходзіліся ў сваяцтве з вядомымі літоўскімі родамі. Шляхецтва ніякіх сродкаў для жыцця, вядома, Генрыку Сянкевічу не дало, і юнак мусіў здабываць хлеб сваёй працай.

У 1866 годзе Сянкевіч паступае ў Галоўную Варшаўскую школу, якая з 1869 года пераўтвараецца ва універсітэт, вучыцца там спачатку на медыцынскім, потым на гісторыка-філалагічным факультэце. Заканчвае вучобу ў 1870 г.

Сянкевіч абірае кар'еру журналіста. Яго першая друкаваная праца — тэатральная рэцэнзія — з'явілася ў "Пшэглёндзе тыгоднёвым" яшчэ ў 1869 годзе, калі ён быў студэнтам. З 1872 года Сянкевіч працуе ў часопісе "Ніва", з 1873 года супрацоўнічае таксама з "Газетай польскай". Большасць публікацый ён падпісвае псеўданімам *Літвас.* Гэта, пагадзіцеся, лашчыць чуйнае да ўсяго "свайго" беларускае вуха.

У 1876 годзе Сянкевіч выпраўляецца ў Амерыку карэспандэнтам "Газеты польскай", адкуль дасылае серыю газетных занатовак, у прыватнасці — пра сусветную выставу ў Філадэльфіі. У планы Генрыка Сянкевіча таксама ўваходзіла ўзяць удзел у стварэнні невялікага польскага паселішча ў Каліфорніі. Але з гэтага намеру нічога не атрымалася. Пісьменнік вандраваў, паляваў, знаёміўся з простымі амерыканцамі. У Злучаных Штатах ён прабыў да сакавіка 1878 г. Назіранні і ўражанні гэтага перыяду далі плён — некалькі апавяданняў, серыю нарысаў, цыкл "Лісты з падарожжа" (1876–1878). Пазней Сянкевіч неаднойчы бываў у Італіі, Францыі, Аўстрыі.

У тагачаснай Польшчы, у Беларусі, Літве сярод інтэлігенцыі ідуць спрэчкі наконт будучыні былой Рэчы Паспалітай. У параўнанні з еўрапейскімі краінамі Амерыка падалася Сянкевічу больш блізкай яго ідэалу квітнеючай краіны з дэмакратычным ладам жыцця.

З 1881 па 1887 гады Генрык Сянкевіч узначальваў газету "Слова", мэту якой ён бачыў ва ўсталяванні "здаровага прагрэсу на аснове павагі да нацыянальных традыцый і веры".

У Венецыі Сянкевіч знаёміцца з Марыяй Шаткевіч, дачкой шляхціца старога гарту, уладальніка багатага літоўскага маёнтка. Яе бацькі пасля ваганняў, бо ў жаніха не было салідных прафесіі і рэпутацыі і меліся пазыкі, пагадзіліся на шлюб, які адбыўся ў 1881 г.

У 1883 годзе Генрык Сянкевіч закончыў гістарычны раман "Агнём і мячом" *("Ogniem i mieczem")*. У 1886 годзе з'яўляецца "Патоп" *("Potop")*, а ў 1887 годзе — "Пан Валадыёўскі" *("Pan Wolodyjowski")*. Гэтыя творы і вызначылі месца пісьменніка ў польскай і сусветнай літаратуры.

Яго лепшы гістарычны раман "Крыжакі" *("Krzyzacy")*, напісаны ў 1879–1900 гадах, прысвечаны барацьбе палякаў і беларусаў (ліцвінаў) супраць нямецкіх рыцараў.

Добрае веданне лацінскай мовы, рымскіх паэтаў і гісторыкаў дапамагло яму ў напісанні рамана *"Quo vadis?"* (1894–1896), які прысвечаны перыяду праўлення ў Рыме Нерона і пераследавання першых хрысціян. За гэты раман Сянкевіч першы са славянскіх літаратараў быў уганараваны Нобелеўскай прэміяй (у 1905 г.).

У 1900 годзе польская грамадскасць наладзіла ўрачыстае святкаванне юбілею Сянкевіча, адзначалася 25-годдзе яго літаратурнай дзейнасці. На сродкі, сабраныя камітэтам, быў набыты маёнтак Абленгорак (непадалёку ад горада Кельцы, цяпер там знаходзіцца музей Сянкевіча) і перададзены пісьменніку ў дар ад суайчыннікаў. Ягелонскі універсітэт, самы старажытны ў Польшчы, абраў Сянкевіча сваім пачэсным доктарам.

У апошні перыяд творчасці Сянкевіч стварыў прыгодніцкую аповесць для падлеткаў "У пустэльні і ў пушчы" (1911), распачаў працу над раманам "Легіёны" пра эпоху напалеонаўскіх войнаў, але не давёў яе да завяршэння.

Першую сусветную вайну пісьменнік успрыняў як страшэнную навалу, якая абрынулася на яго народ, і неўзабаве эмігрыраваў у Швейцарыю, дзе разам з І.Падэрэўскім заснаваў "Камітэт дапамогі ахвярам вайны ў Польшчы". 15 лістапада 1916 года ў швейцарскім мястэчку Вэвэй і скончылася жыццё вялікага пісьменніка. Праз восем гадоў, у лістападзе 1924 года, труну з целам пісьменніка перанеслі ў Польшчу і пахавалі ў сутарэннях кафедральнага сабора Святога Яна ў Варшаве.

Раманы Генрыка Сянкевіча запатрабаваныя і сёння, а дзякуючы экранізацыям рэжысёра Ежы Гофмана яны набылі і паралельнае жыццё. Створаныя на агульнай для беларусаў і палякаў гістарычнай аснове, яны запоўнілі напаўпустую ў беларускамоўнай літаратуры нішу гістарычнага рамана.

Сапраўдны майстра слова вызначаецца не толькі раманісцкай дзейнасцю: яго талент можна разгледзець і ў малых формах, там ён выяўляецца нават больш паказальна. Такія малыя формы, як нарыс, фельетон, апавяданне, навела, адразу вызначаюць таленавітага мастака.

Прапануем чытачам "Крыніцы" навелу "Камедыя памылак", надрукаваную ў "Газеце польскай" (1878 г.). Яна была напісана ў Сан-Францыска ў снежні 1877 года, яшчэ тады, калі Генрык Сянкевіч быў усяго толькі журналістам, адным з многіх. Магчыма, менавіта ў ёй упершыню зрабілася бачным майстэрства будучага вялікага пісьменніка, аўтара знакамітых гістарычных раманаў.

Але няхай чытач мяркуе сам.

**Ігар ВОЙНІЧ**

Генрык СЯНКЕВІЧ

# КАМЕДЫЯ ПАМЫЛАК

## Накіды з амерыканскага жыцця

Выпадак, які лёг у аснову гэтых накідаў, сапраўды адбыўся ў адным з амерыканскіх мястэчак. Ці здарылася тое на ўсходзе, ці на захадзе, я не мог дапытацца ў людзей. Але хіба важна, дзе здарылася? Цалкам магчыма, што нейкі амерыканскі або нямецкі навеліст ужо паспелі скарыстаць сюжэт, ды гэта, на мой погляд, павінна цікавіць маіх чытачоў не болей, чым геаграфічныя каардынаты здарэння.

Скарыстаюся з аўтарскай свабоды – распавяду ўсё так, нібыта гісторыя адбылася ў Каліфорніі, і крыху расквечу яе характэрнымі рысамі тамтэйшага местачковага жыцця.

***

Здарылася так, што пяць ці шэсць гадоў таму ў графстве Марыпоза знайшлі радовішча нафты. Вялізныя прыбыткі, якія прыносяць свідравіны ў Невадзе і ў іншых штатах, схілілі некалькіх прадпрымальнікаў заснаваць таварыства, каб шукаць новыя радовішчы. Прывезлі машыны, помпы, рухавікі, драбіны, бочкі і бочачкі, свярдзёлы і катлы: збудавалі дамы для рабочых, ахрысцілі мясцовасць *Struck Oil*, і праз нейкі час у бязлюднай пустэльні, дзе год таму бадзяліся адныя каёты, паўстала паселішча з колькі дзесяткаў дамоў, у якім налічвалася некалькі соцень рабочых.

Праз два гады *Struck Oil* назвалі ўжо *Struck Oil city*. Можа, у мясцовым разуменні паселішча і

было *city* ў поўным сэнсе гэтага слова. Прашу заўважыць, што там ужо жылі: шавец, кравец, цясляр, каваль, рэзнік і доктар-француз; праўда, раней у Францыі ён галіў бароды, але, зрэшты, меў рэпутацыю чалавека "дасведчанага" і няшкоднага, што для амерыканскага доктара – надзвычай добрая рэкамендацыя.

Доктар, як вядзецца ў мястэчках, трымаў адразу аптэку і пошту – таму і меў трайную практыку. Аптэкарам быў такім жа няшкодным, як і лекарам, паколькі ў ягонай аптэцы можна было набыць толькі два гатункі лекаў: цукровы сіроп і "лероа". Гэты ціхі і лагодны стары звычайна казаў сваім пацыентам:

– Ніколі не бойцеся маіх лекаў. Маю завядзёнку, як даю хвораму лекі, то заўсёды сам ужываю такую самую дозу, бо разумею: калі яно не зашкодзіць мне, здаровому, то не зашкодзіць і хвораму. Слушна?

– Слушна, – пагаджаліся супакоеныя местачкоўцы, якім нават не было да галавы, што абавязак доктара – не толькі не шкодзіць хвораму, але і дапамагаць.

Пан Дэсанвіл – так звалі доктара – шчыра верыў у цудоўную моц уласных лекаў. Не раз на агульнагарадскіх сходах ён здымаў капялюш і звяртаўся да грамады:

– Пані і панове! Пераканайцеся, што такое "лероа"! Мне ўжо семдзесят; сорак гадоў я штодня ўжываю лероа, і глядзіце – ніводнага сівога воласа.

Пані і панове на ўласныя вочы маглі пераканацца, што доктар сапраўды не мае ніводнага сівога воласа, бо не мае іх увогуле, галава яго гладкая, як лямпавае шкло.

Тым часам мястэчка *Struck Oil city* расло і расло. Праз два гады да яго падвялі чыгуначныя рэйкі. Мястэчка займела выбарных кіраўнікоў. Доктар, якога ўсе паважалі, стаў, як прадстаўнік інтэлігенцыі, суддзёю; шавец, польскі габрэй містэр *Devis* (Давід) – шэрыфам, гэта значыць начальнікам паліцыі, якая складалася з шэрыфа і больш ні з кога; пабудавалі школу, яе ўзначаліла векавуха, якая мела такі ж пракаветны флюс; нарэшце, паўстаў і першы гатэль пад назваю: *United States Hotel*.

*Business* таксама ажывіўся незвычайна. Здабыча нафты давала вялікія прыбыткі. Містэр Дэвіс пабудаваў перад сваёй крамай шкляную вітрыну на ўзор тых, што аздабляюць крамы

адзення ў Сан-Францыска. На наступным сходзе местачкоўцы публічна падзякавалі пану Дэвісу за "новую аздобу горада", на што містэр Дэвіс адказаў са сціпласцю вялікага грамадзяніна: "*Thank you! thank you! O'key!*"

Дзе з'яўляюцца суддзя і шэрыф, там звычайна вядуцца і справы. Апошняе вымагае пісаніны і папер, таму на рагу Каётасстрыт і Першай паўстала *stationery*, інакш кажучы папяровая крама, дзе таксама гандлявалі палітычнымі часопісамі і карыкатурамі, на якіх Грант прадстаўляўся селянінам, які доіць карову, а карова, у сваю чаргу, увасабляла сабой Злучаныя Штаты. У абавязкі шэрыфа не ўваходзіла забараняць продаж падобных малюнкаў, бо гэта не справа паліцыі.

Нават самае дробнае амерыканскае мястэчка не абыходзіцца без газеты; на наступны год з'явілася выданне пад назвай: "*Saturday Weekly Review*" ("Штотыднёвы суботні агляд"). Падпісчыкамі яго былі ўсе жыхары *Struck Oil city*. Рэдактар штотыднёвіка быў адначасова выдаўцом, друкаром, адміністратарам і разносчыкам. Апошні абавязак не займаў у яго шмат часу, бо ён меў карову і штораніцы развозіў малако па дамах. Аднак гэтая акалічнасць не замінала яму распачынаць перадавыя палітычныя артыкулы словамі: "Калі б наш подлы прэзідэнт Злучаных Штатаў зрабіў так, як мы яму параілі ў мінулым нумары" і г.д.

Як бачым, нічога не бракавала ў блаславёным *Struck Oil city*. А паколькі нафтавікі, у адрозненне ад золаташукальнікаў, не вылучаліся ані нахабствам, ані грубымі паводзінамі, то ў мястэчку панаваў спакой. Ніхто нікога не біў, пра *lynch* тут нават і не чулі; жыццё каціласяспакойна, адзін дзень змяняў другі, падобны да папярэдняга, як дзве кроплі вады. З раніцай кожны жыхар займаўся *business*-ам, увечары местачкоўцы палілі смецце на вуліцах і, калі не было сходу, разыходзіліся спаць. І ўсе ведалі, што заўтра зноў будуць увечары паліць смецце.

Адзіным клопатам шэрыфа было тое, што ён не змог адвучыць местачкоўцаў ад страляніны з карабінаў па дзікіх гусях, якія ўвечары пралятаі над горадам. Гарадскія законы забаранялі страляць на вуліцах. "Калі б гэта адбывалася ў якім-небудзь маленькім мястэчку, – казаў шэрыф, – то калі ласка; але ў вялікім горадзе рабіць *піф-паф, піф-паф* вельмі непрыгожа".

Местачкоўцы слухалі, пагаджаліся, казалі "*o yes!*", але калі ўвечары на паружавелым небе з'яўляліся белыя і шэрыя птушыныя шнуры, што цягнуліся з-за гор да акіяна, усе забываліся на абяцанні, хапалі карабіны, і страляніна ўсчыналася наноў.

Вядома, пан Дэвіс мог пацягнуць кожнага вінаватага да суддзі, а суддзя мог таго аштрафаваць, але не трэба забывацца, што вінаватыя, калі хварэлі, станавіліся пацыентамі доктара, а як у іх зношваліся чаравікі – то кліентамі шэрыфа; рука руку мые, а значыцца, рука руцэ не зробіць і крыўды.

Такі панаваў спакой у *Struck Oil city*, як у небе; але нечакана ціхамірныя дні скончыліся.

Грацэрнік загарэўся смяротэльнай нянавісцю да грацэрнічкі, а грацэрнічка – да грацэрніка.

Магчыма, варта патлумачыць, што ў Амерыцы называюць *grocery*. Грацэры, або грацэрня, – крама, дзе гандлююць усім. Там можна набыць муку, капялюш, цыгары, мётлы, гузікі, ружы, сардзіны, кашулі, сала, насенне, блузы, нагавіцы, лямпавае шкло, сякеру,сухары, посуд, папяровыя каўняры, сухую рыбу – карацей кажучы ўсё, што чалавеку можа спатрэбіцца. Спачатку ў *Struck Oil city* існавала толькі адна грацэрня. Яе трымаў немец Ганс Кашэ. Ён быў флегматычны немец-прусак, меў узрост трыццаць пяць гадоў і вырачаныя вочы, не быў тлусты, але досыць поўны, заўсёды хадзіў без сурдута і ніколі не выпускаў люлькі з зубоў. Па-англійску ён ведаў роўна столькі, колькі вымагаў ад яго *business*, а болей – ані ў зуб. Гандляваў, аднак, добра: за адзін год, як кажуць у *Struck Oil city*, стаў варты некалькіх тысяч даляраў.

І раптам у мястэчку з'явілася другая грацэрня.

Дзіва! Першую трымаў немец, другую заснавала немка. *Kunegunde und Eduard, Eduard und Kunegunde!* Натуральна, паміж імі пачалася вайна, і пачалася з таго, што панна Нойман, або, як яна сама сябе называла, *Niumen* падала на прывітальны *lunch* праснакі, спечаныя з мукі, замяшанай на содзе з квасніцай. І гэтым самым нашкодзіла б сабе ў вачах местачкоўцаў, але яна знайшла і прадставіла сведкаў на тое, што яе ўласная мука яшчэ не распакаваная, а гэтую яна купіла ў пана Ганса Кашэ. Атрымлівалася так, нібыта Ганс Кашэ – нікчэмны зайздроснік, які ад самага пачатку мусіў згубіць свой аўтарытэт у мястэчку.

Наперад было зразумела, што дзве грацэрні будуць супернічаць паміж сабой, але ніхто не прадбачыў, што суперніцтва пяройдзе ў жахлівую асабістую нянавісць. Нянавісць тая ў хуткім часе дайшла да таго, што Ганс паліў смецце толькі тады, як вецер нёс дым на краму яго суперніцы, а суперніца называла пана Ганса не інакш, як *Doczmen* (перакруціўшы на свой капыл цалкам прыстойнае слова *Deutschmen* – немец), што ён таксама палічыў за абразу. Спачатку местачкоўцы смяяліся з абаіх, тым больш што ніводзін з іх як след не вывучыўся гаварыць па-англійску; патроху, у выніку штодзённых кантактаў жыхароў з уладальнікамі грацэрань, у мястэчку ўтварылася дзве партыі – гансістаў і ноймансістаў, якія пачалі глядзець кожны на іншага скоса, а гэта пагражала знішчыць шчасце і спакой у народнай рэспубліцы *Struck Oil city,* прывесці да страшных наступстваў. Дасведчаны палітык містэр Дэвіс вырашыў знішчыць ліха ў зародку, а таму імкнуўся памірыць немку з немцам. Здаралася, ён выходзіў на сярэдзіну вуліцы і казаў ім на іх роднай мове:

– Ну! Чаго сварыцеся? Ці не ў аднаго чабатара вы купляеце чаравікі? На мне такія, што ва ўсім Сан-Францыска не знайсці лепшых.

– Дарма хваліць чаравікі той, хто скора будзе без ботаў хадзіць, – перапыняла яго панна Нойман.

– Аўтарытэт сабе я зарабляю не нагамі, – флегматычна адказваў Ганс.

А трэба было ведаць: панна Нойман, дарма што праўдзівая немка, мела прыгожыя ногі, таму падобныя кпіны поўнілі яе сэрца страшэннай крыўдай.

У мястэчку дзве партыі пачалі ўжо і на сходах абмяркоўваць стасункі Ганса і панны Нойман; а паколькі ў Амерыцы ніхто ў справах, якія тычацца кабет, не дойдзе да справядлівасці, большасць перайшла на бок панны Нойман.

Хутка Ганс зразумеў, што яго грацэрня яму абыходзіцца задорага.

Але і панна Нойман не спадзявалася на лепшае, таму што ўсе кабеты ў гарадку неўзабаве ўзялі бок Ганса, бо заўважылі, што іх мужы занадта часта наведваюцца да прыгожай немкі і пасля кожнай пакупкі залішне затрымліваюцца.

Калі нікога не было ані ў той, ані ў другой краме, Ганс і панна Нойман станавіліся ў дзвярах і кідалі адно на адно знішчальныя позіркі. Панна Нойман мела звычку напяваць, нібыта сама сабе, на мелодыю *mein liber Augustin:*

– *Doczmen, Doczmen, Do – Doczmen, Do – Doczmen – men!*

Пан Ганс выразна глядзеў на яе ногі, потым на постаць, нарэшце на твар, і крывіўся так, нібыта сузіраў забітага месяц таму каёта; тады ён выбухаў пякельным смехам і крычаў:

– *By God!*

У рахманага, флегматычнага чалавека нянавісць дайшла да такой ступені, што, калі раніцай ён прыходзіў да крамы, а панны Нойман яшчэ не было на ганку, ён круціўся, быццам яму нечага не хапала.

Яны б даўно перайшлі да больш рашучых дзеянняў, калі б не тое, што Ганс быў загадзя ўпэўнены ў пройгрышы, бо панна Нойман перацягнула на свой бок рэдактара *"Saturday Weekly Review"*. Ганс канчаткова пераканаўся ў гэтым, калі пусціў чутку, нібыта Нойман носіць штучны бюст. Гэта выглядала на праўду, бо ў Амерыцы так прынята. І тут жа ў наступным выпуску *"Saturday Weekly Review"* з'явіўся артыкул, у якім рэдактар, агулам кажучы пра паклёпы розных *Doczmen*-аў, урачыста запэўніваў, як "добра паінфармаваны", што бюст у абылганай – сапраўдны.

З таго часу пан Ганс пачаў піць на сняданак выключна чорную каву замест забялянай, бо не хацеў браць малака ў пана рэдактара, затое панна Нойман пачала купляць малака ўдвая больш, чым раней, а краўцу замовіла пашыць сукенку, якая формай станіка канчаткова пераканала ўсіх, што Ганс паклёпнік.

З-за гэтай чыста жаночай хітрасці Ганс адчуў сябе безабаронным; а тым часам немка кожнага ранку, стоячы перад крамай, спявала ўсё гучней і гучней:

– *Doczmen, Doczmen, Do – Doczmen, Do – Doczmen – men!*

"Чым я магу ёй дапячы? – разважаў Ганс. – У мяне ёсць атручаная пшаніца для пацукоў, можа, атруціць яе курэй? Не! Потым мяне прымусяць заплаціць грошы. Але ведаю, што зраблю".

# Яны

Увечары панна Нойман заўважыла, як пан Ганс носіць пукі сланечнікаў і выкладае з іх нешта накшталт сцежкі пад закратаваным акном крамы. “Цікава, што гэта будзе? – думала яна. – Напэўна, нешта супраць мяне задумаў!”

Тым часам сцямнела. Пан Ганс выклаў сланечнікі ў дзве лініі, так што пасярэдзіне застаўся вольным праход да акна ягонае крамы; потым вынес нейкую рэч, закрытую палатном, павярнуўся спінай да панны Нойман, палатно з рэчы зняў, накрыў яе сланечнікавым лісцем, а потым накрэсліў на муры нейкія літары.

Панна Нойман памірала ад цікаўнасці.

“Напэўна, пра мяне нешта піша, – думала яна, – як толькі ўсе пакладуцца спаць, пайду зірну, нават калі мушу сканаць”.

Ганс, як скончыў справу, падняўся да сябе і хуценька патушыў святло. Тым часам панна Нойман таропка накінула халат, уздзела на босыя ногі пантофлі і пабегла цераз вуліцу. Сцежкай, выкладзенай сланечнікамі, яна падбегла да самага акна, бо ёй хацелася прачытаць надпіс на сцяне. Раптам яе вочы палезлі на лоб, яна тарганулася верхняй паловай цела назад, а з вуснаў вылецела балючае: “Ай! Ай!”; у роспачы яна залямантавала: “Ратуйце! Ратуйце!!!”

Акно наверсе адчынілася:

– *Was ist das?* – пачуўся спакойны голас Ганса. – *Was ist das?*

– *Doczmen* пракляты! – верашчала паненка, – забіў мяне, загубіў! Зранку будзеш вісець. Ратуйце! Ратуйце!

– Зараз выйду, – прамовіў Ганс.

Праз хвіліну ён з’явіўся са свечкай у руках. Паўзіраўся на панну Нойман: яна стаяла, як прыбітая да зямлі, – пасля чаго схапіўся пад бокі і пачаў смяяцца:

– Хто гэта? Панна Нойман? Ха-ха-ха! Добры вечар! Ха-ха-ха! Злавіў на гарачым, заспеў! Карцела зазірнуць у мой склеп? А я наўмысна напісаў на сцяне папярэджанне, каб ніхто не набліжаўся. Можна лямантаваць, хай збягуцца людзі; хай усе бачаць, хто ўначы ходзіць і зазірае ў склеп *Doczmen*-а. *O mein Gott!* Лямантуй не лямантуй, а стаяць давядзецца да раніцы. Дабранач!

Становішча ў панны Нойман было жахлівае. Лямантаваць? Людзі збягуцца – кампраметацыя! Не лямантаваць? Давядзецца

ўсю ноч стаяць на вуліцы, закутай у жалезную пастку, а ўдзень ператварыцца ў бясплатнае відовішча для местачкоўцаў?.. А тут яшчэ нага баліць усё мацней... У галаве закруцілася, зоркі мяняліся паміж сабою месцамі; месяц падаўся варожым тварам пана Ганса: яна самлела.

– *Herr je*! – сказаў сабе Ганс. – Калі яна памрэ, то раніцай мяне лінчуюць без суда.

І ад жаху на яго галаве валасы сталі дыбам.

Трэба было даць рады. Ганс чым хутчэй адшукаў ключ, каб адчыніць жалезную пастку, але зрабіць гэта аказалася не так проста – замінаў халат панны Нойман. Давялося яго рассунуць і... нягледзячы на нянавісць і страх, Ганс не здолеў утрымацца, затрымаў позірк на прыгожых, быццам мармуровых у месяцавым святле, ножках сваёй непрыяцелькі.

І хто ведае: магчыма, упершыню ў моры яго нянавісці з'явілася кропля літасці. Ганс таропка адамкнуў жалезную пастку, але паненка нават не варухнулася, давялося ўзяць яе на рукі і занесці дадому. Па дарозе Ганс зноў адчуў літасць. Ён вярнуўся да сябе і цэлую ноч не здолеў заплюшчыць вачэй.

Нараніцу панна Нойман не з'явілася перад сваёй грацэрняй, каб праспяваць заўсёднае: *Doczmen, Doczmen, Do – Doczmen*. Можа, засаромелася, а можа, у маўчанні прыдумляла помсту.

Высветлілася, што помсту. Увечары таго ж дня рэдактар "*Saturday Weekly Review*" выклікаў Ганса біцца на кулаках і адразу ж напачатку бойкі падбіў яму вока. Ганс, даведзены да шалу, абрынуўся на праціўніка, і рэдактар, пасля нядоўгага і дарэмнага супраціўлення, паваліўшыся наўзнач, залямантаваў: "*Enough! Enough*!" ("Досыць! Досыць!")

Невядома якім чынам, але пэўна ж не ад Ганса, у мястэчку ўведалі пра начныя прыгоды панны Нойман. Пасля бойкі з рэдактарам у сэрцы Ганса зноў знікла літасць да непрыяцелькі і засталася адна нянавісць.

Ганс прадчуваў, што яго напаткае раптоўны падступны ўдар ненавіснай рукі, і сапраўды: чакаць давялося нядоўга. Гаспадары грацэрань звычайна вывешваюць перад склепамі аб'явы – спісы тавараў, якія маюць назву "*Notice*". З другога боку, трэба ведаць, што ў грацэрнях прадаецца лёд, без якога ніводзін амерыканец не стане піць ані віскі, ані піва. Неўзабаве Ганс са здзіўленнем

заўважыў, што ў яго цалкам спыніўся продаж лёду. Агромністыя брылы, якія Ганс прывёз і, як заўсёды, склаў у склепе, пакрысе раставалі: было шкада дзесяці з лішкам даляраў. Чаму? Як? Што здарылася? Ганс бачыў, што нават ягоныя прыхільнікі штодня куплялі лёд у панны Нойман; ён аніяк не мог зразумець, што адбылося, бо ні з кім са сталых пакупнікоў не сварыўся.

Нарэшце ён наважыўся пацікавіцца.

– Чаму не купляеце ў мяне лёд? – спытаў ён на ламанай англійскай мове ў Петэрса, калі той праходзіў каля крамы.

– Таму што яго няма.

– Чаму няма?

– Адкуль мне ведаць?

– *Aber* я трымаю лёд.

– Тады што гэта? – шынкар паказаў пальцам на аб'яву, прымацаваную над уваходам.

Ганс паглядзеў і пазеляне ад злосці. На ягонай аб'яве ў спісе тавараў нехта ў слове "*Notice*" выдрапаў з сярэдзіны *t*, у выніку чаго замест "*Notice*" атрымалася: "*No ice*", што па-англійску абазначае: "Няма лёду".

– *Donnerwetter*! – зароў Ганс і, увесь ссінелы ад злосці, уварваўся ў склеп да панны Нойман.

– Гэта ёсць паскудства! – абурана крычаў ён. – Чаму панна выдрапала ў мяне з сярэдзіны літару?

– Што я пану выдрапала з сярэдзіны? – з удаваным неразуменнем пацікавілася панна Нойман.

– Літару, кажу; *t*, кажу! Выдрапалі мне *t*! *Aber goddam*! Так болей немагчыма. Хто мне заплаціць за лёд! *Goddam! Goddam*!

Ганс страціў заўсёдную стрыманасць, ён пачаў вішчэць як апантаны; панна Нойман залямантавала. Збегліся людзі.

– Ратуйце! – крычала панна Нойман. – *Doczmen* звар'яцеў! Кажа, што я яму нешта выдрапала з сярэдзіны, а я яму нічога не драпала. Што я магла выдраць? Нічога! О, Божа! Я выдрапала б яму вочы, калі здолела б, але нічога болей. Я бедная кабета, жыву адна! Ён мяне зараз заб'е!

І яна залілася горкімі слязьмі. Англамоўныя амерыканцы, па праўдзе кажучы, так і не зразумелі, пра што ішла гаворка, але амерыканцы не могуць спакойна глядзець, як плача самотная кабета, таму немцу далі ў карак і выпхнулі яго за дзверы. Ганс спрабаваў

дамагчыся праўды: дзе там! Ён паляцеў, як корак з бутэлькі, пераляцеў вуліцу, расчыніў галавой уласныя дзверы і зваліўся на падлогу.

Праз тыдзень над яго крамай вісела вялікая маляваная шыльда. На ёй была намалявана малпа ў пасястай сукенцы, белым фартуху, з нарукаўнікамі, вельмі падобная да панны Нойман. На шыльдзе блішчэлі вялікія залатыя літары:

"Грацэрня пад малпай".

Людзі сышліся паглядзець. Смех прымусіў панну Нойман выйсці на ганак. Выйшла, паглядзела, пабляднела, але стрымала злосць і крыкнула:

– Грацэрня пад малпай? Нічога дзіўнага, бо пан Кашэ жыве *над* маёй грацэрняй. Ха!

Аднак удар трапіў ёй дакладна ў сэрца. Папалудні яна пачула, як натоўп дзяцей, якія вярталіся са школы, затрымаўся каля шыльды і загаманіў:

– O! hat's miss Neuman! Good evening, miss Neuman!

Гэта было ўжо невыносна. Увечары, калі да яе прыйшоў рэдактар, панна Нойман сказала яму:

– Тая малпа – я! Разумею, што гэта я, і не дарую яму. Я прымушу яго зняць шыльду і злізаць малпу ўласным языком, пры мне.

– Гэта будзе цяжка зрабіць.

– Я зараз жа іду да суддзі.

– Цяпер?

– Раніцай.

Нараніцу панна Нойман выйшла з дому, наблізілася да Ганса і прамовіла:

– Слухай, пан *Doczmen*! Я ведаю, што малпа – гэта я, і мы разам пойдзем зараз да суддзі. Паслухаем, што ён скажа.

– Скажа: я магу маляваць над сваёю крамай усё, што мне падабаецца.

– Паглядзім.

Панна Нойман ледзь дыхала ад абурэння.

– Хто сказаў, што малпа – панна Нойман?

– Сумленне мне падказвае. Хадзем, пойдзем са мною да суддзі, а не хочаш, то шэрыф цябе ў кайданах завядзе.

– Добра, пайду, – сказаў Ганс: ён быў упэўнены, што выйграе.

Гандляры пазачынялі крамы і пайшлі. Толькі каля самых дзвярэй суддзі Дэсанвіла прыгадалі, што абодва не ўмеюць добра паразумецца па-англійску, не здолеюць растлумачыць сутнасці справы. Што рабіць? Шэрыф, як польскі габрэй, умеў і па-нямецку, і па-англійску. Вось і пайшлі да яго.

Шэрыф сядзеў у брычцы і збіраўся ад'язджаць.

– Ідзіце да *devil*! – крыкнуў ён рэзка. – Праз вас у мястэчку суцэльны вэрхал! Толькі вас і чуваць! Ходзіце па некалькі гадоў у адных чаравіках. Мушу ехаць. *Good-bye*!

І паехаў.

Ганс заклаў пальцы за рэмень.

– Мусім чакаць да раніцы, – прамовіў ён флегматычна.

– Я мушу чакаць? Лепш задавіцца. Хіба што пан здыме малпу.

– Не здыму.

– Тады пан будзе вісець замест яе сам! Абыдземся і без шэрыфа. Суддзя і без нас ведае, у чым справа.

– Добра, абыдземся без шэрыфа, – прамовіў немец.

Аднак панна Нойман памылілася. Адзін толькі суддзя ва ўсім мястэчку нічога не ведаў пра іх сваркі – ані сном ані духам; дзядок гатаваў сваю "лероа", і яму здавалася, нібыта ён збавіцель свету.

Сустрэў ён іх, як звычайна сустракаў кожнага, – па-добраму і ветліва:

– Пакажыце языкі, дзеці мае!.. – прамовіў. – Прапішу вам зараз...

Абое замахалі рукамі, маўляў, нам не трэба лекаў. Панна Нойман паўтарала:

– Не тое трэба, не тое!

– Тады што?

Разумеліся з пятага на дзесятае. Ганс казаў слова, паненка паспявала выпаліць дзесяць. Нарэшце немка паказала на сэрца: нібыта пан Ганс прабіў яго сямю мячамі.

– Разумею! Цяпер зразумеў! – узрадаваўся доктар.

Пасля чаго ён адкрыў кнігу і пачаў пісаць. Спытаў у Ганса, колькі яму гадоў? – Трыццаць шэсць. Спытаў у панны – дакладна

не памятала: нешта каля дваццаці пяці. – *All right*! Як вашыя імёны? – Ганс, Лора. – *All right*! Чым займаецеся? – Уладальнікі грацэрань. – *All right*! Потым яшчэ некалькі пытанняў. Абое не разумелі і паловы, але старанна адказвалі: *yes*.

Доктар скончыў пісаць, падняўся і раптам абняў Лору за талію, пацалаваў. Яна палічыла гэта добрым знакам і, перапоўненая ружовымі спадзяваннямі, накіравалася дадому.

Па дарозе яна сказала Гансу:

– Я яшчэ пакажу.

– Пакажаш каму іншаму! – спакойна адказаў Ганс.

Нараніцу перад крамамі з'явіўся шэрыф. Абое ўладальнікі стаялі на ганках. Ганс паліў люльку, Лора спявала:

– *Doczmen, Doczmen, Do – Doczmen, Do – Doczmen – men*.

– Усё яшчэ жадаеце ісці да суддзі? – спытаў шэрыф.

– Мы ўжо былі ў яго.

– Ну і як?

– Мой шэрыфку, мой пан Дэвіс! – сказала дзяўчына. – Схадзіце даведайцеся за нас. Дарэчы, даўно збіралася замовіць новыя чаравікі. Закіньце за мяне слова перад суддзёй. Бачыце, я бедная дзяўчына... адна...

Шэрыф пайшоў і праз чвэрць гадзіны вярнуўся. Але чамусьці акружаны натоўпам людзей.

– Ну што? Ну як? – пачалі распытваць абое.

– Усё добра, ах! – сказаў шэрыф.

– Што вырашыў суддзя?..

– Няўжо ён можа зрабіць нешта кепскае? Ён вас ажаніў.

– Ажаніў?!!!

– Хіба дзіва, што людзі жэняцца?

Калі б раптам у чыстым небе ляснуў пярун, Ганс і Лора не ўразіліся б да такой ступені. Ганс вырачыў вочы, адкрыў рот, звесіў язык і глядзеў, як дурны, на панну Нойман, а панна Нойман вырачыла вочы, адкрыла рот, звесіла язык і глядзела, як апошняя дурніца, на Ганса. Яны абое аслупянелі, скамянелі. Потым залямантавалі:

– Я ягоная жонка?!

– Я яе муж?!

– Гвалт! Гвалт! Ніколі! Развод! Я не хачу!

– Не, гэтага я не хачу!

– Лепш памерці! Гвалт! Развод, развод! Што гэта робіцца?

– Мае любыя, – спакойна сказаў шэрыф. – Лямант вам не дапаможа. Суддзя дае шлюб, але суддзя не дае разводу. Навошта крычыцё? Няўжо вы мільянеры з Сан-Францыска, каб браць развод? Ці вы не ведаеце, колькі ён каштуе?.. Ай! Навошта крычаць? У мяне ёсць цудоўныя дзіцячыя чаравічкі, танна прадам! *Good-bye*!

Сказаўшы гэта, шэрыф сышоў. Людзі, смеючыся, таксама разыходзіліся. "Маладыя" засталіся адны.

– Паскудны француз, – прасычэла "маладая", – ён наўмысна так зрабіў, бо мы немцы!

– *Richtig,* – пагадзіўся Ганс.

– Пойдзем разводзіцца!

– Я першы так вырашыў! Гэта панна выдрапала мне *t* з сярэдзіны!

– Не! Я першая! Пан злавіў мяне ў жалезную пастку.

– Я не хачу пані.

– Я не цярплю пана.

Гандляры разышліся і пазачынялі крамы. Лора сядзела ў сябе, думала цэлы дзень, Ганс – у сябе. Настала ноч. Ноч прыносіць спакой. "Маладыя" не маглі і думаць пра сон. Пакладіся ў ложкі, але вачэй ніхто з іх не заплюшчыў. Ганс думаў: "Там спіць мая жонка". Яна: "Там спіць мой муж!" І дзіўныя пачуцці нараджаліся ў іх сэрцах. Нянавісць і гнеў у спалучэнні з самотаю. А яшчэ Ганс думаў пра малпу над сваёй крамай. Давядзецца зняць, бо цяпер гэта карыкатура на ягоную жонку. І ён адчуў, што зрабіў брыдка, калі замовіў мастаку зрабіць такую шыльду. Зноў панна Нойман! Усё ж-такі ён яе ненавідзіць. Гэта ж з-за яе лёд растаў. А пасля гэтага ён злавіў яе ў жалезную пастку. І тут яму зноў прыгадаліся зграбныя ногі, убачаныя ў месяцавым святле. "Што праўда, яна прывабная дзяўчына. Але ж яна мяне ненавідзіць, і я яе". Вось становішча! Ах, *Herr Gott*! Ажаніўся? І з кім? З паннай Нойман! А развод каштуе шмат! Грацэрні не хопіць, каб расплаціцца!

– Я жонка гэтага *Doczmen*-а, – казала сама сабе панна Нойман. – Я ўжо не панна... г.зн. хацела сказаць: я паненка, але выйшла замуж! За каго? За Кашэ, які злавіў мяне ў жалезную пастку. Але праўда і тое... што ён потым нёс мяне на руках, ледзь

жывую. А які дужы! Вось! Падняў мяне, ледзь жывую... Што гэта? Нейкі шоргат?

Шоргату ніякага не было, але панна Нойман злякалася, хоць да гэтага ніколі не баялася заставацца сама.

– Калі б ён насмеліўся зараз... Божа!

А потым яна дадала ціха, і ў яе голасе прагучала нотка расчаравання:

– Але ён не насмеліцца. Ён...

Страх мацнеў. "Так заўсёды бывае, калі жанчына адна! – думала Лора. – Калі б побач быў мужчына, я пачувалася б бяспечней. Дарэчы, казалі пра нейкія забойствы ў наваколлі (ніхто пра забойствы панне Нойман, вядома, не казаў). Прысягаю, што мяне тут некалі заб'юць. Кашэ! Гэта ты заступіў мне дарогу. Аднак трэба параіцца наконт разводу".

З такімі думкамі Лора круцілася на шырокім амерыканскім ложку і з кожнай хвілінай адчувала сябе ўсё больш самотнай. І тут сэрца ў яе грудзях скаланулася. Гэтым разам яе перэпалах меў падставы. Сярод начной цішы выразна пачуўся грукат малатка.

– Езус! – крыкнула паненка, – вось дабраліся і да маёй грацэрні!

Лора пабегла да акна і... адразу супакоілася. У месяцавым святле яна ўбачыла драбіны, а на іх – Ганса, які адбіваў малатком цвікі, што трымалі шыльду з малпай.

Панна Нойман ціха адчыніла акно.

" Здымае малпу, гэта міла з яго боку!" – падумала яна.

Лора адчула, як каля самага сэрца штосьці растала.

Ганс выдраў цвікі. Бляха з бразгатам паляцела на брук. Ён злез, зняў раму, скруціў сваімі жалезнымі рукамі бляху ў трубку і пачаў адсоўваць драбіны.

Лора сачыла за ім... Ноч была ціхая, цёплая...

– Ганс... – шэптам сказала дзяўчына.

– А што гэта панна не спіць? – таксама шэптам адказаў Ганс.

– Не! Добры вечар!

– Добры вечар!

– Што пан робіць?

– Здымаю малпу.

– Дзякуй!

Запанавала хвіліна маўчання.
– Пан Ганс! – зноў зацурчэў голас.
– Што, Лора?
– Мы павінны параіцца... наконт разводу.
– Так.
– З раніцы?
– З раніцы.
Зноў хвіліна маўчання... Месяц смяецца, сабакі не брэшуць.
– Пан Ганс!
– Што, панна Лора?
– Мне тэрмінова трэба ўзяць развод...
Голас гучаў меланхалічна.
– І мне, пані Лора! – глуха адказаў Ганс.
– Бо гэта... каб не цягнуць час...
– Лепш не зацягваць.
– Чым хутчэй параімся, тым лепей.
– Тым лепей, панна Лора.
– Можам параіцца і зараз...
– Калі панна дазваляе...
– Запрашаю...
– Толькі пераапрануся.
– Не трэба...

Дзверы адчыніліся. Ганс знік у цемры, а праз хвіліну ўжо апынуўся ў пакойчыку – ціхім, цёплым, ахайным. Лора сустрэла яго ў белым халаціку, яна была чароўная.

– Слухаю, – сказаў Ганс прыглушаным мяккім голасам.

– Але, пан бачыць, я вельмі хачу ўзяць развод, але... баюся, каб нас хто не заўважыў з вуліцы.

– Цёмна ж у пакоі... – сказаў Ганс.

– Ах! Праўда! – адказала Лора...

І яны пачалі раіцца наконт разводу, але тая гутарка належыць ужо іншай гісторыі.

Спакой вярнуўся ў *Struck Oil city*.

**Пераклад з польскай**
**Ірыны КЛІМКОВІЧ**

Алесь АСТРАЎЦОЎ

# НЕ КАЗКА, А МІФ

Сто гадоў таму заснавальнік сацыяльнай псіхалогіі сп.Гюстаў Ле Бон пісаў: "Без папярэдняга ведання душэўнага складу народа гісторыя яго здаецца нейкім хаосам падзей, кіруемых адно выпадковасцю. І наадварот: калі душа народа нам вядомая, жыццё яго ўяўляецца слушным і фатальным наступствам, што вынікае з псіхалагічных рысаў. Ва ўсіх праявах жыцця нацыі мы заўсёды знаходзім, што нязменная душа расы сама тчэ ўласны лёс".

*Нязменная* душа расы...

"Толькі на знешні погляд, – дадае сп.Ле Бон, – народ рэзка змяняе сваю мову, свой дзяржаўны лад, свае вераванні і сваё мастацтва. Дзеля таго, каб падобныя змены адбыліся насамрэч, трэба змяніць яго душу... Народ можа страціць вельмі шмат, зведаць усемагчымыя катастрофы і быць яшчэ ў стане ўзняцца. Аднак ім усё страчана і яму ўжо не ўзняцца ніколі, калі ён згубіў уласную душу".

Аснову народнай душы складаюць агульнасць пачуццяў, агульнасць ідэй, агульнасць інтарэсаў і агульнасць вераванняў. "Гэтая агульнасць... – кажа сп.Ле Бон, – створаная павольнымі спадчыннымі зменамі, надае псіхічнаму складу народа вялікае падабенства, вялікую трываласць і забяспечвае яму ў той жа час велізарную моц".

Паводзінамі кожнага індывіда – прадстаўніка пэўнай нацыі – кіруюць тры галоўныя ўплывы: першы і самы істотны – уплыў продкаў, другі – уплыў непасрэдных бацькоў, трэці, што лічыцца самым магутным, а насамрэч з'яўляецца самым слабым, – уплыў знешняга асяроддзя. Такім чынам, што б чалавек ні рабіў, ён у першую чаргу і галоўным чынам – прадстаўнік сваёй расы, якая з'яўляецца пастаяннай, фактычна не падначаленай уплыву часу. Сама ж раса складаецца не толькі і не столькі з тых, хто

жыве ў дадзены момант, але і з "доўгага шэрага памерлых, што былі іх продкамі". А таму, як сцвярджае сп.Ле Бон, "лёсам народа кіруюць у значна большай ступені памерлыя пакаленні, чым тыя, што жывуць".

Пасля такіх слоў кожны літаратар пачынае задумвацца над тым, ці належную ўвагу ў сваёй творчасці ён надае продкам – іх асобам і ўчынкам, ідэям і пачуццям, той спадчыне, "супраць якой усе аргументы абсалютна бяссільныя". І не толькі пра бабулю з дзядулем гаворка, не толькі пра іх сучаснікаў, але і пра тых, чыё амаль нячутнае дыханне даносіцца з цемры стагоддзяў і прымушае ціхенька вібрыраваць самыя пяшчотныя струны нашай душы.

А ўвага павінна быць належная. Бо "яны доўга спяць у зямлі, пакуль літаратары, занятыя фабрыкацыяй легендаў, не надумаюць прымусіць іх гаварыць". І не ідэалізаваць трэба продкаў і іх учынкі, не пра казачны "залаты век" казаць. Бо вялікая ступень адказнасці за ўсё тое, што нас не задавальняе сёння, належыць нашым продкам.

Але яны захавалі душу нацыі, і мы не маем права яе страціць.

Што ж ратуе душу, дае ёй магчымасць трываць і супрацьстаяць разбуральнаму ўздзеянню гістарычных катаклізмаў? "Розум, – пісаў некалі прафесар *College de France* сп.Рыбо, – толькі другасная форма псіхічнай эвалюцыі. Асноўным тыпам яе ёсць характар. Розум жа, калі ён занадта развіты, хутчэй вядзе да яго разбурэння".

Характар нацыі – гэта воля, настойлівасць, энергія, самавалоданне, непераможная ўпартасць, здатнасць ахвяраваць сабой дзеля ідэала, непарушная павага да законаў, што стварылі веліч продкаў. Уплыў характару – самы магутны фактар у жыцці нацыі.

"Усялякі ніжэйшы народ, які сутыкаецца з вышэйшым, фатальна асуджаны на хуткае знікненне", – пісаў сп.Ле Бон, які "ніжэйшасць" і "вышэйшасць" звязваў не з узроўнем інтэлекту, але выключна з узроўнем развіцця характару. І тады ўжо не мае ніякага значэння, хто каго "захапіў", бо, напрыклад, "паслядоўна зваяваны дзесяццю рознымі народамі, Егіпет быў заўсёды іх магілай". Таму "гісторыя вялікіх імперый, утвораных з розных рас, заўсёды была тоеснай. Яны знікалі, часцей за ўсё, разам са сваім заснавальнікам... Усе вялікія імперыі, што аб'ядноўвалі непадобныя народы, могуць утварацца толькі сілай і асуджаны загінуць ад гвалту".

Характар нацыі – гарант яе жыццяздольнасці, забяспечанасці і незалежнасці.

Якое значэнне ўсё гэта можа мець для літаратуры? Каб знайсці адказ на гэтае пытанне, звернемся да прыкладаў.

Антычная Грэцыя – нацыя паэтаў. Яна паказала іншым народам фантастычны прыклад імклівага (усяго за дзвесце гадоў) узлёту

мастацтваў і філасофіі. Але яна не здолела стварыць магутнай трывалай дзяржавы і так жа імкліва знікла з мапы бясследна...

Мастацтва Рыма – гіпербалізаванае капіяванне грэцкіх узораў, груватсткая паэзія, няўклюдная "тытанічная" архітэктура і заняпад філасофіі. Але рымляне стварылі магутную тысячагадовую дзяржаву і пакінулі па сабе выдатныя ўзоры празаічных твораў.

У гэтым ужо праглядаецца тэндэнцыя. Калі мы звернем увагу на нацыі і народы, якія здолелі стварыць трывалыя, не падуладныя на працягу стагоддзяў унутраным і вонкавым катаклізмам дзяржаўныя фармаванні (Вялікабрытанія, ЗША), дык без цяжкасцей адзначым у іх літаратуры росквіт прозы і амаль заняпад паэзіі.

Старая французская показка гаворыць: падчас адной з бітваў з іспанскімі войскамі швейцарскія найміты адступілі. У час іхніх уцёкаў французы, што не пакінулі занятых пазіцый, ганьбавалі ўцекачоў: "Гнюсныя швейцарцы. Мы ваюем дзеля славы, а вы – толькі дзеля грошай!" На што швейцарцы адказвалі: "Кожны ваюе дзеля таго, чаго яму не хапае".

Калі беларусы хочуць пабудаваць моцную незалежную дзяржаву, яны павінны перастаць быць "нацыяй паэтаў". Бо менавіта проза выхоўвае характар. Літаратара і чытача. Нацыі.

Але каб проза здолела выканаць падобную функцыю, яна павінна быць зразумелай як мага большаму колу чытачоў.

Падзел жа літаратуры на "высокую" і "для масавага чытача" адбыўся адразу пасля яе ўзнікнення. Мы маем таму пісьмовае сведчанне, што належыць паслядоўніку сп.Герадота сп.Фукідыду, які ў першай кнізе сваёй "Гісторыі" досыць нясціпла заявіў: "Хоць і складаныя гістарычныя штудыі, але ўсё ж недалёка ад праўды будзе той, хто прызнае ходу падзей у старажытнасці прыкладна такой, як я яе абмаляваў, і не будзе верыць паэтам, якія перабольшваюць і падмалёўваюць апяваемыя імі падзеі, альбо тым гісторыям, што выдумляюць лагографы (графаманы – аўт.) болей вытанчана, чым праўдзіва, – у большасці байкападобным і якія за даўнасцю часу не паддаюцца праверцы".

Пакінем убаку суб'ектыўна-эмацыйную афарбоўку сп.Фукідыда і прызнаем, што словы гэтыя справядлівыя і зараз. А калі амаль за дзве з паловай тысячы гадоў, згодна з сучаснай шкалой гістарычнага летазлічэння, нічога не змянілася, то гэта можа азначаць толькі тое, што літаратурны працэс адбываецца ў межах уласных аб'ектыўных законаў.

Сёння прынята адрозніваць творы "высокай", "элітарнай" літаратуры, якія ствараюцца дзеля развіцця мастацкага працэсу, і, з другога боку, разлічаныя на масавага чытача творы, якія, на думку шматлікіх прадстаўнікоў "эліты", нічога агульнага з сапраўднай

творчасцю не маюць. Магчыма, гэта перабольшванне, але, сапраўды, рамесных, чыста тэхналагічных аспектаў у такой літаратуры непараўнальна больш. Таму яна ў значна большай ступені паддаецца вывучэнню, класіфікацыі, схематызацыі і, адпаведна, тэарэтызацыі. Што і паспрабуем зрабіць. Бо кнігі для масавага чытача, інакш – папулярныя, называюцца "бестселерамі" (англ. *best seller* – "лепшы па продажы"). Магчыма, у некаторай ступені такое вызначэнне нахабнае і шматабяцальнае, але, тым не меней, цалкам слушнае: папулярная літаратура не можа быць не бестселеравай, што накладае досыць вялікую адказнасць у першую чаргу на аўтара.

Праўда, у колах беларускіх літаратараў дагэтуль можна пачуць, быццам наша літаратура і не павінна быць масавай (а значыць, калі разгарнуць, папулярнай і прадаваемай). У той жа час тыя самыя людзі скардзяцца на змяншэнне накладаў беларускіх кніжак. Гэта гучыць даволі абсурдна, але толькі на першы погляд. Справа ў тым, што існуе такое паняцце, як літаратура "карпаратыўная", або "партыйная", згодна сп.Леніну. Такая літаратура можа быць як "элітарнай" (сакрэтнай, эзатэрычнай і г.д.), так і "масавай" (класічны прыклад – "Як гартавалася сталь"). Слова "эзатэрычная" мае паходжанне ад старажытнагрэцкага "за плотам". Так называліся веды, якім навучалі "абраных" у закрытых школах (акадэміум, ліцэум і да т. п.). У адрозненне ад іх, адкрытыя для ўсіх астатніх веды называліся экзатэрычнымі – ад "перад плотам". Але масавасць падобнай літаратуры грунтуецца не на вяртанні ўкладзеных у наклад грошай, а на аддачы прапагандысцкай – папулярызацыі ў масах выгадных карпарацыі ідэй: у класічным прыкладзе, гэта захоп улады прышлымі і гатоўнасць тутэйшых, ніжэйшых, натуральна па ўзроўні развіцця (адно прозвішча Карчагін чаго вартае!), ахвяраваць жыццём дзеля таго, каб прышлыя тую ўладу захавалі. Таму падобныя размовы адразу выдаюць былых карпаратыўных пісьменнікаў, якія ўсяго толькі пазбавіліся сваёй карпарацыі.

З сітуацыі, у якой такім чынам апынулася беларуская літаратура, існуе толькі два выйсці:

1. Пошук новай карпарацыі (што няблага атрымліваецца ў "маладых інтэлектуалаў").

2. Стварэнне папулярнай літаратуры.

Абодва шляхі маюць права на жыццё, таму паспрабуем тэарэтызаваць другі напрамак, бо "метадычных дапаможнікаў" пра тое, якім чынам атрымаць грант, ужо хапае. А паколькі задача нумар адзін літаратуры, і не толькі яе, – гэта стварэнне эканамічнай базы дзеля ўласнага існавання (пакінем за бортам усе астатнія аспекты, бо яны не трапляюць у сферу нашага, так бы мовіць, дыскурсу), якая дае

магчымасць літаратару займацца выключна творчасцю і мець праз гэта сродкі на жыццё, дык размова пойдзе толькі пра папулярную літаратуру, літаратуру "для чытача". Хаця б таму, што "элітарная" літаратура часта пішацца мовай, незразумелай нават "эліце" з суседняй "элітарнай" тусоўкі. А значыць, мэтанакіравана творыцца з усведамленнем таго, што прачытаецца адзінкамі. Яна разлічана выключна на тое, каб умацоўваць, натхняць і пераконваць ва ўласнай "вышэйшасці", "выключнасці", "пакліканасці" і "абранасці" неафітаў самой карпарацыі, і нядрэнна са сваёю задачай спраўляецца.

Чаго ж чакаюць ад "сваёй" літаратуры масы? Тое можна вызначыць метадам "ад супрацьлеглага". Сваю асноўную эзатэрычную працу, названую сучаснікамі "Метафізіка", сп.Арыстоцель распачаў так: "З усіх слоў наймілейшыя нам тыя, што даюць хоць-кольвечы ведаў". Адсюль не цяжка зрабіць выснову, што масы, якія не ўваходзяць у сферу спажыўцоў эзатэрычнай літаратуры, прагнуць, наадварот, не пазнання, а пазнавання. Гэта і ёсць асноўны прынцып, па якім ствараецца папулярная літаратура.

Але нават самая дакладная навука – матэматыка – не пазбаўлена прыблізных велічыняў, лічбаў у перыядзе, імкненняў да нуля, плюс-мінус бясконцасці. Што ўжо казаць пра літаратуру... Таму ў межах асноўнага прынцыпу поп-літаратуры адразу акрэсліваюцца два напрамкі:

1.Пісаць, арыентуючыся на ўзровень чытача "ніжэйшы за сярэдні". Паколькі вектар інтэлектуальнага развіцця натоўпу заўсёды накіраваны ў бок найменей інтэлектуальна развітага індывіда, дык пры такім напрамку літаратура будзе разлічана на людзей разбэшчаных і недалёкіх. Вельмі красамоўна тое праілюстраваў адзін вядомы маскоўскі кнігавыдавец, які аднойчы параіў пісьменніку Фёдару Бутырскаму: "Павесь над маніторам свайго камп'ютэра лозунг: "Чытач – дэбіл!"

2. Разлічваць на ўзровень чытача, "вышэйшы за сярэдні". У такім выпадку літаратура мусіць "весці" масы за сабой (менавіта весці, а не выхоўваць, каб пазбегнуць непрымальнай для масаў рыторыкі).

У беларускіх пісьменнікаў выбару няма – застаецца толькі другі шлях. У першым выпадку чытачы або проста не ведаюць, або палянуюцца варушыць мазгамі, каб "спажыць" нязвыклую для іх беларускую мову. Толькі шкадаваць пра тое не варта, бо гэты напрамак – шлях да разбурэння свядомасці, характару і, у рэшце рэшт, душы нацыі, які з часам не можа не адбіцца (і таму шмат прыкладаў) на псіхіцы як самога пісьменніка, так і выдаўца.

Тым не меней засяродзімся на абодвух напрамках, бо, зрэшты, адсюль пачынаецца тэорыя.

# Для нас

Алесь АСТРАЎЦОЎ

Для пачатку вызначымся з формай папулярнай літаратуры. Тут ніякіх складанасцяў няма, бо апавяданне і аповесць маюць так званыя “элітныя” памеры, а эсэ і паэзія ўвогуле не ўваходзяць у сферу “поп”. Застаецца, канечне ж, раман.

Не будзем спыняцца на архітэктоніцы рамана. Гэта тэма для асобнай размовы. Да таго ж, асноўныя складнікі архітэктонікі (дыялог, апісанне, дзеянне-экшн і інш.) вядомыя кожнаму. Адзінае, чым рэгулюецца іх чаргаванне, – “правісанне” (неапраўданае зацягванне) сюжэта, адчуванне чаго выпрацоўваецца ў літаратара толькі з набыццём прафесійнага вопыту.

Як вядома, сюжэтаў у літаратуры зусім небагата і яны ўкладаюцца ў даволі нескладаныя схемы, якія можна пазначаць адным словам: каханне, забойства, здрада... У межах схемы сюжэты адрозніваюцца між сабою адно героямі і прычынна-выніковымі сувязямі між падзеямі. Не будзем спыняцца і на гэтым, бо тое – таксама тэма для асобнай размовы. Засяродзімся на прынцыпах падачы сюжэтаў. Дзеля гэтага чарговы раз ужывем стары прыём аддалення кропкі назірання ў часе (цэласнасць, як вядома, лепей бачыцца на адлегласці).

Існуючыя сюжэты можна згрупаваць наступным чынам:

1) міфалагічныя (эзатэрычныя);
2) казачна-міфалагічныя (экзатэрычныя);
3) казачныя.

Каб зразумець розніцу, зробім невялікае адступленне.

Гісторыя чалавецтва перажыла як мінімум чатыры эпохі мадэрнізму. Мадэрнізм – гэта рэвалюцыя. Рэвалюцыя – гэта паўстанне плебса супраць арыстакратыі. Постмадэрнізм – улада таго самага плебса, нараджэнне новай арыстакратыі. Дамадэрнавая арыстакратыя паходзіла спачатку са жрацоў, потым з прафесійных ваяроў і, нарэшце, з уладальнікаў. Першыя называюцца святарствам, другія – шляхтай, трэція – капіталістамі. Постмадэрнавая арыстакратыя XX стагоддзя называецца чынавенствам і мае пралетарскае паходжанне (ад лац. *proletarii* – безмаёмасныя грамадзяне, карысныя адно сваімі нашчадкамі. Згодна рэформы Сэрвія Тулія, рэгістраваліся выключна як *capite censi* – тыя, каго “лічылі толькі па галовах”, у Рыме складалі адну-адзіную цэнтурыю і не дапускаліся да нясення вайсковай службы). У дадзеным выпадку размова вядзецца пра сацыяльную арыстакратыю, а не генную, якая не мае дачынення да слаёў грамадства і нараджаецца ў выніку найбольш удалага спалучэння генаў.

Што ж такое міф? Гэта паданне пра паходжанне і будову свету, дачыненні і стасункі ў прыродзе, пра сэнс, у рэшце рэшт, чалавечага жыцця. Гэта адзін са сродкаў акумулявання, падачы і, натуральна, перадачы так званых протаведаў. У адрозненне ад міфа, казка – гэта

ўяўленне і мроя пра шчасце і справядлівасць. Веды ў выглядзе міфаў заўсёды акумулявалі прадстаўнікі арыстакратыі, казкі ж нараджаліся сярод плебса.

У часы нашага постмадэрнізму створаны папярэдняй арыстакратыяй міф чарговы раз быў абазваны казкай (няпраўдай), а казка набыла статус міфа. Міфалогію абазвалі *фальклярыстыкай*, а казачныя плебейскія ідэалы – "...прыйшоў Іван-дурань, адсек цару галаў, забраў яго куфар з золатам, узяў царэўну ў жонкі і зажыў шчасліва-шчасліва..." – сталіся галоўнымі ведамі пра "сэнс і мэту жыцця".

Вось асноўны сюжэт сучаснай літаратуры постмадэрнізму. Праўда, у міфалагічным (эзатэрычным) выглядзе ён падаецца для "пасвечанай эліты", тых, хто ў стане зразумець сэнс міфалагічных першакрыніц, у папулярызаваным казачна-міфалагічным (экзатэрычным) – для неафітаў, а ў казачным – для мас.

Вернемся да сп.Арыстоцеля. У "Паэтыцы" мэтр папярэджваў, што фабула мастацкага твора павінна будавацца такім чынам, каб паказаць жыццё героя ад поўнага шчасця да няшчасця або наадварот. Як вядома, да нас дайшлі толькі эзатэрычныя творы мысляра, а мноства экзатэрычных згублены пакуль бясследна. Адсюль вынікае, што гэта справядліва толькі для сюжэта міфалагічнага. Бо толькі пасвечаны ў стане зразумець, што калі Іван-дурань прачынаецца наступным ранкам, пачынаецца сюжэт наступнай фабулы... Масам пра тое не кажуць, таму і абавязкова пакідаюць або "надзею", або трывіяльны *happy end.*

Тут нельга не сказаць пра сутнасць эзатэрычных ведаў.

Як вядома, спадары пасвечаныя заўсёды пільна вартуюць іхнюю таемнасць. Дзеля гэтага і прыдумляюць усемагчымыя незразумелыя мовы, шыфры і да т. п. Прычына такіх дзеяў тлумачыцца імі досыць банальна: калі чалавек непадрыхтаваны атрымае сур'ёзныя веды, ён можа скарыстаць іх не на карысць іншым. Але тут ёсць адно "але": таемнымі заўсёды з'яўляюцца толькі гатовыя рэцэпты, у той жа час тэорыя даступная кожнаму (прыклад: Біблія ёсць у кожнай хаце, а яе эзатэрычныя тлумачэнні далёка не так шырока распаўсюджаны з-за той жа, хаця б, мовы тэкстаў). Але зноў-такі, далёка не ўсе рэцэпты хаваюцца (фотарэцэпты, напрыклад, цалкам адкрытыя). Тады пра якія рэцэпты вядуць гаворку спадары пасвечаныя? Пра рэцэпты кіравання масамі (яшчэ на мяжы XIX і XX стагоддзяў мэтры псіхааналізу навукова даказалі наўпроставую сувязь паміж міфалогіяй і сферамі індывідуальнай і сацыяльнай псіхалогіі (псіхалогіі масаў). Чаму ж тады не хаваецца сама тэорыя? Ды таму, што калі чалавек вынайдзе гатовыя рэцэпты самастойнага, доўгім шляхам, пазнання тэорыі, ён сам стане пасвечаным, атрымаўшы ўяўленне пра адказнасць.

Чым жа з'яўляюцца тады экзатэрычныя міфалагічныя казкі

(самай вядомай казачна-міфалагічнай формай з'яўляецца прытча)? Гэта тэксты, якія на падсвядомым узроўні ўводзяць у свядомасць мас эзатэрычныя веды. Справа ў тым, што тыя веды, якія з-за сваёй прымітыўнасці наш розум не ў стане ў сябе ўвабраць, успрымаюцца намі толькі з дапамогай інтуіцыі і пачуццяў. Прытча ўздзейнічае такім чынам, што прымушае ўключацца аддзелы чалавечай псіхікі, якія адказваюць за пачуцці і інтуіцыю нават у тых людзей, у якіх гэтыя функцыі знаходзяцца ў атавістычным стане.

А што ж тады ўласна казкі?... Каб знайсці адказ на гэта пытанне, звернемся зноў да ўмоўнай лініі сярэдняга ўзроўню інтэлектуальнага развіцця. Вышэй над ёй знаходзяцца неафіты, каму адрасаваныя казачныя міфы. Ніжэй – *profanum vulgus* (цёмны натоўп), каму і адрасаваныя казкі, у якіх папулярызуюцца прымітыўныя погляды на шчасце: багацце, улада, удалае ашуканства і да т. п.

Зыходзячы з папярэдніх разваг, беларуская папулярная літаратура павінна грунтавацца выключна на экзатэрыцы. Бо яе мэта не разбуральная – "скалаціць капіталец", разбэсціць натоўп, разбурыць свядомасць мас, прывесці да сацыяльнага выбуху, а стваральная – выхаванне характару нацыі, стварэнне магутнага культурнага падмурка.

Але каму дадзена такая магчымасць? Хто можа папулярна растлумачыць звышскладаныя, а часам і немагчымыя для прымітыўнага разумення касмічныя ісціны? Толькі людзі, якія разумеюць сутнасць міфаў і ў стане перадаць іх у выглядзе прытчы.

У войску кажуць, што вайсковы доктар – гэта не доктар і не вайсковец. Так і пісьменнік, які не разумее псіхалагічнай сутнасці міфаў, – гэта адпаведна не пісьменнік і не псіхолаг. Хто ж ён такі?

У аналітычнай псіхалогіі (навуцы, якая грунтуецца на міфалагічным разуменні чалавечай псіхалогіі) ёсць такое паняцце, як "сон наяве". Гэта асабістыя мары, меркаванні, уяўленні – матэрыял, які дае псіхатэрапеўту пацыент для пастаноўкі дыягназу перад правядзеннем аналізу. Такім чынам, пісьменнік, які ў творчасці арыентуецца выключна на ўласныя рэфлексіі і нічога не ведае пра іх прыроду, з'яўляецца ўсяго толькі "пацыентам", а ягоныя "творы" – гэта сон наяве, матэрыял для пастаноўкі дыягназу. Як далёка тое ад вызначэння "інжынер душ чалавечых"!

Тут трэба ўдакладніць наконт "геніяльнасці". Сапраўды, некаторыя людзі, не меўшы спецыяльных "эзатэрычных" ведаў, стваралі вельмі глыбокія творы, здзіўлялі выдатным разуменнем чалавечай натуры, малявалі тонкія псіхалагічныя партрэты. Але дзіўнага ў тым нічога няма, бо геній – гэта чалавек з вельмі развітым апаратам інтуіцыі, а таму яму ад прыроды ўласціва бачыць далей і глыбей за людзей "звычайных".

У любым выпадку легкавеснае паняцце "папулярная літаратура" мае вельмі сур'ёзную сутнасць. А паколькі гэта такая сур'ёзная справа, дык і падыход да яе павінен быць максімальна сур'ёзным, а не нагадваць пагардлівыя рэплікі з боку "інтэлектуальнай эліты".

Значыць, калі літаратары шчыра жадаюць папулярнасці беларускай літаратуры, яны мусяць навучыцца дэталёва разбірацца ў сутнасці міфалогіі ці як мінімум – у аналітычнай псіхалогіі, якая ёсць спробай, хай сабе прымітыўнай і недасканалай, яе навуковай інтэрпрэтацыі.

Чаму толькі спробай? Таму што, як пісаў вядомы сучасны псіхолаг сп.Робін Робертсан, "...свет вельмі-вельмі стары, а свядомасць вельмі маладая. Свядомасць усё яшчэ далёкая ад таго, каб адэкватна ўспрымаць рэчаіснасць ва ўсёй яе цэласнасці". (Што ёсць у міфалогіі.)

Менавіта ў міфалогіі, а не ў філасофіі. Бо да XX стагоддзя гэтае прыгожае слова амаль цалкам страціла свой сэнс. Цяпер філасофія ўжо не кажа пра "любоў да мудрасці". Яе ідэал – інтэлект. Але інтэлект можа быць хворы, чаго нельга сказаць пра мудрасць. А таму сучасная філасофія часам у прыгожую абалонку імкнецца ўкласці непрыгожую сутнасць. І дзіўнага у тым нічога няма, бо кумір сучасных "інтэлектуалаў" сп.Марцін Хайдэгер увогуле адмовіў "сутнасці слова" ў праве на існаванне, абвясціўшы "слова" цалкам абстрактнай катэгорыяй. Сапраўды, жыццё філасофіі стала абсурдным. Але пакінем тое для эліты... Мы ж гаворым пра "папсу". На шчасце, свет значна складанейшы, чым гэта могуць ахапіць нашыя сістэмы мыслення.

Паколькі міфалогія апавядае пра чалавечыя канфлікты, тэмай далейшых разваг у першую чаргу стане "асоба", або "герой", мастацкага твора.

Можна смела сцвярджаць, што тэорый асобы за ўсю гісторыю існавання чалавецтва было створана мноства. Да гэтага спрычыніліся і міфалогія, і алхімія, і астралогія, і псіхалогія, кожная з якіх разглядае самыя розныя аспекты сутнасці самога паняцця. Паколькі сучаснаму чалавеку цяжка даверыцца сваёй неразвітай інтуіцыі і зразумець глыбокі сэнс міфаў (зусім нядаўна адзін вядомы малады філосаф напісаў: "Ёсць яшчэ пятая версія ідэі свабоды, якую Бадхідхарма спрабаваў растлумачыць кітайскаму імператару У-Дзі. Штосьці аб прасвятленні, дхарме і шырокім свабодным прасторы вакол нас. Але ў грамадстве нашага тыпу я падстава вольны нічога пра гэта не ведаць"), дык напачатку спынімся на менавіта псіхалагічнай (навуковай) інтэрпрэтацыі.

З усіх вядомых на дадзены момант тэорый асобы найбольш поўнай і структураванай з'яўляецца аналітычная тэорыя сп.Карла Густава Юнга, які аднойчы сказаў, што лёс кожнага літаратурнага героя – няўдалая спроба прарвацца за межы ўласнага архетыпа. Каб зразумець

сэнс гэтага кароткага сказа, трэба дэталёва разабрацца ў вучэнні вялікага псіхолага XX стагоддзя.

Згодна сп.Юнгу, структура асобы (або душы, як называў яе сам псіхолаг) складаецца з некалькіх дыферэнцыраваных, але ўзаемазвязаных *сістэм*. Вось найболей істотныя з іх:

1) эга;

2) асабістае несвядомае і яго комплексы;

3) калектыўнае несвядомае і яго архетыпы, у першую чаргу аніма – персона, і анімус – цень.

Акрамя гэтых сістэм, існуюць так званыя *ўстаноўкі*:

1) інтраверсія;

2) экстраверсія.

Яшчэ ў структуры асобы прысутнічаюць *функцыі*:

1) мысленне;

2) пачуццё;

3) адчуванне (сенсорыка);

4) інтуіцыя.

Цэнтрам усёй асобы з'яўляецца *самасць*.

Якая карысць ад гэтых ведаў спадару літаратару? Адказ вельмі просты: каб разумець загадзя, як будзе паводзіць сябе, напрыклад, інтравертыўны інтуітывіст-беларус у стасунках з рускім прадстаўніком экстравертыўнага разумовага псіхатыпу ў сітуацыі кахання, інтэлектуальных спрэчак, фінансавых адносін... А таксама, якім чынам (цалкам прадвызначаным) кожны з іх мусіць ісці да самарэалізацыі і якія памылкі могуць чакаць іх на гэтым шляху. Бо самае яскравае адрозненне юнгіянскага падыходу да чалавека ў тым і крыецца, што паводзіны індывіда вызначаюцца не толькі індывідуальнай і расавай гісторыяй, але таксама ягонымі мэтамі і памкненнямі. І зменай сітуацыі таксама.

Гэта як у той показцы: едзе мужык на колах па шашы. Абганяе яго шасцісоты "мерсэдэс", зачапіў выпадкова бамперам. Зваліліся колы пад адхон, раструшчыліся, конь ногі зламіў... Машына спынілася. Ляжыць мужык і думае: "Крутая тачка, значыцца, грошы ў гаспадара ёсць. Зараз падыдзе, я і скажу: "Непрыемнасцей не жадаеш – плаці!" Набуду новага каня, новыя колы, хату адрамантую, бабе ўборы новыя спраўлю. Баба будзе задаволеная!" Падышоў пацан з машыны да каня – той храпе, пена з рота – дастаў з кішэні пісталет і стрэліў жывёліне ў галаў. Затым пытаецца: "Ну а ты, мужык, як хоць пачуваешся?" Той у адказ: "Дзякуй, выдатна! Лепей нават, чым да аварыі!"

Але як тое вызначэнне адбываецца згодна сп.Юнгу і што азначаюць узгаданыя вышэй паняцці – тэма для наступнай размовы, якую мы плануем распачаць у чарговым нумары часопіса "Крыніца".

**Алесь АСТРАЎЦОЎ**